# МАЛАДОСЦЬ

падпісныя індэксы
індывідуальны - 74957
ведамасны - 749572
льготны - 00731
льготны
для настаўнікаў - 00592

ISSN 0131 2308
02/2017



Маладосць 02/2017

Таму, хто думае

у нумары:

**Бойкі за фандом**
Развагі пра фанфікшн, доўга і з густам

**“Калекцыянер лаянкі”**
і іншае Герберта Уэлса

**“Я і мая сям’я”**
Ад Анхелы Эспіносы Руіз

**Успаміны**
Пра Алеся Пісьмянкова і Яна Скрыгана

Пяць стагоддзяў беларускага кнігадрукавання за адзін «маладосцеўскі» год

У кожным нумары 2017-га

Хрэстаматыйнае і малавядомае

Ад Скарыны да...

Спецыяльны праект

# «Варштат»



**АДРАС РЭДАКЦЫІ**
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а. info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэл.: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72. maladost@zviazda.by

*ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:*

*00592 — індывідуальны льготны для настаўнікаў*

*74957 — індывідуальны*

*749572 — ведамасны*

*00731 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 16 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: *Н.І. САВЕЛЬЕВА*
Дызайн вокладкі: *А.У. ГАЛОТА*
Стылістычны рэдактар: *Г.І. ВЕРАБЕЙ*

Падпісана да друку ??.02.2017. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера лёгкамелаваная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк.??,??. Тыраж ???? экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП №02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь

Змест

## ПУБЛІЦЫСТЫКА, КРЫТЫКА



## ПАЭЗІЯ



## ПРОЗА



## ПЕРАКЛАДЫ



## ПРАЕКТ «ВАРШТАТ» *Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання*



## З БОГАМ



**Дзмітрый Шулюк**

# Руіны вечнасці

Хірасіма. Чорны дождж. Лічбы і лікі. Бязглуздае параўнанне з Чарнобылем. Басаногі Ген. Скура, якая не трымаецца на касцях. Далёка гэта ўсё. Вельмі далёка.

Блізкія сваё жыццё, свае знаёмыя. Канкрэтныя людзі з абліччамі. Людзі, якія выходзяць за межы спісаў загінуўшых. Тым, што яны — не проста надпіс, не проста «яшчэ адзін». Яны — успаміны. Яны — частка майго шляху. Яны — руіны вечнасці.

Складана ўявіць тых людзей, што першыя адчулі на сабе вынік навуковага развіцця, дар неба, неўтаймаваную энергію. Складана ўявіць, што столькі жыццяў адначасова спынілася. Складана ўявіць таго, хто даў такі загад. Складана паверыць, што гэта тыповы чалавек. Складана паверыць, што загінулі таксама тыповыя людзі. Складана прыняць, што ў свеце, дзе кожны чалавек плача ля труны другога чалавека, кожны чалавек гатовы схапіць зброю ў рукі і забіць другога чалавека. Дзясятак людзей. Сотні людзей. Мільёны людзей. Мільярды людзей. Дастаткова паказаць на іх пальцам і сказаць «фас!!!».

Я пазнаёміўся з ёй выпадкова. Шукаў, каму адрасаваць свае вершы. Шукаў музу, натхняльніцу. І вершы былі яшчэ няўдалыя, і гэтыя пошукі-пачуцці — глупствам. Глупствам, якое стварала мой свет, маё жыццё. Мне было цяжка паверыць у сябе, жыць сабой, пісаць сабой. Мне быў вельмі патрэбны чужы свет, чужое цяпло. Я быў вельмі маленькі для ўсяго гэтага калейдаскопа эмоцый і слоў, што напаўняў мяне кожную секунду. І я быў вельмі адзін, каб быць аднаму.

Што вы ведаеце пра Хірасіму? Падказаць? Вы ведаеце пра яе столькі ж, колькі ведаеце пра Чарнобыль. Вы ведаеце, што там адбылася трагедыя. Вы ведаеце канцоўку адной гісторыі. А што такое канцоўка без персанажаў, без сюжэта, без ідэі? Нічога. Канцоўка — гэта парад Перамогі. Той самы кавалачак, які губляе ўсё сваё значэнне, калі становіцца самастойным, калі губляе прывязанасць да жыцця. Калі перастае быць следствам, а робіцца самапрычынай.

Яна была рамантычнай, наіўнай, шчырай. Зусім не ўмела хаваць свае думкі, сваю рэакцыю на з'явы. Рэакцыя была часам паказальна-хімічная. Яна пакрывалася чырвоным колерам, яркім чырвоным. Твар зліваўся з чырвоным швэдарам. А яшчэ і валасы яе былі чырванаватыя. Толькі вочы карычневыя, а ў вачах — рыбкі.

Кожны чалавек калі-небудзь памрэ. Смерць чалавека — гэта падзея. Смерць здараецца толькі адзін раз. Смерць падсумоўвае вынікі. Смерць — гэта следства. Смерць — не самапрычына. Смерць — нішто без жыцця. Можна прачытаць сотні некралогаў, але не адчуць нічога. Можна прыходзіць штодня на станцыю метро «Кастрычніцкая» і не адчуваць нічога. Бо той выбух, тыя людзі — нежывыя ў маім жыцці. Яны проста персанажы фільма Жана-Люка Гадара.

Аднойчы я пачуў, што яе суседкі па пакою называюць мяне яе хлопцам. Я быў здзіўлены. Я па-ранейшаму думаў і зараз думаю, што калі чалавек проста дзеліцца з чалавекам (шакаладкамі, гутаркамі, музыкай, вершамі) — гэта не прычына для цэтліка «яе хлопец» ці «яго дзяўчына». Зараз я рэагую спакойна, а тады мне здавалася, што я чымсьці абавязаны ёй з-за меркавання іншых, што я павінен працаваць на іх успрыманне. Нават калі хачу стварыць у іх галовах партрэт нестандартнага і ненармальнага вар'ята. Таму я стаў прыходзіць радзей. А хутка і зусім сышоў з яе жыцця. Толькі яна засталася ў маім.

У мяне ёсць добрая сяброўка Таццяна. Наша знаёмства — гэта цудоўны прыклад маіх разважанняў пра неадпаведнасць успрымання

трагедыі і ўспрымання трагедыі, звязанай з канкрэтным чалавекам. Таццяна вучылася са мной у каледжы. Першапачаткова на курс вышэй за мяне. Тады мы не ведалі адзін аднаго. Тады яна трапіла ў аварыю. У тую ноч у інтэрнаце было шмат пераправерак, эмоцый, крыкаў, папярэджанняў. Як заўсёды, калі штосьці пайшло не так, трэба крыху нарабіць шуму. Гэты прыём я сустракаў ва ўсіх арганізацыях, дзе быў. У тую ноч я шчыра ненавідзеў гэту незнаёмую мне дзяўчыну, якая сваімі дзеяннямі разбурыла спакойную атмасферу, так патрэбную мне. Ніякага шкадавання, ніякага спачування. Толькі рыпучая раздражняльная нянавісць. Праз год Таццяна стала вучыцца ў адной групе са мной: год пайшоў на лячэнне. Яна стала адным з найбольш блізкіх для мяне на той час чалавекам. А я толькі потым зразумеў, што патрэбная, сонечная, прыгожая сяброўка — гэта тая самая. Тая, якая ледзь не загінула ў начной аварыі, чым выклікала ў мяне нянавісць.

Але ж мая гісторыя павінна мець дрэнную канцоўку. Людзі любяць гісторыі з дрэннай канцоўкай. Асабліва зараз, калі вайну, смерць, забойствы можна ўбачыць ці пачуць толькі ў навінах, фільмах, літаратуры. Яны будуць спрачацца, крычаць, даказваць, што яны рамантычныя натуры, што смерць галоўнага героя проста больш кранальная, чым «ружовыя соплі». Вернемся да Яе.

Яе жыццё працягвалася. Яна палюбіла хлопца з гітарай. Але яму патрабавалася яркасць. Ён сам быў жывы, актыўны, вясёлы і шукаў адпаведную дзяўчыну. Ці не шукаў. Яны самі прыходзілі і прыходзілі, яму заставалася толькі выбіраць. А, можа, таму і шукаў, што не хацеў бачыць гэтых прыхаджанак. Яна ледзь не вешалася на яго разам з іншымі, але так нічога і не атрымала. Гэта раззлавала. Яна зламалася. Яе рамантычнасць і цеплыня адчулі сябе непатрэбнымі гэтаму свету. Непатрэбнымі анучамі. І яна выкінула іх, бы смецце.

Што б вы зрабілі, калі б ваш трохгадовы сын папрасіў вас купіць яму ляльку Барбі? Гэта пытанне аднаго з соцень бязглуздых тэстаў, якімі запоўнена сеціва. Сярод адказаў фігуруе абавязак хлопчыкаў гуляць з пісталецікамі і аўтамацікамі. Што я думаю пра гэта? Я ніколі не чуў, каб каго-небудзь забілі лялькай Барбі.

Я не мог паверыць, што яна стала такой. Я не мог паверыць, што дзяўчынка з рыбкамі ў вачах ператварылася ў гэта стварэнне. Стварэнне з максімальна актыўнай сексуальнай пазіцыяй. Цяпер у яе не было «яе хлопца», у яе былі чэргі хлопцаў. Гублялі з ёй нявіннасць, атрымлівалі «асалоду», прапаноўвалі наступнаму заняць свабоднае месца. «Свабодная каса». Яна зацяжарыла. Нарадзіла. Хто быў бацькам? Невядома. Яна запісала дзіцяці імя па бацьку Сяргеевіч, але Сяргей не прызнаў сваёй віны ў стварэнні новага жыцця.

Што я ведаю пра Хірасіму? Мой любімы музычны альбом створаны гуртом Hiroshima 45. З яго пачалося маё знаёмства з музычным жанрам neocrust. Жанрам, у якім голас ператвараецца ў музычны інструмент. Частку агульнай кампазіцыі сацыяльнага болю. Словы зліваюцца ў ноты, і толькі час ад часу сярод адзінай хвалі ты знаходзіш словазлучэнні. «Что по оружию мы победим». «До тех пор будут страдать и гибнуть дети». «Небо разорвано в клочья стрельбой самолёта». Быццам вушы прышпільваюць пальцамі да сэрца.

Яна памерла. Рак. Дзіця засталося сіратой. Старонка ў сацыяльнай сетцы «УКантакце» засталася мёртвым лістком. Я вельмі рэдка адкрываю гэту старонку, але ж у нас некалькі агульных сяброў. У мёртвага чалавека і жывога. Мёртвага… Думаю, для большасці карыстальнікаў сайта яна такая ж жывая, як і сотні іншых асоб, стваральнікаў асабістых старонак. Хтосьці выпадкова пяройдзе па спасылцы, з цікавасцю зірне на сцяну, якая ўжо колькі гадоў не абнаўлялася, і нават не здагадаецца падумаць, што яе ўжо не існуе. Што гэта старонка — проста руіны. Закансерваваныя руіны вечнасці. Руіны, у якіх было некалі імя, а зараз да імя дадалася канцоўка.

Што я ведаю пра Хірасіму? Я не хачу нічога ведаць пра Хірасіму. Мне страшна.

*Hiroshima 45 — музычны гурт. Існаваў з 2008 па 2010 год. Распаўся. Пакінуў пасля сябе адзін альбом «Маяк». Калі вам не хапае слоў і лічбаў, то паспрабуйце на слых.*



**Кацярына Захарэвіч**

# Сонейка

Кася ідзе па пясчанай дарозе, адчуваючы каменьчыкі пад абуткам. Забылася ўжо, які буйны тут пясок, — сапраўдны, вясковы. «Не выбягай на дарогу, тут машыны», — крычала бабуля, варта было адной нагой ступіць з травы. Якая тут дарога — крыху больш, чым сцежка. Ад двара да двара насупраць — шырыня, якой і хапала на адну машыну. Пешым мінакам даводзілася збочваць проста ў траву.

Дзіўнай здавалася бабуля. Жыла ў асобным свеце. Усё — па парадку, заведзенаму халера ведае калі, нават можа не яе маці ці бабуляй, а далёкімі продкамі, якіх і ўявіць не атрымліваецца. Уся вёска жыла па гэтым парадку, а ўсё, што выходзіла за межы, ці ігнаравалася, ці ўспрымалася насцярожана, ці рашуча асуджалася — нават самая дробязь у побыце. Напрыклад, ложак, як устаеш, трэба засцілаць. Хоць адказаць на пытанне, што здарыцца, калі ён гадзінку пабудзе скамечаны, бабуля так і не магла. І мама не можа ўжо столькі гадоў, колькі яны ваююць за права Касінага ложка ў Касіным пакоі быць незапраўленым. Трэба, і ўсё. Вялізныя, цяжкія падушкі адбіваюцца да таўшчыні з аладку і кладуцца адна на адну, накрываюцца зверху бялюткай посцілачкай, расшытай на канцах ружамі. Неяк Кася ў кагосьці, ужо ў горадзе, убачыла, як падушкі ў прыгожым хаасе ляжаць, раскіданыя па ложку, — утульна, нібы заклікаючы далучыцца. Паказала бабулі, як гэта робіцца. Тая нічога дрэннага не сказала, толькі падціснула вусны, а на наступную раніцу зрабіла, як і раней. Бо не па сістэме. Вось так і з машынамі: па яе сістэме, калі ты хаця б адной нагой ступіла на дарогу, цябе абавязкова падкіне на свой капот машына з ліхім кіроўцам. Нават, калі машыны ў даляглядзе няма. Які вар'ят будзе ліхарыць па вёсцы, ды яшчэ па глыбокім пяску, не ўдакладнялася. У дзяцінстве Кася на гэта крыўдзілася. Была падлеткам — злавалася і абяцала, што сама такой забабоннай не будзе ніколі. Зараз угаворвае сябе, што не будзе, але жыццёвы досвед ужо пачаў падказваць, што і яна можа скаціцца ў тую ж прорву.

Машыны тут у асноўным з'яўляліся летам, бліжэй да выхадных. Гарадскія сваякі прывозілі да бабуль-дзядуль сваіх дзяцей. Было шумна, весела, сонечна. Напэўна, у дзяцінстве паўсюль бачыцца сонца. Бо нават калі малявала дождж, у куточку абавязкова жоўтым колерам выводзіла край сонейка, і ад яго — ледзь заўважныя прамяні. Яно ж усё роўна ёсць недзе на небасхіле, нават калі нябачна за хмарамі. Аднойчы, у першым класе, настаўніца раздала ўсім невялічкія квадрацікі паперы і папрасіла намаляваць свой партрэт. Кася гэта любіла, хоць і умела не надта добра. Старанна вымаляваўшы сябе такой, якой уяўляла, убачыла зверху ў кутку вольнае месца, і, пакуль усе астатнія шчыравалі над патрэтамі, — слова-та якое дзіўнае! — намалявала сонейка, промні якога тонкімі рыскамі праходзілі праз увесь аркушык. «Вось якое сонейка ў мяне прыгожае, — думала, — які аркушык адразу стаў светлы і цёплы!» Так хацелася ўсім паказаць! Першай панесла здаваць малюнак.

— Кацярына! Што гэта? — настаўніца высока падняла над галавой аркушык з Касіным малюнкам.

— Патрэт, — абурана і спужана адказала маленькая Касечка.

— А тут уверсе што?

— Сонейка.

— Якое сонейка, калі я прасіла партрэт! Перамалёўвай! — і памахала перад сабой яшчэ адным квадратным аркушам. Касі давялося ўстаць, прайсці цераз увесь клас, бо яна — які жах! — няправільна выканала заданне! Ідучы, кідала позіркі на малюнкі сваіх аднакласнікаў. Сонейка больш нідзе не было.

Кася тады так і не зразумела, чаму на ўласным партрэце не можа быць сонейка. І пытацца не стала, бо зразумела дзве больш важныя рэчы. Першая: яна, Кася, дрэнная, непаслухмяная, няправільная. Другая: настаўніцу трэба слухацца.




**Канстанцін Касяк**

# Свішот з Гуткоўскім

Што трэба зрабіць, каб стаць героем навін? Нічога асаблівага. Дастаткова ўсяго толькі займець вопратку з экзатычным прынтом. Але ж дзе яе ўзяць? Канешне ж, зрабіць самому!

У канцы мінулага года ў сецівe з'явілася навіна, што хлопцы з Мінска вырабілі сабе свішоты ў стылі «Маладняка». Яна нават займела нейкі рэзананс. Хлопцамі тымі былі я і мой сябар. Усяго два чалавекі, два свішоты — а гэтаму прысвяцілі цэлую навіну!

«Нічога сабе!» — можа падумаць просты чытач, неабыякавы да беларускай літаратуры. Але насамрэч нічога складанага! Алгарытм вельмі просты, усяго толькі з трох пазіцый: знайсці патрэбны малюнак, перавесці яго ў вектар, раздрукаваць. Зрабіць гэта зараз працей простага. І ў выніку можна атрымаць вопратку з досыць арыгінальным, але разам з тым аўтэнтычным малюнкам.

Дызайнераў у краіне багата, кантор, якія друкуюць майкі, байкі ды іншую сувенірную прадукцыю сёння таксама вельмі шмат. Адно параўноўвай кошты ды выбірай. Гэта не дзесяць і тым больш не пятнаццаць гадоў таму, калі якасць друку была не лепшай, а друкаваць былі гатовыя толькі партыямі. За адзіночныя праекты ніхто брацца і не хацеў.

> У якой-небудзь Амерыцы гэту вірлівую эпоху даўно б ужо міфалагізавалі. Зрэшты, яны свае 1920-я і міфалагізавалі: джаз, віскі, танцы, клубы, прыгожыя жанчыны, гангстэры

Чаму менавіта «Маладняк» і малюнак «Арганізуй сябе» Паўла Гуткоўскага? Тут усё вельмі проста. Маладыя, моцныя, таленавітыя чальцы гэтага літаратурнага аб'яднання — ўзор, варты пераймання. Асабіста мне вельмі падабаецца гартаць нумары аднайменнага часопіса, які, здаецца, не страціў актуальнасці і цяпер. А для лепшага асэнсавання працэсаў, якія адбываліся дзевяноста гадоў таму, любому цікаўнаму да гісторыі, культуры і літаратуры чалавеку варта па мажлівасці звяртацца менавіта да першакрыніц. Каб было правільнае разуменне.

Агулам папулярызацыя самых розных тэм часоў беларусізацыі мне бачыцца вельмі важнай справай, паколькі гэты перыяд для нас з'яўляецца сапраўднай Атлантыдай — здаецца, з яго можна чэрпаць ідэі бясконца, настолькі плённа папрацавалі тагачасныя дзеячы. Прычым ва ўсіх сферах, не толькі ў гісторыі або літаратуры, хаця не стану адмаўляць, мне цікавыя найперш менавіта яны. І гэта ўсяго за няпоўныя дзесяць гадоў!

Раннюю БССР нельга выкрэсліваць з нашай гісторыі, як і яе герояў, паколькі гэта важны фундамент дзяржаўнага і нацыянальнага будаўніцтва, нягледзячы на ўсе «але», якія гэтак любяць цяпер прыводзіць у прыклад многія. Нездарма ж паўстанне «Беларускай рэспублікі», як яе тады называлі, атаясамлівалася дзеячамі кшталту Якуба Коласа з сапраўдным адраджэннем беларускай дзяржаўнасці.

> Пра 1920-я ў Парыжы ўжо столькі знята і напісана, што падаецца, і сам ўжо быў у той час у гэтым горадзе, так добра яго ведаеш. Хадзіў па ягоных вуліцах, знаёміўся з дзяўчатамі, бываў у кнігарнях, піў каву ў кавярнях, танчыў на вечарынах

Гэта, безумоўна, добра, што з небыцця вярнулі сотні забытых імён і падзей, пра якія раней беларусам было ведаць непажадана. Але ж і моцнага прагрэсу ў гэтым напрамку насамрэч не адбылося

Але чаму мы самі забыліся на тыя часы? Цяпер можна лёгка пайсці ў бібліятэку, узяць патрэбную кнігу, без асаблівых цяжкасцей пазнаёміцца з яе зместам. А чытаць першакрыніцы, аналізаваць, будаваць уласныя тэорыі ці нават фантазіі — што можа быць лепей? У якой-небудзь Амерыцы гэтую вірлівую эпоху даўно б ужо міфалагізавалі. Зрэшты, яны свае 1920-я і міфалагізавалі: джаз, віскі, танцы, клубы, прыгожыя жанчыны, гангстэры.

Здаецца, што кожны год з'яўляюцца фільмы і кнігі пра эпоху сухога закона і вялікай дэпрэсіі. Пераздымаецца і перачытваецца наноў класіка. У Францыі, да прыкладу, адбываецца тое ж самае — пра 1920-я ў Парыжы ўжо столькі знята і напісана, што падаецца, і сам ўжо быў у той час у гэтым горадзе, так добра яго ведаеш. Хадзіў па ягоных вуліцах, знаёміўся з дзяўчатамі, бываў у кнігарнях, піў каву ў кавярнях, танчыў на вечарынах. І не дзіва, што «Свята, якое заўжды з табою» Эрнэста Хемінгуэя — дагэтуль адна з самых прадаваных у свеце кніг пра Парыж. Хоць самога Папы ўжо даўно няма сярод жывых…

А ў нас нейкі правал з нашымі «дваццатымі». А гэта ж надзвычай цікавы час! Не проста статычнае і банальнае «было надрукавана», «выходзілі часопісы», «на беларускую мову пераводзіліся асноўныя сферы жыцця». Усё было больш цікава і драматычна. Але ж чаму забыліся? Ці проста не ведаем? А, можа, і не хочам ведаць?

Раннюю Літву папулярызуюць асобныя апантаныя, а большасцю, на жаль, цікавыя і выключна пазнавальныя вобразы і падзеі

Мая думка такая: за часы незалежнасці ў нашай краіне ўкаранілася пэўная колькасць беларускіх герояў, патрыятычны набор: Альгерд, Міцкевіч, Каліноўскі. Гэта, безумоўна, добра, што з небыцця вярнулі сотні забытых імён і падзей, пра якія раней беларусам было ведаць непажадана. Але ж і моцнага прагрэсу ў гэтым напрамку насамрэч не адбылося. Мы нібыта топчамся на месцы ў адным і тым жа фарватары — «завіслі» ў гэтым сваім сярэднявечным ВКЛ, быццам гэта ўсяго адна гераічная старонка з нашай гісторыі. А яна ж, як вядома, была куды больш багатай і разнастайнай.

Прычым замілаваныя гэтым самым ВКЛ, умоўна кажучы, часоў Вітаўта Вялікага, моцнай і магутнай еўрапейскай дзяржавай. І такі ідэалістычны погляд, як па мне, наўпрост звязаны з тым, што пра гэта добра вядома. Раннюю Літву папулярызуюць асобныя апантаныя, а большасцю, на жаль, цікавыя і выключна пазнавальныя вобразы і падзеі.

Беларусізацыя мне бачыцца сапраўды важнай у ліку іншага і таму, што менавіта дзякуючы ёй мы ведаем цяпер пра ВКЛ, шляхту і ліцвінаў. Усё ў гэтым свеце ўзаемазвязана, і беларуская гісторыя — не выключэнне.

Як ні круці, а БССР — гэта першая спроба паўстання рэальнай беларускай дзяржаўнасці, і каб розныя беларускія дзеячы ды ўстановы не вярталіся да «старасвеччыны», цяпер пра гэта слаба ведалі б або не ведалі агулам. Што зробіш, такія правілы. І вось вам адзін прыклад.

Мала хто ведае, што ў міжваеннай БССР існавала ўласная ўзнагарода — Ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга, якім адзначалі не толькі за працоўныя, але і за вайсковыя дасягненні. Аўтар эскіза — Генадзь Змудзінскі, чалавек вельмі цікавага лёсу. Ён таксама з'яўляецца аўтарам аднаго з варыянтаў герба БССР.

А вось і цікавыя факты: на ордэне замест сярпа з молатам змешчаны скрыжаваныя серп з сякераю. Менавіта гэтыя рэчы клалі нябожчыку разам з ваярскім рыштункам старажытныя балты, якія адыгралі важную ролю ў этнагенезе беларускай нацыі і стварэнні Вялікага Княства Літоўскага на тэрыторыі сучаснай Беларусі.

Выпадковасць?



Многія з-за свайго няведання блытаюцца і называюць фанфікам тое, што ім не з’яўляецца. Давайце разбяромся, што да гэтай з’явы не адносіцца

**Святлана Курганава**

# Бойкі за фандом

Вакол нас узнікае шмат рэчаў, разлічаных на шырокага спажыўца. Але многія лічаць за лепшае закрываць вочы на масавую культуру.

Тым не менш мас-культура і некаторыя рэчы, якія з'яўляюцца праз яе, бясспрэчна, цікавыя. Прадукты (тут я кажу пра літаратуру і кіно як пра тое, што прадаецца), разлічаныя на вялікую аўдыторыю, набываюць і вялікую колькасць прыхільнікаў. А прыхільнікі ў сваю чаргу ствараюць вакол гэтага прадукту *фандом* — супольнасць фанатаў якога-небудзь твора, якія актыўна ўзаемадзейнічаюць паміж сабой.

Акрамя непасрэдных зносін і абмеркавання твора фандом можа ствараць уласны кантэнт: крафт, арты, фанфікі.

Мы пагаворым пра фанфікшн.

**Фанфікшн** — *з’ява папулярнай культуры, якая прадугледжвае некамерцыйнае стварэнне тэкстаў на аснове канона (зыходнага тэксту кнігі, фільма, комікса).*

Фанфікшн — з’ява не толькі нашага часу. Наш час толькі даў ёй назву. А прыхільнікі, якія зачытваліся творамі ўлюбленага аўтара, пісалі свае тэксты яшчэ з часоў Шэрлака Холмса. Цяпер можна знайсці выданні, у якія ўключаныя творы не толькі самога А. К. Дойля, але і тых, хто пісаў у чаканні новага апавядання. Пытанне: «наколькі гэта этычна — выпускаць такія зборнікі?» — але што існуе, тое існуе.

У сучаснай масавай культуры з’ява фанфікшна дасягнула вялікага размаху, але ўсё роўна многія з-за свайго няведання блытаюцца і называюць фанфікам тое, што ім не з’яўляецца. Давайце разбяромся, што да гэтай з’явы не адносіцца.

Рэмейк, мэшап — гэта не фанфікшн. Праз гэтыя жанры ажыццяўляецца іранічнае пераасэнсаванне твора з цягам часу, калі ўжо змяніўся свет вакол. А навошта пераасэнсоўваць твор праз пару месяцаў пасля публікацыі тэксту? Няма з чаго.

Міжаўтарскі праект — гэта не фанфікшн. Гэта сучасная з’ява, якая дапамагае аўтарам прадаць сваю працу або «пагуляць» з ужо створаным сусветам (гледзячы з якой прычыны аўтар прыйшоў — з-за ідэі ці дзеля грошай).

Навелізацыя — гэта не фанфікшн. Гэта працэс, адваротны экранізацыі. Твор інтэрпрэтуе падзеі першакрыніцы або дае дадатковую інфармацыю — гэта тып кніжнага рамана, які з’яўляецца мастацкай адаптацыяй сцэнара кнігі, фільма ці гульні.

Міжаўтарскі праект, рэмейк, мэшап, навелізацыя адрозніваюцца ад фанфікшна яшчэ і тым, што часцей за ўсё іх ствараюць ужо прафесійныя аўтары, і падобныя творы могуць потым публікавацца і прадавацца. Фанфікшн пішацца фанатам для фанатаў, без зацікаўленасці ў камерцыйным поспеху.

Але калі няма нейкай камерцыйнай выгады, навошта людзі пішуць фанфікі? Фанаты загараюцца ідэяй, улюбляюцца ўсім сэрцам так, што хочацца пісаць пра гэта самому.

На дыскусіі, прысвечанай фанфікшну («Аб літаратуры сапраўднай і несапраўднай. Аўтар vs фікрайтар»), якая прайшла ў рамках V фестывалю фантастаў, касплэераў і геймераў «Юнікон», людзі давалі наступныя адказы.

Аўтар Фікбука, калі ты зараз чытаеш гэта, то памятай, што за шматлікімі заўвагамі хаваецца ісціна. Вы не заўсёды ўбелым паліто стаіце прыгожыя

*— Цікава пабываць у сусвеце канона, цікава пабываць у шкуры персанажа.*

Гэта самая распаўсюджаная і самая **не** спрэчная матывацыя. Тут фікрайтар і задавальняе сваю смагу працы для фандома, і не шкодзіць аўтару. У такім выпадку напісанне тэкстаў зводзіцца да ролевых гульняў упадабаных персанажаў і пры гэтым ні на што не прэтэндуе.

*— Хочацца сказаць нешта, што не было сказана ў каноне.*

Ці мае сэнс дапісваць тэкст за аўтарам? Менавіта ўсялякае дапісванне ставіць пад пытанне тое, што ўжо напісана, і мае шкоднае ўздзеянне. Як можа нашкодзіць аўтару яго фандом? Сказаць, што фанфікі — лепшыя за твор. Як, на жаль, здарылася з прыхільнікамі Камшы, калі яны аб'явілі творчасць фікрайтараў больш вартай увагі, чым арыгінал.

*— Для трэніроўкі.*

Што з'яўляецца не зусім правільнай матывацыяй, калі можна падзяляць матывацыю на правільную і няправільную. Тут можна толькі набіць руку, навучыцца будаваць кампазіцыю твора, патрэніравацца пісаць дыялогі персанажаў. Але гэта будзе менавіта практыкаванне, а не літаратурны твор. Бо нават калі вы адсоўваеце

Не спяшайцеся крывіць нос і кідацца лаяць фікрайтараў. Але пачынайце пісаць арыгінальныя творы. Можа, менавіта вас так не хапае ў сучаснай літаратуры?

тое, што адбываецца ў вашым тэксце, на некалькі стагоддзяў таму (у параўнанні з арыгіналам), падзеі ўсё роўна адбываюцца ў знаёмым антуражы. Нават калі антураж не створаны сапраўдным аўтарам, застаюцца героі, вобразы якіх існавалі да гэтага. І паколькі ў фанфікаў ёсць мэтавая аўдыторыя, якая ведае герояў і свет, вам не трэба ўводзіць чытача ў курс справы.

## Ананімны і не вельмі вопыт існавання аўтара ў фандоме

Трохі пра фанфікшн і свой досвед зносін з фандомам распавяла Вольга Грамыка.

*— Для мяне самае галоўнае адрозненне літаратуры ад фанфіка ў тым, што фанфікі — гэта заўсёды другасная з'ява. Аўтары фанфікаў не прыдумляюць свой свет, сваіх персанажаў, яны прыходзяць на ўсё гатовае. Гэта пагоня за чужой аўдыторыяй: калі яны пішуць арыджыналы, іх ніхто не чытае, тады як на фанфікі заўсёды знойдуцца чытачы. Заходжу ў профіль чалавека на Фікбуку — у яго там пяць арыджыналаў, практычна ўсе пакінутыя. І вось ён пачынае пісаць пра «Космаолухаў»: ён піша той жа мовай, што і да гэтага, тэматыка тая ж. Але цяпер фікрайтар бярэ аўдыторыю аўтара — і папулярнасць ўзрастае. А што чытачы? Чытачы жадаюць «проды». Так, яны ўсе кнігі прачыталі, ды ім вельмі спадабалася, і цяпер яны хочуць ведаць далей: ім цікавыя гэтыя героі. І чытач, падвязаны на гэтых герояў, як на наркотык, ідзе за імі да фанфікаў.*

У асноўным фанфікі чытаюць людзі, якія ўжо ведаюць першакрыніцу. Гэта значыць, што мы можам казаць: аўдыторыя аўтара твораў — гэта аўдыторыя фікрайтара. Так, часам такія тэксты чытаюць і староннія, незнаёмыя з першакрыніцай людзі. Але гэта ў большасці сваёй выпадковыя чытачы, якія праходзілі міма, якіх спакусіла анатацыя або знаёмае імя фікрайтара. І атрымліваецца, што пісаць нешта па вядомым фандомам, — гэта шанец трапіць у папулярнае на сайце выкладкі.

*— Некалі я ананімна ўдзельнічала ў бітве за свой фандом*[1]*. Мне было вельмі цікава, атрымала новы досвед: я там не столькі пісала*

[1] Фандомная бітва — гэта штогадовае мерапрыемства, якое праводзіцца на сэрвісе для вядзення блогаў — Diary.ru. Усе члены каманды ананімныя і прадстаўленыя агульным камандным логінам. Сутнасць заключаецца ў спаборніцтве па стварэнні твораў паводле пэўных выдуманых сусветаў. У канцы гульні адбываецца дэанон — рассакрэчванне імёнаў удзельнікаў.

*тэксты, колькі ствярала крафт, малявала, спявала. Акрамя таго, я прывяла туды сваіх сяброў — можна сказаць, што мы стваралі міжаўтарскі праект. І ў працэсе мне прыйшлося пагрузіцца ў фандомнае жыццё: убачыць, як гэта ўсё адбываецца знутры.*

Вольга і не адмаўляецца ад таго, што падчас фандомнай бітвы пазнаёмілася з цудоўнымі людзьмі, знайшла новых сяброў-прыяцеляў — так, у фандомах ёсць адэкватныя людзі. Але гэта не адмяняе той факт, што ўваход аўтару ў фандом не пажаданы. Туды можна хадзіць, калі ў вас моцныя нервы і вы гатовы ўбачыць, што робяць з вашымі героямі. А так: псіхіятры папярэджваюць.

*— І складваецца ўражанне, што аўтары фанфікаў не могуць адэкватна ўспрымаць крытыку. Ні на адну з маіх прафесійных заўваг, якія тычацца асноў літаратурнага майстэрства, я не атрымала ніводнага «дзякуй». Ні разу! Мне заўсёды пачыналі даказваць «таму што так, таму што гэтак ...» Больш за тое, калі я ў сваёй камандзе спрабавала растлумачыць дзяўчыне, што ў яе аповедзе трэба перарабіць, каб ён сапраўды зайграў нейкімі фарбамі, то чалавек мяне практычна пасылаў. А ў канцы, пасля дэанона, яна сказала: «Калі б я ведала, што Грамыка, я б прыслухалася».*

На Фікбуку, дзе Вользе якраз і прыйшлося праглядаць працы, нежаданне чуць крытыку — досыць распаўсюджаная з'ява. Аўтар Фікбука, калі ты зараз чытаеш гэта, то памятай, што за шматлікімі заўвагамі хаваецца ісціна. Вы не заўсёды ў белым паліто стаіце прыгожыя.

— На самай справе тэма фанфікаў дастаткова актуальная. Асабліва для пісьменніка, які піша шматтомныя серыялы. Пакуль ён яшчэ не паспявае скончыць сагу, ужо пасля першай, пасля другой кнігі пачынаюць актыўна пладзіцца фанфікі.

І гэта трагедыя для аўтара. Калі ён піша сам — гэта трошачкі магія. Ты пішаш, ты цалкам ствараеш свой свет. Калі пачынаецца фандомное напісанне фанфікаў, аўтарскі свет перастае быць «сваім». Фандом разбірае твор па кавалачках, перапісвае і дапісвае ўсё, што можна і што нельга. І тады аўтар трапляе ў вельмі непрыемнае становішча: ён бы і далей пісаў, але які сэнс, калі ўсё ўжо напісана за яго? Які сэнс, калі чытач скажа «мне гэта не падабаецца, у фанфіку было лепш»? Пры гэтым я не лічу існаванне фандомаў

У прынцыпе, аўтар можа нічога не хацець акрамя таго, каб пісаць тое, што ён піша. І гэта яго права. Фанаты могуць хацець пісаць літаратурныя работы паводле любімых сусветаў. Чаму б і не. Але паважайце творцу таго, што вы любіце

чымсьці дрэнным. Я кажу, што фанфікі — зло, але я не кажу, што іх трэба забараняць. Людзям спадабаўся твор, яны напісалі фанфік — калі ласка. Я не маю нічога супраць. Я проста лічу, што аўтар не павінен ніяк у гэта лезці: не павінен прапрацоўваць свой матэрыял з фандомам, таму што гэта забівае свет самога аўтара.

Дык што ж з гэтага вынікае? Аўтар можа хацець:

— абмеркавання сваёй творчасці (а можа і не хацець);

— крытыкі сваёй творчасці (а можа і не хацець);

— ацэнкі сваёй творчасці (а можа і не хацець);

— экранізацыі сваёй творчасці (а можа і не хацець);

— фанфікшна на сваю творчасць (хутчэй за ўсё не хацець).

У прынцыпе, аўтар можа нічога не хацець, акрамя таго, каб пісаць тое, што ён піша. І гэта яго права.

Фанаты могуць хацець пісаць літаратурныя работы паводле любімых сусветаў. Чаму б і не. Але паважайце творцу таго, што вы любіце.

Пра фанфікшн можна разважаць доўга і з густам. Як і пра любую з'яву, якая яшчэ недастаткова вывучана. Можна самастойна дабудоўваць тэорыі і класіфікацыі, можна ўхваляць або не ўхваляць. Але вынесці адназначную ацэнку не атрымаецца. А таму не спяшайцеся крывіць нос і кідацца лаяць фікрайтараў: людзі маюць права адпачываць (чытаючы або пішучы), як ім хочацца. Але пачынайце пісаць арыгінальныя творы. Можа, менавіта вас так не хапае ў сучаснай літаратуры?



**Анхела Эспіноса Руіз**

## Я і мая сям'я

*Анхела,* пытаюцца часта сябры, знаёмыя, выпадковыя п'янаватыя мужчыны ў варшаўскіх пабах, *адкуль ты ўзялася такая дзіўная?* Вядома, пра такое ніколі не пытаюць непасрэдна, гэта ж гучыць няветліва, а раптам дзівачка (нават яна!) дрэннае пра іх падумае. Затое менавіта гэта пытанне хаваецца за тыповымі *а як гэта ты з цёплай Іспаніі ў шэрую Польшчу пераехала?, зборнік вершаў выдала... на якой мове ты сказала?* альбо найпапулярнейшым *а чаму менавіта беларуская мова?* Маецца на ўвазе, *а як гэта ты існуеш?*

Менавіта гэта пытанне хаваецца за тыповымі: а як гэта ты з цёплай Іспаніі ў шэрую Польшчу пераехала?, зборнік вершаў выдала... На якой мове ты сказала? альбо найпапулярнейшым: а чаму менавіта беларуская мова? Маецца на ўвазе, а як гэта ты існуеш?

Беларусам надта падабаецца мая іншасць, хаця ў постсавецкай прасторы, мушу сказаць, бываюць праблемы з яе успрыманнем. Парадокс такі. Я, у сваю чаргу, напружваюся, калі прымушаюць гаварыць пра яе: баюся, што суразмоўца толькі пашпарт запомніць з усяго, што я скажу, і не ўбачыць больш нічога. А я люблю слухаць і распавядаць цікавыя гісторыі (альбо, прынамсі, гісторыі, якія набываюць пад піва пэўны інтарэс). Таму я сёння вырашыла напісаць пра сваю замежнасць, але з іншага пункта гледжання: якой была і ёсць мая сям'я, калі я такою дзіўнай атрымалася? Паколькі «Маладосць» не дазваляе калонкі на цэлыя нумары, давайце я падзялюся парай цікавых фактаў і персанажаў, кораценька і без парадку.

Была такая дзяўчына Марыя Берналь Трухільё. Шкадлівае дзіця, жанчына з моцным характарам і — так склалася гістарычна — мая прабабуля па кудзелі. Нарадзілася яна ў 1896 годзе у вёсачцы Монда (яна ёсць у Гугле, пішацца так, як гучыць). У яе былі чорныя валасы і блакітныя вочы, і таму яе выдалі замуж ва ўзросце 16 гадоў за найбагацейшага фермера, які там жыў, удаўца, узростам ці не за 40. А той аднойчы альбо пабіў яе, альбо нешта не тое сказаў. Марыя забрала ўначы свае рэчы, і — бах! — уцякла адна ў горад, дзе служыла яе сястра ў багатай сям'і Ларыёс (імя гэтай сям'і далі цэнтральнай вуліцы Малагі, можаце праверыць). У сястры быў хлопец, а ў таго хлопца — брат, які закахаўся у Марыю да вар'яцтва. Ён меў добрую душу і хворае сэрца, у простым сэнсе, але Марыя пакахала яго таксама ледзь не адразу. Так і жылі, сустракаліся, дзве сястры і два браты. Марыя шмат дзе працавала. У красавіку 1931 года паўстала Другая Іспанская Рэспубліка, а ў траўні нарадзілася мая бабуля. Тое, што я зараз скажу, бабулі не падабаецца чуць, але яна не чытае па-беларуску і таму, спадзяюся, прабачыць мне. Стары фермер, за якога выдалі калісьці замуж прабабулю, яшчэ жыў, а на развод яна яшчэ не паспела падаць, бо Рэспубліка толькі дазволіла такое. Бабуля нарадзілася па-за шлюбам. Не кажыце ёй, што я з вамі падзялілася. Цс! Ну, а па-за шлюбам было пакуль немагчыма запісаць дзіця на бацьку. А ведаеце, што зрабілі? Ну, сястра Марыі ўжо была замужам. Два браты і дзве сястры. Значыць, два аднолькавыя прозвішчы ў аднолькавым парадку (пачытайце пра сістэму іспанскіх імёнаў, гэта цікава). Вось і запісалі на сястру з мужам маю бабулю. Нядоўга пасля альбо законны муж Марыі памёр, альбо яна атрымала развод і запісала на сябе адну пляменніцу (ўзамен на маю бабулю) і дру-

гую дачку, сястрычку бабулі, якая нарадзілася у 1934-м. Вядома ж, для жанчыны, якая нарадзілася у 1896 (так, тысяча ВОСЕМСОТ), нарадзіць першае дзіця у 35 — гэта пазнавата. Нават сёння некаторыя мае знаёмыя кажуць, што позна. Прабабуля Марыя заўсёды гаварыла, што ў маладосці яна была тоўстая-тоўстая, як мяч, а толькі калі пахудзела, змагла зацяжарыць. Ясна, гэта было не зусім праўдай. Пражыла яна цікавае жыццё, вядома ж. Мужа спалохалі да смерці падчас грамадзянскай вайны — сэрца не вытрымала, яна займалася кантрабандай па вёсках, сябравала з жаўнерамі, мастакамі і іншымі падазронымі асобамі. Памерла амаль у 90 гадоў, сляпая, але актыўная. Мая старэйшая стрыечная сястра памятае яе.

Мой дзядуля па мячы працаваў у знакамітым іспанскім выдавецтве «Планета» (яно дагэтуль існуе, як і прэстыжная прэмія гэтага выдавецтва ў духу прэміі Гедройца, можаце паглядзець). Яму давялося адкрыць іх першы філіял у Паўднёвай Амерыцы: паслалі яго ў Багату, сталіцу Калумбіі. Адтуль ён прывёз цікавыя анекдоты, напрыклад, пра тое, як кіроўцы надзявалі гадзіннік на правую руку, а не на левую, бо было горача, вокны машын адчыненыя, і маглі проста скрасці гадзіннік па дарозе. Тата, які пяць гадоў хадзіў у школу ў Калумбіі, памятае гімн краіны, вывучаў англійскую мову раней, чым гэта было модна (у 60-х гадах мінулага стагоддзя ў Іспаніі школьнікаў вучылі толькі французскай), марыць калісьці вярнуцца. Аднак гісторыю, што я найбольш запамятавала пра Багату, распавяла мне бабуля: яна, як і ўсе жонкі дыпламатаў, выдаўцоў і розных замежнікаў, жыўшых у адным квартале Багаты, хадзіла раніцою у парк, які называлі жартоўна ААН (самі разумееце, чаму). Сустракаліся там жанчыны з усяго свету, у бабулі дагэтуль засталіся сяброўкі. Была і парачка габрэек, якія перажылі Халакост. Паколькі ўсе былі ветлівыя і трымаліся этыкету, яны пабудавалі сабе прыкладна такі расклад: габрэйкі прыходзілі рана, дзесьці каля 9 гадзін, шпацыравалі, размаўлялі з іншымі, а дакладна ў 12 спакойна ўставалі з лавак і сыходзілі дадому. Тады прыбывалі жонкі нямецкіх дыпламатаў.

Мой бацька, у сваю чаргу, таксама дужа цікавы чалавек. Нарадзіўся ў Севільі, жыў у Багаце, у Барселоне, потым сям’я канчаткова пераехала ў Малагу. Вучоба яго не цікавіла, але класічную

Маё імя, Анхела,
мае значэнне «пасыльная».
Я — першая Анхела ў сям’і,
наколькі мы памятаем

іспанскую паэзію чытаў усю і сабе самому, і пасля мне. У падлеткавым узросце неяк захварэў на вятранку і, каб ён спакойна сядзеў у ложку, дзядуля набыў яму гітару. У таты, як аказалася, быў талент: залатыя рукі і аксамітны голас. У 70-х і 80-х меў ён і ўласны паб, дзе пазнаёміўся з маёй мамай, і музычныя гурты, малавядомыя ў Андалусіі. З сябрамі хадзіў у экспедыцыі па вёсках у глыбіні Іспаніі і збіраў фальклор: песні, вершы, анекдоты. Тату цікавілі і ўнутраны свет чалавека, і свет нябесны — астралогія была для яго вялікім захапленнем (які ж тата быў шчаслівы, калі я падрасла, і ён змог «скарыстацца» дачкой, каб набыць тэлескоп!). Тата вельмі моцна любіць камп’ютары: памятаю, як я сядзела ў яго на каленях, і мы гулялі ў розныя гульні. Так я навучылася чытаць. Затое найбольшае захапленне майго бацькі — кіназоркі галівудскага *Golden Age*, асабліва Керы Грант як акцёр і Білі Уайлдэр, калі гаворка ідзе пра рэжысёраў. У татавым офісе можна ўбачыць калекцыю больш чым з 2000 фільмаў. Тата кажа, што пасля яго смерці і кнігі, і фільмы, і гітара — мае, бо брат падобны да мамы, матэматык, а я — татава дачка: і ў музычную школу пайшла, і вершыкі пішу, і кіно люблю, і ў гульні гуляю, некаторыя нават бачылі, як у ясныя летнія ночы назіраю зорнае неба. Татавай гітары больш за 35 гадоў. Знаёмы майстар тры гады рабіў яе спецыяльна для яго, але, вядома, атрымаць яе ў спадчыну я зусім не спяшаюся, хай тата да ста гадоў дажыве, а добра было б, каб і крыху больш. Цяпер я вучуся ў Варшаве, малодшы паступіў на фізіку-матэматыку ў Мадрыдзе. Тата супакойвае маму з бабуляй, што дзеці дарослыя і ўсё добра. Бацькі далі нам з братам, дарэчы, грэцкія імёны. Брат увогуле пяты Нікалас (Мікола) ў сям’і. Так завуць і бацьку, і дзядулю, які на «Планету» працаваў, і прадзядулю, і прапрадзядулю таксама. Па-грэцку братава імя значыць «пераможца». А маё імя, Анхела, мае значэнне «пасыльная». Я — першая Анхела ў сям’і, наколькі мы памятаем.

## Смяяцца з вас



Прывітанне, мой маўклівы сузіральнік. Куды паляцім сёння? Можа, у цырк? Я люблю цырк. Я ніколі не быў унутры ці ў нутры цырка, але я ведаю, што там. Бо вакол рэха. Я ўмею слухаць рэха, бачыць рэха, быць рэхам. Рэхам далёкага грэху. Рэхам маўклівага смеху. Рэхам цякучага снегу. Рэхам по-спеху.

Ноч — чараўніца фарбаў і бясфарб'я, дачка дня і маці дня, жонка часу і яго ж масавы забойца. Ноч валодае горадам, як аўтар валодае чытачом. Ён можа раптоўна ператварыць чыстага і сумленнага ў амаральнага злачынцу адным словам, адным параўнаннем, адной метафарай.

Цырк. Мне здаецца, што там маршыруюць салдаты. Яны ў прыгожых касцюмчыках, белых пальчатках, зброя блішчыць, як у ката вочы. А вакол сядзець розныя пудзялі і медзвядзі і рагочуць з кожнага няўдалага руху, пляскаюць лапай у лапу, матляюць доўгімі выцягнутымі языкамі.

Цырк — гэта сінекдаха. Гэта прымяненне якасцей і прыкмет усяго горада на яго маленькую частку. Спроба схаваць у гэтым будынку пад купалам усё. Няўдалая спроба. Бо цырк выпаўзае праз вокны, дзверы, незаўважныя шчыліны ў сценах, цячэ трубамі каналізацыі і правадамі электрычнасці. Пад чалавечымі нагамі бягуць электрацягнік, жыццё і цырк.

Малады чалавек ідзе дахаты. Ён спрабуе не дэманстраваць тое, што вядома любой жывой істоце. На чалавечых нагах перасоўвацца дужа складана. Спрабуе, але ў яго не атрымоўваецца. Ён, нагадаю вам, вяршыня эвалюцыі. Акрамя таго, у ягоным уяўленні ён адносіцца да лепшых прадстаўнікоў свайго віду. Ён — славянін, хрысціянін і мужчына.

Насустрач яму рухаюцца прадстаўнікі яго віду, толькі іншага саслоўя. Людзі, прымушаныя аддаваць сваё жыццё на ахову такіх жа людзей. З такімі ж рукамі, нагамі і іншымі інгрэдыентамі накшталт вітамінаў, мінералаў, тлушчаў, бялкоў. Адрозненне людзей-ахоўнікаў — гэта іх афарбоўка і галаўны ўбор. Гэта адрозненне галоўнае і самае важкае. Менавіта на яго рэагуюць, менавіта яго страшацца, менавіта яго паважаюць, менавіта яно прываблівае мяне да назірання за гэтым саслоўем, з чаго вынікае цікавы вывад: людзьмі-ахоўнікамі робяцца толькі тыя людзі, якія максімальна выдатна карыстаюцца сваім хадзільным апаратам. То бок неідэальна, але мне складана зрабіць пэўныя заўвагі. Усё ж такі я далёкі ад гэтых ног у нагавіцах, рук у рукавіцах, але колькі вяровачцы ні віцца, усё роўна ў што-небудзь саўецца.

Маладога чалавека старанна паахоўвалі. Ці як казалі даўней: выхавалі. Ён у самоце і радасці пацягнуўся далей. А я працягваю сачыць. Працягваю пасвіць свае думкі, развіваць свае мары, захоўваць сваю апантанасць і нецярплівасць. Смяяцца з вас. З вас. Разумееце?

Цырк. Хто гісторыю вывучаў — у цырку не смяецца. Бо памятае, ведае, разумее. Пры Іване Жахлівым сам бы глытаў агонь і спаў на іржавых цвіках. Ужо адчуваю мушыны гул прадстаўнікоў «свабоды. роўнасці. братэрства». Рэха вялікіх і магутных, як злучнік «і», слоў: «Іван Жахлівы — гэта не наша гісторыя». Тлумачу. Міхал Глінскі быў дзядзькам жанчыны, якая нарадзіла гэтага героя для цудоўнай навагодняй камедыі. Таму гісторыя гэта ваша. Ваша, як учарашні снег, абяцанне, шкарпэткі.

Дзе я бяру такія веды? Рэха. Вакол рэха. Я чую рэха. Бачу рэха. Яно абдымае мяне сваімі перапончатымі пальцамі. Я сам рэха. Рэха першага грэху. Рэха апошняга смеху. Рэха по-спеху.



**Яна Мусвідас**

## У Джыпе толькі дзяўчыны

Мая звычайная раніца пачынаецца не з кавы, а з музычнага канала. Я наогул не меламан і нават у грамадскім транспарце езджу без навушнікаў, але музыка раніцай — святое.

Вось і гэта пятніца была самай звычайнай: я ўстала, націснула лічбу «тры» на пульце, знізіла гучнасць, каб музыка была лёгкім фонам, і пачала варыць каву. Але тут мой слых зачапіўся за дзіўныя фразы: «Девушка за рулём, не торопись, не торопись, не торопись. Девушка за рулём — остановись, пропусти и улыбнись», — спявалі ўжо немаладыя салісты групы «Дыскатэка Аварыя».

Як высветлілася, кліп не новы, у эфіры ён ужо трэці год. Але мяне Бог мілаваў, і маю раніцу кампазіцыя сапсавала ўпершыню. Шчыра кажучы, вадзіць я не ўмею, апошні раз за рулём сядзела ў шэсць (у таты на каленях). Аднак чамусьці ўпэўненая, што на кіроўчым сядзенні буду адчуваць сябе камфортна. Але нават калі апынецца зусім не так, то віной гэтаму — прыроджаны астыгматызм, а ніяк не прыроджаны пол.

Нянавісць да гендэрных стэрэатыпаў са мной не першы год. Звяртаць увагу на некарэктныя выказванні мяне навучылі яшчэ ў Ліцэі БДУ, дзе за любое непрадуманае слова рызыкуеш праславіцца як «сексіст». У сям'і з гендэрнымі стэрэатыпамі таксама ўсё проста. Так, мой малодшы брат у дзяцінстве гуляў толькі ў лялькі, і ніякія машынкі не прыцягвалі яго ўвагі. Вядома, клапатлівыя бабулі так і наравілі падсунуць Яну пад Новы год бліскучы BMW, але ён аддаў яго Барбі. Дарэчы, сёння сітуацыя нерадыкальна змянілася, толькі фігурыстых лялек замянілі дзяўчынкі-падлеткі — фанаткі песеннай творчасці.

У гэтым годзе мяне прыемна здзівіла Галоўная ёлка краіны, дзе Ян выконваў адну з галоўных роляў. Але парадавалі мяне не поспехі брата і не цікавы сюжэт пастаноўкі, а адзін з асноўных пасылаў: усе могуць плакаць.

Так, галоўны злыдзень — цмок — у канцы спектакля заплакаў. Ніхто не радаваўся з-за таго, што вораг пераможаны. Усе толькі тлумачылі герою, што ён мае права плакаць так, як і ўсе астатнія. Слёзы — не прыкмета слабасці і не жаночая асаблівасць, слёзы — усяго толькі праява чалавечых пачуццяў (цмок ператвараецца ў чалавека).

На жаль, крокі да пераадолення гендэрных стэрэатыпаў пакуль робяцца вельмі маленькія. Так, у гэтым самым спектаклі матчына сэрца ратавала сына, пакуль бацька проста з сумным тварам стаяў у старонцы. Так, кожную раніцу я сустракаю на каналах некарэктныя жартачкі і кліпы. А бабулі ўсё яшчэ навязваюць унучанькам лялячак ў ружовых сукенках, а ўнучкам — аўто на пульце кіравання.

Самае крыўднае, што калі я пакажу гэту калонку старэйшаму пакаленню сваёй сям'і, яны вырашаць, што вывад заключаецца ў тым, што, нават гуляючы ў лялькі, хлопчык можа вырасці нармальнай арыентацыі, а я хачу сказаць, што ўсе самі вольныя рабіць свой выбар, будзь гэта цацкі ці перавагі ў каханні.

Хутка я паеду знаёміцца са сваёй першай стрыечнай сястрычкай, куплю ёй плюшавы чорны Джып. Як думаеце, што скажуць бабулі?



**Ігар Палынскі,**
**журналіст,**
**лідар рок-гурту «Sumarok»**

## не сацсеткі вінаватыя. паважаць адзін аднаго

ужо амаль дзесяць гадоў няма такога дня, каб я не зайшоў на свае старонкі ў сацыяльных сетках.

гэта шыкоўныя інструменты для журналіста, зручны камунікацыйны шлях. вядома, інтэрнэт ніколі не заменіць жывыя стасункі, але можа значна спрасціць іх. альбом «Мінор» майго гурту «Sumarok» набыў пэўную папулярнасць менавіта дзякуючы суполкам гурту ва УКантакце і Facebook.

аднак ёсць у анлайне рэч, з якой я не гатовы мірыцца.

пачалося ўсё трывіяльна. сканаў мой смартфон, а без яго — як без рук. набыццё іншага не ўваходзіла ў мае бюджэтныя планы. знайшоў свой стары ноўтбук, што з паўгода пакрываўся пылам ў шафе, прывёў яго да ладу, зрабіў колькі фота ды размясціў абвесткі ў тэматычных беларускіх суполках ва УКантакце: маўляў, прадам ноўтбук ці абмяняю на тэлефон, прапановы ў паведамленні. усе характарыстыкі і нюансы пазначыў; прааналізаваўшы рынак, кошт выставіў больш чым адэкватны.

забягаючы наперад: праз пару тыдняў ноўтбук паспяхова паехаў у суседні горад, а я стаў уладальнікам бюджэтнага, але цалкам адпаведнага задачам смартфона.

агулам жа паступіла каля сарака прапаноў. і часам мне, чалавеку вельмі цярпліваму і спакойнаму, хацелася што-небудзь разбіць :)

першае. феерычная няўважлівасць. навошта пісаць у каментарыі да абвесткі, калі чорным па белым пазначана, што аўтар за імі не сочыць?

другое. паступалі прапановы абмену на рэчы, якім у базарны дзень кошт рублёў 20. і калі адмаўляўся, некалькі спадароў ледзь не прымушалі згаджацца: маўляў, ноўтбук мой далёка не новы.

трэцяе. траплялiся прапановы памяняцца на тое, што мне зусім непатрэбна, у той час як у абвестцы дакладна пазначана: тэлефон ці грошы. навошта мне планшэт, руль з педалямі альбо электронны парагенератар?.. лічу, што трэба паважаць час і свой, і чужы і не рабіць заведама непрымальныя прапановы. была зусім забаўная: памяняцца на манітор. дык чалавек не тое што мадэль і характарыстыкі — нават памер яго назваць не змог! «прыязджай ды паглядзі», — сказалі мне. не, дзякуй.

чацвёртае. сябры, я аддаў пэўны час, каб максімальна падрабязна распісаць параметры ноўтбука. адкуль мне ведаць, ідуць на ім «Танкі» ці якія іншыя гульні? вытворцы гэтых гульняў таксама пастараліся і вызначылі мінімальныя і рэкамендаваныя характарыстыкі. параўнайце, вам жа прасцей — бо назвы некаторых цацак наогул пачуў упершыню.

пра ветлівасць ды арфаграфію нават казаць не хачу. вось гэтыя «ау», «ты дзе?», «ну што согласин будиш или нед?»… (гэта цытата зараз была!)

…мне могуць сказаць: выставіў тавар — рыхтуйся абмеркаваць. але сябры, калі вы прыходзіце ў краму і бачыце там тое, што вам хочацца, і ўмовы, пры якіх вы можаце гэта атрымаць, вы максімум можаце патаргавацца — але ж не будзеце паводзіць сябе падобна вышэйапісаным выпадкам? чаму тады такія паводзіны — нармальныя ў інтэрнэце? і добра б дзеці — а то дарослыя людзі!

магчыма, адсутнасць прамога кантакту разбэшчвае кагосьці, і тое кепскае, пра што недараспавялі бацькі ці настаўнікі ў школе і што «ўжывую» не дужа кідаецца ў вочы, у анлайне праяўляецца найбольш яскравым чынам.

не сацсеткі ў гэтым вінаватыя, думаю. проста паважаць адзін аднаго трэба заўсёды. і ў рэальным свеце, і ў віртуальным. давайце не будзем пра гэта забываць.

Наталля Смерцьева

**нарадзілася 7 жніўня 1982 года ў гарадскім пасёлку Друя Браслаўскага раёна. У 2001 годзе стала адным з першых удзельнікаў літаратурнай суполкі БДУКіМ «БУКЕТ». З літаратурным жыццём не атрымалася, і зараз проста жыве, калі-нікалі звяртаючыся да паэзіі і прозы. Чалавек. Грамадзянін. Жанчына. Шчаслівая жонка. Выхавацельніца шкоднай непаслухмянай коткі. Па словах Наталлі, такіх, як яна, пад небам Беларусі яшчэ шмат, але хто не марыць аднойчы стаць Адзіным і Непаўторным?**



## Самая светлая раніца

* * *

*Заплятаюць сцежкі павукі,*
*Заплятаюць нашы сцежкі, нашы вочы…*
*С. Лапароў*

Ціха зоркі свецяць на зямлёю,
Вогнішча дае сваё цяпло.
Заўтра — бой. І абяцаннем болю
Прадчуванне горкае прыйшло,
Быццам ты не вернешся ніколі…
Спяць лясы, азёры і палі,
Толькі сэрца зноў бяду прарочыць,
Кажа: на абпаленай зямлі
Павукі твае зямныя вочы
Павуціннем зорным заплялі.

* * *

Глядзіш у свае далоні. Там кроплямі неба — зоркі.
Прыгубіш такое дзіва — да золку не сыдзе хмель.
Ты піў яго (ці не помніш?) — напой безнадзейна-горкі,
Кактэйль папалам з адчаем і пылам чужых зямель.

Твой плашч — ад вятроў заслона. Маланка — клінок у бітвах.
Але пад халодным небам ты ўсё ж такі быў адзін.
Чужыне ты слаў праклёны, Радзіме — шаптаў малітвы.
Нарэшце дамоў вярнуўся… На ганку расце палын.

Зірнуў праз пустыя рамы, схіліўся ў нямым паклоне
І зноў па шляхах Сусвету пакрочыў — вятроў лягчэй.
Не гоіцца гэта рана ні чыстай вадой з далоні,
Ні небам, бязмежна-зорным, у хвалях тваіх вачэй.

* * *

Надзея мая… Мая самая светлая раніца,
Я казкі пісала аскепкамі неба па сэрцы.
Ты верыш, што я не баялася небам параніцца,
А марыла толькі крыху яго сінню сагрэцца?
…Ці, можа, я новыя лекі шукала ад смерці?

Каханне маё… Пачуццё маё самае светлае.
Я імем тваім прарастала наскрозь, мой адзіны.
І студзеньскі горад нас радаваў фарбамі летнімі,
І вусны шапталі: «Ніколі цябе не пакіну!»
…Ці можа я проста шукала для шчасця прычыну?

…Дзе вера мая?

* * *

*Будь моей тенью.*
*Гурт «Сплин»*

Буду тваім Ценем — уласным кавалачкам прыцемак,
Толькі глядзець у твае чалавечыя вочы — жудасна.
Ведаеш, Цені заўсёды адводзяць позірк,
Каб не апячыся аб вусны,
Не прытуліцца да рук,
Не прызвычаіцца,
Не звыкнуцца
Быць нечым большым, чым проста —
Ценем.

— Як тваё імя?
— Цень.
— Адкуль ты?
— З ніадкуль.
— Куды ідзеш?
— За табой…
Крок у крок, след у след,
Спатыкаючыся аб голас,
Які кліча —
Заглянуць,
Апячыся,
Прытуліцца,
Звыкнуцца..

Але:
— Як тваё імя?
— Цень.
Не варухнуцца,
Не паўтарыць твой выпадковы жэст.
Вецер адкажа,
Зоркі знямела напішуць
На небе — кроплямі:
«Хто я?»
Цень.
Цень?
Цень…

І я стану Ценем —
Тваім.

Не глядзі ў вочы —
Зацягнуць, заблукаюць, падмануць.
Не цягніся да вуснаў —
Замарозяць, волю аднімуць, здрадзяць.
Не прытуляйся да рук —
Загінеш, згінеш у нетры зямлі праз пясок —
назаўсёды, без права вяртання…
Не прывыкай да мяне —
Знікну.
Я — Цень.

Аскепкамі сонца разрэжаш мой твар
У пошуку маскі.
А там, пад скурай,
Колюцца промнямі тысячы маленькіх сонцаў.
Навошта было разбіваць адзінае?

Па лініі жыцця
Ўздоўж далоні
Ступаючы,
Выйдзеш,
Убачыш —
Стаю, спынілася.

— Як тваё імя?
— Цень…
І больш я не буду нічым і нікім.
І ніколі…
Ад золку да змроку,
Ад неба да неба,
З дня ў дзень.
Ценем, толькі Ценем тваім.
Назаўсёды…

* * *

*Я бы хотела после смерти жить у озера Киву в Африке.*
*Просто сидеть привидением на берегу под баобабами*
*и не пропустить ни одного африканского заката.*
*Нина Васина*

Я б так хацела жыць у самай  Афрыцы,
Такой экзатычна-далёкай Афрыцы,
У краіне звар'яцелых пунсовых заходаў — Афрыцы,
Праз некалькі год пасля смерці.
Я б не адразу трапіла ў Афрыку,
Месца, дзе растуць баабабы, — у Афрыку,
Дзе негры цямней за каву, — у Афрыку.
Я б спачатку пайшла да таго свету.
Але ў Царстве Нябесным няма блюзу — і Афрыкі,
Няма ні бананаў, ні неграў, ні кавы — ні Афрыкі,
У Царстве Нябесным няма нават Афрыкі.
І які ж гэта рай без пяскоў і сонца?
Я б спытала ў Бога: «Дзе мая Афрыка,
Дзе заходы, дзе поўдзень, маскіты і Афрыка?»
І Ён адказаў бы: «Валі ў сваю Афрыку,
Так, у чым ёсць: без ежы і цела».
З неба звалілася ў пясок па завязку — вось Афрыка!
Ні анёлаў няма, ні Бога… Затое ёсць Афрыка!
Да чаго ж добра жыць пад небам Афрыкі
Праз некалькі гадоў пасля смерці!

* * *

Ёсць ты, і ёсць я. Толькі мы. І Сусвет на дваіх.
Астатняе ўсё непатрэбнай становіцца рэччу.
Я буду чым хочаш, каб толькі кранацца тваіх
Бязмежных вачэй лёгкім подыхам
вуснаў пры кожнай сустрэчы.

Кахаю? Цябе?
І занадта высокія словы губляюць гук.
Ёсць вечар. Ёсць мы. Што яшчэ
ад жыцця мне трэба?
Калі выпіваю з любімых і цёплых рук
Глыток за глытком найпяшчотную зорнасць неба.

* * *

Гэты снег нагадаў мне ноч,
Срэбны позірк далёкіх зорак,
Гэты снег нагадаў мне дождж,
Светла-шэры, як летні золак.

Я насустрач яму — дзіця! —
Раскрываю свае далоні.
Снег зімовы ці снег жыцця
Сівізною ляжыць на скронях…

І калі надыдзе вясна,
Новым сонцам зямлю абудзіць,
Хтось спытаецца: «Дзе яна?
Вы яе не сустрэлі, людзі?»

Не сустрэлі. Квітнее сад,
Вочы п'юць прыгажосць зямную.
Толькі вецер — старэйшы брат —
Зноў па крылах маіх сумуе.

* * *

Полымя чорнай свечкі
(счарнелай ад подыху ночы)
Прыманьвае белыя зоркі.
Летуценна-кволымі матылькамі
Злятаюцца яны да яго
І гінуць ад першага дотыку…
Збіраю іх крылы.
Шыю кашулю для неба.

Наталля Саўрыцкая

**нарадзілася 30 жніўня 1976 года ў вёсцы Міхалова Лагойскага раёна. Пра пісьменніцтва задумвацца пачала дзесяць гадоў таму, калі пасля заканчэння Універсітэта культуры стала кіраўніком тэатральнага гуртка ў лагойскім Доме дзіцячай творчасці. Марыць ажыўляць у новых гісторыях яркія і неверагодныя вобразы, утвораныя фантазіяй продкаў. Удзячная свайму бацьку, які прывіў любоў да народнай культуры. Болей за ўсё на свеце любіць яснае блакітнае неба. Самыя дарагія істоты — дачка Яна і кот Цімоша.**



## Нічыпаравы боты

Было гэта вось толькі ўчора. Сядзеў я ўвечары на сваім пагорку ў хмызняку ды слухаў, як шумяць дрэвы. Сяджу я вось так, значыць, ды нікуды не рыпаюся, бо — босы. А пайсці ў вёску ну вельмі ж хочацца. Я б да Гэлькі зайшоў, бо даўно яе не бачыў. А мо і да брата б зазірнуў. Але ж — не магу. Сяджу тут, быццам прыклеены, зоркі лічу ды босыя пяткі чухаю.

Эх, чалавечая жорсткасць…

Раптам чую — чыесьці крокі. Я, значыць, разгарнуў ціхенька хмызняк ды гляджу, хто там. Хоць час ужо позні, але светла, бо якраз поўня. То я адразу і пазнаў Сцяпана Паўлава з нашай вёскі. І хоць ён, вядома, з другога канца, але мне добра вядомы: не раз яго ратаваў. Аднойчы залом у яго жыце выдраў, а ў другі раз яго кабыле капыта загаварыў, як закульгала. Ды яшчэ там дробязі розныя: зелле, каб жонка любіла, настой ад болю ў жываце. Ну, мала што чалавеку трэба.

І вось бачу я таго Сцяпана. Нясе нейкі вузел на плячы і шыбуе, відаць, з мястэчка дадому. Незразумела толькі, чаму так позна і чаму гэтай дарогай? І тут я паглядзеў яму на ногі і аж знямеў ад здзіўлення: ён быў у ботах. І справа не ў тым, што для ботаў занадта горача і амаль ніхто ў іх зараз не ходзіць, а ў тым, што нават у святле месяца я ўбачыў, што яны — жоўтыя.

Святочныя такія жоўтыя боты. На ўсю ваколіцу — у нашым Лыскаве, і ў суседняй Дубніцы, і нават у Петрыкаве, такія былі толькі ў аднаго Нічыпара Чарадзея. Гэта значыць — у мяне.

Я, вядома, разгубіўся. Нават не паспеў раззлавацца. А Сцяпан якраз параўняўся са мной. І я, не падумаўшы як след, вылез з-за кустоў ды гукаю:

— Здароў, Сцяпан!

Ён убачыў мяне і стаў бы ўкапаны.

— Сцяпане, — кажу. — А ці не мае на табе боты?

Я і раней ведаў, што гэты Сцяпан не вызначаўся розумам, а тут і зусім здурнеў. Пералякаўся, відаць, ад нечаканасці. Замармытаў сабе пад нос — ды як пульне мне ў грудзі тым вузлом, што нёс на плячы. І давай уцякаць. Толькі мае жоўтыя боты замільгацелі па дарозе.

Такая мяне агарнула крыўда — хоць плач. Вось так бы і зароў на ўвесь лес, як паранены лось. Але тут я ўспомніў: у маіх жа руках застаўся Сцяпанаў вузел.

Вузел быў цяжкі, і ў мяне з'явілася надзея, што я там знайду якісь абутак: мо боты, мо саламянкі, мо хоць жаночыя шнуроўкі. Усё роўна што, абы налезла на ногі. Разгарнуў я, значыцца, посцілку і дастаю спачатку ваўняную шапку-магерку, услед за ёй жаночы каптурык з вушкамі і хустку ў кветачкі. І ўсё, як на злосць, для галавы, а не для ног. Але ж там было яшчэ нешта цяжкае? Гляджу… А гэта газавая лямпа з тоўстага шкла. Ну, не пашчасціла.

Памераў я тады з роспачы хоць шапку. Але навошта, думаю, мне тая шапка? Потым каптурык нацягнуў, сяджу, як дурань, галавой матляю. Каб хто ўбачыў — вось бы смеху было. І тут я падумаў: што, калі на адну нагу магерку, а на другую каптурык уздзець? Ногі ўжо не босыя — можна і ў вёску чухаць. Але так мне стала нешта брыдка ад гэтай думкі, што я скруціў усе Сцяпанавы рэчы ў вузел ды і шпурлянуў яго са злосці на дарогу. Каб табе, думаю.

І тут толькі сцяміў, што можна было з посцілкі анучы зрабіць. Але вузел ужо на дарозе, так што не дастаць.

Можа, паспрабаваць паўзці, быццам той гад?

Паглядзеў я на свае рукі, пачухаў патыліцу і памкнуўся быў кульнуцца ў траву, але пачуў нейкія дзіўныя гукі. Спачатку здалося, што скавыча сабака. Але праз хвіліну я зразумеў, што гэта чалавек. І ён спявае нешта такое самотнае. Але ж каб мяне чэрці на кавалкі рэзалі, я б усё роўна не сказаў, што гэта за песня. Мусіць, Гэльчына каза і то лепей спявае.

Узяла мяне тут цікаўнасць. Хто гэта, думаю, так позна цягнецца? Сяджу, значыцца, чакаю. Але гукі раптам зніклі, стала ціха. Ні спеваў тых, ні крокаў не чуваць. Заснуў ён там ці што? Сядзеў я так хвілін з пяць, а мо і з дзесяць, як зноў пачуў спачатку нейкае мармытанне. А потым гэты ліхадзей як грымне «Яся» благім голасам, я аж падскочыў.

Праз хвіліну бачу: ідзе па дарозе п'яны ў зюзю мужычок, гадоў так пад пяцьдзесят. Здаецца, я яго недзе бачыў, але не магу пазнаць, хто такі. Ведаю толькі, што не з нашай вёскі. Мо з Дубніцы, а мо і з Петрыкава. Пачаставаўся, значыцца, а зараз з шынка дадому чухае. Я ўжо навучаны і першай справай да ног прыглядаюся. А ён, дзякуй Богу, не босы, а ў лапцях. От бы, думаю, мне тыя лапаточкі прыдбаць. Я б у вёску хуценька збегаў і свае боты ў Сцяпана забраў.

А мужычок у той час мяне мінае і бадзёра так, з песняй. І з усяго маху спатыкаецца аб Сцяпанаў вузел ды як грымнецца пасярод дарогі. Расцягнуўся і давай лаяцца.

Абрадаваўся тады я. Ну, думаю, галубок, нікуды ты ад мяне не дзенешся — будуць лапці мае! Ды як застагну з усяе сілы, што ажно рэха пайшло па лесе. Мужык сціх. Прыслухаўся.

— Гэй!... Хто там, — кажа, — енчыць?..

— Памажы, — кажу, — чалавеча… Ой-ой! Не магу на ногі ўстаць!

Той, відаць, абрадаваўся, што нехта з нагамі сябруе яшчэ горш за яго, і давай намагацца. Але ж не так лёгка і яму гэта далося. Крахцеў-крахцеў і нарэшце-такі падняўся.

— Падыдзі да мяне, чалавеча. Памажы… — голас я, вядома, зрабіў такі жаласны, што і дрэва б расчулілася.

Бачу, ён рукі наперад выцягнуў і крочыць да мяне, хістаючыся. Мне аж неяк вусцішна стала. Але што ж рабіць, калі сам паклікаў? Дабраўся ён такі да майго пагорка.

— Што ў цябе? — пытае, ледзь варочаючы языком.

— Ды вось, — кажу, — як скруціла мне спіну… Сяджу тут, устаць не магу. Дапамажы, чалавеча, калі ласка, падняцца.

Стаў той чалавек мяне паднімаць, а сам ледзь на нагах трымаецца. Я трохі прыўзняўся, ды і кульнуўся разам з ім на пагорак. Ледзь уніз не скаціліся.

— Не, — кажу. — Так мы з табой будзем толькі тузаць адзін аднаго. Трэба табе паспаць крыху, сіл набрацца…

— Ото так, — кажа. — Але ж я дадому іду.

— Чаго табе, — кажу, — цягнуцца аж дадому. Пераначуй у мяне. У хату я цябе запрасіць не магу, бо там цеснавата. А ў двары ў самы раз. Вунь, на лаву залазь…

Падпіхнуў я яго на пагорак, нібыта на лаву, і прапанаваў разуцца, каб ногі адпачылі. Ён паслухмяна сцягнуў абутак і аддаў мне свае лапці разам з анучамі, каб я іх развесіў на агароджы, а сам скруціўся, як той кот на пагорку. Пакуль я нацягваў сабе на ногі яго лапці, ён ужо храпеў, бы пшаніцу прадаўшы. Я нават не паспеў спытацца, хто ён такі і адкуль.

Абуўся я, значыць, і нарэшце адчуў сябе чалавекам. Гэта ж колькі часу я тут прасядзеў! Ледзь хадзіць не развучыўся.

Падабраў я на дарозе Сцяпанаў вузел. Абмяняю, думаю, яго на боты, калі ён упрэцца аддаваць. Неяк не па-людску, вядома, — свае боты выменьваць, але што ж не зробіш, абы толькі іх вярнуць.

Іду я, значыцца, ў вёску і ціха сабе чмурэю ад асалоды. Вельмі знудзіўся па вясковых хатах, па вясковых пахах і знаёмых гуках. А гукаў мне тут добра хапіла. Як толькі ўвайшоў у вёску, адразу пачалі брахаць сабакі. Відаць, адвыклі ад мяне, не пазналі. Такую вар'ятню учынілі — я ажно спужаўся, што вяскоўцы прачнуцца. Але нічога, абышлося.

Я вырашыў найперш пайсці да Сцяпана. Але Гэльчына хата знаходзіцца якраз па дарозе, то не мог я яе абмінуць. Моцна, бачыце, па Гэльцы знудзіўся. Падышоў да яе хаты і думаў спачатку ў дзверы пастукацца, а потым успомніў, што яна часта акно пакідае адчыненым. Дай, думаю, зраблю неспадзяванку, ціхенька ў хату ўлезу, каб паказытаць ёй нос спрасонку. Дзеля смеху. І хоць за гэта можна атрымаць у вуха, бо Гэлька на руку вельмі скорая, але што там.

Падышоў да акна. А яно зачыненае. Здзівіўся я. Але стаў калупацца, каб ціха адчыніць. Пакуль калупаўся з шыбай, пачало віднець. Я і забыўся, што зараз ночы такія кароткія. А ўспомніў, калі пеўня пачуў. Трэ, думаю, назад вяртацца, у хмызы. Нядобра будзе, калі хто мяне ўбачыць.

Вельмі не хацелася, але давялося назад пайсці, не пабачыўшы Гэлькі і сваіх ботаў у Сцяпана не забраўшы. Уздыхнуў я цяжка ды і кінуў вузел у Гэльчыным двары, каб яго назад не цягнуць. Мо заўтра прыду ды ад Гэлькі яго забяру… І падаўся да сябе ў хмызы.

Прыходжу назад, а мой госць так і спіць на пагорку з босымі пяткамі. Прыгледзеўся я да яго уважліва, бо стала святлей. І, значыцца, успомніў. Гэта ж Іван Дзежка! Царкоўны стараста з петрыкаўскай царквы.

А бачыў я яго апошні раз на хаўтурах. На маіх уласных хаўтурах, між іншым. Гэта ж ён, гад, сказаў, што — каб нябожчык па начах не цягаўся, асабліва той, хто пры жыцці з вядзьмарствам знаўся, — яго трэба босым у труну класці, бо босы ён і кроку ступіць пасля смерці не зможа.

Вось я і сядзеў тут, як дурань, столькі часу. Але нічога, бо зараз у мяне Іванавы лапці ёсць.

…Вунь, ужо і зноў сцямнела. Пайду да Сцяпана, свае боты забяру.

А потым у сваіх любімых ботах буду ў вёску кожную ноч хадзіць.



Мікола Адам



**нарадзіўся 8 студзеня 1978 года ў вёсцы Мікалаеўшчына на Стаўбцоўшчыне. Вырас у Казахстане (горад Шахцінск Карагандзінскай вобласці). Вучыўся, працаваў. Напісаў колькі вершаваных і празаічных кніжак.**

*«Вайна — не бізнес, не рамантычныя кінапрыгоды і не патрыятычныя песенькі на 9 мая.*
*Вайна — заўсёды трагедыя.*
*Для мяне — трагедыя ў стылі рок.*
*Рок, асабліва рускі рок, — вайна і мір адначасова.*
*Вайна, прыдуманая мною, — свет, у якім вайне месца няма».*

# Вайна, прыдуманая мною

*Паэма*

*Усім тым, хто не выжыў.*
*Вы не забытыя!*

**ПРАЛОГ**

**I**

*Белый снег, серый лед —*
*На растрескавшейся земле.*
*В. Цой*

Бела-шэрыя плямы —
На чырвонай зямлі.
На чырвонай,
Бы заліты соусам гарнір, зямлі —
Плямы, як чарніла на паперы,
Бела-шэрыя.

**II**

*…Кто живет по законам другим*
*И кому умирать молодым…*
*В. Цой*

Даманскі — пляма на краі свету,
Нябачная, як кропка ў сказе.
Кітайцы і рускія,
Рускія і кітайцы…
Разня, кроў, знішчэнне, смерць.
Даманскі, што знік у крыві,
Як казачная Атлантыда…
Хто дакажа, што ён існаваў?
Каму былі патрэбны смерці маладых людзей?

В’етнам, які аб’яднаў
Тры расы ў крывавае кола
Абдымкаў смерці.
Што шукалі там рускія і амерыканцы?
Смерць, смерць, смерць.
«В’етнамцы ніколи не здаються!
Микола, кидай гранату!»

Карэя, Куба, Алжыр, Венесуэла…
Афганістан — спякотная труна
Ў пашчы адстраляных гільзаў
На распаленай скале.
Крыкі, стогны, мацюкі…

…«Цынкавыя» хлопчыкі, каму вы патрэбны?
Каму патрэбны скалечаныя,
Быццам на баксёрскім рынгу,
Душы дваццацігадовых старых,
Што вярнуліся з пекла
З пратэзам — замест сэрца,
З лёдам — замест цеплыні,
З плачам уначы — замест радасці?..
…Маці, любая маці, даруй,
Што я застаўся жывы…
Афганістан — трагедыя ў стылі рок.

Чачня — сімфонія крывавай гульні працягваецца.
…«Мы хутка будзем жыць па-новаму!..»
…18-гадовае сляпое гарматнае мяса!
Я перабольшваю? Нікольկі.
Зноў маці ля магілы сына.
Зноў бацька ля жалезнага каня,
Які больш ніколі не ўстане на дыбы,
Бо назаўсёды страціў седака
Ў пыле пухкіх папак
На стале раённага ваенкама.
— Маці! Маці! Я хачу жыць!
— Вы гарантуеце яму жыццё?
— Не. Затое я гарантую яму мужчынскі гонар.
«Я хачу жыць!» — хор адрынутых душ,
Навечна 18-гадовых, як у старыя
Чорныя часы Вялікай Айчыннай.
Чачня, Украіна — трагедыя ў стылі…
Вайна! Вайна! Вайна!

**I**

*Но если есть в кармане пачка*
*Сигарет…*
*В. Цой*

Цыгарэт няма.
Пусты пачак валяецца на быццам п’яным стале,
Пахіснутым з-за адсутнасці ножкі,
Як бомж з працягнутай рукой.
Цыгарэт няма.
Як няма і голасу,
Прапітага недзе на барыкадах вечнасці
Ці ў акопах Сталінграда.
Не памятаю, калі гэта было.
Напэўна, разам з голасам
Я згубіў і памяць.
Шкада.
Памяць — кніга, старонкі якой
Ніколі не заканчваюцца,
А толькі жаўцеюць з часам.
Калі напісаць яе —
Нобелеўская прэмія ў кішэні.
Але, на жаль,
Яшчэ не прыдуманы такі станок,
Што яе надрукуе звычайным трохстопным ямбам.
Цыгарэт няма.
Нічога няма.
Ёсць толькі вайна,
Прыдуманая мною.

**II**

*Эй, ямщик, поворачивай к черту!..*
*Г. Сукачоў*

Бела-сіняя каша
З ненапісаных вершаў
Цалуецца з агнём
У абдымках жоўта-чырвонага полымя
На дыване будзённай прозы
Ў выглядзе міскі з-пад малака.
Агонь так прыціскае да сябе каханую,
Што, здаецца, зацалуе да смерці.
Так і ёсць.

Ён праглынуў яе жыццё цалкам, без астачы,
І аблізнуўся ад асалоды,
Як сыты задаволены кот.
Але і ён зачах без цяпла і кахання любай,
Як фікус без увагі.
Апошнія рухі ў смяротнай агоніі —
І агонь пагас, быццам патушаная пальцам свечка,
Нават без дапамогі
Яго злоснай старэйшай сястры — вады.
Сука!
Моўчкі, як сапраўдны мужчына.

## III

*Эта музыка будет вечной,*
*Если я заменю батарейки.*
*В. Бутусаў*

А ты зноў сёння не прыйшла.
Хоць і абяцала пагрукаць у шыбы майго акна
Восеньскім дажджом ці
Мяўкнуць мокрай кошкай
Пад дзвярыма.
Цішыня.
Надзіва шумная цішыня,
Што грукаціць у маіх вушах
Важкім малатком па тонкай плёнцы думак.
Ты зноў не …
Ці, можа, прыйшла?
Ты заўсёды з'яўляешся нечакана,
Як сюрпрыз да дня нараджэння,
І нячутна, бы сонца,
Якое ўзыходзіць…
Ці, можа, заходзіць?..
Трэба прыслухацца.
Подых… Чужы подых…
Пах ладану і шалфею.
Няўжо ты прыйшла?
Не, знікні! Я не хачу цябе бачыць!
Не хачу! Цябе няма!..
Ты не прыйшла.
І дзякуй Богу.

## IV

*…Телефонный звонок —*
*Как команда «Вперед!»*
*В. Цой*

Тэлефонны званок.
Няўжо я каму-небудзь яшчэ патрэбны
Ў гадзіну ночы?
Ці мне памроілася?
Не, тэлефон залівіста верашчаў.
— Ты не спіш?
— Сплю.
— А з кім я размаўляю?
— З аўтаадказнікам.
— Хай будзе так. Запамінай.
— Памяць я згубіў у акопах Сталінграда.
— Па табе плачуць Навінкі.
— Я ведаю.
— Ды слухай жа: Парк Горкага, ля брамы. Я цябе чакаю!
— Гэта па табе Навінкі плачуць.
— Вось і дамовіліся. Чакаю.
Вар'ятка, думае, я прыйду.
Хаця як хочацца курыць!
Д'ябал з ёю!
Цыгарэты яна мае заўсёды.

## V

*Память… червивая память,*
*Отпусти меня!*
*Ю. Лаза*

Вецер — у твар, твар — у вецер,
Пасярэдзіне холад, нібы ўзяты пад варту.
Так ужо было некалі…
Калі?..
Стракатанне кулямёта па нямых гарах.
Яны заўсёды маўчаць,
Хаваючы заціснутае ў скалы крывавае рэха.
Ці маўчаць толькі помнікі?
Памылка.
Маўчаць аўтаматы з перабітымі ствaламі,
Маўчаць барыкады з чалавечага мяса
На дарогах вайны,
Багата палітыя крывёю,

Нібы дэкарацыі —— таматным соусам
У нікчэмным кінарамане,
Якія прагна вылізваюць сабакі,
Здаровыя, галодныя шкілеты з
высалапленымі языкамі,
Што боўтаюцца і целяпаюцца па дарозе,
Быццам гальштукі на грудзях бізнес-бандосаў.
Маўчаць сябры, мае сябры,
Растварыўшыся ў тумане
Таннага пладова-ягаднага віна, што цячэ,
Бы рэкі, са спратаў памяці ў гэтую ноч…
Чаму яны ўспомніліся менавіта сёння?
Я ведаю, чаму.
Вецер — у твар. Як напамін.
Як іх душы, што намагаюцца выцягнуць мяне
З балота бытавога п’янства ў позні час,
Дзе я размаўляю сам з сабой,
Гледзячы ў люстэрка і памінаючы іх.
А што мне яшчэ застаецца?..
Я хачу курыць!
А думкі, як доўгія патлы, — у вочы,
Лезуць у душу і свідруюць яе памяццю.
Чыёй?
Ды маёй!
Трэба ж, яна яшчэ не здрадзіла.
Хоць адна разумная жанчына
Ў маім няўдалым жыцці,
У вайне, прыдуманай мною,
Вайне з самім сабой.
Хто гэта сказаў?
Вецер — у твар.
Куртка — наросхрыст.
Боты на абцасах са стогадовым пылам.
Задубелыя джынсы, шэрыя,
Як сцены ў кватэры, некалі белыя.
Твар — у вецер.
Як у добрыя старыя часы,
Калі я яшчэ жыў і захапляўся музыкай —
Музыкай сённяшняга заўтра,
Запісваючы яе на брані верталёта
Чырвонай тушшу.
Не, я не хачу! Не хачу зноў туды!
Бацька, ты ж ніколі не ваяваў!
Ты не ведаеш, што такое смерць на вачах!
Зараз — ён яшчэ твой сябар,
Праз хвіліну — толькі абрывак успаміну,
І той аднесены невядома куды «чорным цюльпанам».
А я хачу жыць!
Яшчэ болей — курыць!
Ды дзе яна падзелася?

**VI**

*Группа крови на рукаве,*
*Твой порядковый номер на рукаве…*
*В. Цой*

Яна была не адна.
Трое, нібы слупы, абступілі яе з бакоў,
Закаваныя ў чорную скуру,
Быццам мы некалі ў камуфляж.
Смешна…
Задубелыя пальцы паднеслі непаслухмяную,
Як малое дзіцянё, цыгарэту да патрэсканых вуснаў,
Але вецер, гуляючы,
Тушыў кволы агеньчык запальніцы…
Стары жартаўнік…
Мы з табой адной крыві, ты і я, вецер!..
Дым — выратаванне для лёгкіх
І для душы,
Як для некага смех.
Галава закружылася ад задавальнення —
Тупога, вар’яцкага, млоснага…
І раптам…
Боль.
Кроў… на далоні…
Кроў… на зямлі…
Як белае на чорным.
Як чорнае на белым.
Кроў…
І тады я памёр.

**VII**

*Вей, бей, проруха-судьба…*
*Г. Сукачоў*

— За памылкі трэба плаціць,
Камарада!
Хто гэта сказаў?
Глухое рэха чатырох постацяў,
Што аддаляліся, пакідаючы мяне
На мокрым асфальце,
Як выкінуты, ужо непатрэбны
Пусты пачак ад цыгарэт.
— За памылкі трэба плаціць.

**VIII**

*…Видишь, там на горе*
*Возвышается крест…*
*В. Бутусаў*

Дождж.
Неба плача халоднымі слязьмі,
Іх размазвае па маім твары, як туш,
Шурпатай далонню восені вецер.
Кроў — звычайная чырвоная фарба
На малюнку забытага мастака
Ў цені восеньскага парку.
І я, хістаючыся, бы на падпітку,
На сцежцы любові і жыцця, а за мною,
Як шлейф нявесты,
Тонкая рыска ў кроплях крыві.

**IX**

*Сатана гулять устал.*
*Гаснут свечи. Кончен бал.*
*І. Талькоў*

Не, Сатана яшчэ не здаволіўся гульнёй
Пры запаленых свечках
З чалавечага воску
Пад акампанемент тамтамаў —
Могілкавых вачэй.
Абдымаючы і прыцiскаючы да сябе смерць,
Сатана таньчыць з ёю вальсок…
Яны клічуць мяне ў сваё кола,
Але я вырываюся з рук вампіраў,
Скідваю ланцугі памылак
На бязвокія твары гасцей Сатаны.
Я бягу… Бягу…
Хрэн вам, я яшчэ пажыву!

**X**

*Под колесами любви…*
*Под колесами любви…*
*Утром и вечером, ночью и днем…*
*В. Бутусаў*

— Вам дрэнна?
Сарамлівы дзявочы твар.
Не. Мне добра.
А кроў капае з далоняў на зямлю,
Прасочваючыся з-пад пальцаў.
— Мне вельмі добра. Толькі
Надта хочацца курыць.
— На вас жа твару няма!
— Гэта праўда.
Мой твар застаўся разам з памяццю
На могілках праклятых душаў
Дваццацігадовых «старых» там…
— Каму патрэбна ваша душа?
Вы ж амаль мёртвы!
Каму патрэбна мая душа?
Каму патрэбна?
Каму? Каму? Каму?..
Вам?
А можа — вам?
А можа — яму ці ёй?
А можа — мне?
Мне… Мне… Мне!
— Дзе вы жывяце?
Зноў сарамлівы дзявочы твар.
А дзе я жыву?
Толькі на паперы
Восьмага дня студзеня месяца
Ці на шматках
Разарваных вершаў…
І ўсё ж жыву!
А вакол — вайна,
Вайна, прыдуманая мною,
Нікім так і не пачатая.
Але…




Ілюстрацыя Алесі Галота.

## ЭПІЛОГ

### I

*Она читала мир, как роман,*
*А он оказался повестью…*
*В. Бутусаў*

…Я перамог.
А сведкі — кнігі і ружы,
Што мне прыносіла ты,
Сарамлівая незнаёмка
З сімпатычным тварыкам пяшчоты
І ўсмешкай паненкі дзевятнаццатага стагоддзя,
У якім я павінен быў нарадзіцца,
Каб стаць тым, кім стаў.
А сведкі — яблыкі і грушы,
Што мне прыносіла ты
Ў сумцы рамантычнай прозы кастрычніка
З жоўтай лістотай на падлозе
Бальнічнай палаты.
А сведкі…

### II

*Уж если решил, тогда решай,*
*А если решил — за дело!*
*Ю. Рашанцаў*

Вайна, прыдуманая мною,
Толькі пачалася.
У неонавым святле ліхтароў дыскабараў,
У бялюткім аркушы Microsoft Word
на маніторы камп’ютара,
Клавіятура якога набірае правілы вайны.
Але я ад іх адмовіўся.
Мая вайна — гульня без правіл,
Як вершы — без рыфмы,
Дзе перамагае каханне, —
Слова, якое прыдумалі беларусы,
Каб жыць!



Дзмітрый Рубін

**нарадзіўся 23 лютага 1989 года ў вёсцы Сачаняты Смаргонскага раёна. Закончаны настаўнік беларускай мовы і літаратуры. Незакончаны філосаф. Збіраецца стаць біяхімікам, каб напісаць кнігу «Біялогія маёй творчасці». Любіць гуляць з пацуком, эмоцыямі, словамі. Апісвае сябе ў трох словах: сціплы, шчыры, геніяльны.**

## Дарога, пакрытая поўсцю

*Паважаемы Алег Іванавіч.*

*Я плоха знаю беларускі, але бабуля сказала пісаць так. Мы нашлі ў папінах вешчах ваша пісьмо і прачыталі. Я знаю што нельзя, але бабуля сказала чытай. Я чытаў, а яна ківала. Патом сказала каб я вам напісаў і папрасіў каб вы надрукавалі гэта пісьмо ў газеце. Я не знаю ці друкуюць у газеце пісьмы, але бабуля сказала. Надрукуйце, пажалуста. Толька я прашу напішыце ў канцэ, што папа быў харошы. Бо гэта праўда. Ён дажэ памёр як харошы чалавек. Яму паказалась, што на дароге нехта сядзіць, ён дзёрнуў за руль і ўрэзаўся ў слуп.*

*Я выляцеў праз шкло, быў не прысцёгнуты прабачце. Упаў на асфальт але нічога не зламаў. Бабуля кажа што Бог мяне спас, а я не знаю але ўпершыню асфальт быў такі мяккі. Можа і бог. Можа ён рашыў што аднаго папы яму досыць. Бо папа быў прысцёгнуты і забіўся.*

*Паважаемы Алег Іванавіч пажалуйста выпаўніце бабуліну просьбу радзі папы.*

*Сярожа М****

«Вітаю Вас.

І адразу перахожу да справы. Тыдзень таму я атрымаў ліст, дзе Вы прасілі мяне напісаць штосьці празаічнае на зададзеную вамі тэму. Чаму мяне? Напэўна, таму што сярод вашых знаёмых няшмат людзей, якія зробяць гэта лепш. Акрамя таго, нават тыя, хто зможа зрабіць, хутчэй проста адмовяцца з-за адсутнасці прычын дапамагаць такому цудоўнаму чалавеку, як Вы. Але не я. Вы

ведалі, што я не адмоўлюся. Ведалі, што я не стрымаюся і сапраўды штосьці напішу. Ведалі, што калі напішу, то не здолею пахаваць свой твор, а паспрабую адразу даць яму жыццё. Адправіць яго ў свет. У той, для якога гэты твор нарадзіўся. То бок — у дадзеным выпадку — у Вашы рукі.

Вы пралічылі ўсё, што Вам патрэбна. Але ёсць рэчы, якія выходзяць за межы Вашага розуму. Ды і межы, заўважу, там — нічога асаблівага. Так атрымалася, што я хачу Вам дапамагчы для таго, каб абразіць. Так, уявіце. Я дапамагу Вам, але зраблю гэта так, як хачу таго я. То бок якасна і адначасова не дазваляючы Вам спакойна і лянотна дыхаць пры чытанні. Я проста распрану Вас, а пасля адлупцую Вашым жа адзеннем.

Вы хочаце, каб я напісаў пра шлях, якім зараз ідзе беларускі народ. Пра вектар яго развіцця. Каб напісаў не публіцыстычным і не навуковым словам, а мастацкім. Вы гэта атрымаеце. Але на працягу ўсяго тэксту, радок за радком, сярод шэрагу беларусаў, я буду знаходзіць Вас. Паказваць на Вас пальцам і гучна казаць: «Вось ён!»

У кожнага з нас свая дарога. Свой шлях. Свой лёс. У кожнага з нас сваё надвор'е, настрой, паветра. Значная большасць жыцця — гэта асабістае і суб'ектыўнае. Эмоцыі і меркаванні. Каштоўнасці і пачуцці. Дробныя рысы і амаль незаўважныя адценні робяць з нас узаемачужынцаў. Слой за слоем пакрываюць нас патрэбнай і зусім непатрэбнай бранёй. А ў гэтай брані з часам з'яўляюцца двухбаковавострыя іголкі. Яны прабіваюць нашу скуру пры кожным дотыку да каго-небудзь. Яны забараняюць нам набліжацца да сабе падобных. Яны крычаць, што астатнія людзі іншыя, што толькі мы — ахвяры. І мы верым. Верым без ніякага сумневу. Верым, што толькі нам баліць. Верым, што толькі мы вартыя таго, каб нас пашкадавалі. Верым, што толькі мы ёсць.

Беларуская дарога гіне на вачах. Зарастае. Ператвараецца ў беларускую сцяжыну, ля якой пасецца беларускі статак. Статак беларускіх дзікабразаў. Агрэсіўных параноікаў. Запалоханых садыстаў. Я разумею, што яны там не ўсе такія, але хто будзе разбіраць у статку? Быццам бы, калі Вас прыціскае з усіх бакоў натоўп у метро, Вы пра сябе думаеце: «Якія цудоўныя людзі ёсць вакол мяне!»

Не. Вы спрабуеце сярод усяго гэтага дыхаць, спрабуеце жыць. І Вы ўпэўненыя, што гэтыя ўсе вакол Вас маюць сваім жаданнем не дазволіць Вам ні першае, ні другое. Вы ж адзіная ахвяра ў гэтым вагоне. Тое ж мог бы сказаць кожны пра сябе, але правы будзеце толькі Вы.

Памятаеце, як Вы забілі ката? Напэўна, не. Якая Вам справа да каго-небудзь акрамя Вас? Тым больш да жывой істоты, якую Вы ператварылі ў мёртвую. Тым больш — як Вы можаце памятаць тое, чаго не ведаеце. Вы ж не ведаеце? Вы ж не заўважылі яго? Вы ж былі занятыя важнай справай. Справай усяго свайго жыцця.

Вы ** нылі**.

Я выпадкова стаў вашым спадарожнікам у тых блуканнях па Гомельскай вобласці і не раз шкадаваў пра гэта. Але зараз прыйшоў час змяніць «мінус» на «плюс». Прыйшоў час парадавацца, што мне ёсць што расказаць пра беларускую дарогу, пра вектар развіцця гэтага народа. Радавацца, што ў мяне ёсць прыклад. Што ў мяне ў памяці засталася тая ноч, той кот і Вы.

Вы — прыклад беларуса.

Памятаеце, Вы былі цвярозым. Такое з Вамі рэдка, але здараецца. Вам жа напляваць толькі на свой арганізм, а не на законы. То бок на закон Вы таксама плюеце, але за руль садзіцеся цвярозым. У гэтым Вы сапраўды тыповы чалавек.

Памятаеце, Вы гаварылі. Гэта быў доўгі маналог. Вы спыняліся толькі зрэдку, каб я кіўнуў Вам ці праявіў яшчэ якім-небудзь чынам шкадаванне да такога цудоўнага чалавека, як Вы. Настолькі цудоўнага, што ўсе навокал проста не могуць яго, то бок Вас, не крыўдзіць. Вы сапраўдны Езус сярод гэтага натоўпу фарысеяў, кожны з якіх (вось дурноцце!) лічыць сябе Езусам. На ломанай рускай Вы тлумачылі мне «да чэго давелі страну». Маючы на ўвазе ізноў жа ўсіх па-за межамі сябе.

Думаю, што Вы прабачыце маё нахабства, але ў маім тэксце Вашы словы будуць гучаць больш-менш роўна і прыгожа. Яны будуць утвараць сказы, а не процьму бессэнсоўных спроб, як у Вас. Зразумейце, мне так зручней. Акрамя таго, гэта мой тэкст, і калі Вам штосьці не падабаецца, то я дазваляю вам пагрызці локці. Моўчкі.

— **Вось Оля, напрыклад,**— пачаўся адзін з абразцовых кавалачкаў вашага сядзячага стэндапа. — **Жонка мая. Жонка. Я вось на ёй жаніўся. Жаніўся. І вось гэта жывём. Мы сям'я. Ну, разумееш. Жонка. Га-га-га. Гусыня мая.** (Цяжка чытаць, так? А я гэта крыху адаптаваў. Калі я слухаў, было зусім жудасна.) **Гусыня. Гусяняткаў няма яшчэ. Дык яна — Оля. А я ёй кажу: я табе ўсё. Я ёй і ўсё. А яна раз і раз. Зноў. Тое ёй, гэта. Кажа: ты — мой муж — павінен забяспечыць мяне. Забяспечыць. У вайну снег жэрлі. Я ёй… Ну, ты ж згодзен? Ты ж мужык. Ты ж разумееш. Гусыня — яна. Дык я яе выхаваю. Вазьму і выхаваю. Вось. Бо ёй патрэбная рука. Рука — мужыка. Во! Верш атрымаўся. Запісвай, пісьменнік, запісвай. Не спі там.**

Дарэчы, Оля калісьці была палымянай дзяўчынай. Сама вершы пісала. Марыла. А затым выйшла замуж і ўсё — больш не гарыць. Не хапае ёй жыцця ў той з'яве, што Вы называеце *сямейным жыццём*. Усе яе надзеі, спробы не могуць прабіцца праз Вашу палітыку каменнай улады. Безэмацыйнасць, холаднасць, сухасць. Такое ўражанне, што Вам патрэбны быў прадмет інтэр'ера, а не чалавек. І Вы ж яе вінавацiце. За тое, што яна не можа ператварыцца ў маўклівы труп. Можа, Вам сапраўды лепш было б адкапаць труп, а не забіваць жывое. Бо тое, што Вы з ёй робіце, — гэта забойства. А тое, што робіць яна, — гэта спроба выратавацца. Гэта боўтанне рукамі і нагамі ў вадзе, каб не апынуцца на дне, без паветра.

—**Хоча працу сабе. Жонка. Працу. Ты ж мужык, я — мужык. Ты б даў жонцы працаваць? Не даў бы. Не даў бы, калі мужык. І я не дам. Што я ёй. Зусім, гэта. Вось я яе і выхаваю. Я яе. Так. А можа, у яе ёсць хто, дык яна і гэта. Можа, праўда дзе забаўляецца, а затым як быццам, і каб я і не думаў. Вот жа падла.**

— А акрамя жонкі няма праблем? — мне не было цікава, але здалося, што тэма сябе зжыла, а гэта прычына лішні раз зрабіць выгляд, што я слухаю і разумею. Я і сапраўды слухаў і разумеў, але зусім не тое, што хацелася б Вам. Я бачыў перад сабой аблічча апостала Пятра, але ў той час, калі ён адмаўляўся ад Хрыста.

Я бачыў перад сабой гэта аблічча, і мне здавалася, што ў гэтым і ёсць рэальнасць. Рэальнасць нашай сучаснасці. Мільёны Пятроў расказваюць адзін аднаму, як яны цудоўна ўцяклі, калі іх былога сябра злавілі. Хваляцца сваім розумам. «Дурня таго на крыж павялі, а я вось тут, з вамі. Дык вып'ем за тое, каб ведаць, калі спыніцца».

— **Наташка яшчэ. Ну, ты яе помніш. Наташка. Я да яе часам зазіраю. Ну, туды-сюды. Ты ж не хлопчык. Павінен, гэта. А яна з выкрунтасамі. Кажа, я пайду раскажу Олі. Я ёй: што раскажаш? Хто ж цябе тады… Ну, ты разумееш. Ты ж мужык. Усё тут проста. Хацела з мяне выцягнуць грошай больш. Хацела мной кіраваць. Ды я ж не абы-хто. Мной так проста не пакіруеш.**

Ведаю я Наташку. Вырасла яна ў жудасных умовах. Ды вырасла, як быццам сонейка цёплае. Толькі крыху зламанае. Праз братоў, дзядзькоў прайшла. Затым яе якісьці малады індывідуальны прадпрымальнік заўважыў. Выцягнуў з гэтага гадзюшніка ды знік. Куды? Чаму? Шмат ходзіць чутак, не хачу іх паўтараць. Наташка адна не магла быць, і зараз, напэўна, не можа. Відавочна, таму і канфлікт гэты ў вас. Ёй адной холадна, страшна. Тое, што Вы робіце, — забойства. Тое, што яна робіць, — спроба выратавацца. Я пісаў ужо вышэй. Пра Олю. Тое ж самае.

— **Бабы — яны ўсе бабы. Усе яны адно. Прыстасаванне для… патрэб. Га-га-га. А гэтыя феміністкі. Чуў? За роўныя правы ідуць. З мужыкамі. Гэта каб такарны станок пайшоў за**

**роўныя правы сцяжком махаць. Да чаго дакаціліся, гэта. Зусім ужо. Я ж, гэта, яшчэ не ўсё і гавару. Ну, некаторыя рэчы ўголас пакуль казаць можна, але, ведаеш, лепш прывыкаць адразу. Таму прамаўчым.**

На дарозе сядзеў кот. Вы не заўважылі яго. Вы былі занятыя. Вы хваляваліся за свой народ. Больш таго, Вы хваляваліся за ўсё чалавецтва.

Мне здаецца, што я бачыў вочы. Вочы, напоўненыя розумам і прагай да жыцця. Але гэта былі не Вашы вочы. Вашы — пустыя: свабодныя вочы свабоднага чалавека.

Мне здаецца, што я бачыў вочы ката.

Мне здаецца, што ён бачыў мае. Што ён убачыў у маіх вачах, я не ведаю. Ён стаў пакрыццём для асфальта, і ў яго ўжо не спытаць.

Вы прасілі, каб я напісаў пра дарогу, якой ідзе Ваш народ. Гэта дарога маўклівых ахвяр і іх забойцаў, дарога жывых і тых, хто забірае жыццё.

Дарога, якая кожны дзень зарастае ўсё больш. Не травой — поўсцю. Так, гэта суб'ектыўна, гэта прадузята, гэта і блізка не стаіць побач з праўдай. Вы прасілі, каб я напісаў. Я напісаў.

Зараз я прашу Вас: парвіце мой ліст. Парвіце на маленькія кавалачкі. Такія маленькія, з якіх ужо ніхто не зможа нічога скласці. Такія маленькія, як Ваша сумленне і наша пачуццё годнасці.

Такія маленькія, як валасінкі: рудыя, белыя, чорныя. Валасінкі катоў, котак, кацянят.

Валасінкі, якія робяць наш беларускі шлях крыху мякчэйшым, цяплейшым.

Пакуль мы голасна крычым аб ім.

З пагардай,

Алег Іванавіч».

## Прафесіяналізм

Нечакана мне захацелася схадзіць да споведзі. Ніякіх асаблівых грахоў я за сабой не адчуваў, проста раптоўна мяне ахапіла жаданне папрасіць за іх прабачэнне перад Богам. Стаць чысцейшым у сваіх вачах. Мне не падабаюцца такія моманты. Не падабаецца, калі нешта незразумелае спрабуе кіраваць маімі дзеяннямі. Звычайна такія дробязі ператвараюцца за некалькі дзён у штосьці неабдымнае. Вось і тут так адбылося. Адно маленькае жаданне вырасла ў вялізную праблему. Ведаеце, напэўна, такія праблемы, што суткамі грызуць штосьці ў тваёй галаве, як быццам хочуць зрабіць у ёй дзірку і вырвацца прэч.

Пачалося ўсё з таго, што суседскі хлопчык Антон залез у мае яблыкі. Справа была позна вечарам, надвор'е хмурнае. Я выпадкова заўважыў яго, а ён мяне — не. Напэўна, думаў, што я ў хаце. А я якраз ішоў ад суседа. Той мне расказаў, што быццам бы нашага святара бачылі ў Лідзе з прастытуткай. Я разумею: маглі і зблытаць, ці ўвогуле прыдумаць. Але ж на роўным месцы такая чутка сама не ўзнікне. Штосьці, напэўна, сапраўды было. Вось тут мне і захацелася схадзіць да споведзі. Але як? Ці змагу я перад гэтым чалавекам у сваіх грахах каяцца? Ён жа, магчыма, такі ж, як я — грэшнік. Як мне яму даверыцца, як мне паверыць, што яго вуснамі Бог размаўляе, яго вушамі Бог слухае?

У такіх думках падыходжу да сваёй хаты, а там гэты Антон мае яблыкі рве. Як жа я раззлаваўся! Не падумайце дрэннага, я звычайна спакойны чалавек. Але ж тут сітуацыя незвычайная. Я іду, думаю аб сапраўдным, патрэбным, важным. А тут гэты паршывец такое робіць. І без ніякага сораму, як быццам так і трэба. Раптоўнасць і нахабства ягоных дзеянняў не маглі пакінуць мяне спакойным. Я схапіў венік, ціхенька падышоў ды ўдарыў, як мог. Я ж і падумаць не мог, што атрымаецца. А хлопец ад нечаканасці ўпаў і, як пасля высветлілася, зламаў нагу.

Увогуле, так здарылася, што я ўрач. Таму, калі ў звычайнага чалавека ўзнікае думка выклікаць «хуткую», я спрабую вырашаць пытанне сам. Але ж не гэтым разам. Бо тут у якасці хворага не хто-

небудзь, а злодзей. Ён жа мае яблыкі хацеў сабе прысвоіць, абакрасці мяне хацеў. Сітуацыя незвычайная. Складаная сітуацыя. Само сабой хочацца зрабіць так, як трэба, але ж адразу і не зразумееш, як тут трэба дзейнічаць.

Я звычайна спрабую ўявіць каго іншага на сваім месцы. І думаю, што ён бы зрабіў. Мне так лягчэй. Здаецца, што адказнасць за тое, што раблю, дзялю напалам з тым, каго ўяўляў. Можа, яно і нядобра, але лепш, чым ніяк. Тым больш у мяне ж амаль у хаце — адбывалася ж гэта ў маім садзе — хлопчык з зламанай нагой. Плача, крычыць. Мне ж не да якіхсьці там высокамаральных дыскусій. Таму вось як працей, так і зрабіў.

Уявіў на сваім месцы святара нашага, айца Паўла. Уявіў ды і адразу зноў пра споведзь і сумненні свае згадаў. Думаю, айцец жа Павел сапраўдны прафесіянал. Якія там могуць быць побач з ім прастытуткі? Нагаварыў хтосьці на яго. А я вось паверыў. Як так можна? Я ж сам урач. А ўрач — гэта напалову святар. Толькі ўрач цела лечыць, а не душу.

І так мне стала сорамна. Адчуў сябе ну зусім няёмка. Нават «няёмка» — гэта вельмі так мякка, але літаратурна. Я імкнуся: лепш слова будзе не трапным, затое літаратурным. Падалося мне, што гэта ўсё якісьці сігнал ад Бога. Што трэба было там, каб я тут пабачыў, які ж я грэшны. Што душа мая ад грахоў чорная. Што чужыя целы я ратую, а целы — гэта ўсё смяротнае. Гэта ўсё нядоўгае. А тое, што сапраўднае, пра тое я ж і не думаю. Зусім сябе загубіў. Ужо Вельзевул у пекле мне рукой махае, крычыць: «Хутчэй, хутчэй! Чакаем цябе!»

Уявіў — і страшна стала, жудасна. Не думаючы, пабег да айца Паўла. Каб той спавядаў. Ён жа сапраўдны прафесіянал. Ён жа і ўночы не адмовіць. Ён жа выратуе.

Вось так яно ўсё і склалася. Айцец Павел не адкрыў. Не было яго дома. Знаёмыя кажуць, што ў Лідзе быў. Вось і прафесіяналізм. Вось і выратаванне.

А пра Антона я толькі раніцай згадаў. Ды нічога з ім не здарылася. Нага — не сэрца, жыць будзе. Але вось штосьці грызе мяне, грызе і не адпускае. І хочацца да споведзі схадзіць.

## Па трамвайных рэйках

Трамвай на рэйках. Рэйкі гарачыя. Здаецца, што яны плавяцца. Плавяцца, як скура, калі яе хутка церці тыльным бокам нажа. Плавяцца, як плаўлены сыр на патэльні. Трамвай бяжыць. Так хуценька падымае і апускае свае маленькія ножкі. Так ціхенька спявае свае трамвайныя песні. Такі бадзёры і несумненны.

Людзі сядзяць у трамваі панурыя. Людзі корчацца ў муках будзённасці. Людзі выгінаюцца ад святла сонца, імкнуцца схавацца пад коўдру. Клянуць трамвай — коўдры ў ім няма. Няма падушкі. Няма гарбаткі і кавы. Клянуць гэты трамвайны крывы рытм. Клянуць гукі, якія вылятаюць са шчарбатага трамвайнага рта.

Трамвай бяжыць. Бяжыць па вуліцы. Шэрай ленце між шэрых скрынак. Скрынак для сабак і катоў, лядоўняў і тэлевізараў, шматпавярховых скрынак, у якіх пасажыры хаваюцца пад коўдры і спяць.

За спінай узніклі два раварысты. Яны з двух бакоў пачалі наязджаць на трамвай. Заганяць яго. Куды? Трамвай жа не можа збочыць са сваіх рэек. Трамвай першапачаткова несвабодны. Трамвай бяжыць па закладзеным для яго лініям лёсу. Гэтыя лініі — не на далонях трамвая, а на далонях горада. Куды ён можа з іх збочыць? Нікуды.

Людзі ў трамваі панурыя. Злуюцца. Ім не падабаюцца раварысты. Ім не падабаецца мітусня. Ім не падабаецца ранкам уставаць, вечарам класціся, жыць, быць, піць, есці, трэсціся па дарозе на працу ў гэтым праклятым трамваі.

Трамвай хвалюецца. Ён больш не спявае. Але гэтага ніхто не заўважыў, каму цікава прыслухоўвацца да трамвайных спеваў? Трамвай бы супыніўся, пачасаў патыліцу, падумаў: яму

трэба скласці план, яму трэба адказаць на пытанні. Што рабіць? Чаму? І гэтак далей. Трамвай разумее: яшчэ толькі сярэдзіна маршруту, ніхто не дазволіць яму спыніцца. Ніхто не дазволіць уставіць у вушы слухаўкі і праз голас Янкі Дзягілевай выплысці з возера перашкод і пагроз. Але супыняцца трамваю дазволена толькі на прыпынках. Выплюнуць з сябе людзей, пасаліць імі яшчэ адну вуліцу. Замест адных падхапіць другіх і працягнуць свой вальс па прамой.

Раварысты кідаюць у трамвай позіркі. Позіркі не шкодзяць трамваю, ён упэўнена бяжыць па сваіх рэйках. Але людзі ўсё больш панурыя, людзі ўсё больш важкія. Трамвай ужо не можа паляцець. Напэўна, і раней не мог, але зараз не варта думаць пра раней. Варта прыпыніцца на шляху, спланаваным ужо даўно. Кімсьці чужым і несапраўдным. Богам ці сузор'ем.

Трамвай праехаў парк 50-годдзя Кастрычніка. Раварыстаў стала больш. Іх стала два. Іх засталося два, але іх стала больш. Трамвай разумеў гэта, і людзі разумелі. Людзей таксама зрабілася больш. Можа, ад страху, можа, ад панурасці. Здаецца, панурасць вірусам гуляла сярод пасажыраў і карміла іх кілаграмамі панурага тлушчу. Трамвай скроб жыватом асфальт. Страх перарос у паніку. Вочы трамвая ўтварылі б светамузыку, калі б гэта было ноччу. Але ж ранак: светла, сонца — усё павінна быць добра.

Раварысты ехалі вакол трамвая. Яны імкнулісяператварыць яго пасажыраў у натоўп, каб гэты натоўп выбухнуў жахам Нямігі і ад трамвая нічога не засталося. Раварысты былі індывідуаламі і не разумелі, як і чаму хтосьці вязе людзей. Садзіць іх у сябе, прыкрываючы быццам рэбрамі лістамі металу, дазваляе ім не прыкладаць намаганняў, каб трапіць з пункта А ў пункт Б. Гэтыя ж няўдзячныя істоты гатовыя ў адказ самі сажраць трамвай.

Трамвай бег хутчэй. Ён цяжка дыхаў. Далёка ў галаве трамвая, на тым месцы, дзе павінен сядзець кіроўца, жыла надзея. Надзея на хуткасцях адарвацца ад зямлі і паляцець. Не надзея, а глупства. Бо людзі пачалі ціснуць камянямі, як быццам ляглі на сэрца трамвая.

Раварысты усміхаліся. Усміхаліся хуткай перамозе. Яшчэ крыху, і гэта панурая маса выбухне.

Трамвай скроб жыватом асфальт. Скроб, не заўважаючы. І ў жываце з'явілася дзірка, праз якую адразу палезлі, паціснуліся людзі-вантробы. Здзіўленыя раварысты супыніліся. Яны не чакалі, што ўсё адбудзецца так. Яны проста хацелі пазабаўляцца. Проста пазабаўляцца, як звычайныя людзі. Людзі, якія б'юць вокны суседзям, захопліваюць Чэхію, гвалцяць дзяўчат, мову, канстытуцыю. А пасля плачуцца татам і мамам, што іх справакавалі. Што трамвай, які бег па рэйкам з пункта А ў пункт Б, іх справакаваў. Выклікаў іх законную агрэсію ў адказ на сваю слабасць і шчырасць.

Свабодны пусты трамвай бег далей па сваіх рэйках. Наступны прыпынак — «Уральская».

## Беларуская рулетка

Рэвальвер упіраўся мне ў скроню. Я быў гатовы да таго, што ўсё скончыцца зараз. Алег, Андрэй, Надзя, напэўна, таксама былі гатовы. Пачуць стрэл. Убачыць вішнёвы сок. Пырскі шампанскага. Цеплыню, якая павольна сыдзе з майго цела і знікне за дзвярыма, калі я застануся.

Надзея ледзь стрымлівала рукі, каб не заціснуць імі сваю магчымасць чуць. Вочы не стрымлівала, сціснула іх у кулакі. Сціснула з такой сілай, каб вейкі прабілі шчаку. Каб свет вачэй знік назаўсёды.

А свет біў у акно…

Я паклікаў смерць. Яна не прыйшла.

Рэвальвер перайшоў з маёй нясцерпна слабой рукі ў руку Алега. Алег здаваўся спакойным. Гэты яго позірк, рухі, пазбяганне эмоцый і увогуле любых дзеянняў, якія б дазволілі сказаць, што ў яго галаве, крыху дапамагалі і мне. Хацелася ўсміхнуцца. Зразумеў, што смерць зноў прайшла

міма. Зноў зачапіла мяне толькі вачыма. Мілымі дзявочымі васільковымі вачыма. Такімі цёплымі, што ўся цеплыня майго цела сабралася ў кончыкі пальцаў. Тых, што краналі смерць.

Алег здаваўся спакойным. Хацелася б мне быць такім спакойным. Не мог. Здавалася, зараз адзін рух Алега, і ўсё скончыцца. І ўсе сапраўды ўбачаць, што ў яго было ў галаве. Убачаць на сцяне.

Андрэй усміхаўся. За шклом яго акуляраў былі вочы. Жвавыя вочы. Калі б гэтым вачам дазволілі бегчы марафон, яны б паставілі рэкорд. Зараз вочы заціхлі. Здаецца, яны рыхтаваліся. Вывучаць сляды ад таго, што ў сапраўдны момант — жыццё Алега.

— Ну, хутчэй. Хопіць цягнуць сароку за с...у!

Андрэй любіў жартаваць. Найчасцей яго жарты былі проста спалучэннем далёкіх адно ад аднаго слоў, якія ён выдаваў за выслоўе. «Цягнуць сароку за с...у» было ледзь не народным выслоўем Андрэя, бо — як паэт і бард — ён меў права называць сваё народным.

Клац.

Алег застаўся жывым.

Зубы Андрэя дакорліва сціснуліся. Прыйшла чарга Надзі. А яе смерці Андрэй не жадаў. Толькі вось калі не яна, то хутчэй за ўсё ён.

Вясна. Сонца. Птушкі. Кветкі. Не восьмае сакавіка. І зусім не сакавіка. Мужчыны бачылі ў жанчыне ў першую чаргу жанчыну. Жанчыну, якую мужчыны павінны абараняць, за сэрца якой павінны змагацца. Але зараз яны маўкліва глядзелі, як гэта жанчына рыхтуецца сябе забіць.

— Не трэба, — прашаптаў я.

— Можа, ты замест яе? — хутка стрэліў вачыма Андрэй. — Баба з возу, а хто за яе?

Алег маўчаў. Мне б вельмі хацелася, каб ён гаварыў. Гаварыў са мной, як раней у Фэйсбуку. Хацелася, каб я верыў свайму даверу да яго. Алег маўчаў. І гэта маўчанне прымусіла і мяне замаўчаць. Прымусіла не адказаць Андрэю. Які зразумеў усё, напэўна, па-свойму, але ж зразумеў. Усміхнуўся.

Надзя пацягнулася за рэвальверам.

Ці любіў я Надзю? Некаторыя знаёмыя былі ўпэўнены, што любіў. А я не быў. Я не ведаў. Думаў шмат. Аналізаваў. Спрабаваў уявіць жыццё без яе. Уяўляў. Напэўна, не любіў. То бок менавіта любіў, але не кахаў. Любіў як важную частку сябе. Як Алега. Мне не хацелася, каб хтосьці з іх сёння памёр. Лепш бы Андрэй. Ці я.

Надзіны рукі дрыжэлі. Яна была жанчынай, але ў гэты момант, перадсмяротны момант, яе страх быў не жаноцкай слабасцю, а агульначалавечым страхам.

Імгненні павольнай чарапахай цягнулі дзень праз нашы галовы. Андрэй хваляваўся. Здавалася, ён хвалюецца больш за Надзю. Яго твар напружыўся, як у немаўля, у якога адабралі бутэлечку з паветрам. Думаю, яшчэ некалькі секунд і, каб разбіць сваё ж напружанне, ён ужыў бы сваё любімае выслоўе-антыбіётык пра сароку. Але гэтых секунд не было. Надзя націснула на выключальнік свайго жыцця. Заплюшчыўшы вочы, вушы, рот, нос, скуру, яна ўся ператварылася ў адзін палец. Думаю, калі я б абняў яе, яна нават не даведалася б пра гэта. Бо была гатова не адчуваць. Яе гатоўнасць апынулася непатрэбнай. Смерць яшчэ не прыйшла. Надзя магла жыць. Куля не кранула яе скронь.

Вочы Андрэя пабеглі хутчэй. Яны спрабавалі збегчы дарогамі лёсу ад рэвальвера. Спрабавалі ператварыць вобраз свайго чалавека ў вобраз мінака, вобраз выпадкоўца. Быццам гэты самы Андрэй — гэта зусім «левы» чалавек, які не разумее, што адбываецца і чаму. Не разумее, як так атрымалася, што ў ягоных руках ужо другі раз за гэты вясенні несакавіцкі ранак апынулася зброя. Зброя, якой праз некалькі імгненняў ён разнясе на маленькія кавалачкі, на абрыўкі анучкі, на адбіткі шклянкі свой свет, сваю свядомасць, сябе.

— Можа, ужо хопіць, — няўпэўнена кінуў ён у цішыню трывожных позіркаў. Ніхто не адказаў. Але было зразумела, што не хопіць. Што ніхто не збіраецца спыняцца. Ніхто не збіраецца спыняцца на гэтым месцы, калі верагоднасць, што ўсё і так скончыцца, паднялася да столі.

— Хопіць, — вачыма паўтарыў Андрэй. Яго рукі не рухаліся. Быццам на рухі вачэй ён аддаваў усе свае сілы.

— Вы ж не хочаце быць забойцамі? — гэта ўжо ўслых.

Я не мог глядзець на яго. Я глядзеў на стол. Але здавалася, што нават стол адчувае пагарду да гэтага баязліўца. Так, я называю Андрэя баязліўцам, але не за сам страх, а за тое, што ён выказаў гэты страх так адкрыта. Перад людзьмі, якія і без таго не адчувалі да яго павагі.

— Страляй, — сказаў Алег і проста паклаў у руку Андрэю рэвальвер. Я неяк і забыў, што рэвальвер і належаў Андрэю. Што менавіта яму прыйдзецца забіраць пасля гэту цацку, або мы пакінем яе на яго целе.

Потная рука сціснула зброю. Потная рука не дрыжэла. Яна акамянела. Застыла, спадзеючыся, што і час застыне.

— Ну, давай, — пра сябе шаптаў я.

І Андрэй даў. І нічога не адбылося. І чарга зноў падышла да мяне. І я ведаў: зараз я сябе заб'ю. Я ведаў, што гэты шасцізараднік нарэшце гатовы назваць імя сваёй ахвяры. Што гэта ахвяра — найлепшы вынік нашай гульні. Андрэй не мог памерці: у жыцці не здараюцца хэпі-энды. Алег? Алег — гэта той самы чалавек, які павінен застацца жывым, каб іншым было ў каго верыць. А Надзя? Ну, вядома, надзея. Пяшчотная, цёплая, добрая. Не дай Бог, каб яна.

— Можа, хопіць ужо нараджаць эканамічныя рэформы.

Андрэй зноўку стаў сабой. Ён перажыў свой шанс праіграць. Атрымаў тры шансы перамагчы. Ён выглядаў такім мярзотна-салодкім. Нават падалося, што ў яго зліпліся вусны, і толькі таму ён супыніўся на слове «там».

Сонца спрабавала прабіць промнямі шыбу. Лупіла то ў адно месца, то ў другое, то раптам агульным ударам па ўсёй плошчы шкла.

Надзя заплакала:

— Арцём, хопіць.

— Вось-вось, — дадаў Андрэй. Разумеючы штосьці зусім іншае. Надзя павярнулася і пляснула па брыдкай фізіяноміі. Фізіяномія пачырванела. Мужчына быў гатовы адказаць, але Алег не дазволіў.

— Нельга, — прашаптаў ён, учапіўшыся сваёй сухой халоднай рукой за чужую потную і гарачую.

— А ёй можна?

Алег маўчаў.

— А ёй можна?!

— Калі не заткнешся, то і я плясну. Заслужыў.

— Вось як. Вось як…

— Плясну, — цаглянае слова спыніла цэлую плынь слоў.

Гэта была вельмі вольная хвіліна. Такая шчаслівая хвіліна. Я мог забыцца на ўсё і проста слухаць, глядзець.

— А ты — націскай, — павярнуўся да мяне Алег. Словы гучалі рэзка і нечакана. Стала крыўдна. Крыўдна аж да злосці.

Я зрабіў усё імгненна і перадаў маленькі механізм, створаны чалавечымі рукамі, наступнаму.

Алег быў спакойны. Не разумею, чаму.



# Шматкі скуры

* * *

Вітаю вас
Я Зміцер і я пасрэднасць
Думаю вам гэта цікава
Я пасрэдны паэт
Пасрэдны празаік
Пасрэдныя піва п'ю і каву

Людзі кажуць талент
Але яны хлусяць
І я час ад часу пасрэдна ім веру
У адказ ім чытаю свае недатворы
І дадаю нават недаспевы

Я пасрэдны сын сваім маці і тату
І мог бы быць нават пасрэднай дачкой
Але тут абышлося з маёю пасрэднасцю
Пасрэдным пабыць незаўсёды паспееш

Я пасрэдны каталік
Я ведаю таго дзядзьку што вісіць на крыжы
Але не пазнаю таго што ля алтара
Я чытаў Евангелле
Але прабачце мяне я чытаў і Майн Кампф

Я пасрэдны чытач
Я чытаў Прылуцкага
Але не чытаў Хадановіча
Толькі ў перакладах
Вершаў польскай паэткі
Затое я з ім сядзеў побач
У музеі Пятруся Броўкі
Так сабе месца
Але ж якія людзі

Я пасрэдны ў мностве пасрэдных мностваў
Пасрэдны ў млоснасці
Пасрэдны ў гісторыі
У школе быў пасрэдным але
там другая гісторыя
Настаўнікам быў пасрэдным
але там другая млоснасць
Магчыма я пасрэдны ў тым аб чым не ведаю
Пасрэдныя абдымкі з пасрэднымі пацалункамі
Размаўляю праз сон на іўрыце
А без сну на беларускай
Пасрэдна кармлю свой розум
З адной талеркі і страўнік

Я нават не ганаруся
Тым што настолькі пасрэдны
Бо сярод мноства пасрэднасцяў
Я нават вельмі пасрэдны
Таму адкуль брацца гонару
Адкуль брацца патрыятызму
Чаму б не прадаць Радзіму
Калі заплоцяць прымальна
Чаму б не прадаць Радзіму
Калі заплоцяць прымальна
Чаму б не прадаць Радзіму
Калі заплоцяць прымальна
Калі не паспець то быццам
Сам атрымаеш свой цэтлік
З пасрэдным коштам даволі
Бо і тавар сам пасрэдны.

## Двухмоўны недаверш

Вясёлка бы шыбеніца
Рэшатам вочы кранае
Касцьмі стогнуць мыльніцы
Будынак у ноч завывае
Праз кола лёс лыбіцца
Хоць іншы раз сябрам стане
З двухмоўя не вываліцца
Месяц арлом лунае
Арол ціха цягнецца
Снежань жарэ пяшчотай
У траўні не маецца
Калі толькі ўпотай

* * *

Я пачынаў з растваральнай кавы
Мне было дванаццаць
Я не ведаў што такое якасць
Я жыў яшчэ восем год
Пакуль даведаўся што памыліўся
Што п'ю зусім
Не каву
Бо на пачку з кавай напісана Lavazza
А зусім не Pelle
Затым яшчэ сем гадоў
І ў маім жыцці з'явілася яна
Чароўная бы люстэрка ў
вар'яцкай кнізе пра Алісу
Гэту кнігу называюць казкай
У маім жыцці з'явілася яна
Ці ён
Элексір сілы і інтэлекту
Мудрасці і бадзёрасці
Кава ў зерні
Мы сустракаемся з ёй рэдка
Але спадзяюся з часам нашы
лёсы стануць адным
Я пачынаў з растваральных вершаў
Мне было дванаццаць
Я не ведаў што такое якасць
Я жыў яшчэ восем год
Пакуль даведаўся што памыліўся
Што пішу зусім
Не вершы.
Бо вершы гэта не проста рыфмоўкі
А часам зусім не рыфмоўкі
Гэта хутчэй сняжынкі
Сукупнасць слоў стварае ўзоры ўнікальнасці
Прайшло яшчэ сем гадоў
У маім жыцці з'явіўся ён
Слых
Я пачаў чуць свае сняжынкі
Лавіць іх пах
Кранаць так каб не раставалі
Я магу забыць каву ў зерні
Але больш не магу не чуць.

* * *

Ты не будзеш служыць
Мне сказаў так урач пасля УЗІ
Я паверыў яму
І да гэтай пары не служу
Можа толькі сабе
Ёй
І хлопчыку які пад маімі
пальцамі сеў на край неба
Ловіць рыбу
Яшчэ толькі чакае Яе
23 лютага свята
Мой дзень нараджэння
Незнаёмыя людзі віншуюць мяне
Мне прыемна
Мне здаецца што дзесьці глыбока
Яны ведаюць праўду
Пра хлопчыка які пад маімі
пальцамі сеў на край неба
Пра ўрача які сказаў мне
Ты не будзеш служыць
Пра ўсё тое што мае і не мае столькі значэння.

* * *

Мухі запоўнілі клетку грудную
Брудныя мухі вольныя птушкі
Песні спяваюць на быццам французскай
Мабыць не ведаюць мову другую
Піляць па рэбрах шарсцістыя ногі
Цешаць сябе сваёй некранальнасцю
Зноў парушаюць законы танальнасці
Геніі бледныя духам убогія
Ліст за лістом праізаічнай нездольнасці
Даносяць па венах настойлівым жужжам
Яна была жонка а ён яе мужам
Старонкі бязлітаснай слабасцю повесці
Ні стылю ні мовы ні пер'я ні пуху
Далоні сціскаюцца ў накавальні
Хацелася б выйсці з кватэры на ранні
І мякка прыхлопнуць кожную муху.

* * *

Максім
Прабач што я да цябе на ты
Але я ж старэйшы
Ужо
На год

Максім
Нічога не змянілася
Толькі дадалося ўмоўнасцяў
Умоўнай раскошы
Умоўных фарбаў
Умоўных свабод
Магчыма ты б сказаў
Што я даю вельмі змрочную ацэнку
Нашмат больш змрочную чым даў бы ты
Магчыма ты б сказаў
Але не скажаш

Максім
Тваё імя вучаць у школах
Ведаюць што ты быў вусаты
Напісаў Слуцкіх ткачых
Памёр ад сухотаў
Як Цётка
Пра яе ведаюць менш
У яе не было вусоў
Гэта жарт
Калі ты разумееш

Максім
Я рэдка чытаю твае вершы
Яны далёкія мне
Як табе мае словы
Мае рваныя радкі
Мой рытм
Як казала адна паэтка
Рытм маёй цялеснасці
У цябе ўжо няма рытму
Прабач

Максім
Што ты зычыш мне
На свой юбілей
Пісаць лісты прозай
Ці збочыць у дрыгвяную рыфму
З яе ямбамі і іншымі харэямі
З яе Вільняй
Дняпром
Дзвіной
Парыжысцікай
Не зыч
Лепш я

Максім
Поспехаў табе
Дзякуй.

* * *

Снег
Ён у мяне першы
У гэтым годзе
Кожны раз першы
На далонях
На вуснах
У вачах
Пад нагамі не ён
Балота асфальту не мой першы снег
Не трэба гэтых казак
Не трэба змешваць чароўнасць сняжынкі
З брудам слізкага месіва пад нагамі
Першы снег
Заўжды ў паветры
Акрамя тых імгненняў
Калі ён на далонях
На вуснах
У вачах
Першы



Валерый Гапееў

**нарадзіўся 6 лютага 1963 года ў вёсцы Восава Рагачоўскага раёна. Да прапанаванага твора зрабіў такую прыпіску: «Мінецца час. Нейкія ўчынкі твае забудуцца, недзе ты прабачыш сябе, нешта табе даруюць людзі, нечаму знойдзецца апраўданне. Але ніколі ты не забудзеш тое, што мог бы, ды не зрабіў. Не даруеш сабе той маладушнасці, калі ты спыніўся. Табе не прабачаць тых слоў, якія ты мог і павінен быў сказаць, але не сказаў. І праз дзесяцігоддзі не здолееш адшукаць апраўданняў свайму маўчанню, свайму бяздзеянню, сваёй баязлівасці і нерашучасці. Памыліцца — не страшна. Страшна — не зрабіць, не сказаць, не дайсці…»**

# Мая мілая ведзьма

*Школьны раман*

## 1

Незвычайны — цёмна-ружовы — матылёк трапечацца між шурпатых рудых ствалоў хвой. Крадуся да яго, ён усё бліжэй і бліжэй, уецца лёгка, але не вельмі зграбна, бачком, быццам у яго адно крылца меншае ці кволейшае за другое. Яшчэ крок, яшчэ паўкроку па мяккай посцілцы з сухіх хваёвых іголак — і матылёк заўважае мяне, імкліва спырхвае ўдалячынь. І тады я бягу адкрыта.

Бягу і разумею: мне нельга лавіць яго, бо хапну рукой — і зломяцца тонкія ружовыя крылцы. І нават калі атрымаецца асцярожна ўзяцца за іх, дык на пальцах застанецца ружовы аксаміт, а крылцы незваротна згубяць сваё хараство. Але я бягу, мне трэба злавіць яго, патрымаць у руках, каб давесці самому сабе, што я — спрытны і хуткі!

Матылёк бліжэй і бліжэй, я бачу, што адна пара крылцаў у яго насамрэч круглявай формы, а другая — завостраная на канцы, таму палёт ягоны няроўны, і ён стаміўся, ён адчайна трапеча, я наганяю яго, ужо ўзняў руку, каб у наступнае імгненне схапіць, сціснуць. Мне ўжо няважна, што зломяцца, ператворацца ў шматкі дзівосныя крылцы, што далонь і пальцы прыцярушацца бліскучым ружовым пылам, а сам матылёк, відавочна ж, загіне.

Раптоўна перада мной рассцілаецца вялізная прагаліна, б'е ў вочы зыркае святло, хвоі раздаюцца, а я не магу спыніцца перад жудаснай кручай. Неспадзявана адчуваю дзіўны водар, матылёк — перад самым маім тварам. Ён з апошніх сіл успырхвае вышэй за маю галаву. А я — падаю. З вялізнай вышыні на дно кручы, дзе струменіцца ледзь бачны раўчук, на жоўты іскрысты пясок…

І ніколі яшчэ не ўпаў.

Я прачынаюся ў той момант, калі, няўмольна набліжаючыся, невялікія мокрыя камяні на дне раўчука затуляюць сабой увесь свет. Страх раптоўна пакідае мяне, я думаю адно пра тое, што мне вельмі доўга прыйдзецца хадзіць з пабітым тварам і распухлым носам.

Сон сніцца і сніцца. З года ў год, у нейкія месяцы я пачынаю сніць яго колькі начэй запар. Прачынаюся з заўсёднай прыкрай пустэчай унутры. Тады я нечакана востра адчуваю, што ўсё вакол — няправільна, што павінна быць усё інакш, і тое, што я раблю — раблю крыва і коса… Чаму няправільна, як рабіць інакш, — я не ведаю. Каб прагнаць назойлівыя думкі і гэта пачуццё няправільнасці самога сябе, іду на кухню, адкручваю кран і чакаю, пакуль вада сцячэ да вельмі халоднай. Але п'ю толькі хіба глыток.

Маці раней прачыналася, першыя разы заклапочана пыталася, ці ўсё добра, а цяпер, калі прачнецца, дык адно буркне нешта незадаволена. Пра сон я ёй не расказваў.

Баба Марыля на мае начныя жахі знаходзіць простае тлумачэнне:

— То ты расцеш, унучак.

Добра бабе — яна што заўгодна патлумачыць самымі простымі словамі. Сярод гэтых простых ёсць універсальныя: «Усё наладзіцца, усё будзе добра», «Надта не задумляйся, жыві ды і ўсё», «Значыць, лёс такі».

Расту, значыць… Ведала б баба, той матылёк — існуе, і я гнаўся за ім, ды не я, а ён падаў з кручы…

Неяк я спытаўся ў Юрася:

— Слухай… адзін і той самы сон сніцца мне цягам колькіх гадоў. Штомесяц, часцей... Сон страхотны. Там я… падаю з вышыні. Але прачынаюся за імгненне да таго, як прыпячатаю сваім тварам камяні.

Мы вярталіся са школы, была вясна, ужо добра прыпякала.

— А памятаеш дакладна, у якія дні сніцца? Даты ці дні тыдня? — зацікавіўся Юрась.

— Ідзі ты са сваёй матэматыкай сам ведаеш куды, — уздыхаю я і паварочваюся да Уладзі: — Уладзь, ну? Ці можа сніцца адно і тое запар, а калі можа, то што гэта за навала?

Юрась усяго хмыкнуў убок — ведае, што са сваёй матэматыкай уеўся ўсім у пячонкі, але ўпэўнены: то мы не цямім нічога ў вытанчанай сістэме мностваў і формул. Без жартаў кажу — Юрась чыкануўся на лічбах, гэта кожны з класа пацвердзіць. Пакуль ідзём у школу, ён запамінае ўсе нумары на пабачаных аўто, лічыць колькасць сустрэтых жанчын, мужчын, дзяцей… А потым складае прагноз на дзень для сябе, мяне і Уладзі. Кшталту, будзе дзень удалым ці не, каму пашанцуе, каго не міне навальніца. «У лічбах сэнс, будучыня і мінулае!» — так кажа, бы дэпутат з трыбуны. Але смяяцца з Юрася не будзеш, бо наша матэматычка Ганна Тодараўна сцвярджае, што за гісторыю яе настаўніцтва Юрась мае найлепшыя здольнасці да матэматыкі. Хоць на выгляд ён ніяк не геній: даўгалыгі, худы, светлавалосы і гарбаносы, ходзіць, нібыта ў нагах нейкія шарніры. І рукі гэтаксама рухаюцца — як у сталоўцы бярэ шклянку гарбаты, здаецца, тое робіць механічная рука робата. Юрась не зануда, да сваіх поспехаў у матэматыцы ставіцца, як да надвор'я, — ёсць і ёсць. Яму не пофіг, праўда, ён гэта скарыстоўвае: цішотку з «Анархіяй» носіць заўсёды непрыхавана, і наша дырэктарка, цётка прыдзірлівая і злапамятная, да яго не чапляецца. Бо Юрася абавязкова запрагаюць ва ўсе магчымыя алімпіяды па матэматыцы і фізіцы яшчэ пачынаючы з шостага класа, ён у нас — гонар школы, мае безліч розных дыпломаў. Неяк на яго наехала дырэктарка на пачатку мінулага навучальнага года, дык ён адкрытым тэкстам сказаў, што альбо яго і яго сяброў — мяне і Уладзю — не чапляюць за адзенне, альбо ён пасылае школу з яе алімпіядамі ў прастору Лабачэўскага. То і мне, і Уладзю побач з Юрасём выгода ёсць.

…Уладзя губляецца ад майго пытання. Ён ад любога пытання губляецца. Вось хто ніяк з дзяцінства не вырасце. Тыповы батан: у акулярах, лапавухі, недалужны, невысокі, задуменна-засяроджаны. І летуценнік. Як вольная хвіліна — ён нырцуе ў тэлефон, праз слабы зрок амаль носам кранаецца экрана. Усё чытае: даведнікі, энцыклапедыі… Больш нічога ў яго тэлефоне няма — ні здымкаў, ні музона.

— Уладзя, табе гэта трэба? — колькі разоў пыталіся мы з Юрасём, калі ён з захапленнем апавядаў нам іншы раз, што, да прыкладу, «пакутаваць хернёй» насамрэч — дыягназ, яго выстаўлялі сынкам заможных людзей у царскай Расіі, каб вызваліць іх ад службы ў войску. Звычайная пахавая грыжа так і звалася па-лацінску — херня. — Ну, трэба табе ведаць гэта?

Уладзя вінавата ўсміхаецца. Дзівак ён. Мы ведаем: кумір Уладзі — эрудыт Васерман. Уладзя добра вучыцца, роўны па ўсіх прадметах. А яшчэ ён умее неверагодна падробліваць почырк першага-лепшага чалавека і, канечне, подпісы. Некалі мы адпомсцілі нашаму фізіку Антосю Сямёнавічу (маладны, кавалер яшчэ, можа, таму і нервовы). Ён увесь клас прымусіў перапісваць кантрольную пасля заняткаў — перахапіў у няўклюды Юзіка тэлефон, а там мы праз Вайбер скідвалі варыянты, бо пісалі кантрольную пасля «А» класа, ведалі рашэнні. Юрасю тады ніяк нельга было доўга заставацца ў школе, яму тэрмінова трэба было дамоў, ён і прасіўся ў яго. Хто ж падумае, што Юрась фізіку спісвае? Ён тыя задачкі рашае, як чыпсы есць. Юрась зазлаваў, за хвілін пятнаццаць рашыў усё, кінуў сшытак фізіку на стол. Але на фізіка нешта нашло, маўляў, сядзі, як усе, тады Юрась спакойна ўзяў заплечнік і рушыў да дзвярэй. Моўчкі, але з такім тварам, што настаўнік і рота не раскрыў. Нам з Уладзем ён нічога не растлумачыў, потым адно сказаў праз зубы: «Зноў нажраўся ў бары, маці патэліла: не забяром зараз, дык выклічуць нарад міліцыі». Юрась саромеецца свайго бацькі, ягонага п'янства. Цвярозы дзядзька Ігнат — нармалёвы мужык, не будзе прынюхвацца да цябе, нават калі ты толькі што затаптаў недакурак цыгарэты. Дык вось, я надыктаваў Уладзю тэкст пісулькі, нібы ад нашай бібліятэкаркі. Яна спагадлівая і не даставучая, затрымаеш кніжку, але не бегае за табой па школе — эсэмэскі кідае. Але ж страшненькая: твар шырокі, круглы, нос маленькі, рос ды не дарос. А зубы занадта вялікія, шырокія: як усміхнецца — здрыганешся. Казалі, нашага фізіка пару разоў бачылі ў бібліятэцы. А што яму там рабіць? Зразумела ж… У пісульцы Вольга Арцёмаўна, бібліятэкарка, запрашала фізіка на спатканне ў кавярню. Падкінулі ў яго штотыднёвік. І ён прыйшоў! Тады восень была позняя, холадна, макрэдзь у паветры. Фізік прытопваў пад парасонам, нервова паглядваў на аўтобусны прыпынак. А мы ржалі, назіраючы за ім, зрабілі пару здымкаў — каб пазней ў свой «Кантакцік» класны закінуць… І тут пабачылі бібліятэкарку! Яна ішла паўз кавярню. Фізік так кінуўся ёй насустрач, мы думалі — біць пачне. Вольга Арцёмаўна разгублена лыпала вачыма на яго, той амаль спалохана мямліў… А далей было нешта: фізік прытрымаў бібліятэкарку за локаць, і яны зайшлі ўнутр!

— Падзея называецца фактам супадзення магчымых верагоднасцей, — выдаў са скрухай Юрась, калі мы вярталіся назад.

Праз сваё ўменне падробліваць почыркі Уладзя і пакутуе. Ну, дакладней, не праз гэта, а праз сваю закаханасць у прыгажуню нашага класа (ды і школы, пэўна ж) Віялету. Закахаўся Уладзя яшчэ ў садку. То і не дзіва — Віялету апраналі заўсёды як ляльку, не адзін ён зачараваны быў. Толькі вось у каго мінула тая дзіцячая закаханасць, а Уладзя не змог яе пазбавіцца. Колькі яму ні кажы, што гэта Віялета наколькі вонкава да лялькі Барбі падобная, нагэтулькі ж і ўнутры пустая, Уладзя не слухае. Раней, гады тры таму, крыўдаваў да слёз (насамрэч плакаў), тыднямі з намі не размаўляў, а цяпер адно ўсміхаецца і кажа пераканаўча і пераможна:

— Вы проста не ведаеце. Яна — не такая, як усе. Яна асаблівая!

Чым яму запярэчыш? І вось ужо каторы год ён выконвае за прадмет сваёй закаханасці хатнія пісьмовыя работы. На кантрольных паспявае спачатку рашыць варыянт Віялеты, потым свой. І нават дыктант піша адразу за дваіх, на двух аркушах адразу. За гэта Віялета дазваляе яму сядзець з ёй за адным сталом. А можа, і яшчэ што: за руку патрымаць… Дурань Уладзя. Мы трохі апякуемся ім: глядзім, каб не надта сцяліўся перад гэтай лялькай. Бо Уладзя ж — шчыры хлопец, у яго грошы заўжды водзяцца, ён з намі дзеліцца, яму іх даюць з разліку на траіх, мабыць. Неяк яго маці, цётка Жэня, маленькага росту жанчына, такая ўся кругленькая і лагодная, выйшла з пад'езда і папрасіла, пакуль я чакаў Уладзю:

— Кірыльчык, вы, калі ласка, не кідайце Уладзечку, сябруйце з ім. Ён нейкі такі… няздатны да гэтага жыцця, жыве бы ў мроях. Я за яго так баюся, усё кніжкі і камп'ютар…

Мне ажно няёмка зрабілася, быццам мяне абвінавацілі ў здрадзе.

— Ды чаго мы будзем кідаць яго, цёць Жэнь? Мы ж ад садка разам, нармальны хлопец ваш сын… Вырасце!

Уладзя цяпер маўчыць на маё пытанне пра сон, моршчыць лоб, раздумвае: казаць ці не, бо мы з Юрасём часта кпім з яго жадання на кожную драбязу знайсці нармальны такі адказ, і пытаемся пра ўсялякія глупствы, кшталту: навошта павуку столькі вачэй і чаму ў некаторых іх восем штук, а ў іншых — шэсць (гэта таксама ад Уладзі ведаем), чаму мух аднолькава вабіць пах мёду і дзярма, а пасля гыгычам з Уладзевай патугі ў пошуках адказу. Але цяпер на маім твары ні ўсмешкі, а ў вачах — ні іскрынкі хітрасці. Цікава: што выдасць Уладзя?

— Ну, калі меркаваць з тэорыі Фрэйда…

— Карацей, не будзь занудай.

— Хутчэй, гэта нейкая нявырашаная праблема.

— Ты даў! Мне сон сніцца з маленства, разумееш? І якую там праблему я вырашаю?

— Неабходна разабрацца… Вось Фрэйд казаў, усе праблемы чалавека звязаны з яго сексуальнасцю.

— Уладзя, ты дурань? — я ажно прыпыніўся. — Я пра секс успомніў, як ты сказаў.

— А гэта наша падсвядомасць працуе, — заўпарціўся Уладзя. — У ёй усё схаванае.

— Ага, цяпер скажы, як пытацца ў падсвядомасці? Эсэсмэску адправіць, а ўначы сон дзівіцца?

— Ну, і так можна, — сур’ёзна адказаў Уладзя.

— Псіх ты закаханы, — я цыркнуў на зямлю слінай. — Табе Віялета голая сніцца?

— Не твая справа! — агрызнуўся нязлосна Уладзя. — Усё, я на трэніроўку! — крутнуўся і пайшоў.

Уладзя — у камандзе раёна «Што? Дзе? Калі?».

— Як яна аголеная яму прысніцца ці ў рэале яе так пабачыць, каханне скончыцца, — хмыкнуў Юрась.

— Ты чаму так думаеш? — здзівіўся я.

— Таму… Фігурка ў Віялеты далёкая ад ідэалу, бачыў некалі яе ў басейне: ногі хударлявыя, азадак пляскаты… Прапорцыі нявытрыманыя. Не мадэлька, хоць твар прыгожанькі.

— Усё табе прапорцыі…

— Не мне, а прыродзе, чукча, — паблажліва патлумачыў Юрась. — Прапорцыя — аснова прыгажосці і трываласці. У крылцах матылька — залатое сячэнне, адна з фундаментальных прапорцый, таму ён для нас і такі прыгожы!

— А бывае матылёк з рознымі крылцамі? Ну, левая пара — вострыя, правая — круглыя?

— Не бывае! Прырода ідэальна сіметрычная…

— Гэта ў цябе вушы сіметрычныя…

Бо я ведаю — бывае! Той матылёк меў менавіта рознавострыя крылы.

…Гэта здарылася 9 верасня.

Як заўсёды, я выйшаў раней за іх, чакаў, пакуль Юрась сваімі хадулямі адмерае ад свайго дома 97 крокаў (ён даўно іх палічыў!), потым мы разам чакалі ля пад’езда Уладзю (ці ён чакаў нас). Нам да школы — 17 хвілін. Пра колькасць крокаў казаць не буду — у Юрася спытайце, вядома, ён іх палічыў не адзін раз:

— Ад першага класа да сённяшняга дня колькасць крокаў скарацілася на дваццаць тры. Разумееце?

— Гоніш, — млява заўпарціўся я тады. — Сусвет пашыраецца, чуў? Не можа адлегласць стаць меншай…

У той ранак Юрась пабачыў першы сустрэчны аўтамабіль і загадаў нам:

— Нумар! Хуценька сказалі мне нумар, — ды так сур’ёзна, быццам ад тых лічбаў залежала жыццё Сусвету вось тут і цяпер.

— Сам зірні, — хацеў паспрачацца я, але падыграў: — 32-13, дзве тройкі на канцах, сярэдзіна дае тройку. Ну што?

— Што і патрабавалася давесці! — з важнасцю выдаў Юрась. — Разам — дзевяць!

— І што?

— Здарыцца. Сёння.

— Здарыцца, ага, — згадзіўся я і кіўнуў на маўклівага Уладзю: — Віялета дазволіць сёння закаханаму пакласці дрыжачую далонь на сваё калена!

— Пайшлі вы! — звыкла агрызнуўся Уладзя.

— Вер Юрасю! — загарэўся я. — Зараз яшчэ адну дзявятку сустрэнем — і твая рука можа патрапіць на яе цыцачку. Але рот не разявай на шчаслівы выпадак, — працягнуў я. — Цыцачка будзе пад станікам і кофтачкай. І адно пакласці дазволіць, а не памацаць!

— Ты — пашляк і не ведаеш нічога пра сапраўднае каханне, — уздыхнуў з жалем Уладзя.

— Я — і не ведаю? Дык ты ж — прыклад! — працягнуў я тэму і зазлаваў: што ён робіць з мяне ідыёта і пашляка? — Каханне — гэта рабіць за яе кантрольныя і пісьмовыя работы, сядзець за адным сталом, але на ўпісках (гэта такія тусоўкі на кватэрах без бацькоў, куды запрашаюць кожнага таемна, па спісу) яна матляе азадкам з іншымі і перад іншымі. Быць у яе хлопчыкам на пасылках, пісаць ёй паштоўкі. Ці ты і вершы пішаш? І ўзамен… Уладзя, прызнайся: ты нешта атрымліваеш узамен? Яе вось Віктар, сам бачыў, на перапынку дык за попу крадком лапае, а табе што дазволена? Цябе яна хоць раз запрашала на ўпіску? Ты ведаеш, што яна там таму ж Віктару дазваляе? Яны тусяць раз на месяц у каго на кватэры, а цябе бяруць?

— А я не хачу, — спыніўся Уладзя, зірнуў мне ў вочы, і я пабачыў там знаёмы з мінулага года ўстойлівы выраз бетоннай асабістай перавагі. — Каханне — калі ты адчуваеш: ты патрэбны і ты шчаслівы ад сваёй патрэбнасці. Ясна, Кір?

Кір — гэта я. Мне зразумела. Мне зразумела, што абодва мае сябры — чыканутыя. Адзін — на лічбах, другі — на закаханасці. Але ж не будзеш мяняць іх… Ды і як? Мы выраслі разам, у адным двары. У апошні год у садку — разам. І з таго часу — разам. Не тое што прызвычаіліся… Неяк я і не ўяўляю сябе без Уладзі і Юрася. Думаю, яны таксама. Мы былі, і вось цяпер ёсць разам. А як далей? Далей — гэта далей. Усё будзе добра, як кажа мая бабуля…

— Дурні вы! — перапыніў нас Юрась. — Дзявятка!

Але мы ўжо зайшлі ў школу, і ён сціх. Я думаў, Юрась ужо забыўся на свае лічбы, але на другім уроку (была, як на тое, матэматыка, а матэматычка, я ж вам казаў, ці не абагаўляе Юрася і на ягоныя выбрыкі глядзіць скрозь пальцы) ён выцягнуў мабільнік, зіркаў-зіркаў на яго, а потым кажа:

— Зараз здарыцца!

— Што?

— Юр! Вяшчуй канец сусвету і трындзец заняткам!

Юрась цярпліва пачакаў, пакуль пад строгім позіркам настаўніцы сціхнуць крыкі, пачаў гаварыць з месца, зірнуўшы на матэматычку і атрымаўшы ў яе лёгкай усмешцы маўклівы дазвол на сваё тлумачэнне:

— У нашым класе васямнаццаць вучняў — у суме — дзевяць. Калі скласці гады нараджэння кожнага з нас, затым скласці лічбы атрыманага ліку, атрымаем дзевяць. Дзевяць — лічба нашага мноства. Кожнае матэматычнае мноства мае свой індэкс, калі хочаце, множнік, ступень, паказчык. Мы маем дзявятку. Сёння раніцай першы сустрэчны аўтамабіль меў у суме нумар дзевяць. Сёння — дзявяты дзень дзявятага месяца. Больш за тое, сёння дзявяты месяцовы дзень, неверагоднае спалучэнне.

— Але ж гэта проста лічбы, — хоць і паважліва, але з лёгкай паблажлівасцю ўсміхнулася матэматычка. — Калі захацець, патрэбную лічбу можна адшукаць у любым месцы…

— Ды не шукаў я лічбы! — падхапіўся Юрась, я ажно пахіснуўся ўбок. — Зараз — дзявятая гадзіна і сёмая хвіліна. Праз дзве хвіліны… Калі максімальная колькасць дзявятак супадзе…

— Мноства нашага класа наляціць на нябесную вось!

Але на гэты рэмікс вядомай цытаты ніхто не адрэагаваў.

Стала ціха. Ці не на ўсіх сталах засвяціліся тэлефоны. Дзве лішнія хвіліны сачкаваць — каму не хочацца? Пагатоў, можна добра гігікаць а 9 гадзіне 10 хвіліне. Я таксама дастаў тэлефон. Мне было не тое каб трывожна, але няўтульна. Я не мог дарэшты паверыць у Юрасёвы лічбы, але ж... Той матылёк сёння зноў сніўся мне. І я вынырнуў са сну, гэтым разам ужо крануўшыся тварам, адчуўшы холад вады ручая. Раней такога не было. І не было, каб так доўга ніяк не адпускала ад сну.

А дзявятай нуль дзевяць нічога не здарылася. Яшчэ хвіліну стаяла цішыня, а потым пачуўся лёгкі ўздых — то Віялета звярнула ўвагу ўсіх на сябе і роблена шкадуючы праспявала-прамовіла:

— Ах, які жаль… Наш матэматычны геній чарговы раз лахануўся…

Юрась — асабісты вораг Віялеты. І не толькі таму, што яго ніколечкі не чапляе яе агульнапрызнаная прыгажосць. Ён — анархіст. І я — анархіст. Але калі для Віялеты я — нешта невыразна сярэдняе, дык Юрась жа — фігура, аўтарытэт.

Наш клас ці не ад самага пачатку падзяліўся на дзве часткі: эліта і плебс. Звычайная справа для школы. На ўроках мы, здаецца, і разам, але толькі на ўроках. Калі дыскач у школе (ну, туды мы валілі разам у 8—9 класах, цяпер дык і не асабліва) — плебс танчыць асобна ад эліты. Хлопец з эліты ніколі не запросіць на танец плебейку і наадварот. І тусавацца пасля ўрокаў можна адно з сябрамі сваёй групоўкі. Канечне, групы незаўсёдныя, некага з эліты выганяюць у плебс, нехта з плебса прабіваецца наверх. У эліты галоўная — Віялета, яе целаахоўнікі — Віктар і Алег. Калі ў Віктара бацькі — не абы-якія чыноўнікі, дык у Алега — кулакі і моц. Яго рэальна пабойваюцца ўсе ў класе, ды і настаўнікі асабліва не чапаюць. Бацька Алега, ведаем, год таму сеў у турму за разбой. І не першы раз. Сам Алег глядзіць на ўсіх нас, аднакласнікаў, згары: ён ведае шмат такога, што нам і не снілася. Як ён апынуўся ў эліце, і што яго самога трымае там?

— Яго трымаюць грошы, якіх хапае ў Віялеты, Віктара і яшчэ многіх. А ён патрэбен ім як ахоўнік… Моц заўжды трэба, — лёгка знаходзіць тлумачэнне Юрась, рыхтык счытвае аднекуль ці паўтарае завучанае.

У плебса цэнтра няма: кожная групка сама па сабе, свае міжсабойчыкі. Ну, а мы з Юрасём — нейтралы. Нам пофіг гэтыя падзелы, гульні ў іерархію нас не цікавяць. Мы папраўдзе трымаемся асобна ад усялякіх тусовак. У Юрася вось ёсць матэматыка, а ў мяне — мае серыялы і кнігі. Мне падабаюцца фільмы пра розныя крымінальныя расследаванні. Самы круты апошні — «Падмані мяне». Там галоўны герой умее так чытаць пачуцці чалавека паводле яго мімікі і рухаў рук, плячэй, што ажно дух займае. З кніг на першым месцы — Кінг. Набываю кнігі (так чытаць больш прыемна, чым з рыдара, які маці купіла). А нядаўна мне ў «УКантакце» падагналі «Дзікае паляванне караля Стаха». Во дзе ўражаны быў: наш беларускі пісьменнік Караткевіч такую рэч напісаў! Чытаў вечар і ноч — зацягнула.

Карацей, мы з Юрасём не ў тусоўках. І Уладзя з намі. Адно крыху цісне: Уладзю Віялета трымае ў школе пры сабе. Вядома, на розныя ўпіскі Уладзя не трапляе. А шкада, я ўжо казаў. Пабачыў бы там хоць раз Віялету… Неяк Віктар прагаварыўся, як Віялета напілася «Марціні» і ванітавала ў ванным пакоі, куды яны з Алегам ледзь паспелі яе завалачы…

Юрась зрабіў самае разумнае, што можна было прыдумаць у адказ на з'едлівасць Віялеты, — ён быццам не пачуў тых слоў. О, такое нашу лялечку злуе больш за ўсё! Глядзі ж — на яе не звярнулі ўвагу! А тут яшчэ Ганна Тодараўна не дала нават дагучаць апошнім словам і тым перапыніла магчымае далейшае пікіраванне:

— Калі б хоць трэць прадказанняў у гісторыі чалавецтва спраўджвалася, само чалавецтва мусіла б ужо загінуць як мінімум тройчы, — важка сказала матэматычка, абвяла позіркам клас, прымушаючы ўсіх слухаць. — А лічбы вярэдзілі чалавечы розум ва ўсе вякі…

— І калі першы? Ну, калі чалавецтва павінна было загінуць у першы раз? — прагучала пытанне ад некага з дзяўчат.

— Першы? Ды ў 666 годзе, — усміхнулася Ганна Тодараўна. — У Новым Запавеце агучваецца лік д'ябла — 666. Вось і чакалі канца свету ў тым годзе. Потым — у 999, бо палічылі, што прарок пабачыў лічбы дагары, яны ж былі на небе… Пазней у 1666, далей — у 1999, гэта ўжо так дакладна было нібыта…

Настаўніца казала, яе і сапраўды слухалі — цікава ж, ды нехта ўратуецца ад «двойкі», а я трымаў перад сабой тэлефон, дзе высвечвалася ўжо 9.15. Я раптам зразумеў: патрэбная камбінацыя дзявятак з'явіцца на гадзінніку яшчэ не раз: 9.18, 9.27, 9.36, 9.45, 9.54, пасля будзе 18.09, 18.18… Ніколі раней я не ўспрымаў Юрася і яго лічбы ўсур'ёз. Але сёння… ну, шмат, надта ж шмат дзявятак! Юрась не ўспомніў, а я не буду яму зараз нагадваць, што ў тое лета мы жылі ў летніку ў корпусе пад нумарам дзевяць! А яшчэ я бачыў, я запомніў тыя нумары на «хуткай», амаль нябачныя пад слоем пылу. Там таксама былі дзявяткі… І я не змог стрываць, павярнуўся да сябра, разявіў рот, каб сказаць, і спужаўся адчутага ў горле болю — яго раздражняла, пякло свежае паветра. Амаль фізічна я ўявіў, як будуць драпаць горла словы, але пачаў гаварыць, нечакана хрыпата і гучна для сябе і ўсіх:

— Юр… тады была «хуткая»… У яе былі нумары…

Боль раптоўна знік, голас стаў звычайны, хваляванне і страх згінулі.

Я паверыў. Я таксама паверыў: нешта павінна здарыцца.

— Якая «хуткая»? Ты пра што? — здзівіўся Юрась.

— Потым… Зараз 9.17. У той «хуткай», якая прыехала, нумар быў 09-18. Таксама дзве дзявяткі… Вось, зараз…

Гэтым разам, здаецца, ніхто не уключаў мабільнік. Але стала так ціха, так невыносна ціха, што крокі ў калідоры, якія мы пачулі, якія набліжаліся, падаліся д'ябальскім барабанным пошчакам. І ён гучнеў, ён плыў да нас, на нас, у сярэдзіну нас. Выразныя, цокаючыя, і побач з імі — глухое рэха іх — лёгкія, ледзь чутныя.

Крокі сціхлі насупраць нашых дзвярэй.

Усе глядзелі на іх, а я паспеў зірнуць на Ганну Тодараўну. Сталая жанчына стаяла, сціскаючы край стала збялелымі пальцамі. Яна таксама глядзела на дзверы.

Калі ў дзверы двойчы хутка, упэўнена і настойліва стукнулі, нехта з дзяўчат віскнуў пасапраўднаму, ад жаху.

Дзверы расчыніліся.

— Дзевятая васямнаццаць!

Увайшла завуч Наталля Іванаўна. Як заўсёды — з фрызурай, рыхтык толькі з цырульні, у адмысловым гарнітуры, бліскучых туфельках на бездакорнай формы нагах (канечне, Юрась матэматычна давёў — на прапорцыях). Прыгожая жанчына. Неяк мы заспрачаліся, ці бачыў яе хто ў штанах ці джынсах. Яна ў спадніцах і сукенках — ці ў школе, ці ў горадзе. Зразумела, навошта хаваць такія прыгожыя ногі?

Мы ўскочылі так, нібы рэпеталі гэта вітанне ўсе дзевяць дзён заняткаў. Наталля Іванаўна нават здзіўлена прыўзняла бровы.

— Дзень добры, сядайце! Гэткія вы сёння дружныя… Выбачайце, Ганна Тодараўна. Прадстаўляю вам новую вучаніцу вашага класа Ядвігу Лельку. Спадзяюся, вы пасябруеце, і два апошнія гады ў школе будуць узаемна прыемнымі для ўсіх.

У руках — чорны заплечнік. Чорныя штаны, шэры балахон. Цёмныя валасы ніжэй плячэй, густыя, крыху завіваюцца, ад скроняў прыхопленыя заколкамі. Сярэдняга росту. Звычайная, карацей. Драбнявы твар. Лелька — што за прозвішча?

На яе глядзелі ўсе, яе вывучалі, яе ацэньвалі, а яна… Яна без відавочнага страху, бы вітаючыся з кожным, аглядала па чарзе нашы твары. Зірнула на мяне. Цёплы? Ну так, цёплы позірк. Яна не надта баялася. Вочы вялікія, цёмныя, выразныя бровы. Вусны нефарбаваныя, але добра акрэсленыя. Нос… звычайны нос, акуратны такі, не бульбінай, не дзюбай. У позірку было… запрашэнне сябраваць, так! Ці адзін я пабачыў? Не, Юрась гэтаксама прачытаў.

За намі з Юрасём у гэтым класе заставаўся ўсяго адзін свабодны стол. Зразумела, туды мусіла сесці новенькая, гэта Ядвіга. Вось ужо і завуч прапанавала ёй:

— Сядай на вольнае месца, — і выйшла з класа, прычыніўшы за сабой дзверы.

Юрась схапіў свой заплечнік, падручнік і сшытак і пераскочыў за стол ззаду:

— Даму нельга пакідаць адну — даме неабходна даць магчымасць выбару!

Новенькая ў адказ крыху сарамліва ўсміхнулася, пайшла да нас, прыпынілася ля мяне.

Я сядзеў, сцяты незразумелым хваляваннем. Не, мне сапраўды неістотна было: за які стол зараз сядзе дзяўчына, бо я зразумеў: галоўнае ўжо адбылося — яна з'явілася ў класе. А 9.18 дзявятага чысла дзявятага месяца…

— Але ж варта не забываць, што дама амаль ніколі не спыняе свой выбар на тым, хто прапануе ёй выбіраць! — гарэзліва і адначасова з дарослай, сур'ёзнай ноткай у голасе і напускным жалем прамовіла новенькая і села за стол побач са мной. — Не прагоніш? — спытала паўшэптам.

— Не, — выціснуў я.

— Якая дарослая разумніца з'явілася сярод нас! — праспявала нейкая дзяўчына, безумоўна, з атачэння Віялеты.

Але новенькая ніяк не адрэагавала на гэту шпільку.

— Як звяртацца да дамы? — Юрась ззаду нахіліўся да нас.

— Па імені, — павярнулася яна да яго. — Лепей — Ядвіся. Для сяброў — Ядзя. Для блізкіх сяброў — Яся.

— А я — Юрась, для сяброў Юр, а мой сябра, якога ты выбрала, — Кірыла, для сяброў — Кір. Ён хоць крыху малахольны, затое надзейны і без выбрыкаў. А я — геній матэматыкі і прадказаў тваё з'яўленне ў класе!

Ядвіся прымружыла вочы (як выявілася, шэра-зялёныя, з густымі вейкамі) і загадкава сказала:

— То я абрала менавіта гэты дзень, магла б яшчэ колькі пралайдачыць. І час — 9.18 — таксама мой выбар!

Яна ўсміхнулася.

Юрась разгублена залыпаў вачыма, разявіў рот, каб нешта сказаць, але тут Ганна Тодараўна паляпала далонню па стале:

— Усё, досыць на сёння матэматычнай містыкі, знаёміцца будзеце на перапынку, Юрась, калі ласка, не перашкаджай весці ўрок. Працягнем…

Так мы пазнаёміліся.

**2**

Мы выйшлі са школы разам — я, Ядвіся, Юрась і Уладзя. Не тое, каб супала, — Юрась прапанаваў паказаць новенькай наш раён. Здаецца, ён запаў на гэту Ядвігу. Мяне казытнула трохі: Ядвіся ж села побач са мной, ці не занадта ён актыўнічае? Але, па шчырасці, я быў і ўдзячны Юрасю. Бо мне хацелася таксама яшчэ пабыць сёння з новенькай. На ўроках не паразмаўляеш, а на перапынках да яе падыходзілі дзяўчаты: адразу Віялета са сваімі «фрэйлінамі» прайшлася міма, яны зморшчылі насы, фыркнулі грэбліва: знешне Ядвіся ніяк да эліты не цягнула: апранутая ў таннае, красоўкі не фірмовыя, золата ў вушах няма, пальцы рук не ў пярсцёнках, пазногці нефарбаваныя, хоць і акуратныя, чыстыя.

— Эліце ты не падышла ніяк, — зрабіў свае першыя высновы Юрась, звяртаючыся да Ядвігі.

— Мне плакаць ад гэтага? — прымружылася яна запытальна.

— Ат, радавацца! — усміхнуўся ў адказ Юрась і стаў тлумачыць: — Эліта наша — сама пабачыла, якая. Астатнія — плебс. Гэта падмноства неарганізаванае, без выразнага цэнтра, разбітае на асобныя групкі, якія флуктуюць адна ў адну, разбіваюцца, знікаюць, варагуюць…

— А вы?

— А мы — нейтралы! Анархісты, — з гонарам паведаміў Юрась. — Мы — па-за ўсімі, мы самі па сабе! Хочаш, будзем разам?

— Вось як? — Ядвіся з цікавасцю зірнула на Юрася, спытала: — А хіба можна быць самім па сабе і адначасова — з некім?

— Можна, — адказаў за Юрася Уладзя. — Калі група падтрымлівае правы кожнага заставацца самім сабой і не навязвае яму свае правілы паводзін.

— Вой, якія ж вы разумныя! — новенькая з захапленнем глядзела на нас, і было незразумела: шчыра яна кажа тое ці не. — І як жа вы мяне возьмеце ў сваю кампанію?

— Калі ты зразумела, што Уладзя і Юрась — разумныя, дык сама, атрымліваецца, ужо не дурніца, — вырашыў і я ўставіць свае словы. Сказаў і спалохаўся: неяк занадта прасталінейна атрымалася, груба. Яшчэ пакрыўдзіцца…

— О, куды я патрапіла, — рассмяялася нечакана Ядвіся. — У кампаніі такіх разумнікаў дурніцай быць не выпадае.

— Выдатна, значыць, дамовіліся, — гукнуў Юрась. — Прапаную адзначыць нашу сустрэчу піцай! Спакойна, народ, — Юрась зірнуў на мяне і Уладзю, — я частую, учора матуля падагнала замоўцу — маладая завочніца. Я ёй кантрольныя парашаў, так што на піцу бабосы маем. Прымаецца?

Кавярня была амаль па дарозе, ніхто нікуды не спяшаўся, але Ядвіся нечакана паставіла сваю ўмову:

— Частуй, але пазней, калі мы ўжо ўсе незалежныя і самастойныя, разлічымся з табой…

— У нас іншыя правілы, — патлумачыў я. — У каго ёсць грошы і жаданне — той і частуе.

— А ў мяне не бывае такіх вольных грошай, каб я змагла вас усіх пасля пачаставаць, — заўпарцілася Ядвіся.

— Дык ты ж — паненка! — знайшоўся Юрась.

— Але я не люблю заставацца некаму вінаватай хоць у чым.

Ядвіся сказала гэтыя словы ціха, быццам і згадзілася прыняць нашы правілы, але яны, словы, нечакана драпанулі па маёй свядомасці. Было тут… Не ведаю, што было. З тае хвілі, як яна села за мой стол, пачуццё трывогі і адчуванне нечага значнага, што павінна яшчэ здарыцца, не пакідалі мяне. У галаве з'явіўся нейкі халодны металічны шарык, там усё сканцэнтравалася, шарык асабліва не муляў, не балеў, але ён быў, я адчуваў яго штохвіліны. І вось цяпер Ядвісіны словы прыляпіліся да таго шарыка, ён крышачку пабольшаў…

Тут Уладзя прыпыніўся, зняў акуляры. Мы з Юрасём ведалі: зараз выдасць нешта надта разумнае са сваёй скарбонкі гатовых цытат. Таксама прыпыніліся.

— Я вось думаю… — пачаў Уладзя, круцячы акуляры ў руках, — вось я думаю… Чалавек акурат таму і чалавек разумны, і застаецца такім, бо не заўсёды адказвае адпаведнай рэакцыяй на вонкавы раздражняльнік…

— Вой, ты загнуў, — жартаўліва пакрывілася Ядвіся. — Уладзік, перакладзі!

Уладзя ціскануў плячыма, вінавата ўзяўся тлумачыць:

— Ну… Вось камень стукнуўся аб камень — абодва нагрэліся. Пстрыкні кабылу па носе — яна махне хвастом. А чалавек… Калі яму баліць, ён жа неабавязкова крычыць? Калі радуецца — не шукае магчымасць адразу заплаціць некаму за гэту радасць…

— І калі кахае, зусім не чакае зваротнага пачуцця ад прадмета сваёй закаханасці… — дапоўніў Юрась, тролячы Уладзю.

— І не чакае! — насупіўся той.

— А чаго чакаць ад лялькі хоць нейкай рэакцыі? — уздыхнуў я скрушна. — У лялькі галава парожняя, сам бачыў…

— А пад сукеначкай ёсць трусікі, ды пад трусікамі няма піські, — працягнуў Юрась.

Уладзя адвярнуўся, мы крочылі далей у маўчанні, якое праз хвіліну парушыла Ядвіся:

— А вы злыя… Не, вы — бязлітасныя.

— А ты? — зазлаваў нечакана я. — Нам Уладзю шкада, але ж паспрабуй патлумач яму, што Віялета ніякая не самая асаблівая з усіх асаблівых.

— Вам гэтага не зразумець, — з заўсёдным пачуццём перавагі ганарліва заўважыў Уладзя. — Вось закахаецеся самі, дойдзе...

— О, якія ў вас дарослыя жарсці, — усміхнулася Ядвіся. — Кахай, Уладзіслаў, нікога не слухай… Сам некалі ўсё пабачыш, тады будзеш мець досвед.

— Што пабачу? — насцярожыўся Уладзя.

— Тое, што бачаць, калі расплюшчваюцца вочы, — адказала яна. — Гэта і ёсць тое месца, дзе мы будзем праядаць заробленыя матэматычным геніем грошы?

Мы падышлі да кавярні.

— Тое, — пацвердзіў Юрась.

— Блізка ад мяне.

— Выдатна, будзем прыходзіць вечарамі. Вось яшчэ пару кантрольных зраблю — будзе і на піва.

— Не п’ю піва, — паморшчылася Ядвіся. — І вам не раю. Рэдкая брыдота.

— А шампанскае?

— Хіба сёння Новы год? І яшчэ дзень, далёка да поўначы.

— Затое не будзе тлумна, хадзем…

У кавярні насамрэч амаль нікога не было. Мы селі за стол, Юрась пайшоў замаўляць піцу. Вярнуўся з бутэлькай колы і шклянкамі.

— Мабыць, тут па вечарах бывае ўтульна, — агледзелася вакол Ядвіся.

— Намёк зразумелі, кавалеры?

Юрась быў ва ўдары. Трымаўся нязмушана, жартаваў, расказваў пра настаўнікаў, школу… Я міжволі адчуў зайздрасць. Такога раней не было. Я ўспрымаў раней Юрася як свайго сябра, прымаў яго перавагу над сабой як дадзенасць, не бачыў у гэтым нічога зневажальнага і ганебнага для сябе, ды вось цяпер, пры Ядвісі, я ўпершыню паглядзеў на нас траіх бы збоку. І пабачыў, што я — ніхто і ніякі. Мае сябры… Пра Юрася казаць нявартa. Уладзя — вунь які разумнік, на кожнае пытанне ведае адказ. Няхай і зачараваны, як кажуць дзяўчаты. Яны — цікавыя. А я? Існую адно для таго, каб быць фонам, падкрэсліваць адметнасці Юрася і Уладзі?

— А дзе ты раней вучылася? Чаму перайшла да нас? — спытаў я Ядвісю пра самае банальнае, але каб хоць неяк нагадаць пра сябе.

— Ведаеш, Кір, — нечакана сур’ёзна задумалася яна і зірнула мне ў вочы. — Людзі так шмат задаюць пытанняў, адказы на якія нічога не значаць ні для іх, ні для таго, хто адказвае. Пустыя пытанні. Ты выбачай, але нешта можа змяніцца, калі я вам зараз скажу, што вучылася недзе там, а перайшла, бо мы… Бо мы купілі новую кватэру?

Ядвіся глядзела мне ў вочы, а я чытаў там зусім іншае. Яна нешта хавала, безумоўна. Чаму на донцы зрэнак — сумны водсвет?

— Ну, выбачай… Здаецца, так прынята пытацца, вось і я…

— Нічога страшнага, — яна ўсміхнулася.

— А ты хто ўвогуле? — вырвалася ў мяне раптам пытанне, і мне зрабілася лёгка — я, аказваецца, даўно хацеў спытаць вось так, у лоб, што называецца. Чаму? Таму што хацеў.

— Я? — Ядвіся задумалася на імгненне, паглядзела міма нас на вялікі экран, дзе мільгацела расійская папса. — А што ты хочаш пачуць у адказ?

— Ды не ведаю, — пацепнуў я плячыма. — Ну, мы пра сябе табе расказалі. Юрась — сама зразумела, хто. Уладзя — эрудыт найлепшы, праўда, безнадзейна закаханы…

— Што не перашкаджае мне жыць, — уставіў Уладзя, а я здзіўлена лыпнуў вачыма:

— Слухай, Ядвіся, ты нешта зрабіла з нашым Уладзем — ён жа зусім страх згубіў, так вольна размаўляе …

— Бо я — ведзьма, — проста адказала Ядвіся.

— Сапраўдная? — невядома чаму ўзрадаваўся Уладзя.

Яна не паспела адказаць — прынеслі піцу.

— Найсапраўднейшая, — пасля нядоўгага маўчання Ядвіся вырашыла працягнуць тэму.

— А што можаш? — заспяшаўся Уладзя.

— Падманваць, — безапеляцыйна абвясціў Юрась.

— Магу і падманваць, — усміхнулася Ядвіся.

— А яшчэ? — не адчапляўся Уладзя.

— А што ты хочаш? — як пра нешта самае звычайнае запыталася Ядвіся, і тут я ёй паверыў. Паверыў, што яна — нешта можа.

— Ну… паваражы! — нечакана замест Уладзі азваўся Юрась, схапіў сурвэтку, выцер рукі і працягнуў абедзве далоні Ядвісі.

— Усё ў цябе будзе добра, — амаль урачыста адказала яна на гэты жэст, нават не крануўшыся Юрасёвых рук.

— Так мая баба Марыля ўмее, — скрывіўся я. — Як што ні здарыцца, дык яна: усё будзе добра.

— Але ў Юрася так і будзе, — заўпарцілася Ядвіся. — І ў сям'і яго ўсё наладзіцца…

— Што — наладзіцца? — Юрась абмяк на табурэтцы, ажно падалося — зменшыўся ростам.

— Бацька кіне піць, — ледзь чутна, гледзячы Юрасю ў вочы, сказала Ядвіся. — Прабач, калі ласка…

— Ды не, нічога, — авалодаў сабой Юрась. — Вось ты нашаму Уладзю паваражы! Ці ажэніцца ён з Віялетай? Колькі ў іх будзе дзяцей, дзе яны будуць жыць, і кім Уладзя стане, і як Віялета будзе ім руліць?

— Гэтулькі пытанняў адразу…

— Ты яму скажы, калі ў яго секс з Віялетай будзе, — зменшыў я задачу.

— Не трэба мне варажыць, — заўпарціўся Уладзя і нават схаваў свае рукі пад стол. — У прадказаннях няма сэнсу…

— Чаму? — шчыра здзівілася Ядвіся.

— Таму, — уздыхнуў Уладзя, дастаў свае рукі і паклаў на стол. — Калі чалавека папярэдзіць пра бяду, ён яе абміне, але тады атрымліваецца, што прадказанне не спраўдзілася. А калі не…

— Ты што! — заспрачаўся я. — Як будзеш ведаць, калі секс з Віялетай, дык падрыхтуешся як след!

— Пайшоў ты са сваім сексам…

— Вой, ты скажы яшчэ, не марыш, як голую Віялету будзеш ціскаць?

Мяне панесла, я не разумеў, чаму мне так сёння карціць каго-небудзь прынізіць, так, прынізіць бяскрыўднага Уладзю — гэта было няправільна, несумленна, але спыніцца я не мог.

— І не мару! Не чалавек тады? Вам толькі да траху ўсё звесці — нечакана цвёрда, з крыўдай у голасе адказаў Уладзя.

— Платанічнае каханне! — гукнуў Юрась і разліў колу ў шклянкі. — Вып'ем за чыстыя пачуцці, вольныя ад бруду жывёльнага сексу!

Я заўважыў у гэты момант, як сур'ёзна, вывучаючы твар Уладзі, імкнучыся зазірнуць у ягоны розум, глядзела на яго Ядвіся.

— Ты перакананы, што прадказанні і прароцтвы не маюць сэнсу, так? — перапыняючы наш гвалт, ціха спытала яна Уладзю.

— Дзе сэнс? Ды і лухта ўсё… Ніхто нічога не ведае…

— Лухта? — засмяялася Ядвіся. — А ну, дай сюды руку! — загадала яна, і Уладзя нясмела працягнуў ёй правую, а потым і левую руку. Ядвіся ўзяла абедзве яго далоні ў свае, а мне раптам заманулася, каб яна і мае далоні вось так патрымала…

— Ты не адзіны сын у сям'і, — пачала ўпэўнена казаць Ядвіся, разглядаючы далоні Уладзі. — Але старэйшы. У цябе ёсць… сястра, якая цябе вельмі любіць. І тваe бацькі цябе вельмі любяць. Так?

— Так, — вырачыў вочы Уладзя, далоні яго заўважна задрыжалі.

— Даўно… ты зазнаў сур'ёзную траўму, доўга хварэў, — працягвала Ядвіся. — Было?

Мы ўсе ведалі, што было: Уладзя ўпаў з рыштаванняў, калі ягоны бацька будаваў дамок на лецішчы. І ён амаль страціў зрок, рабілі аперацыю. Таму цяпер і носіць акуляры. Дарэчы, калі ляжаў спачатку ў бальніцы, потым дома, падсеў на чытанне розных цікавостак.

— Уга! — выгукнуў Юрась. — А-а-а, Ядвіся, пра секс, пра секс з Віялетай яму скажы!

— Не! — Уладзя выхапіў свае рукі з Ядвісіных, зноў схаваў іх пад стол. — Не хачу ведаць, што будзе.

— А мне скажаш? — я працягнуў да Ядвісі свае рукі. — Мне можаш і пра будучыню казаць, я не баюся!

— А што ты чакаеш ад будучыні? Кім ты сябе бачыш? — Ядвіся ўзяла мае рукі ў свае далоні, і я ледзь не здрыгануўся — падалося, адчуў укол, бы электрычны разрад (мы дурэлі некалі ў летніку, калі даведаліся пра статычную электрычнасць, і церлі рукі аб ваўняныя коўдры, а пасля «віталіся» з тымі, хто заходзіў і не чакаў ніяк сапраўднай іскры пры дакрананні рук).

— Дык, канечне, касманаўтам! Каб помнік у горадзе паставілі! — рагатнуў я. — А куды спяшацца, яшчэ два гады амаль парыцца ў школе. А там — будзе, як ва ўсіх і як раней: паўпіхваемся ва ўніверы, як каму пашанцуе, — заспяшаўся я. — Нічога тут не мяняецца, няма чаго мазгі сушыць. — Я хваляваўся? Ну, так чаго хаваць ад сябе… — А ты хіба задумвалася, якой будзеш? Ці ты, Юрась? Ты, Уладзя?

— Я — не, — усміхнуўся Юрась. — У гэтым катле з дзярмом лепей трымацца бліжэй да сценкі…

— Ты пра які кацёл? — Ядвіся прыўзняла бровы, скрывілася.

— У якім мы ўсе, — трошкі напышліва адказаў Юрась. — Наша жыццё і ёсць такі кацёл.

— А ты, Уладзя? Таксама не думаў? — Ядвіся зірнула на сябра, і той апусціў вочы.

— А што тут думаць? Кір праўду кажа — яшчэ два гады ёсць… А ты хіба думала?

— Пра будучыню? Кім я буду, як жыццё складзецца?

— А навошта ёй думаць? — хмыкнуў я. — Праўда ж, Ядвіся? Ты ж усё ведаеш…

— Пра сябе я нічога ведаць не магу, — сур'ёзна ўздыхнула Ядвіся, але змаўчала далей, разгарнула мае далоні. — А ты адзіны ў сям'і. Вой, цябе так любіць твой бацька!

Я высмыкнуў рукі з яе далоняў — рэзка, нават груба. Яна са спалохам паглядзела на мяне.

— Выбачай, ведзьмы з цябе не атрымаецца, — насмешліва пачаў я. Мне было крыўдна. Так усё было… цікава, загадкава нават, і вось такая нікчэмная развязка. — Нешта ты магла даведацца пра кожнага з нас. Не праблема: аддзел кадраў, завуч, дый невядома, дзе працуюць твая маці ці бацька, можа, і настаўнікамі. Дый мы ў «Кантакціку» пра сябе нямала апавядаем, і Уладзя свае здымкі з малодшай сястрой выкладаў. Ён яе і сапраўды любіць…

— Я не падманваю вас, — апраўдальна загаварыла Ядвіся. — І не збіралася. Навошта мне?

— Ну, мо, каб уражанне выклікаць, — хмыкнуў я. — Усё, Юрась, дзякуй за піцу, мне час ісці, справы.

— Кір, што цябе ўкусіла? Супакойся, не псіхуй. Ну, памылілася дзяўчына…

— Я не памылілася! — нечакана ўпарта выгукнула Ядвіся. — І мне да лямпачкі нейкія ўражанні. Якая я ёсць — такая ёсць!

— Усім — пакуль, — я ўзняўся з-за стала.

— Чакай! Я пакрыўдзіла цябе? Выбачай, калі ласка, я не хацела. Я казала тое, што бачыла…

— Слухай… Я нават не помню твару свайго бацькі, — я глядзеў у Ядвісіны вочы і бачыў там сябе маленечкага, і мне было незвычайна і трошачкі журасна. — Ён аднойчы не вярнуўся з заробкаў у Расіі, калі я пешкі пад стол хадзіў. Такая вось любоў…

І я шпарка выйшаў з кавярні.

Праз сотню метраў я супакоіўся і паспрабаваў зразумець: чаго я насамрэч так запсіхаваў? Ядвіся ўспомніла майго бацьку? Ды не, даўно не пераймаюся праз гэта. А вось што яна сказала няпраўду, і што выкрылася яе бяскрыўдная хлусня, спроба ўдаць з сябе незвычайную дзяўчыну, — тое было крыўдным. А так яна нармальная, няблага ўсё было. Трэба ёй яшчэ гэта вядзьмарства. Хоць я сам урэшце і вінаваты — ніхто ж мяне за язык не цягнуў з гэтым пытаннем: «А ты хто такая?»…

Я не помню твару свайго бацькі. Постаць, яго вяртанні памятаю, больш — сярод ночы. Ён стаяў у вітальні, вялікі, ад яго тхнула непрыемнай сумессю пахаў: поту, цыгарэтнага дыму, гарэлкавага перагару. Ён абдымаўся з маці, а я лез у ягоную вялікую сумку, дзе сярод бруднай вопраткі заўсёды быў нейкі пакунак з падарункам і прысмакі.

Мы жылі тады не ў сваёй кватэры — яе яшчэ не пабудавалі, а ў бабулі. У яе ўсяго два пакоі, і калі прыязджаў бацька, я ішоў жыць у бабулін пакой. Праўда, так было нядоўга. Памятаю, як бацька спачатку адлежваўся, адпачываў на канапе дні запар, глядзеў тэлевізар, маці прыносіла яму піва, збірала парожнія бутэлькі з падлогі. Зазвычай тыдзень так і мінаў — у насцярожанай цішыні кватэры, у маўклівым жаданні ўсіх нас траіх — маці, мяне і бабулі — дагадзіць бацьку. Бо ён — здабытчык, ён зарабляе грошы, якія так неабходныя, каб дабудаваць сваё жытло. Мяне маці прасіла таксама надта не круціцца каля бацькі: толькі першы-другі дзень ён колькі часу бавіўся са мной, а потым казаў мне суняцца з пытаннямі і просьбамі — хацеў адпачыць.

Пазней маці нясмела пачынала пытацца ў бацькі пра нейкія свае справы, далей — больш настойліва, той пачынаў раздражняцца, а далей і наогул адказваў крыкам. Збіраўся з хаты і ішоў некуды, вяртаўся позна ўвечары, падпіты і нахабны, гучна патрабаваў есці, курыў на кухні, на поўную моц уключаў тэлевізар, рагатаў сам з сабой. Іншы раз знікаў на дні два-тры, маці казала — на рыбалку з сябрамі. Адзін раз ён і сапраўды прывёз многа рыбы — вялікіх карпаў, ад якіх непрыемна тхнула балотам. Маці з бабай увесь вечар скрэблі тую рыбу, смажылі, на кухні стаяў прэсны пах рыбных вантробаў. Бацька ляжаў задаволены ў пакоі на канапе, гэтаксама піў піва і глядзеў тэлевізар, казаў мне: наступным разам абавязкова возьме мяне на рыбалку. А я на падлозе складваў з вялізнага набору «Лега» робата-трансформера і нясмела запытаўся: наступным тыднем паедзем? Бацька амаль весела адказаў, што зараз ён зноў збіраецца ў дарогу, а вось як прыедзе праз два месяцы — абавязкова пойдзем.

Але праз два месяцы ўсё было гэтак жа: ягонае вяртанне сярод ночы, тыдзень на канапе з півам. І наступным тыднем ён пачаў зноў збірацца, хоць маці нясмела ўшчувала: гэтулькі розных спраў у кватэры, усё старое… Бацька тады злосна гыркнуў: я даю табе грошы, наймі людзей, хай паправяць спецыялісты…

Маці расказвала мне, што бацька пачаў ездзіць на заробкі яшчэ да таго, як яны ажаніліся. Было, з’язджаў на паўгода, але грошай вялікіх не прывозіў: заўсёды нешта не атрымлівалася.

Баба намаўляла маці (я чуў не аднойчы), каб яна забараніла бацьку ездзіць на заробкі:

— Дзіця без бацькі расце, лічы. Ездзіць-ездзіць, такія грошы і тут можна зарабіць, а то і больш. Вунь колькі людзей будуецца, паўсюль спецыялісты патрэбныя. Плітку ў ванным пакоі нам перaклалі — за тры дні колькі той спецыяліст зарабіў? Хіба толькі ў Расіі тынкоўшчыкам праца ёсць?..

Маці і згаджалася, у кожным разе я не чуў, каб яна спрачалася з бабай. Мне пасля казала, што не адзін раз упрошвала бацьку кінуць тыя паездкі. Асабліва апошні раз, як прадчувала…

Бацька не вярнуўся ні праз месяц, як абяцаў, ні праз тры. Маці кінулася да яго сяброў, тыя казалі: у бацькі быў «свой аб’ект», дзе ён працаваў — яны дакладна не ведаюць. Тое Падмаскоўе — вялізнае… Праз паўтара гады маці звярнулася ў суд, каб бацьку прызналі невядома адсутным, бо ўзніклі пытанні з кватэрай, якую будавалі: усе паперы былі афармлены на бацьку, а тут трэба нешта тэрмінова рабіць з дакументамі…

Так я афіцыйна застаўся без бацькі.

Дома захаваліся фотаздымкі. Раней я іх пераглядваў. У бацьку я нічога не бачу свайго, нічога ўва мне не ўздрыгвае. «Ты да маці падобны», — кажа мне баба, і гэта сапраўды так: у нас з маці скуластыя, выцягнутыя твары, выразныя бровы, тонкія вусны. Але маці прыгожая, а я…

Маці сапраўды дужа прыгожая. Тое я цяпер ацаніў. У яе зграбны, акуратны стан, яна не худая і не тоўстая, надзене джынсы, цішотку — бы студэнтка. Валасы злёгку завіваюцца, маці звычайна падстрыгае іх коратка, фарбуе ў прыемны цёмны колер. Вусны напамаджвае ледзь-ледзь, і памада няяркая, а яны ў яе ўсё адно выглядаюць свежымі, прывабнымі. Яна ўмее хутка сабрацца на працу ці на якое мерапрыемства: крышачку падвядзе вейкі і танюткія бровы, два разы махне пэндзлікам з пудраніцы — і вось, усё так выразна, так святочна. Хіба вось зморшчынак ля вачэй у маці шмат — яна мружыцца на зыркае святло, так гэта тлумачыць. Усё лета яна носіць цёмныя акуляры і выглядае ў іх загадкавай і трошкі чужой.

Каб я пайшоў у маці, дык быў хоць бы крышку прыгожы… А так? Недаўгалыгі, як Юрась, немаленькі, як Уладзя, сярэдні між імі. Спорт мяне ніколі не вабіў, то і выгляд такі — ніяк не Рэмба. Але што тыя плечы, калі на твары — новыя прышчыкі і сляды ад старых, увесь лоб імі пакрыты, таму і прычоска ў мяне такая, каб лоб затуляць цёмна-русым чубам. Вушы вытыркаюцца… Нос з невялікай гарбінкай — яе ў маленстве не было, пазней з'явілася. Скулы вострыя, ад носа складкі ідуць уніз да рота, а вусны тонкія, асабліва верхняя. Хоць бровы нармальныя — роўныя і густыя. Іншым вечарам я цісну і праціраю свае прышчыкі рознымі сродкамі, якія купляе маці, цісну з нянавісцю, твар палымнее, а іх не становіцца менш, яны ўкрываюць бараду, шчокі…Маці кажа — узроставае, гармоны. Ага, у іншых хлопцаў даўно прайшло, адно я ды Юзік ходзім прышчавыя…

Маці больш не выйшла замуж. І я ніколі не бачыў яе з іншым мужчынам. Толькі аднойчы, ужо калі мы жылі ў новай кватэры, мне было ніяк не заснуць. Мо праз гадзіну, як я лёг, пачуўся ціхенькі стук у дзверы, крокі маці ў вітальні, асцярожнае шчоўканне замка, шамаценне вопраткі… Гэтак неспадзявана моцна ёкнула ўнутры: «Бацька вярнуўся!», у першы момант я ледзь не падскочыў з ложка і не кінуўся туды, на гукі, але ж раптоўна зразумеў, што гэта не бацька: з вітальні пад дзверы ў мой пакой не прасочвалася паска святла, не было гучнага загаднага, які я памятаў, выгуку: «Ну, сустракайце!». Гэта нешта іншае, не бацькава вяртанне… Я сцяўся ў ложку, накрыўшыся з галавой, і пастараўся хутчэй заснуць, хоць было горача і душна.

Маці раніцай была занадта клапатлівая, ці мне ўсяго падалося, але што рэальна, дык нервавалася, вінавацілася перада мной. Мне было страшэнна няёмка… Але болей падобнага я не чуў ніколі. Калі ладзілі вечарынку разам з бацькамі па заканчэнні дзявятага класа, я запытаўся прамым тэкстам у маці: чаму не выходзіць замуж ці хоць не завядзе сабе мужчыну, яна ж маладая і прыгожая. Маці засмяялася, ускудлаціла мне валасы на галаве і адказала: «Я адналюбка»…

Я пацёгся ў бок чыгуначнага вакзала. Там ёсць месца… маё месца. Калі ад станцыі ўздоўж рэек прайсці сотні тры метраў вузкай сцяжынкай (мабыць, рабочыя пратапталі), дык узыдзеш на невялікую горку. На ёй расце некалькі бяроз. Можна тут сесці і глядзець долу — на цягнікі.

З малых гадоў, калі я бачыў цягнікі, як хадзіў да бабы (яна жыве ад нас па той бок чыгункі), унутры мяне нешта сціскалася. Падалося так захапляльна: ехаць у вялікім вагоне, сядзець ля акна, піць гарбату ці колу, есці… Я зайздросціў тым людзям, якія праносіліся міма ў цягніках. Іх чакае нешта новае. Вось зараз яны некуды прыедуць, будуць змены, ды яны, па сутнасці, жывуць у тых зменах. Мне гэтаксама карцела сесці аднойчы ў цягнік, ехаць далёка-далёка, туды, дзе будзе ўсё інакш. Ну, няхай будуць і тыя самыя дрэвы і дамы, і людзі, і крамы. Але там будзе ўсё напраўду. Недзе там, далёка, павінна быць усё напраўду. Па-даросламу. Без падману.

Чаго я прыпёрся сёння на гэты ўзгорак?

Праз напамін пра бацьку? З-за Ядвісі?

Надакучыла. Юрась кажа, мы жывём у катле з дзярмом. Ну так, з ім не паспрачаешся, ён разумны. Ды больш агідна тое, што кожны сваё дзярмо выдае за золата. І імкнецца цябе самога яшчэ

таўхануць туды, каб нырнуў з галавой. Ненавіджу школу, ненавіджу горад. Усё несапраўднае. Паказуха. Падробка. І Ядвіся вось… Чаму не быць простай і шчырай? Хоць бы адна дзяўчына была без гэтых прыдуркаватых найгрышаў, без жадання звіць вакол сябе таямніцу цікавасці…

З'ехаць бы хутчэй.

Маці дома не было — яна прыходзіць позна, бо падпрацоўвае. На адну зарплату нам цяжка пражыць. Добра, баба дапамагае — яшчэ працуе, хоць які там у яе заробак, у бібліятэцы? Але маці нягледзячы на гэта ніколі не шкадавала грошай на мае патрэбы. І новы комп ёсць, і на сеціва грошы дае, і на смартфон добры нядаўна вось перад тым, як у школу ісці, дала. Яна ніколі асабліва не жалілася, што грошай не стае, так, абмовіцца іншы раз, што з тым ці іншым пакуль пачакаем. Аднаго разу пайшлі з ёй на рынак, даўно ўжо, каб купіць мне джынсы. Маці ўздыхала, гледзячы на цэны. А я пабачыў шыльду сэканд-хэнда і пацягнуў маці туды. Там сабе выбраў джынсы, батнік, балахон… Маці не пярэчыла, толькі ніякаватая была, пыталася, ці добра мне ў такім. Вось жа: клёвыя рэчы, тое, што мне акурат і трэба! З таго часу я апранаюся сам: маці дае грошы, я іду і купляю, што мне даспадобы. Адно абутак — красоўкі — купляем добрыя, дарагія, бо танны адстой рвецца праз два месяцы, распаўзаецца, як блін.

Уключыў комп, каб зайсці ў сваю групу «УКантакце» — там мы абмяркоўваем, што ёсць цікавае паглядзець з новых серыялаў. «Гульня тронаў» мне не пайшла, паглядзеў колькі серый з аднаго сезона — не маё. Не люблю я бясконцы працяг. Мне каб адна серыя — адна завершаная гісторыя. Вось як той «Менталіст» ці «Х-файлы».

У групоўку нашага класа амаль ніколі не заходжу: лажаюць адзін аднаго бясконца. У школе дык мала хто з кім паразмаўляе, а тут як пачнуцца гамонкі — адкуль імпэт бярэцца. Вядома ж, пісаць лягчэй, чым казаць у вочы.

Мяне чакала запрашэнне да сяброўства. Ёкнула, калі пабачыў — ад Ядвісі Лелькі. Прыняў. Яна была анлайн, адразу напісала ў прыват: «Выбачай яшчэ раз. Я не хацела нічога дрэннага табе зрабіць». Адказаў: «Фігня, не перамайся. Усё норм». Яна адказала смайлікам, а пасля дадала: «Мне спадабалася ваша кампанія — ты, Юрась і Уладзя.»

Мне не хацелася працягваць размову, не люблю я такіх вось прызнанняў праз сеціва, але і карцела пабыць на нябачнай сувязі з Ядвісяй.

«Я не аматар балакаць па маніторы. Хочаш, сустрэнемся ў рэале, пабазарым».

Напісаў і замёр у чаканні, назіраў, як доўга піша Ядвіся радкі.

«Выбачай — іншым разам. Адно пераехалі, гармідар поўны, рэчы не разабраныя, мэбля не сабраная… Не ведаю, калі мы рады дамо з мамай. Дарэчы, каб ты ведаў: мы з мамай таксама адны». Апошні сказ быў падобны на яшчэ адно прабачэнне і пасвячэннем у асабістае, ад чаго я сапраўды прабачыў Ядвісю.

Сам не чакаў, што вырвецца гэта прапанова, напісаў хутчэй, чым падумаў:

«Дык, можа, дапамагчы? Ну, мэблю там расставіць, рэчы пацягаць? Давай, кажы — прыйдзем утрох))».

«Праўда? Зараз спытаю маму… Калі можаце — самае неабходнае хоць. Бо мама змагла дамовіцца са зборшчыкам мэблі не раней за паслязаўтра».

«О'кей, кажы адрас!»

«Юрась і Уладзя ведаюць, яны мяне праводзілі дадому».

Я выключыў на пліце боршч, які паспеў закіпець, патэлефанаваў Юрасю.

— Няма праблем! Патэль Уладзю!

Мне падалося, Юрась нават узрадаваўся. Не, дакладна, ён запаў на новенькую…

Яшчэ таму я адчуваю, што Уладзя і Юрась — сапраўдныя, бо не помню выпадку, каб нехта з нас каму адмовіў, калі патрэбна была дапамога.

Маці Ядвісі аказалася надзвычай прыгожай жанчынай. У яе такія вочы — цёмныя, глыбокія, позірк і цёплы, і добразычлівы. Усмешка прыязная, шчырая, кончыкі роўных зубоў вільготна

пабліскваюць. Вельмі яны з Ядвісяй падобныя: і ростам не дужа розняцца, і паставай, і нават валасы амаль аднолькава заколваюць ля скроняў. Адно што ў цёткі Ірыны няўлоўная плаўнасць у рухах, яна крочыць — а плечы не варухнуцца.

— Ну, спрабуйце, хлопчыкі, як атрымаецца — тое і добра. Нам бы найперш на кухні больш-менш прыбрацца…

Разабраная мэбля была паўсюль, грувасціліся скруткі, мяхі, кардонкі, шафкі… На кухні мыйка і газ былі падключаны, у сцяне засталіся крукі, каб навесіць шафкі — падышлі, у нас паўсюль стандарты.

На другі дзень мы накіраваліся да Ядвісі адразу са школы — і сабралі вялікую сценку, хоць Уладзя пры гэтым і прышчыкнуў сабе далонь — запяклася кроў пад скурай. Трэцім вечарам мы хутка (вопыт жа набылі!) сабралі другую шафу ў пакоі Ядвісі. Цётка Ірына запрасіла нас на кухню, дзе ўжо была згатавана вячэра.

А напрыканцы — пірог з малінавым сочывам толькі з духоўкі, такі смачны!

Гэта былі тры клёвыя, сапраўдныя дні. Тады мне ўспомніліся словы Уладзі пра тое, як файна адчуваць сябе некаму патрэбным.

**3**

Тыдзень мінуў — Ядвіся як быццам вучылася разам з намі колькі гадоў, у школе усталяваліся звычайныя сум і нуда. Мая незразумелая ўстрывожанасць пакрысе знікла, хоць раз-пораз, сустракаючы раніцай Ядвісін позірк, на нейкае імгненне мне рабілася вусцішна. На адно кароткае імгненне, а потым усё знікала. Неяк лёгка Ядвіся і мы трое сышліся, пачалі разумець адзін аднаго без ідыёцкіх тлумачэнняў, кшталту «прабач, я хацеў, а ты не зразумела…» ці наадварот. Уладзя рэальна ажывіўся, іншы раз выдаваў слоўцы да месца, не тужачыся, не жарты-самасмейкі, але, відаць, Віялета яго прыструніла — у апошнія дні на перапынках ён амаль не выходзіў з-за стала ці быў поруч са сваёй каралеўнай…

Дзясяты клас — самая вольніца. Ніхто над душой не стаіць, маўляў, апошні год, варта думаць пра атэстат, кантрольныя, тэставанні… Шэрая будзённасць. Адзіная прадуха для ўсіх — лёгкі тролінг аднакласнікаў у школе і наезды без тармазоў з прасаваннем у сеціве. Папраўдзе, абмяркоўваць не было чаго: настаўнікі засталіся тыя самыя, нейкія змены ў іх паводзінах, адзенні ды звычках абсмакталі ў групе яшчэ за першы тыдзень, новых фічаў заўважана не было. Уладзя аднойчы сказаў: запісы ў групе пра настаўнікаў можна скарыстоўваць для тых самых настаўнікаў як тэст на вынослівасць — там такі трэш сустракаецца, не кожны вытрымае пра сябе падобнае чытаць…

Пакуль яшчэ цёплымі вечарамі ці не ўсе былі на флэтах. На хатах пакуль не збіраліся, у кожнай тусы сваё месца ў горадзе, зазвычай не перакрыжоўваліся, каму патрэбныя лішнія цёркі? Пару разоў мы ўчатырох — Юрась, Ядвіся, Уладзя і я — хадзілі на маю горку. З грашыма пакуль ва ўсіх назіраліся траблы, таму міналі кавярню, не згадваючы пра абяцанае.

Была нядзеля, першая гадзіна дня. Я яшчэ валяўся ў ложку — завіс на новым серыяле да чатырох раніцы. І яшчэ б паваляўся, але папоўз па падлозе на вібрасігнале тэлефон. Здзівіўся, бо маці, Уладзя і Юрась ведаюць, што ў нядзелю мяне лепей не чапаць да гадзіны трэцяй дня. Але нумар быў незнаёмы, у сэнсе, у адраснай кнізе такога не было, і нібыта знаёмы. Я не адказаў, хацеў забіць, але выклік паўтарыўся.

— Вяргейчык, ты дзе?!

Тут я адразу згадаў нумар… Класуха верашчала. Яна пыталася так, быццам зараз я павінен прысутнічаць на нейкім дзяржаўным экзамене, дзе сядзіць камісія з самім міністрам і ўсе чакаюць мяне аднаго.

— Дзе-дзе? Дома! — амаль схаміў я і яшчэ павітаўся, каб падначыць: — Добры дзень, Зінаіда Мартынаўна!

Не люблю класуху. І такіх, як я — палова ці болей. Вісклівая іншым разам, знерваваная цётка трыццаці гадоў. Юрась, кпліва пасмейваючыся, казаў: у яе сіндром дзеўкі-векавухі. Замуж не выйшла, дзіцяці не нарадзіла, вось і прэ з яе раздражнёнасць на жыццё наўпроставым залпам на нас. Яе нервовасць і выгляд яе псуе, а то была б нічога сабе жанчына: сярэдняга росту, статная, апранаецца стыльна. А пабачыш твар з вечнай насцярогай у вачах, апушчанымі долу куточкамі вуснаў… Такі пакутніцкі выраз з відавочным дакорам — усё адно як ты толькі што зламаў яе жыццё і зруйнаваў яе будучыню. Яна ў нас другі год класным кіраўніком. Не шанцуе нам. Год пабудзе нехта — і знікае: то выйшла замуж і пераехала, то зацяжарыла-нарадзіла... Зіначка (так клічам мы класуху за спінай) выкладае біялогію, таму, дзякуй Богу, бачымся мы нячаста. Хоць, шчыра кажучы, настаўніца яна неблагая: на ўроках нясумна, наўмысна нікога не гнобіць адзнакамі, незлапамятлівая, ды і досыць паблажлівая — каму з нас праз два гады неабходна будзе нешта ведаць пра нейкія там гены? То і не пытае надта строга. А вось на класных гадзінах яна так можа мазгі вынесці сваімі пропаведзямі з заломваннем рук — хопіць разу на тыдзень.

— Вяргейчык, кажы: дзе вы ўчора былі?

Вяргейчык — маё прозвішча. Не самае прыгожае, згодзен. Вяргейчык — па маці. Яна, калі бацьку афіцыйна прызналі невядома дзе адсутным, вярнула сабе назад сваё прозвішча. А калі мне надышоў час атрымліваць пашпарт, сказала — выбірай. У сэнсе, ці заставайся на прозвішчы бацькі (якога няма), ці на маці. Было б з чаго выбіраць! Прозвішча ў бацькі — Калінка. Як для дзяўчыны дык самае тое, а хлопцу? Хоць бы Каліна…

Але крыху зацыкліўся. Ну, здаецца, пытанняў быць не павінна. Я ж — сын бацькі. А чаму маці вярнула сабе дзявочае? І я спытаў пра тое.

Маці прысела ля стала (на кухні былі), чамусьці пацерла рука аб руку і доўга маўчала, паглыбленая ў сябе, ці то ўспамінала, ці то думала: казаць не казаць. Зірнула ў вочы — у яе быў сумны, дужа сумны позірк, я такога і не бачыў раней. Пачала гаварыць…

— Не ведаю, мо і няправільна раблю… Але ж, сказаць мушу, калі пытаешся, а маніць табе ўжо нельга, ты не дзіцятка, не даруеш. Ды і ніколі я цябе не падманвала, хіба не дагаворвала…— маці ўздыхнула, прыгладзіла свае густыя, бліскучыя валасы. — Расія ў многіх жанчын мужыкоў адняла, не ў адной мяне. Так, нехта ад рук бандытаў загінуў, нехта перап'е ды куды ўлезе, з даху зваліцца, між сабой бойкі былі, забіваліся… Я, калі да следчых пайшла, гэтулькі розных гісторый пачула… Каб раней пра тое ведала, дык і не пусціла б больш яго на заробкі. Хіба пераступіў бы ды паехаў… Дык вось, адны гінуць, а іншыя проста не вяртаюцца. Жанчын жа і там стае. Ды яшчэ шмат такіх, хто кар'еру будаваў, пра сям'ю не думаў, а вось з узростам захацелася пазбыцца самоты. І з гэтай прычыны нашы мужчыны не вярталіся. Нехта і па дзве сям'і вось так заводзіў. Тут жонка і дзеці, і там жанчына і дзеці. Але ж колькі так ні катаешся між дзвюма, а выбіраць некалі мусіш… Калі я мужа свайго шукала, то мне следчыя і параілі распытаць мужчын, якія з ім былі, каб расказалі шчыра… Паўгода мінула, як Аляксей не вярнуўся, мне адзін мужчына і прызнаўся, што была ў яго там жанчына, апошнія гады ў яе ён і жыў увесь час… То я тады і супакоілася — значыць, жывы, не забілі, няма ні на мне, ні на табе ніякай віны. Хоць, я, канечне, вінаватая: не змагла ўтрымаць… Ды як ужо склалася. Хто ведае, можа, сустрэў ён там сваё сапраўднае каханне, там яго лёс. Хай будзе шчаслівы. Ты выбачай, сынок. Агулам цябе Аляксей як сына бачыў гады з два… такі вось бацька. Сам цяпер вырашай…

Вядома, тут не было чаго вырашаць. Значыць, я — Вяргейчык паводле пашпарта. У школе трохі насамі пакруцілі — маўляў, нешта ім там перапісваць прыйдзецца, а мне што? Ваша праца, дык рабіце.

Не люблю, калі на мяне крычаць. Маці ніколі голас не павысіць, з маленства памятаю дакладна. Уладзя вычытаў недзе, што мужчына не ўспрымае крык. Да прыкладу, калі яму сказаць роўным

галасам нейкую навіну і калі са злосцю гыркнуць яе ж, дык мужчына ўспрыме інфармацыю роўна процілегла. А ёсць тыя, хто чуе пры гэтым адно рык, а сэнс слоў не разумее. Мабыць, з мяне вырас менавіта такі. Таму я са злосцю агрызнуўся на пытанне класухі:

— А вы чаго крычыце? Я зараз у сваёй кватэры, на мяне тут маці не крычыць, я не ваш сын! Нарадзіце сабе, тады і размаўляйце з ім, як вам уздумаецца!

Класуха асеклася на паўслове. Я пачуў уздых, нейкі занадта хатні, так маці іншы раз уздыхае, калі на нешта неабходнае патрэбныя вялікія грошы. Потым Зіначка ціхім голасам прамовіла:

— Я выбачаюся за сваю нервовасць. Скажы, калі ласка, Вяргейчык: дзе ты быў учора?

Што-што, а выбачацца наша Зіначка ўмее. Тое праўда: калі зразумее, што сарвалася без дай прычыны, дык павініцца сама. Ну, і выбачаем, жывы ж чалавек.

— Дома я быў, Зінаіда Мартынаўна. Дакладна дома, можаце патэліць маці, ды яна недзе ў горадзе. Глядзеў фільмы да ранку. А што здарылася?

— Добра, веру, — уздыхнула яшчэ раз класуха, цяпер з палёгкай. — А Дубоўскі і Мітранка? Не ведаеш, дзе былі?

— Ды не збіраліся мы нікуды, не пастух я ім. Уладзя на лецішча з бацькамі меўся паехаць, у Юрася свае справы.

— Добра, дзякуй.

Нешта нарабілася ўчора. Мабыць, нехта з нашых ўляцеў. А куды і завошта? Бач, ні слова не сказала. Юрасю патэлефанаваць?

Не паспеў я падумаць, як тэлефон зноў завібрыраваў, — Юрась быццам пачуў маё жаданне.

— Пабудзіла класуха?

— Пабудзіла. Што за фігня, ведаеш?

— Давай да мяне зараз, я ўжо Уладзю выклікаў, — загадаў Юрась без тлумачэнняў. — Маці кліча.

Юрасёва маці — журналістка, фрылансер, піша для нейкага жаночага часопіса, а раней працавала ў недзяржаўнай газеце. Падстрыжаная пад хлопца, курыць проста ў пакоі за сваім ноўтам, хоць і пры адчыненым акне. Хоць там залева, хоць мароз ці снег — кубак кавы злева ад ноўта, папяльнічка — справа, акно насцеж. Разумная вельмі, спакойная такая, з намі размаўляе заўсёды, бы з роўнымі, ніякіх там «дзетачак» і «сыночкаў». Ніколечкі б не здзівіўся, калі б яна да нас па імені і імені па бацьку звяртацца пачала з выканнем. Пра бацьку Юрася я ўжо казаў трохі… Працуе ў прадпрымальніка, рамантуе камп'ютары. Гэтак разбіраецца ў іх — бы Юрась у матэматыцы. Бяда, меры не ведае, калі выпівае. Але тое не наша справа, разбяруцца. У астатнім нармалёвы мужык, хоць не такі кампанейскі, як ва Уладзі: мы на лецішчы з яго бацькам — лепшыя сябры, ён нам раней рабіў розныя драўляныя штукі: мячы, аўтаматы, рагаткі. Цяпер і мяса насмажыць, і з мячом з намі пабегае, распавядзе, як на спатканні да дзяўчат узімку на лыжах ганяў, як вушы адмарожваў і кухталёў ад мясцовых атрымліваў. Але ні піва, ні гарэлкі не п'е і нам настойліва раіць: «Ты — гэта ты, калі цвярозы. Адна кропля спіртнога робіць з цябе іншага». Шкада, што бацька Уладзі ў камандзіроўках па тыдні-два, па выхадных заняты — ён менеджар у прыватнай фірме, з ім цікава на лецішчы...

— Нашых антыфа ўчора затрымалі. Ноч у мянтоўцы былі! — сустрэў Юрась на парозе навіной. — Хадзем на кухню, я там буцеры раблю, будзеш?

Уладзя сядзеў у кутку на канапе, бы спайманы на гарачым злодзей.

— Ты чаго калоцішся? — пакпіў я з яго. — Хіба цябе таксама лавілі, а ты ўцёк?

— Непрыемна… Хлопцаў шкада… — апраўдваўся Уладзя.

Нашы антыфа — Кастусь і Ігнат. Яны таксама больш у баку ад усіх іншых тусовак, а таксама ад класных і школьных спраў. Калі дзявяты клас заканчвалі, яны апошні месяц цалкам забілі на ды-

рэктарку і яе загады адносна формы адзення — хадзілі на заняткі ў сваіх прыкідах. Хоць ведаем, што яны ў нашай школе такія смелыя, а ў іншы раён не сунуцца — перастрэнуць скінхеды, мала не здасца. У нашай школе скінаў няма, мо і ёсць якія, ды адкрыта не паказваюцца, бо антыфа ўсіх у школе чалавек дзесяць, хлопцы канкрэтныя, доўга не размаўляюць. Кастусь з Ігнатам уваходзяць і ў вялікую гарадскую групоўку, ездзяць на футбольныя матчы як балельшчыкі. Ну, а там іншы раз ці ля стадыёна, ці ў электрычках сутычкі здараюцца неслабыя. Нас у актавай зале збіраў неяк міліцэйскі маёр, пужаў адказнасцю ды іншым.

— А мы прычым? — па праўдзе кажучы, здзівіўся я. — Нам жа глыбока пофіг гэты футбол.

— Усе пры тым і ўсё пры справе, калі гаворка ідзе пра нефармальныя моладзевыя аб'яднанні, шаноўныя анархісты.

Гэта маці Юрася зайшла на кухню. У саколцы і шортах, худая, а ногі ў яе доўгія, рукі і шыя тонкія і гэтаксама доўгія. Такая вось… як высахлае дрэва. Відаць адразу, у каго Юрась удаўся. Павіталася, пачала запраўляць кававы аўтамат.

— Хто каву будзе? Ці ўсе гарбату?

— Я кавы хачу, — папрасіў я, хоць і не аматар гэтага напою. Мяне нешта адразу панесла наперарэз. Сабе і ўсяму.

Юрась тым часам нарабіў бутэрбродаў з сырам і каўбасой.

— Дык нашых выпусцілі? — парушыў я маўчанне.

— Выпусцілі пад раніцу. З вашай школы яшчэ траіх затрымалі, не ведаю, з якіх класаў. А з горада недзе пад паўсотню антыфа. Балельшчыкаў. Разборкі са скінамі ў электрычцы, потым выйшлі ўсе на прыпынку перад горадам, але там ужо чакала міліцыя. Здаецца, быў нават спецназ. Зараз усе класныя кіраўнікі старэйшых класаў пішуць справаздачы: дзе хто быў з іх вучняў апоўдні і да раніцы сённяшняга дня, — безэмацыйна расказвала Аліна Генадзьеўна.

— І што будзе? — не адставаў я.

— Тое і будзе… — маці Юрася зрабіла каву мне і сабе, спрактыкаваным вокам агледзела стол, палезла ў шафку і дастала вялікую плітку шакаладу, разгарнула яе і неахайна паламала на розныя кавалкі. — Частуйцеся…

Мы елі бутэрброды. Аліна Генадзьеўна па дробачцы адкусвала ад невялікага кавалка шакаладку.

— Так… Цяпер слухайце, — пачала яна. — З заўтрашняга дня ўсялякія вашы гульні ў анархію заканчваюцца. Ніякай атрыбутыкі звонку, ніякага выяўлення унутраных памкненняў. І тое, падкрэслю, тычыцца не толькі школы. Закідвайце падалей свае транты з анархіямі. Усё сур'ёзна і надоўга.

— Дык мы ж — анархісты, а не антыфа! — раззлаваўся я. Не, то не словы Юрасёвай маці так падзейнічалі. Сам Юрась! Ён ні кропелькі не здзівіўся словам маці, не абурыўся, ён заставаўся такім спакойным, нібыта гаворка ішла пра нейкую дробязь, насамрэч усяго пра нейкія малюнкі на саколках. Ведаю я, што маці для яго — найвышэйшы аўтарытэт, рыхтык — найвышэйшае бажаство. Вось Юрась казаў, пра будучыню сваю не думае. Сапраўды — у маці галава баліць. Яна неяк раней і раздумвала ўголас: куды сёння такую здольнасць да матэматыкі дзець, каб добрая аддача была? Ну, не ісці ж у інстытут, каб пасля навучання працаваць за капейкі! Сказала, найхутчэй Юрась пойдзе на праграміста ці яшчэ на каго, карацей, у IT-сферу. Дык Юрась нават і слова сваё не ўставіў, бы не яго тычылася. Ён не проста падпарадкоўваецца маці, ён слухае яе, як дзіця казку , — рот разявіўшы. Вось і цяпер — ён жа цалкам з усім згадзіўся! Што, яны ўжо ўсё абмеркавалі-перацерлі?

Я не ўмею ў вачах хаваць сваіх пачуццяў, ды і не вучыўся. І цяпер Юрась усё дакладна прачытаў.

— Ну, і чаго ты вылупіўся? — цыкнуў ён на мяне, потым перавёў позірк на Уладзю, а той нешта пільна выглядваў на дне свайго кубка, і Юрась загаварыў некуды ўбок: — Пазабаўляліся — досыць…

— Пазабаўляліся? — выгукнуў я і запытаў са злосцю: — Дык для цябе гульня ўсё была? Гульня? І князя Крапоткіна чыталі, і Прудона — тое гульня была: хто больш слоў запомніць?

— Я не пра тое, — паморшчыўся Юрась. — Ты зразумей…

— Што разумець? Уладзя, скажы ты: твае перакананні, што ніякі чалавек не мае права ўмешвацца ў тваё жыццё — такая дзіцячая гульня? Ну?

— Не чапай ты Уладзю! — пачаў крычаць і Юрась. — Нашы перакананні тады добрыя, калі яны для нас… калі яны нам патрэбныя! Дазваляюць неяк вылучыцца з натоўпу, быць у нечым іншымі. Калі нам зручна з імі, тады яны нечага вартыя. А калі вось так — цягаць пачнуць, яно табе трэба? Дзеля прынцыпу будзеш цішотку з анархіяй нацягваць?

— І буду!

Наступіла цішыня. Дзіўна, але Аліна Генадзьеўна за гэты час не прамовіла ні слова, яна нават не глядзела ні на каго з нас, піла сабе каву, як тут і не было ніякага крыку. І толькі цяпер адставіла кубачак і пачала:

— Гульня ці не гульня — гэта справа дзясятая. Каб вам больш не біцца ілбамі, скажу так: мы вырастаем такімі, у якія гульні гуляемся ў дзяцінстве, юнацтве… гульні — найважнейшая рэч у фарміраванні асобы. Вось што, сябры. Я вам не як маці, а як старэйшы таварыш кажу: далёка не ўчора былі складзены спісы ўсіх, хто ўваходзіць у нефармальныя групоўкі. Хай тое не будзе для вас сакрэтам і навіной. Актыўнасць балельшчыкаў і антыфа дасягнула крытычнага ўзроўню, значыць, будуць рэпрэсіі, каб утаймаваць энергію.

— А мы пры чым? — не мог астыць я.

— Кірыла, паўтаруся: любыя нефармальныя аб’яднанні на ўліку, — цярпліва супакойвала мяне Юрасёва маці. — Між анархістамі і антыфа, па сутнасці, ёсць вялікая ідэалагічная розніца? Ну, тэарэтыкі?

— Вялікай няма, — няўпэўнена падаў голас Уладзя, не ўздымаючы галавы. — Мы — супраць любога гвалту і ціску чалавека над чалавекам, антыфа — супраць гвалту і ціску дзяржавы ці чалавека над чалавекам з прычыны, якую ён атрымаў у спадчыну, ці з нараджэннем.

— Вось бачыце… Па вялікім рахунку, вы выступаеце супраць любой дзяржаўнай машыны, антыфа — супраць любой аўтарытарнай, бо ў аўтарытарызме ці, глядзім далей, у таталітарызме, абавязкова будуць ускосныя прыкметы таго, супраць чаго выступае антыфа, — Аліна Генадзьеўна зрабіла красамоўны жэст рукамі, маўляў, што і патрабавалася давесці.

— Але ж, Аліна Генадзьеўна, я вось гэтага не разумею, — ўрэшце адарваў свой позірк ад донца кубка Уладзя, выпрастаўся. — Там жа, на стадыёнах ці ў электронах, бойкі між антыфа і нацыкамі, ну, скінамі. Дык чаго душаць антыфа і анархістаў, а скінхедаў амаль не чапаюць? Як затрымаюць — дык антыфа…

— Во-во, і ў школе колькі пужалі гэтымі антыфа, а пра скінхедаў маўчаць… На сайты іх гляньце — там рэальна ўсё нацызмам тхне! Атрыбутыка, прыкіды, дый не хаваюць яны сваіх поглядаў… «Славяне — вышэй за ўсіх!» — гэта рэальны нацызм, хіба не? А кнігі вы бачылі? «Мы — арыі! Вытокі Русі. Першая энцыклапедыя вышэйшай расы» — не нацызм? — выбухнуў я, успомніўшы сваё балючае пытанне, якое, па шчырасці, ні перад кім і не агучваў.

— Добрае пытанне, — нечакана згадзілася маці Юрася. — Добрае… вы ж хлопцы разумныя, пашукайце самі адказ. У чым прынцыповая розніца між вамі і скінхедамі?

— Ну вы даяце, параўноўваеце нас… — загарачыўся я, усхваляваны яшчэ і тым, што маё пытанне апынулася раптам значным у вачах разумнай жанчыны.

— Не параўноўваю, а прапаную знайсці прынцыповую розніцу.

— Ідэя, канечне, — адказаў за мяне Уладзя, і я пабачыў, што і яго раней мучыла гэта пытанне: чаму да скінаў усе паблажлівыя? Не думаць жа пра тое, што ў нас шануюць нацысцкія ідэі і групоўкі!

— Ідэя — зразумела, —згодна кіўнула Аліна Генадзьеўна. — Яшчэ шукайце. Што характарызуе кожнае аб’яднанне? Што павінна быць ва ўсяго жывога для існавання?

— Ідэя і форма?

— Малайчына, Уладзя… Ідэя і форма. Дык вось, пра форму. Розніца між скінамі і антыфа ёсць? Карацей, каб не зацягваць час: анархісты, антыфа не маюць упарадкаванай структуры. Скіны — маюць. Жорсткая цэнтралізацыя, яўны лідар, падпарадкаванне ніжэйшых вышэйшым. Што гэта дае? Кіруемасць. Цяпер зразумела? Такая структура трымаецца ўжо не адно на ідэі, але на дысцыпліне, абавязках… І чым далей, тым больш ідэя як асноўны фактар аб’яднання адыходзіць на задні план. Ідэя можа цяпер эвалюцыяніраваць. І ў сваім развіцці стацца зусім іншай. Зразумела, куды я вяду?

— Хочаце сказаць, скінаў у нас асабліва не чапаюць, бо іх можна падпарадкаваць? — нясмела запытаўся Уладзя.

— Вядома ж, — запэўніла Аліна Генадзьеўна. — Яны найперш падпарадкоўваюцца не ідэі, а свайму кіраўніку. Ён — лідар, бог і герой. Сёння ён сказаў адно, заўтра праз пэўныя абставіны ён будзе казаць іншае, тое, што запатрабуецца… Таму і такое стаўленне… Хай гуляюцца дзецюкі і дзеткі, абы вялікай шкоды не рабілі… Такая структура, зразумела, не выхоўвае вальнадумцаў. Яна выхоўвае падпарадкаванне. А вось вашы — выхоўваюць. Вальнадумства і непадпарадкаванне. Таму… Таму, паважаныя, час ікс надышоў — унікніце непрыемнасцей. Прытрымайце пакуль у сябе свае погляды…

— Пакуль? Мне цікава — дакуль? Да заканчэння школы? Да атрымання дыплома? Вось дакуль? Дакуль я не магу жыць і паводзіць сябе так, як лічу патрэбным і магчымым? — зноў усхадзіўся я. Хоць, зрэшты, я разумеў, чаму псіхую. Было крыўдна… Проста агідна.

— Атрымліваецца… — ціха пачаў Уладзя, зноў утаропіўшы позірк на донца пустога кубка, — атрымліваецца, што мы, вось мы з ідэяй роўнасці усіх людзей, іх правам на свабоды больш чужыя для дзяржавы, чым скінхеды?

— Не чужыя, — уздыхнула жанчына. — Больш небяспечныя. Бо вамі нельга кіраваць. А дакуль? Я не ведаю… Даводзіцца жыць у той рэальнасці, якая дадзена.

— Прыстасоўвацца? — з’едліва спытаўся я.

— А што ты хацеў? — ўзвіўся Юрась, яму не спадабалася, як я спрачаўся з ягонай маці. — Пакуль мы дзеці, дык нам яшчэ сёе-тое дазволена. Захочаш нармалёва жыць — будзеш прыстасоўвацца!

— А калі я не хачу?

— Прымусяць!

— Не сварыцеся, хлопцы, — паспрабавала суцішыць нас Аліна Генадзьеўна. — Гэта насамрэч жыццё. Атрымайце першы ўрок… Дамовіліся: ніякіх выклікаў. Будзьце разумныя.

Я падзякаваў за каву і пачаў збірацца дадому. Уладзя таксама пайшоў са мною. Юрась праводзіў нас да дзвярэй з трошкі вінаватым, але адначасова нейкім пераможным выглядам твару: ён дэманстраваў нам, што разумее нешта больш за нас, і то не яго віна, а наша бяда, што мы такія ўпартыя.

Мы маўчалі, потым Уладзя стаў распавядаць, бы самому сабе:

— Учора на лецішчы былі… Корпаліся на агародзе, потым бацька мяса гатаваў на мангале. Хораша так, ціха… Я спытаўся: ці могуць мне ключы даць, ну… вось у нядзелю наступную паедзем: ты, Юрась, Ядвіся, я. Вогнішча раскладзём, мяса насмажым…

— А што за свята ў нядзелю?

— А што, каб нармалёва пасядзець, нейкую дату пільнаваць? — уздыхнуў Уладзя. — Я вось, ведаеш, пра што там падумаў… ну, калі мы нешта не зрабілі, — дык усё незваротна, разумееш? Канечне, ты скажаш: дык жа час яшчэ будзе! Будзе, але ж будзе ўсё іншае… Карацей, вось…

— Нармальны такі пераход… Ад разгону антыфа да шашлыкоў, —трохі збянтэжыўся я.

— Ведаеш, Кір… Я вось думаю, што ў такіх пасядзелках ля вогнішча больш сэнсу, чым у нашых саколках з анархіямі. Дык згода? Маці дазволіла, бацька нам цалкам давярае, ніякіх пытанняў не будзе, мне і грошай дадуць на мяса…

— Слухай… — я зірнуў пільна на Уладзю. Ён выглядаў не проста задуменным, а вартым жалю, як чалавек, які і насамрэч нешта такое страціў, пра што шкадуй не шкадуй — назад не вернеш. Таму я не стаў пацвельваць: — Уладзя, без крыўды, мне незразумела: чаму ты хочаш на лецішча запрасіць мяне з Юрасём і Ядвісю, а не Віялету?

Ён паціснуў плячыма, зірнуў з кволай усмешкай:

— Вы — сябры, а Віялета — каханая… Ёй не такое трэба.

— А што ёй трэба? — я шчыра вылупіў вочы. — Уладзя, яна ж — жывы чалавек!

— Ты не разумееш, — са шкадаваннем прамовіў ён. — Каханая — гэта каханая.

— Цьфу на цябе, летуценнік, — без злосці вылаяўся я, ляпнуў Уладзю па плячы. — Дурань ты. Яшчэ які яна чалавек…

— Не пачынай, — скрывіўся Уладзя, мабыць, думаючы, што я пачну зноў даказваць, што Віялета — фанабэрыстая і самазакаханая дурніца.

— Не буду, — усміхнуўся я.

Уздымаўся па лесвіцы ў кватэру і думаў, што вось зараз патэлефаную Ясі. Мне зусім не было страшна, хоць да сустрэчы ў кватэры Юрася я пра такое б і не падумаў. Нават не хваляваўся ніколькі, пачакаў, пакуль скончыцца першая серыя гудкоў (Ядвіся не брала тэлефон, я вырашыў — яна занятая, можа, у яе мокрыя рукі, мые-прыбірае), націснуў выклік яшчэ раз.

— Алё, слухаю!

У яе і сапраўды быў запыханы голас, значыць, не памыліўся.

— Яся, гэта Кір.

— А я пазнала. Нешта здарылася ці проста так?

Я не мог вызначыць па голасе: рада яна майму званку, дый тое не было цяпер важным.

— Яся, слухай… ты — нейкая іншая, я адчуваю…

— Ну, я ж сказала вам, што я — ведзьма.

— Няхай ведзьма, тым лепей. Слухай, ведзьма… Яся, калі пачнецца сапраўднае жыццё? Тое, калі можна будзе жыць, а не граць ролю — вучня, студэнта…

— А далей — ролю дысцыплінаванага работніка, закаханага, вернага мужа, адданага бацькі, — нечакана сур’ёзна, без аніякай падколкі працягнула Ядвіся, пачакала, паслухала маё маўчанне, уздыхнула і дадала: — Усё ўжо даўно пачалося, і ўсё даўно папраўдзе, Кір.

— Калі пачалося? — насамрэч здзівіўся я.

— Тады, калі ты першы раз адчуў сорам за нейкі свой учынак.

Я маўчаў, умомант адкінуты туды, у той дзень, калі дзіўны матылёк трапятаў крылцамі між рудых хвой. Ядвіся слухала маё маўчанне, чакала. Я ўздыхнуў, а больш — заглынуў паветра, якога пачало не ставаць.

— Зразумела… Уладзя кажа, што чалавек ад жывёліны адрозніваецца толькі адным: у чалавека ёсць сумленне.

— Я трошкі не пра тое, — ціха прамовіла Ядвіся.

— Ды я не тупы, — хмыкнуў я. — Зразумеў. А хочаш, праўду скажу?

— Якую?

Мне падалося, Ядвіся крышачку спалохалася. І я з палёгкай выдыхнуў, бо калі б яна сказала хоць з лёгкім ценем гуллівасці, далібог жа, ляпнуў бы ў адказ нешта пошлае. А так сказаў, пра што мроілася, пакуль клыпаў па лесвіцы:

— Вось ты сапраўдная… ну, такая, праўда. І калі б мне было зараз больш за васямнаццаць, каб многа гадоў было, і грошай шмат… я запрасіў бы цябе зараз у кавярню. Менавіта зараз. І пачаставаў шампанскім, ці што ты яшчэ любіш…

— Нармальная мара, Кір, — ціха і даверліва адказала Ядвіся. — Яна спраўдзіцца. Абяцаю.

— Тады пачакаем! — з незразумелым узрушэннем выгукнуў я і дадаў: — Дзякуй.

— За што?

— Што не пасмяялася.

— Табе дзякуй таксама.

— За што?

— Што даверыўся, дзівак.

— А-а-а… Бывай…

— Пакуль! Удачы!

Стала лёгка. Не, Ядвіся — сапраўдная. Хай яна і перакананая, што нейкая асаблівая, трошкі ў будучыню зазірнуць можа. Але ж шчыра думае, не прыкідваецца. Мне гэтага так не хапала цяпер. Я заўсёды быў упэўнены ў Юрасю. А сёння… Што ў ім сваё, а што — маці? А заўтра яго пераканаюць у нечым іншым… Крыўдна… Бач, як раптоўна стаў дарослым.

І яшчэ я думаў пра тое, што ў Юрася і Уладзі няма больш сяброў, хіба вось я. Ну, Уладзя яшчэ ля Віялеты трэцца, а вось Юрась жа нікога да сябе не падпускае. Ці ніхто не хоча падыходзіць? Калі падумаць, не сказаў бы, што Юрась некага яшчэ паважае, апрача мяне і Уладзі. Ну, і вось Ядвісі…

**4**

Не разумею, навошта ў школах трымаюць настаўнікаў-пенсіянераў? Наш гісторык — год як пенсіянер. Ведаем, што ён надта заслужаны, увесь такі ўзнагароджаны… Што праўда, ведаў у яго ага колькі, выкладае гісторыю цікава, запамінаюцца ў яго нават даты. Але ж ён, акрамя гісторыі, лічыць сваім святым абавязкам зрабіць з нас «грамадзян сваёй краіны». «Мой доўг перад сабой і дзяржавай — выхаваць з вас патрыётаў» — на поўным сур'ёзе кажа, кожнае слова падкрэсліць.

Свае рэдкія сівыя валасы ён зачэсвае назад, яны ў яго заўсёды з выгляду мокрыя, рэдкія пасмы зліпаюцца. Твар трохі пакамечаны, як і яго заўсёдны светла-шэры гарнітур. Хіба ён спіць не распранаючыся? Ды яшчэ пасля добрай папойкі — у яго чырвоная скура, на шырокім качыным носе намаляваныя тонкія ніткі ліловых капіляраў. І на запалых шчоках такія ж. Вочы сядзяць глыбока, як у свінні, і вачніцы маленькія, круглыя. Ці не на кожным уроку ўхітраецца крапнуць нам на мазгі: вось у яго маленстве галадалі, камп'ютараў не ведалі, напачатку быў адзін тэлевізар на пад'езд. А такую краіну збудавалі! Так і хочацца спытаць: ну, пакажы той дом, дзе ты цагліны клаў?

Але ніхто супраць не пікне. Іван Мікалаевіч Штонда, так завуць нашага гісторыка, даўным даўно атрымаў сваю мянушку, мы тады ці не ў садку былі. І як выйшаў фільм «Сабачае сэрца», так і стаў Штонда Швондзерам. І мянушка хвастом прырасла. Бо так і ёсць: ён з выгляду бяскрыўдны і ціхі, голас рэдка павышае. А злапамятны які! У восьмым класе, калі ён пачаў у нас выкладаць, Алесь Мазько (цяпер ён з намі не вучыцца, выперлі пасля дзевяці класаў) напісаў на сшытку па гісторыі імя настаўніка: «Іван Мікалаевіч Швондзер». Дык можна паспрачацца, нехта з вучняў так і меркаваў, што Швондзер не мянушка, а менавіта прозвішча! Тым больш Алесь быў хлопец тармазнуты. Ну, і пабачыў Швондзер… І так чырвоны твар літаральна крывёю набрыняў. Сшытак ірваў — рукі трэсліся, сліна на бараду цякла. І сіпеў нешта невыразнае. Мы тады рэальна перапалохаліся — Швондзера бы трасучка хапіла. З «двоек» Алесь не вылазіў увесь год, выклікаў цераз урок. Хлопец аднойчы не вытрымаў, пачаў правы качаць: што вы да мяне прычапіліся, як п'яны да плота? А Швондзер дакладную напісаў дырэктару: на ўроку вучань абазваў настаўніка п'яным.

Гісторыя ў панядзелак першым урокам. Нашы героі — антыфа Кастусь і Ігнат — стаялі ў куце класа і адшывалі позіркамі і кароткім цыканнем тых, хто намерваўся падысці. Дзіўна яны выглядалі без сваіх звычных балахонаў — у кашулях, швэдрах і штанах, а не джынсах.

Я не паслухаўся маці Юрася. І сваю таксама — ёй тэлефанавала класуха, яны размаўлялі мо з гадзіну, потым маці прыйшла і папрасіла адно:

— Сынок… будзь разумным.

— А я хачу быць чалавекам! — агрызнуўся я так, каб яна болей мяне не чапала.

І мама выйшла з пакоя. Таму сёння я, як заўсёды: саколка з анархіяй на мне. Мабыць, гэта дадало мне смеласці, і я пайшоў у кут да Ігната і Кастуся. Хлопцы зірнулі і працягнулі рукі. Мы стукнуліся кулакамі.

— Фігова? — спытаўся я.

— Вельмі, — шчыра прызнаўся Кастусь, цыганаваты на выгляд, у яго ўжо і вусы прабіваюцца.

— Лепш не трапляць, — крыва ўсміхнуўся і Ігнат. — Ад гумавай дубінкі боль адчуваецца па нарастальнай, праз гадзіну-дзве. Ты якой трасцы свецішся? Харэ геройстваваць, зараз у кабінеце дырэктарка распране. Як ты праскочыў?

— А яна там з дзяўчатамі разбіралася, — прызнаўся я, бо і насамрэч уваходзіў у школу пад «прыкрыццём» дзяўчынак у кароткіх спадніцах — пачакаў, пакуль некага з іх спыніць дырэктарка, якая пільнавала вучняў на ганку.

— Ага, здымі, — параіў і Кастусь. — Ці балахон зашпілі хоць.

— Замок зламаны…

— Я закалю шпількай, давай!

Ля нас стаяла Ядвіся.

— Прывітанне! — павіталася яна і дадала: — Не жартую, ідзі сядай, прыхаплю. Ты нейкі няўцямны, мабыць. Не разумееш, што не табе аднаму цяпер можа быць несалодка з-за тваёй упёртасці?

— Во, дай яму, Ядвіся, — усміхнуўся Кастусь.

Я падпарадкаваўся, пайшоў на сваё месца. Юрась сустрэў мяне позіркам, у якім адчувалася абвінавачванне:

— Чаго ты псіхуеш?

— Аб'еўся галубцамі, усю ноч панос ганяў, — абыякава кінуў я.

Я разумеў, што ранак пачаў не па правілах. Я не стаў чакаць Юрася, не зайшоў да Уладзі — ці не першы раз за гэтулькі гадоў. Я не ведаў, чаму так раблю, але рабіў, таму што хацеў зрабіць менавіта так. Сеў за стол, Ядвіся ў двух месцах прыхапіла крысы балахона шпількамі — вытрасла са свайго дзявочага рыдыкюльчыка. Якраз паспела да званка. І дзверы адразу ж расчыніліся — Швондзер ніколі не спазняўся на ўрок, ён загадзя выходзіў з настаўніцкай і зазвычай чакаў званок ля дзвярэй класа.

Можна было не сумнявацца, з чаго пачне Швондзер. Ён прывітаўся з намі кароткім «здрасце», паклаў на стол журнал і сваю нязменную за многія гады скураную папку. З хвіліну, у поўнай цішыні, хадзіў ад стала да акна, між радамі сталоў. Спыніўся за спінамі Ігната і Кастуся і свідраваў сваімі свінячымі вочкамі іх патыліцы.

Урэшце ён вярнуўся да свайго стала і сказаў:

— Сёння мы будзем размаўляць пра Радзіму. Бо, як паказалі апошнія падзеі, у вашых галовах праз гэты інтэрнэт назбіралася столькі варожай лухты, што іх тэрмінова, бы Гераклу канюшні, неабходна чысціць…

І ён пачаў. Як мы і чакалі — спачатку пра сваё галоднае дзяцінства, пра бацьку, які вярнуўся інвалідам з вайны, пра тое, як сам Швондзер паехаў паступаць вучыцца, маючы адны нагавіцы, дзве кашулі і пінжак, перашыты з бабулінай кацавейкі. І таму: «Вы павінныя… вам дадзена намі, старэйшым пакаленнем… мы ўсё зрабілі, каб вы жылі…» Ён, сёння незвычайна ўзбуджаны, як ніколі пафасны, нёс і нёс даўно чутае намі ад яго ж самога. Складвалася ўражанне, што ён і сам верыў у тое, пра што нам малоў: пра адважных да самазабыцця камсамольцаў на цаліне, якія хлеб

не елі, а Радзіме давалі, пра БАМ і тых самых камсамольцаў з камуністамі, якія на руках пераносілі цяжэнныя рэйкі і дзяўблі кіркамі вечнамёрзлы грунт (быццам трактароў не было і бульдозераў, дурні!), пра асушэнне балот зноў жа аднымі рыдлёўкамі... А экскаватары чаго не выкарыстоўвалі? Ага, бо танкі кляпалі, ведаем… Ён казаў, як чытаў з кніжкі, — роўна, размерана, чаканіў кожнае слова, гучна набіраючы паветра перад новай тырадай. І не спатыкнуўся ж нідзе…

Яго нельга было не слухаць. Мы ведалі, што калі хоць аднаму з нас толькі паспрабаваць апусціць вочы долу ці павесці позіркам за акно, Швондзер імгненна спыніцца, падыдзе да цябе, загадае ўстаць, і ты прастаіш так, пакуль ён не дазволіць сесці, а то і да канца ўрока. Паскардзішся? Табе ж даражэй — загнобіць адзнакамі.

— Патрыятызм — тое пачуццё, якое грамадзяне нашай краіны мусяць усмоктваць з малаком маці, узрошчваць у дзіцячых садках, цэментаваць у школе… — вывальваў на нас сваю тэорыю Швондзер, але раптам спыніўся, палец да ілба прыставіў. Ведалі наперад: ён зараз, як у яго называецца, імправізуе — рыхтуецца задаць некаму з нас нечаканае пытанне. Так мовіць, элемент ажыўлення лекцыі.

— А што мы разумеем пад патрыятызмам? Што ёсць патрыятызм? — Гучна сам у сябе запытаўся Швондзер, ссунуў акуляры на лоб і пайшоў між радоў — выбіраў сабе ахвяру.

Ён спыніўся ля нас.

— На гэта пытанне нам паспрабуе адказаць новая вучаніца вашага класа. Зараз мы і даведаемся, з якім багажом ведаў прыйшла да нас гэта дзяўчына. Калі ласка, адказвай! — і ён настойліва крануўся пляча Ядвісі.

Ядвіся ўставала надта павольна для такога настаўніка, як Швондзер, і яго твар пачаў крывіцца, як ад кіслага. Ён прывык, каб ускоквалі…

— Патрыятызм… Патрыятызм — гэта апошні прытулак для нягоднікаў.

Яся! Што ты ляпнула!

Але я не крыкнуў, у класе ніхто не войкнуў. І так было ціха, а цяпер зрабілася — бы мерцвяка вынеслі.

Швондзер стаяў, быццам раптоўна працяты з патыліцы наскрозь вялізным цвіком: галаву ўскінуў, спіна выпрастаная, ногі разам… Ён застыў. Чырвань сыходзіла з твару не адразу, а кавалкамі. Там пляма белая прабілася, там… Зліваліся, раслі.

Маўчанне было невыносным.

Швондзер, нарэшце, сарваўся са свайго цвіка, ціха пайшоў да стала.

— Так… Ты — Ядвіга ЛялькО? — строга запытаўся ён, разгарнуўшы журнал.

— Не, Іван Мікалаевіч, маё прозвішча правільна гучыць як ЛЕлька, — нязмушана, як нічога і не здарылася, выправіла Ядвіся.

— Дык ты кажаш, што патрыятызм — для нягоднікаў? — гісторык уперыў свае круглыя вочкі ў Ядвісю, позіркам гатовы быў прасвідраваць дзірку ў яе грудзях.

— Не, я так не гаварыла. Я паўтарыла словы Льва Талстога: «Патрыятызм — апошні прытулак для нягоднікаў».

Паўза.

— Я. Не. Чытаў. Такіх. Слоў! — твар Швондзера імгненна зноў афарбаваўся ў чырвона-барвовы колер. — Калі ты мне іх не пакажаш у кніжцы, ты… ты…

Ён пачаў заікацца, але не паспеў прыдумаць патрэбнае катаванне для Ядвісі — з месца нечакана ўсхапіўся Уладзя. Стаў прама, і кожная клетачка яго цела была напятая — да дробнага дрыжання.

— Іван Мікалаевіч, дазвольце патлумачыць! — і, не чакаючы дазволу ад гісторыка, які ў гэта імгненне разгубіўся, хутка прадоўжыў: — Словы пра тое, што патрыятызм ёсць апошні прытулак для нягодніка, упершыню сказаў англійскі літаратурны крытык Самюэль Джонсан. Ён іх казаў у

тым сэнсе, што і самы апошні нягоднік можа знайсці сабе апраўданне ў грамадстве, калі зробіцца сапраўдным патрыётам. А ўжо Леў Талстой пераказаў словы Джонсана, але з трошкі іншым сэнсам… Вось.

— Вось! — гісторык авалодаў сабой. — Ты сядзь, у цябе ніхто не прасіў тлумачэнняў. Для нас галоўнае тое, што вось гэта маладая асоба, якой дзяржава дала магчымасць бясплатна атрымаць адукацыю…

— Мая маці працуе і плаціць падаткі! З гэтых падаткаў і складаецца заробак настаўнікаў! — нечакана рэзка выдала Ядвіся.

Я глядзеў на яе. Якая яна была прыгожая! Крыльцы носа трапяталі ад кожнага ўздыху, яна глядзела наперад, проста ў вочы Швондзеру. Яна не баялася яго! Ні каліва! Хоць ёй было страшна — пальцы рук пабялелі, вусны напружыліся, і куточкі іх падрыгвалі. Мне нясцерпна хацелася зараз стаць побач з ёй, сказаць нешта разумнае, асадзіць Швондзера, але я не ведаў — што сказаць.

А гісторык зноў пачаў бялець, наблізіўся да Ядвісі.

— Хто дазволіў табе перапыняць старэйшых, настаўнікаў?! — засіпеў ён. — Сядзь і слухай! — ужо крыкнуў ён і працягнуў, калі Ядвіся села: — Патрыятызм — тое, што робіць з чалавека грамадзяніна. Тое, на чым трымаецца дзяржава. Патрыятызм — гэта з усяго магчымага абіраць роднае, сваё!

— «Купляйце беларускае», — нечакана гучна вырвалася з мяне хоць нешта. І атрымалася — ляпнуў дрэнь.

— Менавіта так! — аж узрадаваўся Швондзер з маёй падказкі. — Купляйце сваё! Падтрымлівайце сваю эканоміку! Сваю дзяржаву і сваю краіну! Зразумела табе, юная лэдзі? — нечакана ён схіліўся да Ядвісі, ледзь не пырснуўшы слінай у яе твар.

— Зразумела, Іван Мікалаевіч, — Ядвіся ўзнялася з месца, адказала, як бы і вінавацячыся, але і я, і ўсе навокал адчулі, што зараз яна зноў нешта выдасць. — Я вось адно не разумею, патлумачце, калі ласка… У вас тэлефон ёсць?

— Ёсць, — мармытнуў гісторык, яшчэ не ведаючы, як паставіцца цяпер да гэтай настырлівай вучаніцы.

— А ён у вас чыёй вытворчасці? Беларускай? А тэлевізар дома з вялікім экранам? Беларускі? А камп'ютар?

— Гэта дэмагогія! — зараваў Швондзер. — Мы гэтулькі вытрывалі ў вайну, мы мусілі самі падымацца, адбудоўваць народную гаспадарку, у той час як сусветны імперыялізм даваў грошы ўсялякім Германіям, каб тыя хутчэй аднаўляліся. Мы жылі сярод ворагаў і мусілі бараніцца, нам трэба было выдаткоўваць шмат рэсурсаў на абарону сябе! Мы і сёння мусім трымаць немаленькую армію…

— А яна ў Еўропу хоча, — кінуў з'едліва Віктар Марыноўскі.

Швондзеру прыйшлася да душы і гэта падказка.

— Уся атрута для моладзі сёння канцэнтруецца ў Еўропе! Геі, лесбіянкі, аднаполыя шлюбы, усёдазволенасць — вось да чаго прыйшлі! Яны жадаюць аднаго — засяліць у нас распусту, каб моладзь згубіла апошнія маральныя арыенціры! Еўропа — рассаднік маральнага раскладу! Для моладзі наша дзяржава стварыла ўсе ўмовы для таго, каб жыць, працаваць і прыносіць карысць сваёй Радзіме тут, нараджаць і гадаваць дзяцей, для чаго будуюцца новыя сучасныя бальніцы, адчыняюцца светлыя дзіцячыя садкі, ёсць мацярынскі капітал…

— І менавіта таму ваш сын вывучыўся і зараз працуе ў Варшаве, а дачка — у Германіі!

Ядвіся выгукнула словы не з абвінавачваннем — з адчаем, у якім адчуваліся блізкія слёзы.

Швондзер спатыкнуўся і замёр.

Гэта не было таямніцай для школы — ён і раней у нас, і сёлета паспеў пахваліцца: ягоныя дзеці такія высокаадукаваныя, так добра ён іх выхаваў, што іх запрасілі працаваць у нямецкую фірму і польскую бальніцу. Ён ніяк не думаў, што яго гонар можа быць скарыстаны супраць яго самога.

Ён хапаў паветра ротам, як рыба ў каламутным магазінным акварыуме, але урэшце авалодаў сабой:

— Ты, кажучы мовай сацыялогіі — недаразвіты кавалачак соцыуму, у тваіх мазгах — адно каша з агітак Захаду! Ты не адчуваеш ні ўдзячнасці, ні павагі да тых, хто працаваў дзеля цябе! Вось дзе корань зла!

…Ядвіся стаяла. Швондзер хадзіў вакол свайго стала і гаварыў, гаварыў, гаварыў. Усім было зразумела, што яму не знайсці ніякіх слоў супраць праўды, якую агучыла Ядвіся, але ён не мог змірыцца з гэтым, і больш для сябе, здаецца, шукаў новыя і новыя довады сваёй нібыта ісціны апошняй інстанцыі, ужо непрыхавана здзекаваўся з Ядвісі.

Потым ён дазволіў ёй сесці, але не спыніўся: у яго другое дыханне адкрылася ці што. Сеў на іншага свайго ўлюбёнага канька — на мараль. І зноў пачаў ад свайго дзяцінства, нейкага ражна распавядаў пра вароты, якія дзёгцем шмаравалі вяскоўцы, калі даведваліся, што ў гэтым двары жыве дзяўчына вольных паводзін. І вось не скажаш, што ён Ядвісю ў нечым такім вінаваціў, а так паралелі праводзіў, такія намёкі рабіў, нібыта яна стала найвядомейшай прастытуткай горада, а ўсё праз тое, што, канечне ж, не любіць сваю Радзіму і не разумее, якой удзячнай яна мусіць быць ветэранам Вялікай Айчыннай.

Ядвіся сядзела чырвоная, як вараны рак. Яна не чакала, што яе пачне гнобіць дарослы чалавек. Ды каб адно гэта — клас ажывіўся, нехта пачаў хіхікаць з асобных «жартачак» Швондзера, а той, падахвочаны такой увагай, — папраўдзе ж пачалі з цікавасцю слухаць (хто нам пра тыя вароты ў дзёгці раней апавядаў?) — вышукваў новыя доказы сваёй праўды: ад Еўропы ўсе беды, распуста і жыццю трындзец!

Усе позіркі, зразумела, былі скіраваны на Ядвісю. Я успомніў, як Уладзя некалі казаў, што для людзей наймацнейшае відовішча — смерць. Як забіваюць. Цягне іх магнітам. А калі мараль-на забіваюць — якая розніца? Вось і цікуюць, ім цікава, цэлы спектакль, іх фінал вабіць: давядзе Швондзер да слёз Ядвісю, ці яна выскачыць з класа?

Калі ты высунуўся, калі паказаў нешта сваё, адрознае ад іншых, — будзь гатовы да зайздрасці, кпінаў, падножак. Тут кожны хоча стаць хоць некім, шэрая маса, бы тая вадзяністая каша ў каструлі, прыўздымаецца, пыхкае бурбалкамі, ападае, зноў надзімаецца ў іншым месцы — і так, безупынна, пыхкаюць бурбалкі… Бач, Ядвіся надумалася пабыць прынцыповай, смеласці набра-лася. Ага! Ты адна крывішся ад лухты Швондзера, адна такая разумніца, ведаеш пра тэлефоны і тое, дзе зараз дзеці гісторыка? Усе ведаюць, але ж во церпяць. А калі ты вырашыла пакрасавацца перад усімі сваёй прынцыповасцю — дык і атрымлівай!

Я ведаў, што так думае большасць з нас, і ў самога мільгала думка: чаго ты выстаўляешся, самая разумная? Але ў гэтым цкаванні Ядвісі — яўным з боку настаўніка і ціхім, якое праяўлялася ў за-даволеных усмешачках з боку вучняў, — смярдзела ганебным збіццём адной натоўпам… Вось яе прывязалі да слупа, агаленую, на плошчы — і цяпер чытаецца прысуд, і ўсе ажно млеюць ад чакання таго моманту, калі ўрэшце запалае касцёр пад слупком і ахвяра пачне курчыцца і прасіць літасці і даравання, адрачэцца ад сваіх слоў…

Не дачакаліся: Ядвіся трымалася, твар яе застыў, хіба грудзі заўважна ўздымаліся-ападалі ад глыбокага і частага дыхання.

Зазвінеў званок. Швондзер спыніўся на паўслове — ён не дазваляў сабе парушаць парадак, адно дадаў:

— Мы працягнем на наступным уроку!

Ён быў задаволены, адчуваў сябе пераможцам — выходзіў з класа з задранай угару больш чым звычайна барадой, невялікім чэравам наперад.

Ядвіся адразу выскачыла з класа.

Я знайшоў яе ля акна ў канцы калідора. Падышоў, стаў глядзець, як і яна, за шкло.

— Даруй мне, — нарэшце ціха сказаў тое, з чым яе шукаў.

Ядвіся не адказала, нават не паглядзела на мяне, толькі ўздыхнула ледзь заўважна.

Падышоў Юрась, стаў з другога боку ад Ядвісі.

— Швондзер табе не прабачыць.

— А чаму ты думаеш, што я праз тое заганяюся? Мне пляваць! — са злосцю крутанулася да яго Ядвіся.

— Ну… калі не думаць пра атэстат, — прамямліў збянтэжана Юрась.

Мы не думалі, што ў яе можа быць гэтульні злосці. Сама ж вінаватая…

Падышоў нясмела Уладзя. Ядвіся павярнулася спінай да акна, сустрэла яго насмешліва:

— Давай, выдай і ты што-небудзь разумнае!

Я адчуў крыўду. Мы ў чым перад ёй вінаватыя?

Уладзя разгублена спыніўся перад намі, сказаў, відавочна, даўно падрыхтаваныя словы:

— Рэчаіснасць… праўда… далёка не ўсім даспадобы. І не ўсім… патрэбная.

— А табе — патрэбная?

— Што? — лыпнуў вачыма Уладзя.

— Табе патрэбная праўда? Табе трэба ведаць пра рэчаіснасць? — Ядвіся ажно падалася наперад, і стала трывожна за Уладзю: зараз можа нешта адбыцца.

— Мне — трэба, — ціха, але ўпэўнена адказаў Уладзя.

— Ах, так… Хадзем! — Ядвіся схапіла яго за руку і пацягнула да лесвіцы, каб, напэўна, спусціцца на першы паверх. Азірнулася на нас з Юрасём — мы стаялі ў поўнай прастрацыі — і загадала рашуча: — Вы з намі!

Уладзя, бы маленькі хлопчык, спяшаўся за імклівай Ядвісяй, яна не выпускала яго рукі, мы — за імі. Я не адразу скеміў, куды яна цягне сябра і якой трасцы, а калі спынілася, здзіўляцца было позна: мы былі ў кутку паверха, дзе знаходзілася жаночая прыбіральня.

— Чакайце!

Ядвіся пацягнула на сябе дзверы з намаляваным чорным кружком, што абапіраўся на вяршыню такога ж самага чорнага трохкутніка, зазірнула, потым разнасцежыла дзверы, схапіўшы за руку цалкам збянтэжанага Уладзю і крыкнула яму:

— Рэчаіснасць, праўда? Ты сказаў, што не баішся яе. А пра існаванне жаночай прыбіральні ведаў? Вунь там унітаз, і твая Віялета таксама сюды ходзіць, і сікае, і какае! І вунь пракладка ў куце валяецца, глядзі, нехта паспеў ужо збегаць сюды на ўроку, скрываўленая, такая і ў Віялеты бывае, і мо зараз у яе ёсць, і яна выкідае вось сюды такую, бо яна — жывая, у яе таксама месячныя бываюць! Як бясплатны дадатак да тваёй закаханасці — рэчаіснасць, якую ты хочаш ведаць!

Мы з Юрасём аслупянелі.

Уладзя ірвануўся і панёсся некуды па калідоры.

— Ну, ты дала, — выдыхнуў Юрась.

— Ён не дзіця, — нервова адказала Ядвіся. — Я ў сем гадоў зразумела, што балерыны зусім не матылькамі какаюць. Вось так.

— Фізіялогія так фізіялогія, — сказаў, абы нешта сказаць, я.

— Ты пра што? — ускінула вочы Ядвіся.

— Чорт яго ведае… Разбурыла Уладзеву казку…

На наступным уроку Уладзя адсутнічаў. Мае выклікі па тэлефоне ён скінуў двойчы, на Ядвісін таксама не адказаў. Гэта суцяшала: значыць, засільвацца ён не пабег. Я сказаў пра тое Ядвісі.

— Трэба адшукаць, — вырашыла яна і дадала: — Адчуваю сябе такой гадаўкай, папраўдзе… Нельга было так, нельга…

— Хай пабудзе адзін, — запярэчыў я. — Знойдзецца. На вялікім перапынку ў сталоўку, есці захоча…

— Не прыйдзе…

На другім перапынку да нашага з Ядвісяй стала падышла Віялета, грэбліва зірнула на Ядвісю, капрызліва працягнула:

— Кірыла, дзе Уладзечка? У мяне алгебра нязробленая…

— Не ведаю, — нечакана весела, бо зараз мне гэта прыносіла задавальненне, адказаў я і дадаў з яшчэ большай весялосцю: — Будзеш цяпер сама рабіць, рыхтуйся!

— Што? — Віялета насамрэч здзівілася, больш, магчыма, з маёй нахабнасці.

— Штонікі!

Яна грэбліва фыркнула і пайшла да свайго стала.

На вялікім перапынку Уладзя не з'явіўся. Мы — я, Ядвіся і Юрась — пачакалі ля сталовай, потым рушылі на апошні паверх. Было ўсяго адно месца, дзе мог бавіць час наш Уладзя, калі ён яшчэ застаўся ў школе. Некалі раней мы часцяком там былі — на даху. То было ў 7-8 класах. Выхад на дах замкнулі, але былі такія дні, калі туды можна было патрапіць: плоскі школьны дах бясконца рамантавалі то ў адным, то ў іншым месцы, увесну дык зазвычай штодзень на даху былі рабочыя.

Навяснога замка на дзвярах, якія вялі туды, не было. Мо пасля лета (зноў жа недзе дзіркі лапілі) забыліся замкнуць, а цяпер не спяшаліся, бо не вясна — той парой, пакінь незамкнёнымі дзверы, школьнікі лезуць на дах катамі, у якіх вяселлі пачаліся…

Уладзя сядзеў там, дзе мы раней упадабалі сабе месца: табе прастора растуляецца, а знізу ніяк не відаць. Ён знайшоў дошку, якую, відаць, пакінулі будаўнікі, некалькі цаглін (то рамантавалі вентыляцыю) і зрабіў лаўку.

Ён азірнуўся на шоргат ног, падскочыў:

— Чаго вы прыйшлі?

У яго адчайным выкрыку гучалі слёзы. Мне раптоўна ўспомнілася наша дзяцінства — так крычаў ён некалі, калі да яго чапляліся старэйшыя хлапчукі… Я адчуў сябе поскуддзю.

— Уладзя, прабач, калі ласка! Я вінаватая! — Ядвіся казала з неўдаваным болем у голасе, потым зрабіла крок наперад.

— Ідзіце адгэтуль! Якая вам справа да мяне? Чаго вы лезеце не ў сваё жыццё?

А голас дрыжэў, дрыжэў на нейкай апошняй нітачцы трывання, і магчыма, скажы Уладзя ці паспрабуй сказаць яшчэ хоць слова, ён бы расплакаўся. Мы ўсе адчувалі гэта, і гэта адчуваў сам Уладзя, і яму, апрача ўсіх іншых пачуццяў, пра якія можна было толькі здагадвацца, было яшчэ вельмі сорамна. Хай сабе мы і сябры, але што можа быць больш зняважальным для цябе за твае ж слёзы?

Уладзя прабег паўз нас. Ніхто не памкнуўся затрымаць яго хоць словам.

— Я сука.

Ядвіся кусала вусны, яны чырванелі і рабіліся большыя.

— Усё будзе добра, — нечакана вырвалася ў мяне, і я паўтарыў, як мантру: — Вось пабачыце, усё будзе добра…

— Хадзем, званок зараз, — незадаволена нагадаў Юрась, быццам мы тут займаліся нейкай дзіцячай гульнёй і маглі прапусціць нешта надта значнае.

Уладзя быў у класе — сядзеў на сваім месцы, таропка, нізка-нізка схіліўшыся над сшыткам, пісаў. Віялета стаяла над ім, заглядвала ў сшытак, нахіліўшыся так, што яе белыя кудзеркі краналіся галавы і шыі хлопца. Яна азірнулася на нас, і ў яе позірку была не перавага, не. Яна глядзела так, як можна было глядзець на якую здохлую мыш пад нагамі, — грэбліва, з гідлівасцю. Я раптам зразумеў, што гэта гідлівасць і грэблівасць імгненна могуць перарасці ў нянавісць. Усё будзе залежаць ад Уладзі…

Ён да канца тыдня хадзіў, бы пад зямлёй. І так не актыўнічаў у класных рухах, а цяпер і не размаўляў ні з кім. І на занятках яго не было чуваць. Хатнія заданні рабіў сяк-так, паспеў адхапіць дзве «пары». Але я бачыў — ён па-ранейшаму рабіў хатнія заданні для Віялеты. Мы з Юрасём хадзілі ў школу без яго — ён не чакаў нас, выходзіў раней, мы бачылі яго за сотню крокаў наперадзе, і самотная постаць у рэдкім ланцужку людзей на тратуары выклікала ў мяне сорам — я ж помню, што абяцаў яго маці: ніколі не кідаць сябра. У суботу ўвечары я не вытрымаў, патэлефанаваў. Ён адказаў на выклік.

— Уладзь, ты як?

— Зараз я на лецішчы… Вось, раней хацеў вас запрасіць… Калі атрымаецца, наступным разам?

— Ну, канечне, ты адно свісні, як бацькі дабро дадуць! — заспяшаўся я. — А ты сам? Усё норм?

— Ды трохі адпусціла… — Уладзя памаўчаў, загаварыў далей: — Цяжка… Цяжка ўбачыць у тым вобразе, у які закахаўся, жывога чалавека…. Ядвіся… я разумею, што павінен быць ёй удзячны, праўда. Тыцнула носам літаральна ва ўнітаз. Віялета — чалавек. З костак і мяса. А калі незваротна пабачыў, што… каханая — найперш чалавек, дык і ўчынкі яе, і словы, і паводзіны пачаў бачыць, як чалавечыя. Крыўдна, што не бачыў раней… Дурань я… Разумееш, яе словы, дзеянні для мяне існавалі асобна ад яе самой, усё адно гэта не яна казала і рабіла, а нехта іншы… ну, яны не мелі ніякага значэння… для мяне. А калі спакваля сталі звязвацца, дык… характар намаляваўся. І чалавек з характарам, жывы такі чалавек. І зусім непрывабны, хітры, хлуслівы, грэблівы і эгаістычны. Я такі дурань…

— Ніякі ты не дурань! — горача запратэставаў я. — Тут я выпадкам падслухаў, як маці з сяброўкай дзялілася сакрэтам. Ну, там у іх на працы нейкі трыкутнік любоўны, такія жарсці! Дык вось, я слухаў і думаў: ну і дурнота! І дарослыя ж людзі, а такія глупствы вырабляюць! Во, значыць, закаханасць — такая хвароба, што першага-лепшага напаткае…

Падслуханую размову я выдумаў — нічога я не чуў. Фільмы ж розныя глядзіш, дык бачыш, на што закаханыя здольныя. Але ж Уладзю пра фільмы казаць не будзеш, жывыя людзі яны і ёсць жывыя, так больш пераканаўча.

— Ага, цяпер разумею, — весялей адказаў Уладзя. — Некалі давялося прачытаць стары «баян»: тым розніцца геаметрычны трыкутнік ад трыкутніка кахання, што ў геаметрычным толькі адзін кут можа быць тупым.

Я засмяяўся, быццам гэтага «баяна» папраўдзе не чуў раней.

— Знаеш, мая бабуля Марыля ведае адну цудоўную формулу. Думаў — проста словы, а вось калі іх не тое што паўтараць, а мець заўсёдна на ўвазе, дык гучаць зусім не бессэнсоўна. Хочаш, скажу?

— Скажы, — зацікавіўся Уладзя.

— Усё будзе добра.

— Так проста?

— Ну… дык і проста. Але — усё будзе добра, скажы?

— Скажу. Усё будзе добра!

У панядзелак Уладзя чакаў нас з Юрасём. Мы зноў ішлі ўтрох. Ядвісю пабачылі на лаўцы ў двары школы, падышлі і селі, выцягнуўшы ногі, бо лаўка была нізкая. Павіталіся. Маўчалі.

Уладзя сеў ля Ядвісі, крануўся пальцамі яе рукі, якую яна паклала на калені.

— Ты не перажывай, — сказаў ён з кволай усмешкай. — Я… Карацей, нешта адбылося, і я… у суботу, на лецішчы, там… там такая вольніца, дык і я адчуў сябе свабодным. Крутое пачуццё — быць свабодным.

— Прайшла любоў, завялі памідоры? — асцярожна пажартаваў я.

— Ілюзіі прайшлі, казкі больш няма, — выправіў Уладзя. — І неяк пофіг, ужо не баліць. Смешна вось з сябе зараз… Трошкі шкада. Трошкі агідна. Наогул — пуста…

— Усё адно дзякуй, — Ядвіся павярнула далонь, сціснула сваімі пальцамі пальцы Уладзі, якія ён не спяшаўся ўбіраць. — Я ведаю, як можа быць балюча, калі расплюшчваюцца вочы, — і голас яе ўздрыгнуў.

— Норм, кажу, не перажывай, — рагатнуў нязмушана Уладзя. — Воля таго каштуе, каб трошкі пабалела… Юр, я да цябе сяду!

— Давай, — кіўнуў Юрась, і нешта ў яго вачах мне не спадабалася. Ён, падалося, шкадаваў, што вось Уладзя, магчыма, пазбавіўся сваёй летуценнасці, стане звычайным пацаном без закідонаў. Ці Юрасю даспадобы, каб у ягоным атачэнні былі менавіта такія, як мы з Уладзем: адзін невылечны ў сваёй дзіцячай закаханасці і другі — шэры да невыразнасці?

— Уладзечка, што гэта значыць? — Віялета спыталася і гучна, і насмешліва, ступіла крок з-за стала, калі пабачыла, як Уладзя скіраваўся да Юрася і сеў з ім побач. — Я зараз атрымаю па алгебры кол, ты пашкадуеш…

— Не пашкадую… — Уладзя без аніякай сарамлівасці паглядзеў у яе вочы, спакойна і ціха дадаў: — Даруй, але далей спраўляйся без мяне.

Віялета свідравала яго позіркам, вочы яе звузіліся, твар імкліва мяняўся: вось ён быў разгублены, вось ужо грэблівасць, а вось і сапраўдная нянавісць.

— Цябе ж папярэджвалі — некалі усе становяцца відушчымі, — заўважыла Ядвіся са з'едлівай усмешкай.

— А ты, лялька анучная, запомніш!

Усю сваю злосць Віялета ўклала ў гэту пагрозу. Ядвіся зноў усміхнулася, гэтым разам з нечаканым шкадаваннем, бы глядзела на псіхічна хворую, і прамовіла:

— Не лялька, а Лелька. І… ты бойся, каб я нешта запомніла, бо мая памяць часам дорага каштуе!

Гэта быў не выклік, а хутчэй папярэджанне, сяброўскае такое. І ў класе ўзрушана зашапталіся: здаецца, пачыналася вайна, і было цікава — хай хоць нешта, абы быў нейкі рух у застылым балоце школьнага быцця.

**5**

Як толькі Зіначку прызначылі нашай класухай, яна ўсё імкнулася арганізоўваць розныя сумесныя выправы-вандроўкі. Спадзявалася зрабіць з нас «дружны клас». Мы бачылі яе намаганні, пасмейваліся сабе, не скажу, што аднекваліся, — нехта ў першы год з імпэтам дапамагаў Зіначцы, збіраў грошы, нават нейкія сцэнары рабіліся, каб весела было. Карацей, спрабавалі гуляць у вясёласць і той самы «дружны клас». І да сённяшняга часу ў яе захаваліся добраахвотныя памочнікі, той жа Ромка Макар, дзяўчаты некаторыя. Я дык увогуле не разумеў гэтых высілкаў і неяк запытаўся ў Юрася:

— Вось глядзі… Я, ты, Уладзя — мы разам. А Віялета, Алег, Юзік, іншыя… мы ўсе — розныя. Цяпер вось змушаныя мець нейкія агульныя рысы, бо школа ж, клас, а мы — вучні. Не разумею…

— Што не разумееш?

— Не разумею, навошта прыкідвацца, гуляць у нейкае сяброўства, «актыўна і весела бавіць вольны час»… Навошта? Мы праз два гады —разляцеліся. Ты ж бачыў летась, хто на сустрэчу выпускнікоў прыходзіць? Алкашня адна, каму такая сустрэча — нагода і прычына выпіць, некаму і на халяву. Ну, вучыліся разам, дык што? Ды я з паловай класа развітаюся і не захачу ніколі бачыцца…

— Правілы соцыуму, — Юрась як ведаў, пра што я спытаю, гэтак шматзначна і важна выдаў адказ, пабачыў, як я скрывіўся, і нехаця дадаў: — Ну, так мне маці казала. Усё жыццё — гульня, усё жыццё — нейкія правілы…

— З'ехаць бы куды-небудзь… Дзе ніякіх правіл, — шчыра ўздыхнуў я.

— На выспу, аднаму, — упарта заспрачаўся Юрась. — Бо нават калі ты з некім будзеш, усё адно будуць правілы.

— З каханым чалавекам правілы непатрэбныя, — сказаў і я нешта разумнае і дарослае.

— Ты фільмаў нагледзеўся, — рагатнуў паблажліва Юрась. — Яшчэ як патрэбныя… Вунь, нават шлюбныя дамовы складаюць, пратаколы паводзін!

— Да д'ябла такое каханне, — замяўся я: — Хутчэй бы зваліць…

Мінуў месяц заняткаў, і наша класуха, як і чакалася, вырашыла распачаць сваю культурную праграму з закідам на наша будучае адзінства: паездка аднадзённая, экскурсія ў Нясвіжскі замак. Па шчырасці, ніхто асабліва супраць не быў, бо аўтобус — праз нашу вучаніцу Галіну Ягнешык: у яе бацькі фірма турыстычная, ён — у складзе мецэнатаў школы, то нам амаль бясплатная паездка, бензін адно аплачваем. Квіткі ў музей — таксама бясплатна, там акурат у той дзень, які запланавала Зінаіда Мартынаўна, акцыя праходзіць. Ну, і апошняе — гід зноў жа праз знаёмых знаёмых — і задарма. Што ні кажы, умее класуха… У паездку сабраўся амаль увесь клас, адно не было Віялеты і Віктара ды яшчэ пару чалавек з плебса. Ну, Віялета з Віктарам, зразумела, чаму: яны даўно ў гэтых месцах пабывалі, не той кантынгент, якога ўразіш экскурсіямі па Беларусі.

Разам з намі на экскурсію ехаў і фізік Антось Сямёнавіч. Я ўжо казаў пра яго — прынцыповы. Дарэчы, той наш падкол яго з бібліятэкаркай, Вольгай Арцёмаўнай, не атрымаўся наогул. Выявілася, яна — стрыечная сястра фізіка, а не ўпадабаная ім жанчына. Мы ведалі, што на такі вэрхал, як наш клас, патрэбныя мінімум двое дарослых суправаджэння, таму не здзівіліся, хоць і пакрывіліся: з фізікам не пасваволіш ўдосталь.

Выехалі рана, дарога амаль чатыры гадзіны толькі ў адзін бок. Мы з Уладзем сядзелі ў першым радзе — наша месца ў паездках, ніхто не аспрэчвае. Бо Уладзя — Вікіпедыя хадзячая — павінен бачыць дарогу лепш за ўсіх, і што сустрэнецца цікавае — усім апавядаць. Але гэтай дарогаю мы ехалі ўжо двойчы, таму Уладзя маўчаў. Юрась з Ясяй сядзелі за намі. Краем вуха я чуў, як Юрась даводзіць ёй, што будучыня — цалкам спрагназаванае сучаснасцю, і матэматычным метадам можна прадказаць значныя падзеі наперадзе. Улюбёная яго тэма… Калі канчаткова ўсе супакоіліся і пачалі сумаваць, класуха ўстала з месца, павярнулася да салона і прапанавала:

— Зараз будзем гуляць у новую гульню! Увага! Хто самы знаходлівы? Правілы вельмі простыя. Вядучы, няхай ён будзе следчы, выходзіць сюды, сядае да мяне, спінай да салона. У гэты час нехта прыўстае, назавём яго шпіёнам, і садзіцца на сваё месца. Вядучы паварочваецца і цяпер — увага: ён павінен даведацца, хто ўздымаўся. Для гэтага яму дазваляецца задаваць пытанні, кшталту: сядзіць ля акна, сядзіць у левым або правым радзе, юнак ці дзяўчынка і гэтак далей. Любыя пытанні, але адказ можа быць адзіны — так ці не. Зразумела? Перамагае той, хто вылічыць патрэбнага чалавека за самы мінімум пытанняў. Потым следчым становіцца колішні шпіён. Прыз пераможцы — вось! — і Зінаіда Мартынаўна ўзняла руку з заціснутым вялікім «Снікерсам».

— Нецікава, — галасна, з уздыхам працягнуў нехта ззаду.

— Чаму? — засмуцілася класуха. — Гэта ты, Стасік?

— Каб на піва, Зінаіда Мартынаўна, дык я — першы! — у тон ёй адказаў Стась Фядзьковіч.

У салоне рагатнулі. Стась — наш рэпер, патлаты насуперак усялякім модам пацан, неблагія рэчы выдае, выкладае свае запісы на Ютубе. Сам і вершы, і музыку піша. Ну, якія там вершы… Але паслухаць цікава, чытае Стась эмацыйна, голас напружвае неяк да звону. І музыка неблагая, дарэчы, у тэму. Працуе на пару з Рытай Шкуцько. У Рыты — прафесійная фотакамера. Для нас усіх яна — Марго, цыбатая дзяўчына з такім тварам, бы нехта яго проста высек сякерай з вялікай дубовай калоды: раз — лоб плоскі, два — нос прамы і раўнюткі, тры — вусны бы пасмачкі вакол рота, тонкія. Кажу з дубовай, бо скура ў Марго цёмная, яшчэ і таму прыляпілася да яе мянушка на такі ўсходні манер. Грудзей у Марго амаль не відаць, носіць яна нейкі мужчынскі пінжак, але дзяўчына канкрэтная, той яшчэ характар — можа і на тры літары лёгка пасласць, калі яе дастаць. Прынамсі, нешта прывабнае, загадкавае ў Марго ёсць. Бацька яе трымае свой невялікі фотасалон,

вось і падсадзіў дачку на фатаграфаванне. Здымае Марго класна — тут брахаць не будзеш. Апошні іх кліп — Стася і Марго — некалькі тысяч праглядаў сабраў, поспех незвычайны, яны самі хваліліся два дні таму.

Класуха ніколькі не разгубілася:

— Стасік, пакуль табе піва ўжываць нельга, ідзі паспрабуй выйграць шакаладку! Тут шмат арэхаў, з'еш — напішаш песню яшчэ круцейшую за «Вечны дождж над маім горадам», і шэрыя твары пачнуць усміхацца!

Вой, гэтым яна купіла Стася і ўсіх нас — аўтобус ажно загуў ад захаплення: бач ты, аказваецца, заходзіла класуха на Стасеў канал на Ютубе, слухала песню і нават памятае, пра што там! Мне таксама адзін радок адтуль запаў: «І толькі ў лужынах нашы твары дробныя хвалі робяць жывымі».

Стась паслухаўся, выйшаў, павярнуўся спінай, пачакаў, пакуль з месца не ўсхапіўся Ромка Макар. Ён — школьны актывіст, бээрэсэмавец, яму «мяркую» паводле статусу трэба падтрымліваць педагогаў. Стась пачаў задаваць пытанні:

— Яна?

— Не! — адказалі яму разнагалоса.

— Ён?

— Ну і следчы… А кім яшчэ можа быць той, хто ўздымаўся, калі не яна?

Гэта ззаду нас хмыкнуў Юрась. Хутчэй за ўсё, ён зараз складаў у галаве алгарытм пошуку. Стоадсоткава, пасля Макара падхопіцца, каб паказаць усім, якія пытанні і ў якой паслядоўнасці задаваць. Так і адбылося. Зіначка запісвала ў свой нататнік, хто за якую колькасць пытанняў вылічыў «шпіёна». Было даволі цікава. Паспрабавалі ўжо быць шпіёнамі-следчымі чалавек сем, Юрась, вядома, быў у іх ліку, але не сказаць, каб бліскуча, — шэсць пытанняў.

Аўтобус мінуў невялікую вёску, калі наш фізік, які сядзеў праз праход з павернутай да нас галавой, але глядзеў некуды скрозь нас, раптам падскочыў з месца і кінуўся да вадзіцеля:

— Стойце! Спыніцеся тут, спыніцеся!

Голас у яго быў такі ўсхваляваны, што не толькі вадзіцель, мы ўсе ажно ўздрыгнулі — што такое здарылася?

Аўтобус рэзка запаволіў ходу, з'ехаў на ўзбочыну.

— Ды што ж яны робяць, што яны робяць такое?! — цяпер ужо амаль роспачна, напаўголаса мармытаў Антось Сямёнавіч, гледзячы ў акно.

— Што здарылася? — спалохана спытала класуха ў фізіка.

— Спыніцеся… я хутка, хутка… Што ж яны нарабілі…

Там былі могілкі. Нейкія голыя. Калі раней мы праязджалі паўз іх, помню, дык і не відаць было, што гэта — могілкі. Недалёка ад вёскі, якую мы нядаўна праехалі, на ўзгорку стаяў невялікі лясок з хвой і бяроз. У мінулым годзе, здаецца, мы праязджалі перад самымі канікуламі, дык гэтая зялёная выспа стаяла сярод жытнёвага поля. Прыгожа было, неяк урачыста нават. А там, аказваецца, мерцвякоў закопвалі.

Цяпер дрэў не было, і ўзгорак, як вычварны вялізны рот фантастычнай пачвары, ашчэрыўся незлічонай колькасцю шэрых помнікаў і самых розных крыжоў, прамых і нягегла нахіленых. Відовішча сапраўды — бы з фільма жахаў, каб яшчэ ноч, святло поўні і туман… Зараз быў дзень, між магіл корпаліся людзі — выцягвалі на ўскрай паваленыя раней і парэзаныя на кавалкі дрэвы. У асноўным гэта былі жанкі.

*працяг у наступным нумары...*





## Герберт Уэлс Herbert George Wells

# Яблык

«Трэба мне ад яго пазбавіцца», — нечакана сказаў мужчына ў куце вагона.

Містэр Хінчкліф абыякава кінуў на яго затуманены позірк. Ён засяродзіў сваю ўвагу на акадэмічным капелюшы, які матляўся на ручцы паходнай сумкі і быў толькі што здабытай адзнакай акадэмічнага статусу; гэты капялюш рабіў яго летуценным і выклікаў прыемныя прадчуванні. Хінчкліф стаў студэнтам Лонданскага ўніверсітэта і рыхтаваўся да працы малодшым асістэнтам у Холмвудскай сярэдняй школе — гэта вам не абы-што. Ён утаропіўся ў спадарожніка.

«Чаму б не аддаць? — працягваў мужчына. — Узяць ды аддаць! Чаму не?»

Гэта быў высокі мужчына з белым тварам, кранутым загарам. Ён сядзеў, скрыжаваўшы рукі на грудзях і паклаўшы ногі на сядзенне перад сабой. Мужчына патаргваў тонкія чорныя вусы і, здавалася, размаўляў са сваімі ступнямі.

«Чаму не?» — не супакойваўся ён.

Хінчкліф кашлянуў.

Незнаёмы падняў вочы — дапытлівыя, цёмна-шэрыя — і ацэньваў Хінчкліфа на працягу добрай хвіліны. Яго збялелы твар набыў зацікаўлены выраз.

«Так, — павольна прамовіў ён. — Чаму не? І годзе з гэтым».

«Я не разумею, што вы кажаце», — выбачыўся хлопец.

«Не разумееце?» — механічна перапытаў незнаёмы, пераводзячы погляд з Хінчкліфа на сумку з выстаўленым напаказ капялюшам, а потым зноў на твар Хінчкліфа.

«Вы не дагаворваеце», — вінавата дадаў Хінчкліф.

«Чаму б і не? — зноў задуменна вымавіў мужчына. — Вы студэнт?» — запытаўся ён у маладога спадарожніка.

«Я навучаюся завочна ў Лонданскім універсітэце», — ганарліва і неяк нервова адказаў Хінчкліф.

«У пагоні за ведамі», — сказаў незнаёмы, а потым раптам скінуў ногі з сядзення, пляснуў кулакамі па каленях і ўтаропіўся ў Хінчкліфа, быццам ніколі дагэтуль яго не бачыў.

«Так», — сказаў мужчына і падняў указальны палец. Потым устаў, узяў з багажнай паліцы сумку і адкрыў яе. З асцярожнасцю ён дастаў нешта круглае і пачаў разгортваць срэбную паперу. Потым працягнуў прадмет Хінчкліфу — вельмі маленькі, гладкі, залаціста-жоўты фрукт.

Той здзіўлена прыадкрыў рот і лыпнуў вачыма. Ён не браў гэты фрукт і нават не ведаў, ці трэба яму гэта рабіць.

«Гэта, — пачуўся голас фантастычнага незнаёмца, — Яблык з Дрэва пазнання. Толькі паглядзіце — маленькі, яркі, цудоўны — і зараз я аддам яго вам».

Страшэнныя думкі пранесліся ў галаве Хінчкліфа, і тут яго розум асвятліла адзіная выснова: «Вар'ят нейкі!», якая адразу праясніла сітуацыю. Смешны вар'ят. Ён трошкі нахіліў галаву ўбок.

«Яблык з Дрэва Пазнання, ты глядзі! — сказаў Хінчкліф з робленай цікавасцю, а потым глянуў на суразмоўцу. — А чаму ж вы самі яго не з'ясцё? І наогул, адкуль ён у вас?»

«А ён не псуецца. Ляжыць у мяне ўжо тры месяцы. І заўсёды такі ж яркі, гладкі, саспелы, жаданы, як самі бачыце». Мужчына паклаў руку на калена і зачаравана паглядзеў на фрукт. Раптам ён пачаў зноў загортваць яблык у паперу, быццам раздумаў з ім расставацца.

«Але як вы яго знайшлі? — не супакойваўся Хінчкліф. — І як зразумелі, што гэта той самы яблык?»

«Я яго купіў, — адказаў незнаёмы, — вось тры месяцы таму і купіў — за глыток вады ды скарынку хлеба. Той, каго я выратаваў ад смерці і хто потым даў мне гэты яблык, быў армянінам. О, Арменія! Цудоўная краіна, найстаражытнейшая з усіх, у якой захаваўся каўчэг Вялікага Патопа дзесьці ў ільдах Арарата. Гэты чалавек, як і многія іншыя яго суайчыннікі, ратаваўся ад курдаў у закінутых куточках паміж гор — куточках, куды дагэтуль не ступала нага сучаснага чалавека. Уцякаючы ад бязлітаснага племені, яны прыйшлі да схілу высока ў гарах, сярод зялёных, парослых травой вяршынь; трава тая была падобна да ляза нажоў, якія не пакідалі нічога жывога ад таго, каму не пашанцуе трапіць туды. Курды набліжаліся; армянам нічога не заставалася, як рушыць далей. Самае дрэннае было тое, што па сцежках, якія яны пракладалі сваёй крывёю, ішлі курды. Армяне загінулі адзін за адным — усе, акрамя таго чалавека ды яшчэ аднаго. Былі чуваць крыкі і лямант сяброў, шолах травы пад нагамі ворага — высачэзнай травы, якая ўзвышалася над галавой. Потым — зноў крыкі, а калі армянін раптам спыніўся, то зразумеў, што ўсё скончылася. Ён зноў рушыў, нічога не разумеючы, увесь пабіты і паранены, і так і ішоў, пакуль не дасягнуў крутога схілу ў бездань. Там чалавек убачыў, як гарыць трава і дым ад вогнішча чорным вэлюмам аддзяляе яго ад ворага».

Незнаёмы спыніўся. «Так? — сказаў Хінчкліф. — Ну?»

«І вось ён стаяў на вяршыні гары, увесь пабіты і скрываўлены лязамі травы; горы блішчэлі пад промнямі паўднёвага сонца, падобнага да растопленай медзі, а слуп дыму набліжаўся да яго. Ён не адважыўся там застацца. Ён не баяўся смерці, але страшыўся катавання! Далёка за слупам дыму ён пачуў крыкі і лямант. Крыкі жанчын. Тады ён пачаў караскацца па цясніне ў гарах — паўсюль раслі кусты з сухімі галінкамі, якія тырчэлі з лісця, нібы шыпы, — пакуль ён не дабраўся да выступу на горным хрыбце і не схаваўся за ім. Там ён і сустрэў сябра, пастуха, які здолеў выратавацца разам з ім. Яны палічылі, што ні холад, ні голад, ні смага не могуць параўнацца з курдамі, і пайшлі сярод ільдоў і снягоў наверх. Яны блукалі тры дні».

«На трэці дзень прышла ўява. Здаецца мне, што галодныя людзі часта могуць бачыць такія цуды, але яны на самай справе знайшлі гэты плод. — Мужчына падняў загарнуты ў паперу шар. — Я таксама чуў ад іншых скалалазаў гэту легенду. Увечары, калі зоркі пачалі з'яўляцца на небе, яны спусціліся па схіле гары ў вялікую цёмную даліну, дзе раслі дзіўныя крывыя дрэвы, на якіх віселі такія вось маленечкія шарыкі, падобныя да круглых жоўтых святлякоў».

«Раптам залатое святло, якое праходзіла праз усю даліну, заліло яе, і было відаць на шмат кіламетраў удалячынь; крывенькія дрэўцы здаваліся на пылаючым фоне чорнымі, як ноч, а схілы сталі падобнымі да зліткаў золата, ды і самі яны нагадвалі каштоўныя статуі. У гэты момант яны успомнілі легенды гор і адразу зразумелі, што перад імі нішто іншае, як Эдэм, ці вароты ў Эдэм; тады яны ніцма ўпалі на зямлю, нібы мёртвыя».

«Калі яны зноў паглядзелі на даліну, тая спачатку была пагружана ў цемру, а потым зноў запылала з новай сілай — святло, гэты мігатлівы бурштын, вярнулася».

«Тады пастух ускочыў на ногі і з крыкамі панёсся да святла, але другі чалавек быў занадта баязлівы і застаўся адзін. Ён узрушана, уражана і перапалохана назіраў за тым, як яго сябар бяжыць насустрач ззянню. І толькі пастух зрушыў з месца, пачуўся шум, параўнальны хіба што з громам; гэты шум быў падобны да лапатання нябачных крылаў і напоўніў усю даліну; ён выклікаў жах. Чалавек, які даў мне яблык, павярнуўся спінай да ўсяго, што адбывалася, — каб убачыць, ці ёсць у яго шанс выратавацца. Ён зноў пабег уверх па схіле, а грукат усё набліжаўся; чалавек спатыкнуўся аб нізенькі куст, і саспелы фрукт адарваўся ад веткі і пакаціўся яму проста ў рукі. Гэта быў вось гэты яблык. У той жа момант гром і лапатанне акружылі яго з усіх бакоў. Чалавек страціў прытомнасць і ўпаў, а калі апрытомнеў, то апынуўся сярод развалін сваёй роднай счарнелай вёскі, у якой я і іншыя дапамагалі параненым. Уява? Але ён сціскаў у руцэ залаты плод з дрэва. Побач былі і астатнія, якія ведалі, што за дзіўны плод гэта можа быць. — Ён перавёў дух. — Вось ён»,— скончыў свой аповед мужчына.

Гісторыя гучала ў вагоне трэцяга класа Сасекскай чыгункі вельмі дзіўна. Здавалася, што сапраўднае жыццё было толькі вэлюмам для фантастычнага, а фантастычнае часам праступала вонкі. «Ого», — толькі і вымавіў Хінчкліф.

«Паводле легенды, — патлумачыў мужчына, — тыя зараснікі маленькіх дрэў, якія раслі ў садзе, выраслі з семечак яблыка, што трымаў Адам, калі яго з Евай прагналі з Эдэму. Адам успомніў, што працягвае несці надкушаны яблык, і адразу ж злосна выкінуў яго. Так ён і прарос, у той пакінутаў даліне, акружанай вечнымі ільдамі, дзе вогненныя мячы абараняюць ад Суднага Дня».

«Але мне здавалася, што гэтыя гісторыі… — Хінчкліф прыпыніўся, — …не больш, чым простыя байкі, ці, хутчэй, выслоўі. Вы сцвярджаеце, што ў Арменіі?..»

Замест адказу на няскончанае пытанне мужчына працягнуў студэнту фрукт.

«Але адкуль вы ведаеце, — сказаў Хінчкліф, — што гэты яблык сапраўды з Дрэва пазнання? Можа, той армянін гэта прыснiў. Уявіце…»

«Паглядзіце на яго», — сказаў незнаёмы.

Плод выглядаў сапраўды дзіўна — ён быў непадобны да звычайнага яблыка, як пра сябе адзначыў Хінчкліф; ён звярнуў увагу і на мігценне залацістага колеру, з-за якога здавалася, што яблык увесь быў зроблены са святла. Чым больш ён глядзеў на фрукт, тым больш выразна бачыў пакінутую сярод гор даліну, вогненныя мячы-вартаўнікі, дзіўную старажытнасць толькі што пачутай гісторыі. Студэнт пацёр вочы косткамі пальцаў. «Але…» — вымавіў ён.

«На працягу трох месяцаў ён застаецца такім жа гладкім і круглым. І быў такім дагэтуль. Не засох, не завяў, не згніў».

«А вы, — сказаў Хінчкліф, — сапраўды верыце, што…»

«Гэта забаронены плод».

У сур'ёзнасці і здаровым розуме мужчыны не было сумнення. «Плод з Дрэва пазнання», — паўтарыў ён.

«Ну, дапусцім», — пагадзіўся Хінчкліф пасля некаторай паўзы, усё не зводзячы вачэй з яблыка. «Але ж, — сказаў ён, — што гэта за веды? Ці не маем іх мы, калі Адам і Ева ўжо з'елі яблык».

«Іх спадчына — смяротны грэх, а не веды, — запярэчыў незнаёмы. — Мы павінны ведаць. Мы павінны атрымаць адказы на ўсе нашы пытанні, мы павінны паглыбіцца ва ўсё…»

«Чаму ж тады вы яго не з'ясцё?» — узрушана выпаліў Хінчкліф.

«Я таму яго і ўзяў, каб з'есці, — адказаў мужчына. — Чалавек выгнаны з рая. Недастаткова проста з'есці яблык, каб…»

«Веды — гэта моц», — выгукнуў Хінчкліф.

«А ці гэта шчасце? Я старэйшы за вас — больш, чым у два разы. Калі я бяру гэты яблык, маё сэрца пачынае жудасна біцца ад адной думкі аб тым, якія веды могуць хавацца ў нашым свеце. Уявіце сабе, што б з вамі было, калі б свет паўстаў перад вамі ва ўсёй сваёй бязлітаснай праўдзе?»

«Думаю, гэта магло б стаць вялікай перавагай, — сказаў хлопец, — збольшага».

«Уявіце сабе, што аднойчы вам адкрылася ўсё таемнае, тое, што схавана ў сэрцах і думках, самыя цёмныя бакі тых, каго вы любілі, і хто любіў вас?»

«Вас не змогуць падмануць», — сказаў Хінчкліф, уражаны новай думкай.

«А яшчэ горш — ведаць самога сябе, без асабістых ілюзій. Убачыць сябе з іншага боку. Усё тое, што вы маглі зрабіць, каб не перашкодзілі страсці і слабасць. Усё, як яно ёсць на самай справе, без прыкрас.»

«Гэта таксама файна. Спазнайце сябе, памятаеце?»

«Вы занадта малады», — сказаў незнаёмы.

«Калі вы не збіраецеся яго есці і гэта вас турбуе, чаму б проста не пазбавіцца ад яго?»

«Тут вы таксама мяне не зразумееце. Я не разумею, як хтосьці можа выкінуць такую цудоўную рэч? Яе ўладальнік звязаны з ёй назаўсёды. Але зусім іншая справа — аддаць яе. Аддаць таму, хто імкнецца да ведаў, таму, хто не бачыць нічога жудаснага ў такім поўным разуменні…»

«Аднак, — задумліва прагаварыў Хінчкліф, — гэты плод можа быць атрутным».

І тут у акно вагона ён убачыў, што цягнік спыніўся насупраць белай дошкі з чорнымі літарамі. «Мвуд», — прачытаў ён і рэзка падняўся з месца. «Божа! — усклікнуў Хінчкліф. — Холмвуд!» Сучаснасць выцясніла міфічныя карціны, якія раней ахапілі яго розум.

Ён адразу ж адчыніў дзверы вагона і схапіў паходную сумку. Праваднік ужо махаў зялёным сцяжком. Хінчкліф выскачыў на перон. «Вось!» — пачуўся голас ззаду. Студэнт павярнуўся і ўбачыў цёмныя зіхатлівыя вочы спадарожніка і залаты плод, без паперы, яркі, у пройме дзвярэй. Ён інстынктыўна схапіў яго, калі цягнік ужо набіраў ход.

«Не!» — пракрычаў незнаёмы і пацягнуўся за яблыкам, быццам перадумаў.

«Асцярожна», — папярэдзіў праваднік і зачыніў дзверы. Незнаёмы пракрычаў штосьці яшчэ, але Хінчкліф ужо не чуў. Ён махаў рукамі і нават высунуў галаву з акна, а потым цягнік апынуўся ў цені маста і хутка знік зусім. Хінчкліф ашаломлена стаяў і глядзеў, як апошні вагон знікае за паваротам, і сціскаў дзіўны яблык у руцэ. Паўхвіліны яго думкі былі расплывістымі, а потым ён зразумеў, што два ці тры чалавекі на платформе разглядаюць яго з цікавасцю. Ці не ён новы настаўнік сярэдняй школы? Студэнту прыйшло ў галаву, што яны, мабыць, думаюць: ён трымае ў руцэ нейкі дзіўны апельсін. Хінчкліф пачырванеў і запхнуў яблык у кішэню, з якой той непрыгожа выпінаўся. Тут студэнт нічога не мог зрабіць і падышоў да людзей, беспаспяхова спрабуючы прыняць нязмушаны выгляд і запытацца дарогу да школы і як можна туды даставіць сумку і дзве скрыні, якія засталіся на платформе. Трэба ж было пачуць такую дзіўную байку!

Яму расказалі, што сумкі можна завезці на грузавіку за шэсць пенсаў, а самому ісці пешшу за ім следам. Студэнт адзначыў насмешку ў іх галасах. Ён падумаў, што выглядае смешна.

Сур'езнасць мужчыны ў цягніку і фантастычнасць яго гісторыі прыцягнулі ўвагу Хінчкліфа і адсунулі сабой надзённыя праблемы. Але яшчэ да таго, як ён пайшоў са станцыі, у галаву з новай сілай палезлі думкі пра яго новы статус і пра ўражанне, якое трэба будзе зрабіць у Холмвудзе, асабліва сярод калег. Які ўсё ж неспрыяльны ўплыў на знешні выгляд маладога чалавека можа аказаць гладкі, яркі, залацісты плод, дыяметр якога не дасягае і трох цалей! У кішэні яго чорнай курткі яблык непрыгожа тырчаў, парушаючы строгія лініі.

Хлопец прайшоў міма старой жанчыны ў чорным і адчуў, як яна паглядзела на яго кішэню. Адна рука была ў пальчатцы, а ў другой ён нёс другую пальчатку і палку, таму несці яшчэ і яблык было нязручна. У закутку адной з дастаткова бязлюдных вуліц студэнт выцягнуў яго і паспрабаваў засунуць пад капялюш. Але яблык быў занадта вялікім, капялюш ад гэтага смешна матляўся туды-сюды. Якраз калі ён перакладваў фрукт, з-за вугла выехаў сын мясніка.

«А каб цябе!» — вылаяўся Хінчкліф.

Ён з'еў бы гэты яблык і набыў бясконцую мудрасць, але было б вялікім глупствам ісці па горадзе і есці сакавіты плод — а ён выглядаў надзвычайна сакавітым. Калі б хтосьці яго ўбачыў, у яго былі б праблемы з дысцыплінай у школе. Ад соку яго твар стане ліпкім, вопратка можа запэцкацца, а калі сок такі ж з'едлівы, як лімонны, яшчэ і плямы будуць.

Тут з-за павароту паказаліся дзве мілавідныя дзявочыя фігуры. Яны павольна накіроўваліся ў горад і шчабяталі — вось толькі павернуцца і ўбачаць расчырванелага маладога чалавека, які яшчэ і трымае нейкі бліскучы жоўты памідор! І, напэўна, будуць смяяцца з яго.

«Ат, чорт з ім!» — сказаў Хінчкліф і шпурнуў яблык за каменную сцяну фруктовага саду каля дарогі. У тое ж імгненне хлопец на некалькі секунд адчуў боль страты. Але ён хутка ўзяў палку і пальчатку ў руку і ўпэўнена, роўным крокам пайшоў наперад.

Той ноччу Хінчкліфу прысніўся сон і пра даліну, і пра вогненныя мячы, і пра маленькія дрэвы, і ён зразумеў, што гэта на самай справе быў яблык з Дрэва пазнання, а ён так неабдумана яго выкінуў. І прачнуўся вельмі няшчасным.

Раніцай шкадаванне Хінчкліфа знікла, але потым зноў вярнулася і пачало яго мучыць; але падчас хвілін радасці ці калі ён быў вельмі заняты, віна яго не турбавала. Урэшце, адной месяцовай ноччу гадзін у адзінаццаць, калі Холмвуд спаў, ён не мог знайсці сабе месца і таму вырашыў адправіцца на пошукі яблыка. Студэнт выскачыў на вуліцу, пералез цераз сцяну і пайшоў па ціхім горадзе ў бок станцыі; там ён прабраўся ў сад, дзе выкінуў плод. Але сярод роснай травы і празрыстых шарыкаў вялых дзьмухаўцоў ужо нічога не было.

*Крыніца:* http://gutenberg.net.au/ebooks06/0609221h.html#c31

*Пераклад з англійскай мовы Ганны Кастуновай.*
*Падрыхтоўка да друку Вольгі Марозавай.*

## Калекцыянер лаянкі

Разумееце, прафесар Гнільюс аб'ездзіў увесь свет уздоўж і ўпоперак, збіраючы кветкі красамоўства: нібы анёл, які ўсё запісвае, толькі без сентыментальнасці. Працей кажучы, ён даследаваў лаянку. Яго даследаванні, аднак, закранулі ў больш-менш значнай ступені толькі заходнееўрапейскія мовы. Паехаўшы на Усход, ён сутыкнуўся з такой экзотыкай, што страціў надзею запісаць хаця б галоўныя прыклады.

— Яны не лаюцца, — кажа ён, — на ручкі дзвярэй, запінкі ад сарочкі і іншыя дробязі, на якіх адводзіць душу еўрапеец. Але як пачнуць — трымайся…

— У Калькуце я наняў аднаго шматабяцальнага, па выглядзе, чалавека, і праз месяц адмовіўся плаціць яму грошы. У яго не атрымалася накінуцца на мяне з вялізным нажом, бо я зачыніў дзверы, і ён пачаў лаяцца, седзячы пад верандай з чвэрці сёмай раніцы і амаль да дзесятай і паліваючы мяне патокам нечуваных праклёнаў. Ён вылаяў увесь мой род, пачынаючы ад самой Евы па матчынай лініі, потым ненадоўга спыніўся на мне асабіста і прайшоўся па ўсіх маіх нашчадках да

самых далёкіх праўнукаў. Пасля ён грунтоўна ўзяўся за мяне. Рука стамілася пісаць — настолькі багатай была яго мова. Атрымалася дасканалая анталогія бенгальскай лаянкі — яркай, пякучай і квяцістай. Ніводнага паўтарэння. Затым ён аблаяў кожную асобную частку майго цела. Мне вельмі пашчасціла з ім. Шкада было, аднак, што гэта ўсяго толькі адзін чалавек, а ў Азіі іх шэсцьсот мільёнаў.

— Натуральна, — адказваў прафесар на маё пытанне, — без рызыкі праводзіць такія даследаванні амаль што немагчыма. Каб пачаць збіраць лаянку, перш за ўсё трэба стаць невыносным, асабліва на Усходзе, дзе праклёны звычайна спалучаюцца з пагрозамі. Вам давядзецца не на жарт раззлаваць чалавека, каб пачуць усё багацце ягонай мовы. У Англіі вы нідзе не сустрэнеце такой свабоднай, выразнай, падрабязнай і шчырай лаянкі, што, як ракета, імкнецца атакаваць ворага, — хіба што сярод простых кабет.

Але ж толькі некалькі стагоддзяў таму лаянка была звычайнай справай. Сапраўды, у Сярэднявеччы праклёны нават былі часткай судовага працэсу. Як можна даведацца з пратаколаў графскіх судоў, пацярпелы бок мог вымавіць бацькоўскі, сіроцкі ці іншы праклён. І для царквы яны таксама адыгрывалі вельмі важную ролю. Аднойчы ўсё ваяўніча настроенае хрысціянства планеты ў адзін голас праклінала на латыні Венецыянскую Рэспубліку — уявіце сабе, як велічна і імпазантна гэта было! Мне будзе вельмі шкада, калі такія старыя звычаі назаўсёды знікнуць. А па маіх падліках людзі забылі больш за палову ўсёй гатычнай лаянкі! У шатландскай і ірландскай мовах, напэўна, былі цудоўныя ўзоры; што датычыцца здольнасцей кельтаў, з іх каларытам, гарачлівасцю і незвычайнай эмацыянальнасцю, яны заўсёды абыходзілі ў лаянцы памяркоўных тэўтонцаў. Але ўсё гэта адыходзіць ў мінулае.

— Сапраўды, звычайны англічанін сёння амаль што не лаецца. Цяжка ўявіць сабе нешта больш нуднае і банальнае за тое, што ў Англіі завецца лаянкай. Гэта самая звычайная размова, толькі з выкарыстаннем пяці-шасці прыстойных абраз, устаўленых тут і там у самых нелагічных месцах. Забаўна, што ў мове ёсць прыстойныя непрыстойнасці! Памятаю, аднойчы я ехаў у бітма набітым вагоне метро трэцяга класа. Было каля гадзіны апоўдні. Пасажыры скрозь дадавалі адно і тое ж неверагодна тупое слова, але яны без сумневу лічылі сябе брутальнымі. Я не вытрымаў і папрасіў іх больш яго не ўжываць. Адзін з іх адразу пачаў: «А якога… (я нават не хачу прыводзіць тут гэты дзіцячы лепет)… якога... (зноў гэта ідыёцкае слова) ты мне кажаш, што мне рабіць?» Я спакойна глянуў паверх акуляраў яму ў вочы і пачаў. У іх, бедных, адкрыліся вочы і разявіліся ляпы. Потым тыя, хто быў бліжэй да мяне, пачалі паціху адсоўвацца, і, як толькі цягнік спыніўся на наступным прыпынку, гуртом вываліліз вагона, як ад халеры. А вымавіў я ўсяго некалькі банальнасцей, якія нечым нагадвалі праклёны паганцаў Алеппа ў бок амерыканскіх місіянераў.

— Сапраўды, — казаў прафесар Гнільюс, — калі б не жанчыны, у Англіі не засталося б нічога, што можна назваць лаянкай.

— А ці не груба так казаць аб да́мах? — запытаўся я.

— Наадварот, гэта менавіта яны вырашылі, без важнай, дарэчы, прычыны, лічыць некаторыя словы непрыстойнымі. Гэта чыстай вады ўмоўнасць, якая не мае аніякага сэнсу, бо да кожнага з гэтых слоў можна знайсці шмат так званых прыстойных сінонімаў, якія не аабражаюць вытанчаны слых. То бок, калі паненцы карціць прыцягнуць да сябе ўвагу, то варта толькі парушыць табу — і скандал гарантаваны. Але жанчыны паступова выпраўляюцца. Напрыклад, слова «чортаў», як я заўважыў, можна часта сустрэць у будуарах ці ў жаночых размовах, а заўвагі наконт яго ўжывання палічаць ханжаствам. Што тычыцца мужчын, асабліва хлюпікаў, то яны пазбягаюць ужываць

такія словы. У выніку да тых, якія часта згадваюць чорта, сябры пачынаюць ставіцца амаль як да аматараў слоўцаў кшталту «брыдкі» і «агідны». Хутка слабы пол заўважыць, як змяніліся погляды на гэта спрэчнае слова. І тады і да́мы, пэўна, пачнуць ужываць яго, і ўсе астатнія. Спачатку гэта будзе трошкі бянтэжыць. Я не сумняваюся, што некаторым захочацца пакпіць з гэтых адважных жанчын, але ж жанчына заўсёды гатова прынесці сябе ў ахвяру там, дзе гэта патрэбна. Яна, як бязбожніца, ахіне сябе праклёнамі і згіне — прынясе сябе ў ахвяру чысціні нашай мовы. І тады нарэшце знікне наша нудная лаянка, гэта прытворная грубасць. Тым лепш.

У гэтым пытанні ёсць адзін цікавы аспект, які я называю «вытанчаным брыдкаслоўем». «Рыба смярдзючая», — ускрыкнуў кароль, убачыўшы, як мужык палез на шпіль Салсберыйскага сабора. «Ён адзін можа туды лазіць, колькі пажадае, — усім астатнім забараняю!» Такія звароты мовы можна назваць «антыкварнай лаянкай». Дамы ўжываюць выразы накшталт «смярдзючы дзіркакол», а ў Брытанскім музеі я нават сустрэў варыянт «Смярдзяцтва!» Раней кожны джэнтльмен імкнуўся прыдбаць ладнае слоўца гэтак жа, як прычоску, экслібрыс ці подпіс. Такое слова з’яўлялася то тут, то там, як матылёк на карцінах Уіслера, — адметнай рысай і крыніцай захаплення.

Смярдзючы матылёк! Я нават думаў выдаць маленькі зборнічак вытанчаных слоўцаў і геральдычных блюзнерстваў, надрукаваных на найлепшай паперы з шырокімі палямі і дробнымі залатымі кветкамі на мяккай скуранай вокладцы. Цудоўны атрымаўся б падарунак на дзень народзін або проста кішэнны даведнік пад назвай: «Праклёны на кожны дзень».

Вяртаючыся да сапраўднага брыдкаслоўя, я павінен прызнаць, што мне цяжка бачыць яго заняпад. Яно было такім карысным для здароўя і настрою! Ведаеце, калі чалавека нешта раздражняе ці моцна хвалюе, мозг пачынае выпрацоўваць неверагодную колькасць энергіі. Каб яе стрымаць, трэба прыкласці пэўныя намаганні. Частка гэтай энергіі прасочыцца ў нервы твару, скажаючы яго рысы; другая частка можа прывесці ў дзеянне слёзныя залозы, а рэшта можа нават трапіць у блукаючы нерв, парушыць работу сэрца і прывесці да непрытомнасці або ўздзейнічаць на капіляры мозга, што часам заканчваецца інсультам. Калі ж энергію стрымліваць і выйсця для яе не будзе, яна можа пераліцца цераз край і тады чакайце скандалы, паламаную мэблю і нават забойствы. Для ўсёй гэтай энергіі сама прырода знайшла цудоўны выхад — добрую лютую лаянку. Усе першабытныя людзі і большасць жывёл умеюць лаяцца. Котка шыпіць толькі таму, што не жадае распаласаваць вам твар, а конь валіцца мёртвы, бо лаяцца не ўмее. Такім чынам, вы разумееце, чаму заняпад такой выдатнай, дабратворнай справы так мяне засмучае.

Аднак я мушу ісці. Цяпер я займаюся тым, што раз’язджаю па Лондане і не даю кэбмэнам на чай. Часам яшчэ можна пачуць нейкі новы выраз, але часцей адно банальнасці.

Кінуўшы мне напаследак дураслівы праклён, ён знік у клубах дыму. Збольшага вясёлы ён чалавек, хоць, трэба прызнацца, і займаецца нявартай справай.

*Крыніца:* http://www.aolib.com/reader_17508_29.htm

*Пераклад з англійскай мовы Усевалада Каваленкі.*
*Падрыхтоўка да друку Вольгі Марозавай.*

## Чырвоны пакой

— Магу вас запэўніць, — сказаў я, — што толькі вельмі адчувальны на дотык прывід здолее мяне напужаць.

З кухлем у руцэ я падышоў да агню.

— Ваш выбар, — адклікнуўся мужчына з высахлай рукой і скоса паглядзеў у мой бок.

— Я пражыў дваццаць восем гадоў, — працягнуў я, — і за ўвесь гэты час не бачыў ніводнага прывіду.

Старая сядзела, і яе вялікія бледныя вочы нерухома глядзелі ў агонь.

— Так, — нечакана падала яна голас, — дваццаць восем гадоў вы пражылі, але такі дом вы ніколі не бачылі. Шмат чаго яшчэ давядзецца пабачыць, калі чалавеку ўсяго дваццаць гадоў.

Яна марудна пахітала галавой.

— Шмат чаго пабачыць, шмат аб чым пашкадаваць.

Я падазраваў, што старыя наўмысна намагаліся зрабіць атмасферу дома яшчэ больш жудаснай. Я паставіў пусты кухаль на стол і абвёў пакой вачыма. У дзіўным старым люстры насупраць я заўважыў свой скажоны адбітак.

— Тады, калі сёння што ўбачу, — стану больш дасведчаны. Я стаўлюся да рэчаў аб'ектыўна.

— Ваш выбар, — паўтарыў мужчына з высахлай рукой.

З калідора пачуўся стук кія і шорхат крокаў па плітцы. Дзверы з рыпам адчыніліся, і ў пакой увайшоў другі мужчына, яшчэ старэйшы, больш сагнуты і зморшчаны за першага. Ён абапіраўся на мыліцу. На вачах старога ляжаў цень, а бледна-ружовая ніжняя губа напалову адвісла, паказваючы яго жоўтыя гнілыя зубы. Ён адразу рушыў да фатэля на супрацьлеглым баку стала, нязграбна сеў і пачаў кашляць. Мужчына з высахлай рукой зірнуў на старога з несхаванай варожасцю. Старая ж не звярнула на яго ніякай увагі і працягвала ўтрапёна глядзець на агонь.

— Як я сказаў — гэта ваш выбар, — прамовіў стары з высахлай рукой, калі перастаў кашляць.

— Так, мой, — згадзіўся я.

Стары з ценем на вачах нібыта толькі што заўважыў мяне. Ён на імгненне падняў галаву і крыху нахіліў яе, каб разгледзець мяне. На нейкі момант я ўбачыў яго маленькія яскравыя чырвоныя вочы. Але ён адразу адвярнуўся і пачаў зноў кашляць і кархаць.

— Выпіце, — прапанаваў мужчына з высахлай рукой і пасунуў піва ў яго бок. Рукі старога з ценем на вачах так трэсліся, што пакуль ён напоўніў сабе кухаль, палова піва апынулася на хваёвым стале. Агромністы жахлівы цень расцягнуўся на сцяне і кпліва паўтараў кожны яго рух. Прызнацца, я наўрад ці чакаў знайсці тут гэтых недарэчных старых вартаўнікоў. На мой погляд, ёсць нешта нялюдскае ў старасці, нешта зневажальнае і атавістычнае. З кожным днём чалавечыя якасці нібыта незаўважна пакідаюць старых людзей. Праз іх панурую маўклівасць, згорбленыя спіны і відавочную непрыхільнасць адзін да аднаго і да мяне я адчуваў сябе няўтульна.

— Калі, — пачаў я, — вы праведзяце мяне ў гэты ваш пакой з прывідамі, я ахвотна пераначую там.

Стары, які кашляў, так раптоўна ўзняў галаву і кінуў на мяне яшчэ адзін хуткі позірк сваіх глыбокіх чырвоных вачэй, што я здрыгануўся. Але ніхто не адказаў. Я пачакаў з хвіліну, пераводзячы погляд з аднаго на другога.

— Калі, — сказаў я крыху гучней, — вы праведзяце мяне ў гэты ваш пакой з прывідамі, я вызвалю вас ад ад неабходнасці мяне займаць.

— На століку за дзвярыма ёсць свечка, — загаварыў стары з высахлай рукой, нібыта звяртаючыся да маіх ног. — Але калі вы пойдзеце ў чырвоны пакой сёння ноччу…

— Менавіта ў гэту ноч! — прамовіла старая.

— Вам прыйдзецца ісці аднаму, — скончыў мужчына.

— Цудоўна, — адказаў я. — Як мне туды трапіць?

— Прайдзіце ўздоўж калідора да дзвярэй, за імі будзе спіральная лесвіца, — пачаў тлумачыць ён. — Падыміцеся да лесвічнай пляцоўкі, там вы ўбачыце другія дзверы, абабітыя сукном. Праз іх вы трапіце ў доўгі калідор, у канцы якога, злева ад вас, будуць прыступкі да чырвонага пакоя.

— Я правільна зразумеў? — і я паўтарыў яго словы. Ён выправіў мяне толькі адзін раз.

— І вы сапраўды пойдзеце туды? — запытаў мужчына з ценем на вачах і зірнуў на мяне трэці раз, дзіўна і ненатуральна нахіліўшы галаву.

— Менавіта ў гэту ноч! — прамовіла старая.

— Для гэтага я і прыехаў, — я рушыў да выхаду. Як толькі я зрабіў першы крок, стары з ценем на вачах падняўся і, кульгаючы, абышоў стол, каб быць бліжэй да астатніх і каміна. У дзвярах я азірнуўся: яны сабраліся разам, цёмныя цені насупраць агню, і глядзелі на мяне з аднолькавым напружаным выразам на старых тварах.

— Дабранач, — і я адчыніў дзверы.

— Ваш выбар, — пачуў я голас мужчыны с высахлай рукой.

Я пакінуў дзверы адчыненымі, але як толькі свечка пачала ззяць, зачыніў старых у пакоі і пайшоў па золкім, напоўненым рэхам калідоры.

Прызнацца, дзіўнасць гэтых трох, на каго гаспадыня пакінула замак, і цёмная старамодная мэбля пакою, у якім яны сабраліся, паўплывалі на мяне, нягледзячы на намаганні застацца абыякавым. Яны як быццам належалі іншаму стагоддзю, стагоддзю, якое мінула, стагоддзю, дзе духоўныя каштоўнасці адрозніваліся ад нашых, былі менш пэўнымі. Крой іх адзежы, аздабленне пакоя вакол іх былі прывіднымі... Ды і самі старыя, здавалася, як здані, толькі наведвалі гэты свет, а не былі яго часткай. Не без намаганняў я адагнаў гэтыя думкі.

Доўгі падземны калідор быў халодны і пыльны. Ад скразняку полымя свечкі мігцела, і па сценах скакалі трапяткія цені. Гучнае рэха блукала па спіральнай лесвіцы. За мною, крадучыся, мёў падлогу цень, а яшчэ адзін намагаўся збегчы ў цемру наперадзе. Я дайшоў да пляцоўкі, на момант спыніўся і прыслухаўся: мне здалося, што я пачуў шолах. Супакоены поўнай цішынёй, я адчыніў абабітыя сукном дзверы і ступіў у калідор.

Наўрад ці я чакаў таго, што ўбачыў: у вялікае акно насупраць параднай лесвіцы свяціў месяц, вылучаючы ўсё выразным ценем ці срабрыстым святлом. Кожная рэч была на сваім месцы: здавалася, дом пакінулі толькі ўчора, а не паўтары гады таму. У жырандолях засталіся свечкі, а пыл на дыванах і на палітураванай падлозе ляжаў такім роўным слоем, што быў нябачны у святле месяца. Я рушыў далей, але адразу рэзка спыніўся. На пляцоўцы стаяла бронзавая скульптура, схаваная ад мяне за вуглом, але яе неверагодна выразны цень, які падаў на белую плітку, ствараў ўражанне, як быццам нехта стаіўся там і пільнуе мяне. На хвіліну, мне здаецца, я знерухомеў. Пасля, засунуўшы руку у кішэню з рэвальверам, я крочыў наперад, але ўбачыў толькі Ганімеда з арлом у срэбным святле месяца. Гэта здарэнне на нейкі час вярнула мне прысутнасць духу, і нават парцалянавы кітаец, чыя галава бязгучна пахісталася, калі я мінаў яго, мяне амаль не спужаў.

Прыступкі да чырвонага пакоя знаходзіліся ў цёмным куце. Перад тым, як адчыніць дзверы, я асвяціў свечкай нішу, у якой стаяў. Менавіта тут, успомніў я, знайшлі майго папярэдніка, і гэта думка нечакана абудзіла ў мяне дрэннае прадчуванне. Я азірнуўся на Ганімеда, залітага месячным святлом, і дастаткова спешна адчыніў дзверы чырвонага пакоя, не адрываючы позірк ад бязгучнай пляцоўкі.

Я ўвайшоў, зачыніў за сабой дзверы, павярнуў ключ, які тырчаў з замка знутры, спыніўся, высока трымаючы свечку, і абвёў позіркам вялікі чырвоны пакой замка Ларэйн. Месца, дзе я збіраўся пільнаваць. Месца, дзе памёр малады герцаг. Дакладней, дзе ён пачаў паміраць, бо ён выбег з пакоя і зляцеў па прыступках, па якіх я толькі што падняўся. Так скончылася яго пільнаванне, мужная спроба абвергнуць мясцовыя паданні пра прывідаў. Але, на мой погляд, яго смерць стала лепшым пацвярджэннем гэтым забабонам. Да таго ж, за ўвесь час свайго існавання

гэты пакой аброс вялікай колькасцю сумнеўных паданняў. Гісторыя пра палахлівую жонку і яе трагічную смерць пасля няўдалага жарту мужа стала першай у іх шэрагу. Але можна было добра зразумець, чаму гэты вялікі змрочны пакой з яго чорнымі аконнымі нішамі, выступамі, паглыбленнямі і шэрымі кутамі нарадзіў столькі легенд. Святло маёй свечкі, маленькага язычка полымя ў неабдымнай прасторы, не кранала супрацьлеглы канец пакоя і пакідала цэлы акіян здагадак і таямніц за межамі гэтай выспы святла.

Я адразу вырашыў агледзець пакой і развеяць любыя ўяўленні наконт таго, што можа хавацца ў цемры, пакуль яны не авалодалі маімі думкамі. Супакоены тым, што дзверы надзейна зачыненыя, я пачаў абыходзіць пакой, заглядаць за мэблю, адхінаць і расхінаць полаг ложка. Перад тым, як зачыніць аканіцы, я адвесіў шторы і праверыў зашчэпкі на некалькіх вокнах. Потым нахіліўся і зазірнуў у чарнату шырокага коміна, нават прастукаў цёмныя дубовыя панэлі ў пошуках магчымых сховішчаў. У пакоі было некалькі свечак: у жырандолях на двух люстэрках, а таксама на камінная паліцы ў парцалянавых каганцах. Я запаліў іх адну за адной. У каміне былі дровы — нечаканая ўважлівасць з боку старога слугі — таму я запаліў агонь, каб суняць дрыжыкі. Калі полымя добра разгарэлася, я адвярнуўся і зноў агледзеў пакой. Каб перада мной атрымалася нешта кшталту барыкады, я ссунуў абабіты паркалём фатэль і стол, на які паклаў рэвальвер.

Пасля дэталёвага агляду я супакоіўся, але цёмныя куткі пакоя і поўная цішыня занадта турбавалі маё ўяўленне. Нават шорхат і трэск полымя мяне не падбадзёрылі. У прыватнасці, цень у алькове ствараў уражанне — якое так часта з’яўляецца ў цішыні і адзіноце — уражанне чыёйсьці прысутнасці, наяўнасці жывой істоты, якая хаваецца побач. Нарэшце, каб пераканацца, я зайшоў у цень са свечкай у руцэ і, канешне, нікога там не знайшоў, але ўсё роўна пакінуў яе на падлозе ў нішы.

Я ўжо быў у стане значнага нервовага напружання, хоць, на мой погляд, без пэўнай на тое прычыны. Тым не менш мае думкі заставаліся яснымі. Я пераканаў сябе, што нічога звышнатуральнага здарыцца не можа, і, каб заняць час, пачаў складаць вершы пра гісторыю гэтага месца ў стылі легенд Інголдсбі. Некалькі сказаў я вымавіў уголас, але непрыемнае рэха прымусіла мяне змоўкнуць. Праз яго ж я хутка пакінуў размаўляць сам з сабой наконт немагчымасці існавання прывідаў і зданяў. Мае думкі павярнуліся да трох сагнутых старых, якія засталіся ўнізе, і я паспрабаваў сканцэнтравацца на іх. Змрочная чырвань і чэрнь пакоя турбавалі мяне, бо, нават асветлены сям'ю свечкамі, ён заставаўся цьмяным. Тая, якую я паставіў у нішу, раз-пораз трапятала на скразняку, і ад яе мігцення цені пачыналі скакаць і дрыжэць. Я згадаў, што бачыў свечкі і ў калідоры. Крыху набраўшыся смеласці, я выйшаў у месячнае святло калідора і хутка вярнуўся яшчэ з дзесяццю. Іх я запаліў у разнастайных парцалянавых ўпрыгожаннях, якімі быў аздоблены пакой, і расставіў па падлозе і ў некаторых аконных нішах, дзе цені ляжалі гусцей. Хутка ўсе сямнаццаць свечак стаялі так, што ў пакоі не засталося ніводнага месца, куды б не траплялa святло хаця б адной з іх. Я падумаў, што, калі з’явіцца прывід, трэба папярэдзіць яго, каб не спатыкнуўся аб якую.

Зараз пакой быў даволі ярка асветлены. Было нешта вясёлае і абнадзейвальнае ў гэтых маленькіх язычках полымя. Да таго ж у мяне быў хоць які занятак, каб бавіць час, і я здымаў з іх нагар. Але гэта чаканне ў бяссоннай начы прыгнятала мяне. Прыблізна апоўначы свечка, што стаяла ў алькове, нечакана згасла, і на яе месца адразу ж скочыў чорны цень. Я не ўбачыў, як яна стухла. Я проста павярнуўся і заўважыў, што ў пакоі, як неспадзяваны незнаёмец, з’явілася цемра.

— Нішто сабе! — выгукнуў я. — Які моцны скразняк!

Я ўзяў запалкі са стала і вольнай хадой рушыў у кут, каб наноў запаліць свечку. Першая запалка не загаралася, але як толькі другая пачала ззяць, нешта міргнула на сцяне. Я мімаволі азірнуўся і ўбачыў, што дзве свечкі на маленькім століку каля каміна згаслі. Я ўсхапіўся на ногі.

— Дзіўна! Няўжо гэта я зрабіў па няўважлівасці?

Я вярнуўся да стала і ўжо запаліў адну свечку, як агеньчык ў правай жырандолі на большым люстры міргнуў і згас, у наступнае імгненне перастаў ззяць яго сусед. Зараз я не мог памыліцца. Полымя знікла, і не было ні чырвонага агеньчыка, ні дыму, быццам сціснулі кнот паміж двума пальцамі. Пакуль я стаяў, утаропіўшы позірк, патухла свечка ў галаве ложка. Цені падступілі на крок бліжэй.

— Каб вас! — і адразу спачатку адна, а пасля і другая свечка на камінная паліцы згаслі.

— Ды што такое! — у маім голасе з’явіліся надзіва высокія ноты. На гэтых словах свечка на шафе патухла, за ёй — свечка з алькова, якую я толькі што запаліў.

— Годзе! Мне патрэбна святло! — выгукнуў я істэрычна. Рукі трэсліся так, што я двойчы не цэліў па шурпатай паверхні пачка, пакуль намагаўся запаліць свечкі на камінная паліцы. Як толькі камін зноў з’явіўся з цемры, дзве свечкі ў дальнім канцы акна зніклі ў ёй. Гэтай жа запалкай я ажывіў святло ля большага люстра і на падлозе каля выхаду. На нейкае імгненне запаленых свечак стала больш, чым патухлых, але амаль адразу адначасова зніклі ажно чатыры агеньчыкі ў розных кутах пакоя. Дрыготкай рукой я хутка дастаў чарговую запалку і спыніўся, не ведаючы, з чаго пачаць.

Мая нерашучасць каштавала мне яшчэ дзвюх свечак на стале, нібыта іх згасіла чыясьці нябачная рука. Я ўскрыкнуў і, апанаваны жахам, кінуўся да алькова, потым у кут, пасля да акна. Тры агеньчыкі запалалі зноў — два на каміне зніклі. Раптоўна мне ў галаву прыйшла лепшая ідэя. Я кінуў пачак на жалезную скрыню ў куце і схапіў жырандоль: з ёй я не губляў часу на запалкі. Але святло працягвала знікаць з пакоя, і цені, супраць якіх я так змагаўся, вярталіся, паступова разрасталіся вакол мяне, як рваныя навальнічныя хмары, праз якія раз-пораз на імгненне праглядвалі зоркі, а пасля хаваліся зноў. Я амаль ашалеў ад страху цемры, якая абступала мяне ўсё шчыльней. Самавалодання зусім не засталося: я кідаўся ад свечкі да свечкі, цяжка дыхаючы, увесь раскудлачаны, у марнай барацьбе з бязлітасным змяркannем.

Я выцяўся аб стол, перакуліў фатэль, спатыкнуўся, заблытаўся ў абрусе і ўпаў. Свечка некуды пакацілася, і я схапіў яшчэ адну, як толькі ўскочыў на ногі. Але ад маіх рэзкіх рухаў свечка нечакана згасла, а за ёй і дзве апошнія. Але ў пакоі заставалася святло, чырвонае святло, якое бараніла мяне ад змроку. Камін! Канешне! Я яшчэ магу прасунуць свечку паміж прэнтаў і запаліць яе!

Я азірнуўся: языкі полымя скакалі сярод палаючага вугалля і пакідалі чырвоныя водсветы на мэблі. Але не зрабіў я і два крокі да каміна, як водсветы полымя зменшалі і зніклі, і цемра схапіла, сціснула ў абдымках, заплюшчыла мае вочы і змыла апошнія рэшткі розуму. Свяча пакацілася па падлозе. Я ўскінуў рукі ў марнай спробе адштурхнуць гэту цяжкую цемрадзь і нема закрычаў — адзін раз, другі, трэці. Пасля — я не зусім упэўнены — я ўсхапіўся на ногі. Я памятаю, што раптам згадаў заліты месячным святлом калідор і, сагнуўшы галаву і закрыўшы твар далонямі, кінуўся да дзвярэй.

Але я забыўся на іх дакладнае размяшчэнне, з усёй моцай грукнуўся аб вугал ложка, адхіснуўся, развярнуўся, і ці нехта ўдарыў мяне, ці я сам уляцеў у нейкую груваслкую мэблю. У мяне застаўся цьмяны ўспамін, як я хістаўся туды-сюды ў цемры, аб нешта стукаўся, дзіка

крычаў і ад нечага адбіваўся. Урэшце, цяжкі ўдар абрынуўся на маю галаву, і я памятаю жахлівае адчуванне падзення, што доўжылася бясконца, і адчайныя намаганні застацца на нагах. Але што было далей, я не ведаю.

Я расплюшчыў вочы: усё вакол было заліта дзённым святлом. Нехта груба перавязаў мне галаву. Стары з высахлай рукой сядзеў побач і глядзеў на мяне. Я агледзеўся, намагаючыся згадаць, што адбылося, але спачатку ў мяне не атрымлівалася. У куце я ўбачыў старую жанчыну. Яна больш не здавалася паглыбленай у свае думкі, а засяроджана капала нейкія лекі з маленькай блакітнай пляшачкі ў шклянку.

— Дзе я? Мне здаецца, я вас памятаю. Але хто вы — не магу згадаць.

Яны адказалі мне, і я выслухаў іх гісторыю пра чырвоны пакой, нібыта казку.

— Мы знайшлі вас на світанку, — сказаў мужчына з высахлай рукой, — ваш твар быў амаль увесь у крыві.

Вельмі марудна да мяне вярталіся ўспаміны пра мінулую ноч.

— Зараз вы верыце, — запытаўся стары, — што ў гэтым пакоі ёсць прывід?

Ён звяртаўся да мяне не як да нечаканага госця, а са шкадаваннем, як да хворага сябра.

— Так, у гэтым пакоі ёсць прывід.

— І вы бачылі яго. А мы, хто пражыў тут усё сваё жыццё, ніколі не бачылі яго нават краем вока. Бо мы ніколі не адважваліся… Скажыце, гэта сапраўды стары герцаг, які…

— Не, — перапыніў я, — гэта не ён.

— А я вам казала, — уставіла старая, трымаючы шклянку ў руцэ. — Гэта няшчасная маладая герцагіня, якую напужалі…

— Не, — паўтарыў я. — У гэтым пакоі не жыве ні прывід герцага, ні яго жонкі. Там увогуле не жыве ніякі прывід. Але існуе горшае, значна горшае...

— І што ж?

— Горшае з таго, што непакоіць простага смяротнага, — вымавіў я, — самае відавочнае з усяго... Страх! Бязгучны і нябачны страх, які не ведае розуму, які захлынае, пазбаўляе слыху і зроку. Ён крочыў за мной па калідоры, ён змагаўся са мной у пакоі...

Я рэзка спыніўся і крануў павязку. Нейкі час у пакоі панавала цішыня.

Стары з ценем на вачах уздыхнуў і прамовіў:

— Так і ёсць. Я ведаў гэта. Цёмная сіла — такі праклён на няшчаснай жанчыне! — заўсёды хаваецца тут: у шторах і драпіроўках, нават сонечным летнім днём. Заўсёды за спінай, куды б вы ні глядзелі. Прыцемкам яна крадзецца за вамі па калідорах, і вы не смееце азірнуцца. У тым пакоі жыве Страх, чорны Страх, і ён будзе існаваць столькі, колькі будзе стаяць гэты пракляты дом.

*Крыніца:* http://gutenberg.net.au/ebooks06/0609221h.html#c35

*Пераклад з англійскай мовы Ганны Белько, Кацярыны Балаш.*
*Падрыхтоўка да друку Вольгі Марозавай.*

**Кацярына Шчасная,**
**Анастасія Марозава**

# *Класны, клёвы, файны*. Выяўленне частотных размоўных і слэнгавых слоў сярод беларускамоўнай моладзі

Якія трапныя словы ўжывае наша моладзь у нефармальных зносінах? З чаго складаецца беларускамоўны слэнг? Ці ёсць нешта сваё, «прышпільнае»? Каб адказаць на гэтыя пытанні, мы вырашылі правесці анкетаванне[1] моладзі. У ім было задзейнічана 60 чалавек ва ўзросце ад 17 да 32 гадоў — студэнты БДУ (філолагі і матэматыкі), БДПУ імя Максіма Танка (філолагі), будучыя ўрачы з БДМУ, маладыя вучоныя НАН Беларусі, творчыя асобы і работнікі тэхнічных, юрыдычных і іншых спецыяльнасцей. Паводле месца нараджэння — гэта прадстаўнікі Мінска (18 чалавек) і ўсіх шасці абласцей Беларусі, а таксама дзве ўраджэнкі Украіны і Расіі. Фактарам аб'яднання ўдзельнікаў апытання выступіла кантактаванне на беларускай мове ў нефармальных зносінах. Анкеты паказалі, што 20% апытаных размаўляюць па-беларуску заўжды, 35% — часта; для перапіскі праз смс, сацыяльныя сеткі і інш. выкарыстоўваюць беларускую мову 23% заўжды, 30% — часта. Пятая частка рэспандэнтаў указала, што ўжывае беларускую мову ў залежнасці ад сітуацыі, у прыватнасці, калі да іх звяртаюцца па-беларуску. На беларускасць моладзі ў першую чаргу ўплываюць сябры (25%), затым — выкладчыкі (22%) і сям'я (10,5%). Беларускасць прыходзіць таксама праз літаратуру (8%), рэлігію, музыку і інтэрнэт. У той жа час аддаюць перавагу рускай мове ў 27% выпадкаў для перапіскі, у 12% выпадкаў — у размове, некаторыя кантактуюць з бацькамі толькі па-руску.

Для анкеты былі падабраны 37 слоў-стымулаў (‘добры чалавек’, ‘дзяўчына/хлопец у стасунках’, ‘веласіпед’ і інш.), на якія рэспандэнты пісалі свой слэнгавы адпаведнік, якім часцей за ўсё карыстаюцца ў адпаведнай сітуацыі маўлення. Праўда, не заўсёды маладыя рэспандэнты маглі падабраць пэўнае размоўнае слова да апорнага. Працэнт «нулявых адказаў» склаў ад 7% да 20%. Пераважную большасць прочыркаў можна было ўбачыць у адказах на стымулы станоўчых найменняў. Папершае, гэта звязана з большым экспрэсіўным уздзеяннем на асобу негатыўных тэм (‘чалавек, які не падабаецца’, ‘пітушчы чалавек’) у параўнанні з пазітыўнымі. Па-другое, з разуменнем беларускай мовы як сродку літаратурнага, адукацыйнага карыстання. З мовай нефармальных стасункаў, «вострых» слоўцаў у большай ступені асацыіруецца руская. Пры пераходзе на беларускую (у чымсьці гэта станоўчы момант) грубая лексіка мала ўжываецца. Акрамя таго, некаторыя прызнаваліся, што іх беларускамоўнае кола — выкладчыкі, сяброўка і «пара хіпстараў», а хочацца больш размаўляць па-свойму. Патрэцяе, лінгвістычны матэрыял выявіў, на жаль, сціплы побыт моладзі: невысокі працэнт адказаў у тэме ‘дарагое адзенне’, а высокі — у тэме ‘піць спіртныя напоі’.

## На захадзе — *файна*, на ўсходзе — *нішцяк*

Уласнабеларуская размоўная[2] лексіка прадстаўлена экспрэсіўнымі словамі як грубымі: *боўдзіла*, *доўбень* (дз., 19 г.), *паскуда* (дз., 19 і 20 г., хл., 28 г.) ‘дрэнны чалавек’, *таптаць* ‘есці’ (дз., 20 г.), так і ласкальнымі: *сонейка* (дз., 19 і 20 г.) ‘добры чалавек’. Дарэчы, чатыры асобы ў якасці любімага слова назвалі *каханне*. Для выражэння настрою апытанымі ўжываюцца наступныя назоўнікі: *жах* ‘дрэнная з'ява’ (дз., 20 г.) і *цуд* ‘што-небудзь цікавае’ (хл., 28 г.). Пэўную папулярнасць мае назоўнік

[1] Анкетаванне было праведзена ў межах праекта Беларускага рэспубліканскага фонду фундаментальных даследаванняў.

[2] У артыкуле выкарыстаныя наступныя тэрміны згодна з даведнікам: Стариченок, В. Д. *Большой лингвистический словарь* / В. Д. Стариченок. — Ростов н/Д: Феникс, 2008. — 811 с. **Размоўная лексіка** — словы і выразы, якія ўжываюцца ў непасрэднай, неафіцыйнай размове і характарызуюцца зніжанай стылістычнай афарбоўкай. **Вульгарызмы** — прастамоўныя словы ці выразы, якія характарызуюцца большай ступенню грубасці. **Жаргон** — сацыяльная разнавіднасць маўлення, якая абслугоўвае групы людзей, аб'яднаных агульнасцю інтарэсаў, звычак, прафесійных навыкаў, сацыяльнага становішча, узросту і г.д. (спартсмены, моладзь, гульцы ў карты). **Слэнг** — сацыяльная разнавіднасць мовы, якая выступае ў якасці сродку кантактавання людзей пэўных прафесій і інтарэсаў, сацыяльных праслоек, маргінальных груп, а таксама нефармальнай моладзі. Часта выкарыстоўваецца як сінонім да слова *жаргон*.

Замест «прывет» моладзь пачынае ўжываць «вітаю, вітанкі». Аднак некаторыя асобы адмоўна выказаліся наконт замены «мабільніка» на «далькажык»

*агонь*, які выражае эмоцыі адносна чаго-небудзь добрага ці цікавага (4 чал., хл. і дз. 17—19 г.). 25% удзельнікаў анкетавання называюць дзяўчыну ў размоўнай форме *дзеўка* (што, дарэчы, не мае грубага значэння, як, напрыклад, *девка* ў рускай мове), 11% — у нейтральнай форме *дзяўчына, дзяўчынка*. Нейтральная намінацыя *хлопец (хлапец, хлопчык)* у роўнай ступені канкурырue з размоўнай *пацан/пацанчык* (хл. і дз., пераважна ад 17 да 20 г.), якая мае блатное паходжанне, мова-крыніца — ідыш. Добры працэнт адказаў набрала літаратурнае *быць у гуморы* і *весяліцца* ‘добры настрой’, якое сінанімічна з *клёвым, класным настроем*. Значэнне ‘добры чалавек’ рэалізавалася праз моладзевыя прыметнікі *класны* (7 адказаў), *клёвы* (7 адказаў). Беларускае размоўнае слова *файны* ўказалі 6 ураджэнцаў Мінска, Брэсцкай, Гомельскай, Віцебскай абласцей. Як любімае слова *файнае, файна* ў значэнні ‘добрая з’ява’, ‘нешта цікавае’ таксама назвалі 6 ураджэнцаў Мінска, Мінскай і Брэсцкай абласцей, Украіны (дзве дзяўчыны — паўторна). Большасць адказаў адпавядае ўжыванню на тэрыторыі заходнебеларускіх гаворак дыялектнага *файны* (ідэнтычнае польск. fajny ад ням. fein)[3]. Удакладнім, што ва ўкраінскай мове *файний* — размоўнае слова (заходнеўкраінскае)[4]. Цікава, што ў значэнні ‘добрая з’ява’, ‘нешта цікавае’ слова *файна* на ўсходзе Беларусі канкурырue са слэнгавым *нішцяк* (6 чалавек, ураджэнцы Мінска, Мінскай і Гомельскай абласцей, Расіі). Аднак «пераможцам» з’яўляецца прыметнік *круты* і вытворныя ад гэтай жа асновы *круць, круцяк*, якія выкарыстоўваюцца для абазначэння ‘добрай або цікавай з’явы’, ‘добрага настрою’, ‘чалавека, які падабаецца’ і выказвання эмоцый у 15 рэспандэнтаў (25% ад агульнай колькасці), прычым у трох студэнтак пастаянна для розных паняццяў. Чацвёра ўказалі новае размоўнае слова *цікавостка* ‘нешта цікавае’ (хл., 19 і 27 г., дз., 20 і 30 г.).

## Хаю-хай, красаўчык!

На ўзнікненне слэнгавых ці размоўных слоў своеасаблівым чынам уплывае ўласнае жыццёвае асяроддзе, грамадскі статус. Так, напрыклад, два жанатыя хлопцы (29 і 32 г.) ‘дзяўчыну ў стасунках’ называюць проста *жонка*, калі іншыя — *каханка, яго/мая дзяўчына, малая* і інш.; адна дзяўчына ахоўнікаў правапарадку ў размовах называе *Юрка* — па імені свайго знаёмага міліцыянера. Або лексемы, звязаныя з прафесіяй апытанага: *брычка* ‘аўтамабіль’ (дзяўчына-гісторык), *лактаць* ‘піць спіртныя напоі’ (хімікі), *Ёрык* ‘чалавек, які не падабаецца’ (дзяўчына-перакладчык замежнай літаратуры).

Сярод філолагаў заўважаецца цытаванне вядомых літаратурных выразаў, асабліва калі яны маюць экспрэсіўны характар: *тудэма-сюдэма* (дз., 17 г.), *каханенькі-родненькі* (дз., 20 г.) — абодва з «Паўлінкі» Янкі Купалы, *на люстра неча пеняць, калі рожа крыва* (дз., 17 г.) — з байкі Івана Крылова «Мартышка и очки», а таксама ўкрапленні рознага роду літаратурных і слэнгавых слоў з той замежнай мовы, якая вывучаецца: англ. *don’t intresting* ‘нешта нецікавае’ (дз., 19 г.), *камурка* < польск. слэнг. *komórka* ‘мабільны тэлефон’ (дз., 19 г.), *справа швах* ‘дрэнная з’ява’ < ням. *schwach* ‘кепска, слаба’ (дз., 32 г.).

У слэнзе беларускай моладзі функцыянуюць розныя неславянскія запазычанні: *чыка* < ісп. chica (4 адк.) і *цян* < яп. ‘дзяўчына’ (3 адк., верагодна, з мовы геймераў і прыхільнікаў анімэ), *кул* < англ. слэнг. *cool* ‘цудоўна, здорава’ — 3 адк.), *не айс* ‘нешта нецікавае, няякаснае’ — пераасэнсаванне рэкламы жуйкі «Stimorol ice», дзе *ice* < англ. ‘лёд’ (хл., 32 г.), *мерч* < англ. слэнг. *merch* ‘адзенне з фанацкай атрыбутыкай’, ‘фірмовае адзенне’ (хл., 27 г.), *гут* < ням. *gut*

---

[3] Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. / рэд.: Ю.Ф. Мацкевіч. — Мн.: Навука і тэхніка, 1986. — Т. 5: С—Я. — 563 с.— С. 258—259.

[4] Великий тлумачний словник сучасної української мови / Уклад. і голов. ред. В. Т. Бусел. — Київ: Ірпінь, ВТФ «Перун», 2001. — 1440 с. — С. 1314.

‘нешта добрае, цікавае’ (хл., 31 г.), аднак яны не складаюць вялікага працэнта ад адказаў у апісанні побытавых з’яў. Пэўным чынам уразіла, што ў словах для вітання англіцызмы *хай, хэлоў* і іх варыянты *хаюшкі, хаю-хай* занялі «трэцяе месца» з 22,3% пасля адказаў *прывітанне, прывет, прывітулі* (24%), *здароў, здарова* (24%). Значыць, пры ўмове нескладанага вымаўлення і зразумеласці значэння запазычанне можа заняць высокія пазіцыі, выцесніўшы з ужывання ўласнабеларускія словы.

Як рэакцыя на празмернае запазычанне ўзнікае з’ява моўнага пурызму[5] (франц. *Purism,* ад лац. *purus* ‘чысты’) — свядомага імкнення носьбітаў ачысціць мову ад слоў іншамоўнага паходжання, неалагізмаў, прастамоўяў і інш. У сучаснай беларускай мове пурызм праяўляецца пераважна ў замене лексікі, агульнай з рускай мовай, на адметную ўласную: дыялектную лексіку, вернутыя з пасіўнага запасу словы (зафіксаваныя ў слоўніках 1920—1930-х гг.), аўтарскія наватворы. Ёсць словы, якія можна адначасова аднесці як да ка́лек з рускай мовы, так і да адзінак, утвораных на ўласным моўным матэрыяле: *дзіч* ‘нешта незразумелае’, *музон, шмоткі.* Частка рускамоўных адзінак у беларускім вымаўленні засвойваецца ў выглядзе т.зв. «трасянкі»: *ерунда, галубы, зачотны, стромны, брэд.* Пошук лепшых шляхоў адаптацыі прыводзіць да стварэння ўласных адпаведнікаў: *красаўчык, красава* і *прыгажун, двіж — варушняк, прыкол* і *прышпіл*. Замест *прывет* моладзь пачынае ўжываць *вітаю, вітанкі*. Аднак некаторыя асобы адмоўна выказаліся наконт замены *мабільніка* на *далькажык* (аўтарскае слова Л. Дранько-Майсюка), *веласіпеда* — на *ровар, кашалька* — на *гаманец*. Папулярнай зараз лексеме *кавярня*, вернутай ў афіцыйны ўжытак з 1920-х гадоў[6] (ідэнтычнае польск. *kawiarnia*), з 16% адказаў склалі канкурэнцыю нарматыўнае *кафэ*[7] (16%) і размоўнае *кафэшка* (23%).

## *Ровар* і *велік* даганяе *лясік*

Мы не маглі абысці тэму веласпорту, папулярнага сярод моладзі. Тым больш, што сёння замест *веласіпед* даволі часта кажуць *ровар* — слова, якое з дыялектнага праз беларускамоўную моладзь перайшло ў фактычна літаратурнае (напрыклад, акцыя бясплатнага пракату «Добры ровар», майстэрня «Ровар» у Магілёве і нават «колаўтыркалка для ровараў» каля адной мінскай крамкі). У нашых рэспандэнтаў слова *ровар* «заняло лідарства», набраўшы 27 адказаў, прычым ва ўраджэнцаў розных частак Беларусі, што пацвярджае факт яго распаўсюджанасці. Паводле «Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак» (Т.2, карта № 92, 1994 г.), *ровар* характэрны для лексікону жыхароў Заходняй Беларусі ад Міёрскага раёна, Валожына, Узды і да Лунінца. Назва *ровар* запазычаная праз польскую мову (rower) з англійскай — ад назвы англійскай фірмы Rover, якая ў пачатку XX стагоддзя выпускала веласіпеды. Дарэчы, у англійскай мове rover — ‘вандроўнік’. Амаль аднолькавая колькасць асоб называе веласіпед *велікам* (25 адк.) і двое — зусім скарочана, *вел-ам*. Пры гэтым 5 чалавек далі паралельныя адказы *велік* і *ровар*. Акрамя таго, у анкетах сустрэліся найменні *лісапед* (хл., 28 г., Магілёў), *лісапета* (дз., 19 г., Гомельская вобл.), якія ў дыялектнай мове сустракаюцца ў цэнтральным і ўсходнім рэгіёнах Беларусі і падзяляюць тэрыторыю ўплыву з *роварам*. Цікава, што 17,3% адказаў змяшчала слова *лясік* (пераважна ў асоб 17—19 г.). Верагодна, гэта скарачэнне ад дыялектнага *лісапед*, якое праявілася якраз у прадстаўнікоў адпаведнага рэгіёна. Але, мяркуем, больш паўплывала сяброўскае кантактаванне: большасць адказаў у студэнтаў БДПУ імя Максіма Танка. Пэўную «навізну» слова пацвярджае і яго абмеркаванне на http://forum.lingvo.ru[8], дзе мадэратар выявіла высокую частотнасць «*лясіка*» ў інтэрнэт-паведамленнях моладзі г. Масквы і Санкт-Пецярбурга (Расія), г. Нарва (Эстонія), Латвіі

[5] Стариченок, В. Д.Большой лингвистический словарь/ В. Д. Стариченок, 2008. — 811 с. — С. 508.
[6] Байкоў, М. Я. Беларуска-расійскі слоўнік / М. Я. Байкоў, С. М. Некрашэвіч. — Менск: Дзярж. выд. Беларусі, 1925. — 365 с. — С. 138.
[7] Слоўнік беларускай мовы/ НАН Беларусі; уклад.: Н. П. Еўсіевіч [і інш.], навук. рэд. А. А. Лукашанец, В. П. Русак. — Мінск: Беларус. навука, 2012. — 916 с. — С. 344.
[8] [X] malinxi. Лясик, он же велик [Электронны рэсурс] / [X] malinxi // Рэжым доступу: http://forum.lingvo.ru/actualthread.aspx?bid=26&tid=127954&hl= %eb %ff %f1 %e8 %ea. — Дата доступа: 07.09.2010.

Цікава, што ні «веласіпед», ні «ровар», якія карыстаюцца аўтарытэтам у беларускамоўнай моладзі, не зафіксаваныя ў лексікаграфічных крыніцах 1920-х гадоў

і Беларусі. Больш упэўнена можна сказаць, што вытворным *лясіка* выступае рускае *велосипед* (з франц. velocipede, ад лац. *velox, -ocis* 'хуткі' + pes, pedis 'нага'), а размоўная дэфармацыя адбылася ў двухмоўным або шматмоўным асяроддзі і пашырылася праз стасункі ў сетцы.

Цікава, што ні *веласіпед*, ні *ровар,* якія карыстаюцца аўтарытэтам у беларускамоўнай моладзі, не зафіксаваныя ў лексікаграфічных крыніцах 1920-х гадоў. Да першага пісьмовага ўжывання можна аднесці цытату з «Нашай Нівы» (№ 24 за 1914 г.): *Каля мяне прагудзела на* ***веласіпедзе*** *паненка з двума панічамі*[9]. У «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы», «Слоўніку беларускай мовы» пад рэд. М. В. Бірылы (1987) *ровар* падаецца з паметай *абл.* (абласное). Слова *ровар* ужо трапіла ў апошнія акадэмічныя слоўнікі, што фактычна гаворыць пра яго нарматыўнасць. Аднак за працяглы час існавання ў беларускай мове з'явіўся шэраг новых адзінак з часткай *вела-: веладром*, *веласіпедыст, велакрос, велатрэк, велатур*. Працэс словаўтварэння закрануў і лексему *ровар*, ад якой вядомыя вытворныя словы *раварыст* і *роварны.* І часам можна ўбачыць у адным кантэксце няўдалы «сімбіёз» найменняў, атрыманых ад розных асноў: *На фінішы* ***веласезона*** *ў Брэсце з'явіліся новыя* ***роварныя дарожкі*** (http://www.bk-brest.by/2014/11/10033).

## Мані ў гаманцы

У намінацыі '*кашалёк*' канкурыруюць пурыстычная адзінка *гаманец* (11 адк., пераважна сярод моладзі ад 28 г.) і нарматыўнае нейтральнае слова *кашалёк* (13 адк.). Паходжанне слова *гаманец* з'яўляецца спрэчным, адна з версій — турэцка-арабскае слова Hammāl[10]. ***Гы****манец* зафіксаваны ў «Краёвым слоўніку ўсходняй Магілёўшчыны» І. К. Бялькевіча (1970) як памяншальнае ад *гыман* 'торбачка, машна для грошай'. Ва ўкраінскай мове *гаманець* — літаратурнае слова. Аднак у рэспандэнтаў з

Табліца 1. Абазначэнне веласіпеда ў маўленні моладзі (колькасць адказаў)




[9] Слоўнік мовы «Нашай Нівы» (1906—1915): у 5 т. / Уклад. А. М. Анісім [і інш.]; пад рэд. В. П. Лемцюговай. — Мінск: Тэхналогія, 2003. — Т. 1: А—Д — 624 с. — С. 285.

[10] Этымалагічны слоўнік беларускай мовы: у 8 т. / Р. У. Краўчук [і інш.]; рэд. В.У. Мартынаў. — Мінск : Навука і тэхніка, 1985. — Т. 3. Г—І. — 408 с. — С. 39—40.

Магілёўскай вобласці і ўраджэнкі Украіны не было такіх адказаў — іх далі ўраджэнцы Мінска (5), Гомельскай (5) і Віцебскай вобласці (1). Хутчэй за ўсё *гаманец* папулярызуецца праз розныя грамадскія праекты аб беларускай мове. Так, у праграме «Мова нанова» (тэма «Крама», 07.02.2015) у тэсце па беларускай мове, праведзеным пры падтрымцы гадзіннікавай кампаніі «Луч» (http://citydog.by/post/test-mova), *гаманец* быў пададзены як сапраўднае беларускае слова, якое ўсе павінны ведаць. Пакуль яно не стала літаратурным, а з'яўляецца своеасаблівым маўленчым маркерам беларускамоўных асоб. Рэспандэнты ўказвалі таксама дыялектныя варыянты да *кашалька*, характэрныя для заходняй часткі Беларусі: *кашэль, кашыль* 'вялікі кошык', бел. *кашолка* 'плецены кошык' (ураджэнкі г. Мінска, г. Мядзела, г. Каменца). У адказах сустрэўся варыянт *лапатнік*, які ў крымінальнай мове абазначае 'вялізны мужчынскі кашалёк', па аналогіі з *лапатай*[11] (ураджэнкі г. Маладзечна, Лагойскага р-на, Расіі). Дадаткова прадстаўленыя некаторыя назвы тыпаў кашалька: рус. *зажым* 'для банкнот', *манетніца* 'для манет', *партманэ* 'для купюр і манет', пурыстычная адзінка *папернік* (дз., 20 г.) 'для папяровых купюр' (параўнаем рус. *бумажник*) і аналагічнае па мадэлі ўтварэння слова *грашоўнік* (хл., 29 г.), а таксама некаторыя прадметы для захоўвання грошай: *кішэнька, скрыня, торбачка.* Аднак трэцяя частка апытаных (20 чалавек) не дала ніякага адказу, бо, верагодна, не карыстаецца кашальком, аплачвае пакупкі карткай, называе на слэнзе самі грошы (*бабкі, мані*).

Табліца 2. Абазначэнне кашалька ў маўленні моладзі (колькасць адказаў)




[11] Зугумов, З. М. Русскоязычный жаргон. Историко-этимологический толковый словарь преступного мира / З. М. Зугумов. — М.: Книжный мир, 2014. — 728 с. — С. 333.

Пэўная лексічная абмежаванасць — праблема студэнтаў, у будучым — маладых выкладчыкаў. Сваю ролю тут адыгрываюць масавая культура, інтэрнэт, дзе грубае слаўцо — спосаб прыцягнуць увагу гледача і слухача, а частае выкарыстанне практычна выводзіць іх з кола лексікі абмежаванага ўжытку. Перш чым прывыкаць да слова, варта ведаць яго вытокі

## Каб не скаціцца ў вульгарызм

Выражэнне негатыўных эмоцый можа суправаджацца грубай, абразлівай лексікай. Паколькі ўсе нашы рэспандэнты — з інтэлігентных колаў, а ў анкеце ўказваліся імёны і прозвішчы, то працэнт ужывання менавіта нецэнзурнай лексікі і вытворных ад яе — мінімальны. Аднак звярнула на сябе ўвагу частотнасць некаторых вульгарызмаў. Так, прыметнік *афігенны* ‘добры чалавек, з’ява’, назоўнік *фігня* ‘нешта нецікавае’, вытворныя ад іх выклічнікі ўжывае 27% апытаных, пры гэтым дзве студэнткі — пастаянна. Само слова *фіга* ‘кукіш’ паходзіць ад французскага *faire la figue* ‘здзекавацца з каго-небудзь’, італьянскага *far la fica* ‘паказваць кукіш’, якое мела непрыстойны змест[12]. Яшчэ адно з частотных слоў — *адстойны* (рус. *отстойный*), значэнне якога ў беларускай і рускай мовах узыходзіць да ‘асадак; тое, што асела на дно’. Гэта слова сустрэлася ў 13 асоб, двое дзяўчат ужываюць яго з некалькімі значэннямі. На жаль, у адной дзяўчыны (19 г.) большасць паняццяў рэалізуецца ў маўленні праз лексіку з каранямі *крут-*, *адстой*— і *-фіг-*. Пэўная лексічная абмежаванасць — праблема студэнтаў, у будучым — маладых выкладчыкаў. Сваю ролю тут адыгрываюць масавая культура, інтэрнэт, дзе грубае слаўцо — спосаб прыцягнуць увагу гледача і слухача, а частае выкарыстанне практычна выводзіць іх з кола лексікі абмежаванага ўжытку. У трох сябрукоў-студэнтаў сустрэлася слова *зашквар*, якое, нягледзячы на, можна сказаць, «смачныя асацыяцыі», мае негатыўнае значэнне ‘няёмкае становішча, нешта дрэннае’ і вельмі «бруднае» турэмнае паходжанне[13]. Значыць, перш чым прывыкаць да слова, варта ведаць яго вытокі.

Падчас апытання выявіліся пэўныя формы эўфемізацыі грубай лексікі: вядомыя *піпец* і *пісец*, ужыванне слоў дзіцячай мовы: *бяка, фу-фу, пічалька*. У беларускамоўнай моладзі актывізавалася слова *лайно* (7 адказаў), якое гучаннем і дыялектным значэннем ‘хлам, смецце’ зніжае вульгарнае *г*** (ва ўкраінскай мове *лайно* і *г*** — сінонімы).

Як бачым, маўленне беларускай моладзі ўключае ў сябе экспрэсіўную і дыялектную лексіку, размоўныя адзінкі рускамоўнага паходжання і агульныя з рускай мовай паводле ўтварэння, замежныя слэнгавыя словы і літаратурныя ў значэнні слэнгавых. Пры гэтым не ўсе жаргонныя намінацыі з рускай мовы пранікаюць у беларускую, што не адпавядае вобразу інтэлігента. І тут ёсць рацыя: адна справа, калі моладзь карыстаецца дасціпнымі аўтарскімі слоўцамі, каб узбагаціць і расквеціць уласнае маўленне, іншая — калі жарганізмы ўжываюцца адначасова для выражэння некалькіх значэнняў, што звужае лексічны запас чалавека і ў асобных выпадках парушае межы прыстойнасці. Лексічным маркерам беларускамоўнай моладзі выступаюць пурыстычныя адзінкі, якія могуць перайсці з абмежаванага ўжывання ў нарматыўнае. Важна, каб для большага кола нашай моладзі беларуская мова станавілася сродкам нефармальнага кантактавання, праз якое можна было б «кшталтаваць» размоўную лексіку і ствараць сваё адметнае.

[12] Черных, П. Я. Историко-этимологический словарь современного русского языка: в 2 т. / П. Я. Черных. — М.: Рус. яз. Медиа, 2004. — Т. 2. Панцирь—Ящур. — 560 с. — С. 309—310.
[13] Зугумов, З. М. Русскоязычный жаргон / З. М. Зугумов. — Книжный мир, 2014. —727 с. — С. 232.

**Кацярына Светластражава**

# Капітан Фантастык

*(не)фантастычная рэцэнзія*

Трагікамедыя рэжысёра Мэта Роса ўбачыла свет зімой 2016 года, да краін СНД дабралася толькі летам. Аднак у нашай краіне паказ фільма суправаджаўся шэрагам перашкод. Спачатку кінатэатры прааннансавалі стужку, потым яна не з'явілася ні ў адным з іх. Прыйшлося за пракат незалежнага амерыканскага фільма брацца праекту Cinemascope, выпускаць яго з субтытрамі ў тых нешматлікіх кінатэатрах горада, якія ўсё яшчэ ставяць якасць фільма вышэй за колькасць спецэфектаў ў ім.

«Капітан Фантастык» або «Фантастычны капітан» распавядае пра сям'ю, якая адмовілася ад выгод цывілізацыі і жыве на прыродзе. У гэтай сям'і шасцёра дзяцей, якія маюць выдатную хатнюю адукацыю: разбіраюцца ў квантавай фізіцы, філасофіі і ведаюць некалькі моў. Самі вырошчваюць і здабываюць сабе ежу, палюючы на дзікіх жывёл, умеюць абыходзіцца са зброяй, ведаюць усё пра расліны. Яны жывуць у лесе ў поўнай гармоніі з прыродай: прачынаюцца з першымі прамянямі сонца, развіваюцца фізічна і часам ходзяць голымі. Дзівосны рай. Але гэтыя дзеці нічога не ведаюць аб рэальным свеце і тых норавах і парадках, што пануюць там. Таму вымушанае сутыкненне з цывілізацыяй траўміруе іх.

Мэт Рос вядомы ў асноўным па сваіх акцёрскіх работах у серыялах, напрыклад, «Крамянёвай даліне». Дэбютны поўны метр — малавядомы фільм «28 спальняў». «Капітан Фантастык» — яго другая праца як рэжысёра, і, трэба сказаць, вельмі ўдалая. На Канскім фестывалі Рос атрымаў узнагароду у дадатковай праграме як лепшы рэжысёр.



«Капітан Фантастык» ставіць важкае пытанне аб сістэме выхавання. Бэн Кэш — бацька сямейства — літаральна зразумеў думку «не падабаецца свет — ствары свой уласны» і разам з жонкай пабудаваў ідэальнае, на іх думку, грамадства. Тут ёсць свае плюсы: дзеці Бэна настолькі разумныя, што могуць без складанасцей паступіць у любы прэстыжны ўніверсітэт ЗША і ў восем гадоў разумеюць сутнасць Біля аб правах. Яны моцныя не толькі разумова, але і фізічна, ведаюць усё пра выжыванне ў дзікім асяроддзі, але да жыцця ў рэальным свеце зусім не гатовыя. Бо утапічнае грамадства, якое пабудавалі іх бацькі, адсякае ўсе праявы «нізкай» культуры, адхіляе існуючыя ў традыцыйным грамадстве каштоўнасці, вераванні і стэрэатыпы, ставіць на іх месца свае. Навошта святкаваць прыезд міфічнага дзядка з барадой, калі лепш ушанаваць нараджэнне вялікага філосафа Ноама Чомскі?

У гэтым утапічным грамадстве няма ніякай цэнзуры: дазваляецца лаяцца матам, чытаць любыя кнігі. Ніхто не хлусіць, у тым ліку дзецям — ім паказваюць праўдзівы свет, не перабольшваючы і не абараняючы іх ад жорсткай рэальнасці. Тут дзяцей слухаюць, паважаюць іх меркаванні, бо гэта меркаванні адукаваных і ўсебакова развітых асоб, меркаванні вартых апанентаў, нават калі ім толькі восем гадоў.

Грамадства, якое стварыў Бэн, не толькі замкнёнае і статычнае, але яшчэ радыкальнае і таталітарнае. Так, у дзяцей ёсць права голасу, іх меркаванні паважаюць, але тым не менш яны выраслі ў штучным асяроддзі і не ведаюць альтэрнатывы. Як могуць яны аспрэчыць выбар свайго бацькі і выбрацца ў свет, калі нават не ведаюць, што гэты свет можа ім прапанаваць? Ніхто з іх так і не задумаўся б аб правільнасці выбару Бэна, калі б акалічнасці не сутыкнулі іх з сучасным грамадствам. Маці сямейства памерла — скончыла жыццё самагубствам з прычыны псіхічнага захворвання. Сям'я выбіраецца з глушы, каб трапіць на пахаванне і развітацца з маці, якая апошнія некалькі месяцаў правяла ў клініцы. Тут юныя рабінзоны сутыкаюцца з непаразуменнем, няведаннем відавочных рэчаў і трапляюць з адной



Мэт Рос — не Макаранка, ён не дае адказ на пытанне, як варта выхоўваць дзяцей. Паказваючы плюсы і мінусы «ляснога» выхавання, ён прыводзіць галоўнага героя да ўсведамлення памылковасці сваёй радыкальнай пазіцыі і прапануе яму нешта прамежкавае

недарэчнай сітуацыі ў іншую. Сучаснае грамадства выклікае ў іх шок: яны палохаюцца прыставак і тэлевізараў, а адзін сын робіць прапанову рукі і сэрца першай дзяўчыне, якая яму трапілася.

Мы бачым, што Бэн —зусім не ідэальны бацька: ён рызыкуе жыццём дзяцей, патураючы сваёй упартасці. Але як складана паверыць у яго неідэальнасць, калі бачыш, як гэты герой прызнае свае памылкі, паважае пазіцыю дзяцей, размаўляе з імі і вядзе сябе сумленна.



Мэт Рос — не Макаранка, ён не дае адказ на пытанне, як варта выхоўваць дзяцей. Паказваючы плюсы і мінусы «ляснога» выхавання, ён прыводзіць галоўнага героя да ўсведамлення памылковасці сваёй радыкальнай пазіцыі і прапануе яму нешта прамежкавае, тое, што не вырывае дзяцей з соцыума, але і дазваляе выхоўваць іх у сваім ключы. Сюжэт падводзіць да высновы, але ўсё ж не дае адназначнага адказа. Сказаць, ці прыйдзе глядач да такой жа думкі пасля прагляду, нельга.

Фільм названы камедыяй, але вельмі складана знайсці тут нешта смешнае або парадыйнае. Гэта хутчэй трагедыя ці драма, якая дае цікавую тэму для роздуму. Сам па сабе фільм павольны: вельмі шмат сцэн прыроды, сямейнай ідыліі, але глядзіш яго бадзёра, на адным дыханні. Яркі візуальны шэраг, музычныя ўстаўкі не даюць карціне скаціцца ў суцэльную філасофію і развагу. Добрая акцёрская праца, асабліва добра іграюць дзеці. Джордж МакКэй выдатны ў сваёй ролі.

## Восень колеру снегу…

На гэтых старонках студэнты Інстытута журналістыкі БДУ дзеляцца ўражаннямі ад выстаўкі сваёй амаль аднагодкі, лаўрэата спецыяльнага фонда Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі Алесі Скарабагатай.

А дакладней, праз яе творы вядуць з ёю дыялог.

Так сталася, што менавіта на старонках «Маладосці» пару гадоў таму выхаванцы кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі пісалі пра юбілейную выстаўку выдатнага беларускага мастака, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, прафесара, загадчыка кафедры манументальна-дэкаратыўнага мастацтва Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Уладзіміра Зінкевіча, які адным з першых адкрыў і падтрымаў унікальны талент Алесі Скарабагатай, быў яе настаўнікам, кіраўніком дыпломнай працы (дыптых «Дзень» і «Ноч» цяпер упрыгожвае адну з залаў Пасольства Рэспублікі Беларусь у Азербайджане. На выставе, з якой мы сёння знаёмімся, экспанаваліся аўтарскія варыянты гэтых работ). Часопіс «Маладосць» адным з першых апублікаваў карціны Алесі Скарабагатай, а маладыя мастацтвазнаўцы і журналісты паспрабавалі вызначыць стыль, у якім яна працуе (гл. «Маладосць», № 10, 2015 г.). І вось — персанальная выстаўка Алесі Скарабагатай з інтрыгуючай назваю «Таямніца» ў «Галерэі ДК».

Экспазіцыя была арганізавана настолькі дасканала, што варта было прыгледзецца, прыслухацца — і можна было не толькі ўбачыць, адчуць гармонію Яе колераў, але і пачуць музыку, Яе музыку.

Новая серыя «Лес» гучала, як сімфонія. Алеся Скарабагатая любіць чысціню і беласць. Яе лес не змрочны, а празрысты. І нават зламаныя, парослыя мохам галінкі, з такой любасцю зрэзаныя грыбы ствараюць ілюзію гучання струнных, духавых, цэлага сімфанічнага аркестра…

Не дзіўлюся, што маладыя журналісты пісалі не толькі эсэ, але і вершы. І на выставу ў «Галерэю ДК» штовечар стаялі чэргі — рэдкі сёння выпадак!

Маючы магчымасць эксперыментаваць, «штукарыць», «гуляць у мастацтва», моладзь выбірае высокі прафесіяналізм, глыбіню і вобразнасць мастацкага маўлення. Усе лепшыя работы Алесі Скарабагатай можна адшукаць у інтэрнэце. Але калі хочаце атрымаць сапраўдную асалоду, шукайце сустрэчы з імі на новых выставах.

*Галіна Багданава,*
*дацэнт кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі*





Алеся Скарабагатая. «Бансай».

## У кожнага свая Таямніца

Ці з'яўляецца цудам тое, што чалавек можа развіць дадзены прыродай талент да найвышэйшай ступені? Напэўна, так. Кожны талент унікальны. Мы ведаем з дзяцінства, што здольнасці не падаюць з неба на першае «хачу», іх не раздаюць на вуліцы, як цукеркі. Кожны талент лёсам наканаваны, Богам дадзены. Але мець талент — толькі пачатак,


Алеся Скарабагатая. «Лес».

талент трэба адчуць, адкрыць у сабе і развіць. Толькі тады можна стаць цудоўным музыкантам, пісьменнікам альбо мастаком.

Сёння можна сустрэць досыць цудоўных маладых мастакоў. Але, напэўна, калі не ўсе, то, спадзяюся, многія ведаюць маладую мастачку, у якой у самым непасрэдным сэнсе слова ажываюць карціны, — Алесю Скарабагатую.

Нарадзілася яна ў Мінску. Скончыла Мінскую гімназію-каледж мастацтваў. У 2007 годзе паступіла на аддзяленне манументальна-дэкаратыўнага мастацтва Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, дзе цяпер выкладае. Алеся Скарабагатая — уладальнік дыплома першай ступені восьмага Рэспубліканскага мастацкага конкурсу, дыплома I ступені Рэспубліканскага конкурсу маладых талентаў «Зорка ўзышла над Беларуссю». Яна стажыравалася ў Варшаве і Вене, удзельнічала ў арт-праекце «Восеньскі мастацкі салон з Белгазпрамбанкам» 2015 і 2016 гадоў, дзе двойчы (!) атрымала ці не галоўны для кожнага мастака прыз — Прыз глядацкіх сімпатый.


Алеся Скарабагатая. «Ноч».

Работы Алесі Скарабагатай знаходзяцца ў калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея, Музея сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, у Палацы незалежнасці Рэспублікі Беларусь, а яшчэ ў прыватных калекцыях Беларусі, Расіі, В'етнама, Польшчы, ЗША, Германіі і Азербайджана.

Талент мастачкі — нештаневерагоднае. Калі пабачыш першы раз яе карціны, не зможаш забыць іх ніколі! Праз кожную з іх відаць, наколькі яна любіць сваё рамяство, колькі ўкладае цеплыні і любові ў кожны свой мазок. Алеся вылучаецца сярод іншых маладых мастакоў сваёю тэхнікай, яе немагчыма з кімсьці пераблытаць.

На выставе былі прадстаўлены работы мастачкі ад 2009 года і да сённяшняга дня.

У Алесі Скарабагатай ёсць некалькі нацюрмортаў з кавай. У кожнага з іх свой падтэкст. Вось стол, на якім ляжаць газеты і кубікі цукру. Над сталом — рукі, у адной — лыжка, а другая трымае за вушка кубак з кавай. Рука, што трымае лыжку, вельмі вытанчаная. Падобныя рухі пальцаў потым быццам рэхам паўторацца ў працы «Пацалунак пчалы». Карціна невялічкага памеру. Але яна такая цёплая…

На выставе мяне літаральна заваражылі два партрэты пад назваю «Таямніца». Першая — гэта аўтапартрэт. Праз адтуліну ў белым паўпразрыстым вэлюме на нас глядзяць вочы дзяўчыны, якая быццам нечым напалоханая. Пальцы яе рук трохі прытрымліваюць разрэз, каб можна было разглядзець тое, што хвалюе. Другая «Таямніца» — партрэт маці. Яна таксама глядзіць на свет праз адтуліну ў паўпразрыстай, але ўжо не белай, а чырвонай тканіне. Мы бачым вочы сталай жанчыны. Яны спакойныя і натхнёныя, што надае працы нешта прыгожа-таемнае. Усмешка надае вобразу яшчэ больш цеплыні і спакою.

Глядач бачыць дзве зусім розныя «Таямніцы». Адна з іх — дзяўчына, якая толькі пачынае свой жыццёвы шлях і не ведае, што яе можа чакаць наперадзе. Другая — жанчына, якая ўжо зведала жыццё і мае ўласны вопыт, як і што трэба рабіць у пэўных сітуацыях. Але жыццё для яе ўсё роўна з'яўляецца неспазнаным, таямнічым.

Алеся Скарабагатая — маладая мастачка, якая толькі пачынае свой шлях да нечага вялікага і нязведанага. Што яе чакае наперадзе — вялікая тайна…

*Настасся Капцава*

## Таямніца на ўсё жыццё

Калі чалавек толькі нараджаецца, ён нічога не ведае. Усё вакол яго — гэта адно вялікае снежнае пакрыва, якое апускаецца на зямлю зімой. І ніхто не ведае, што можна будзе знайсці пад ім вясною. Пад такім пакрывам схаваная бясконцая колькасць таямніц чалавечага жыцця, маленькіх і вялікіх, значных і нязначных. І кожны дзень мы знаходзім адказы на пытанні, якія здаваліся яшчэ ўчора непасільнымі. Адкрываючы для сябе таямніцы жыцця, чалавек расце, набывае веды пра навакольны свет.

Здаецца, што хутка невядомасць павінна знікнуць, бо столькі ўсяго я ўжо ведаю. Але кожны дзень таямніц становіцца больш і больш, яны растуць, як снежны ком, які коціцца наперадзе мяне. Коціцца па маёй жыццёвай дарозе... Я адчуваю сябе цэлай планетай, якая мае свой асабісты спадарожнік. І якая без яго перастане жыць… Таямніца — гэта тое, на чым будуецца жыццё.

Ты можаш дасканала вывучыць усе навукі, якія існуюць на свеце, і ўсё роўна не будзеш ведаць усяго. Галоўная таямніца, якую стварыў Бог, — гэта чалавек. Ты ніколі не будзеш ведаць усяго пра іншых людзей. Ты ніколі дасканала не вывучыш самога сябе. Ніхто не напіша падручнік, у якім ты зможаш прачытаць тэарэмы сваёй душы і правілы жыцця.

Ніхто не ведае, што адбываецца ўнутры нашага цела — там, дзе знаходзіцца душа. І я часам нават не здагадваюся, якім жыццём яна жыве. Але трэба знайсці час пабыць у адзіноце, застацца сам-насам са сваімі думкамі. І час гэты — ноч. Ноч — той самы час, калі трэба запрасіць саму сябе на шчырую размову за кубкам гарбаты. Ноч — час даць адказы на пытанні, тыя адказы, якія ведаць можаш толькі ты.

*Настасся Паржон*



Алеся Скарабагатая. «Дзень».

## Яе і мой дзень

Ты старанна працуеш, імкнешся зрабіць так, каб кожная пяцелька была дасканалай, каб узор клаўся роўна. У цябе няма ні схемы, ні прыблізнага плану. Усё, што ты робіш, увесь малюнак зыходзіць з тваёй галавы. Таму табе патрэбна толькі трошкі фантазіі і ўседлівасці.

Асабіста я цудоўна разумею гэтыя адчуванні. Я вельмі люблю займацца рукадзеллем: вышываць, вязаць ці плесці з бісеру. Гэта так заварожвае, калі з невялікага матка нітак ці маленькага пакеціка бісеру атрымліваецца сапраўдны шэдэўр. Шэдэўр у сапраўдным сэнсе слова, бо другой такой рэчы ў свеце не існуе. Напрыклад, немагчыма зрабіць два аднолькавыя ўпрыгожванні, таму што ў кожнае аўтар укладвае сваю душу і надзяляе яго сваім сэнсам.

Вось і гледзячы на гэту карціну, міжволі ўяўляеш сябе на месцы дзяўчыны-рукадзельніцы. А сапраўды ж. Кожны пражыты намі дзень, кожнае імгненне, кожны ўчынак зліваюцца ў адзінае вялізнае палатно пад назваю «жыццё». У шчырых, сумленных, добрых людзей гэта палатно, падобна да сонца, свеціцца і радуе вока проста, як на карціне. Сланечнік сімвалізуе радасць і аптымізм, вернасць і годнасць. Менавіта такія якасці мусіць мець добры чалавек. Можна сказаць, што жыццё ў дзяўчыны на карціне пасапраўднаму радаснае. І сумленнае.

Калі ўжывую глядзіш на карціну, складваецца ўражанне, што яна ўся свеціцца знутры. Алеся вельмі дакладна падабрала жоўты колер, яго нават можна назваць сонечным. Жоўты колер сімвалізуе любоў да жыцця. Ён прыцягвае пагляд і саграе душу, прыносіць радасць і смех. Лічыцца, што жоўты колер падабаецца творчым людзям, якія вылучаюцца шчырасцю і стараннасцю.

Як было б цудоўна, калі б ты сапраўды сядзеў і сам ствараў свой лёс. Можна было б лёгка выправіць памылкі, якія зрабіў калісьці па дурасці, папрасіць прабачэння ў чалавека, якога ты ўжо, можа, ніколі не ўбачыш.

У мяне ёсць такі чалавек. Гэта мой бацька. На жаль, яго ўжо няма сярод жывых. І мне б вельмі хацелася ўбачыць яго зараз, сказаць, як моцна я яго люблю. Як мне яго не хапае, як сумна мне без яго. Многія кажуць мне, што я падобная да яго. У мяне такія ж добрыя вочы, такая ж шчырая ўсмешка, такі ж радасны смех. І для мяне гэта сапраўдны гонар, што нейкая ягоная часцінка жыве ўва мне.

Вельмі важна ўсё рабіць своечасова. Трэба штодня казаць бацькам, як вы іх любіце, бо з гэтымі словамі можна спазніцца. Бо жыццё рэдка дае другі шанец. Рабіць усё так, каб палатно твайго жыцця свяцілася сонечным колерам, колерам радасці і дабрыні.

*Марыя Залесская*

## Праца летапісца

Ноч…За маленькім драўляным акенцам нічога не відаць і не чуваць. Быццам не горад, а стэп… А ўсярэдзіне хораша, свечка цепліцца, зусім ціха, тонка рыпіць пяро. Калі прыглядзецца, то можна заўважыць, як старанна і акуратна выводзіць кожную літару манах. Чорная гладкая сутана і жоўты зморшчаны твар, жылістыя пальцы… І ўважлівы, пранізлівы пагляд. Не міргне. Таму што важныя ўсе дэталі, усе падрабязнасці, падобна да пяцелек у тканіне.

Такі вобраз з'явіўся ў маім уяўленні, калі я ўбачыла карціну «Ноч» Алесі Скарабагатай.

Пяцелькі-вочкі… Тысячы пяцелек-вочак звязаў між сабою гэты манах, падзея да падзеі, бітва да бітвы, свята да свята, дзень за днём… Толькі зірніце на тканіну! У ёй быццам знайшлі супакой старажытныя храмы, дамы, людзі, акрываўленыя мячы і дзіды, асірацелыя дзеці, памерлыя князі, «самотная» рацъ. Выбар новага князя, кірмаш і новае жыццё… Манах беражліва захінуў усіх, пакінуўшы толькі памяць. Бітва на рацэ Нямізе. Захоп у палон Чарадзея, набегі татара-манголаў, захоп Кукейнаса, Юр'еў дзень, Купалле…

Бясконцая залатая нітка манаха. Гэта нітка — сённяшні час. Зараз ён залаты, расплаўлены (таму і кладуцца такія гарачыя радкі, хвалююць сэрца), а потым нітка застывае, пераходзячы ад сучаснасці да мінулага, паступова час ператвараецца ў гісторыю.



Алеся Скарабагатая. «Таямніца».

Што ж пісаў манах? Праўду. Якую дыктаваў яму ягоны уладар ці праўду, якую ён бачыў сваімі вачыма? У гэтым чалавеку ўвасоблены месяц. Манах працаваў па начах, пісаў тое, што бачылі ён і народ, пісаў сэрцам. І месяц быццам спускаўся з неба на ягоную галаву, каб асвятляць старому бяросту, на якой ён пісаў.

«Не ў моцы Бог, а ў праўдзе» - напісана ў Лаўрэнцьеўскім летапісе. Недарма ж летапісец сказаў так. Адразу ўяўляецца вобраз магутнага, неспакойнага князя і ягоны антыпод — з выгляду слабы, спакойны стары і іхняя спрэчка: у чым ёсць Бог? «У моцы, вядома!» — адказаў князь, агледзеўшы сваё войска, якое зараз жа ў знак падтрымкі заківала галовамі. «Не, княжа, не ў моцы Бог, а ў праўдзе». Цяжка сказаць, што магло стаць з гэтым старым. За такое ён мог пазбавіцца жыцця. За такое, значыць, за праўду.

Гляджу на карціну яшчэ раз. Не, у гэтага манаха няма страху! Ягоныя вочы поўныя спакою і моцы, ягоныя вочы… Колькі ж пабачылі яны за свае гады? Ён гатовы яшчэ не адну ноч працягваць сваю распачатую нялёгкую працу. Што ж, калісьці, у будучыні, мы будзем удзячныя гэтаму чалавеку за тое, што можам ведаць, што было тады, тысячы гадоў таму.

*Кацярына Касцевіч*


Алеся Скарабагатая. «Кахае не кахае…».

## Меланхалічная ўтульнасць восені

На карціне так мала і так шмат усяго. Чорна-белыя кеды, чорны парасон, пара лісточкаў, што толькі-толькі ўпалі з дрэва, і мокрая падлога, на якой усё гэта ляжыць. Такое ўдалае колеравае вырашэнне не можа не пакінуць у душы пачуццё ўтульнасці, хаця і трохі меланхалічнай.

Што можна сказаць пра час і месца? Адзін кед са спехам развязанымі шнуркамі валяецца на падлозе, другі — не расшнураваны, вытрымаў імкненне таго, хто прыйшоў, хутчэй скінуць яго, застаўся ў вертыкальным становішчы. Парасон складзены, але ўсё ж такі адна кнопка на ім не зашпіленая. Ён, як і бедныя кеды, быў скінуты, быццам важкі груз. Некалькі лісточкаў і лужына на падлозе ад парасона і кедаў. Можа быць, той, хто прыйшоў, спяшаўся хутчэй заварыць сабе гарбаты, каб не прастыць, ці ён проста не надта акуратны...

«Восень» — быццам фатаграфія, а не напісанае мастачкаю палатно. Але тут ёсць тое, чаго не хапае нават самым выкшталцоным фатаграфіям, тут ёсць душа. А яшчэ, калі вы фанат восені, можна раптам адчуць, што герой карціны — вы самі, вы — малады чалавек, які спрабуе адчуць нябачнага героя, і не здагадваецца, што герой стаіць у гэты час насупраць карціны, у якой ён жыве.

*Вольга Старавойтава*

## Таму што восень

Прайшоўся дождж па вуліцах пустых
З пяшчотным пацалункам развітання.
Растаў туман, і гулкі вецер сціх,
І мы сказалі не «Бывай!», а «Да спаткання!».

Так кеды змоклі пад дажджом — не зняць,
І рукі без пальчатак холад студзіць…
Але ўсё роўна пойдзем мы гуляць,
Бо, хай і пад дажджом, — мы разам будзем!

Нам не патрэбны парасоны два —
Мы пад адным, і з намі дождж гуляе…
Я памятаю: сквер і цішыня…
Хаця ўспамін той растае, знікае…

Ды ўсё ідзе да заканчэння,
І толькі дождж ўсё не сціхае.
«Бывай!» замест «Да пабачэння!» …
Як сэрца сцішыць? Я ж кахаю…

*Марына Ронжына*


Алеся Скарабагатая. «Таямніца».

## Ноч

Ціха заснула зямля,
Снег пабаяўся ісці.
Каб асвятляць нам дарогу,
Мусіла зорка ўзысці.

Не засынаў Саваоф —
Справаў хапала ў яго:
Дзесьці пастукаў у акно,
потым ствараў палатно
тым,
на-
ка-
на-
ва-
на
каму,
каб раўнівая тля
не забіла Каханне.

Не засынаў Саваоф —
Толькі заснула зямля.

*Марыя Страх*

## Бансай…

Чарговае знаёмства з адной з зорак сучаснага беларускага мастацтва прайшло ў невялічкай «Галерэі ДК».

Асэнсавана «пратупаўшы» вачыма па кожным экспанаце выставы Алесі Скарабагатай, я для сябе, мабыць, павярхоўна адзначыла: прыгожа, казачна і так гіперрэалістычна, што нават хочацца зайсці да бабулі паласавацца чымсці як заўсёды самым смачным на свеце. Ад работ мастачкі цягнула неверагоднай цеплынёй і ўтульнасцю, але мяне больш прывабіў і зачараваў прасякнуты таемнасцю дыптых «Бансай».

Дарэчы, выстава называлася «Таямніца». Я так і чакала, што загадкавасці там будзе шмат. Напрыклад, мяне заўсёды цікавіла, хто гэтыя людзі, што жывуць у карцінах? Мабыць, у выпадку з работай «Бансай» тут няма чалавека, але ёсць Дао?..

Заўжды лагічныя кітайцы лічаць, што мастацтва вырошчвання маленькіх дрэў звязана з даасізмам. Даасы праводзілі даследаванне ўплыву навакольнага свету на Дао — адзінства Бога і ўсяго існага. Вось і ў дыпціхе: вышэйшая карціна быццам сімвалізуе Бога-ювеліра, які з асалодаю працуе, а ніжэйшая — наша, прыроднае, але гледачам яны пададзеныя разам.

У ходзе даследу, канешне, працсей кіраваць не вялікімі аб'ектамі знешняга свету, а іх мініяцюрнымі копіямі-сімваламі. Даасы верылі, што калі яны зробяць усё такім маленькім, то змогуць сканцэнтравацца і маніпуліраваць усімі магічнымі якасцямі з'яў і нават знойдуць шлях да неўміручасці. А дрэва — самае вялікае і даўгавечнае стварэнне.

Спачатку мы і бачым велізарнае дрэва. Але потым заўважаем, як з яго «сэрца» прасочваецца і распаўсюджваецца на іншыя «органы» ўтульнае, мяккае, але ў той жа час яркае святло, і ўжо гэта дрэва падаецца не дрэвам, а цэлым домам! Але хто загадкавы жыхар? Ён адзін, ці там змясцілася ўсё чалавецтва? Ці, мабыць, толькі нейкія асаблівыя людзі, якім наканавана жыць вечна… Скажам, мастакі?

Для мяне гэта засталося невядомым, тайным, тым, пра што можна меркаваць толькі з вялікай доляй няўпэненасці, але я перакананая, што зямля будзе жыць, пакуль існуе неба, і наадварот.

*Паліна Барздыка*

## Няўжо юныя заслугоўваюць слёз?

Мёд — ён які для цябе? Карамельна-салодкі ці перасалоджаны да непрыемнага? Вязкі, ліпкі ці, наадварот, растае на скуры і ласкава ахінае? Няўжо пчала двудушная і задумвае штосьці дрэннае, калі гатуе такі супярэчлівы пачастунак? Паднясі руку да пушыстага цельца і паспрабуй адгадаць: уп'ецца джалам ці не прычыніць шкоды і паляціць?

Заходзіш неразважліва далёка ў рухах і дакранаешся, бо гэта істота дасканалая і яна так блізка. Ведаеш, любая, а зараз будзе балюча.

Ён, як тое насякомае з вастрыём, дакранаецца да дзяўчынак, падобных да духмяных кветак, якія ледзь толькі адкрыліся, забірае ўсё самае прыгожае, што яны ўзгадавалі і выхавалі ў сабе, усе сокі юнацтва, пакідаючы пустэчу ў цнатлівых душах і адлятаючы назаўжды. З гадамі раз'юшаны Дэман набіраецца вопыту, сілы і ўлады над жаночымі сэрцамі, яго голас набывае салодкія паўтоны, яго абдымкі становяцца ўчэпістымі. Ты, яго ахвяра,



Алеся Скарабагатая. «Пчаліны пацалунак».

зноў і зноў адчуваеш дакучлівую, ліпкую прысутнасць каварнай істоты, але не можаш выкруціцца з таго моманту, як зазірнула яму ў вочы. Ён цешыў твой слых зацукраванай лісліваcцю, ён прыпадаў да цябе вуснамі. Ублыталася. Увязлі пальцы, патанула нявінная ў мядовых рэках ягоных фраз.

Прыгожы… Перажыўшы гвалтоўнае ўварванне ў душу, яна тысячу разоў праклінала сябе за тое, што паглядзела ў бок гэтага крывадушнага стварэння. Не даведаешся ніколі, як ён глядзіць у адказ: ці насміхаецца, ці кахае. Пакідае цябе. Шкада, што нельга падрыхтавацца і сустрэць гэтыя пакуты з годнасцю мудрай жанчыны. Твой пешчаны твар ураз збрыджваюць, сутаргава перакрываючыся, напружаныя мышцы і вены, чырванеюць вочы, льюцца слёзы, вырываецца здаўлены крык. Рукі не слухаюцца, адмахваюць усю чарнату, адбіваюць нябачных прывідаў тугі, але сустракаюць паражэнне. Падаеш на падлогу ад бяссілля працістаяць хмары пагрозлівых думак. Зараз памрэш. З галавой накрывае новая хваля жудаснага болю. Ачуняй, дастань джала, пакуль ўсёпранікальны яд не атруціў яшчэ жывое ў табе! Усё сядзіш, сціскаеш зубы і церпіш. А што, як само сціхне?

У адной асобе адначасова знайшла каханне, што акрыляе, і расчараванне, якое разрывае. Яму і самому аднойчы давядзецца паспрабаваць слодыч мёду той, чароўнасць якой аблытае і не адпусціць. А ты застанешся тут, у гразкім ласунку мінулага рамана, глядзець, як побач праходзіць тваё жыццё і квітнее тваё каханне.

*Таццяна Новаш*

## Не люблю піва…

*— Мама, тата прынёс дадому ракаў! Сказаў, каб ты на стол накрывала, будзе іх з півам есці.*

*— Ракі? Не люблю піва…*

Пасля першага погляду на карціну ўзнікае вобраз. Нейкі ўсплёск успамінаў, інтэрпрэтацыя ў самы звычайны дыялог.

Карціны Алесі Скарабагатай заўсёды мяне зачароўвалі сваёй натуральнасцю. Другі раз, наведваючы выставы, я бачу там яе работы. Ад іх людзі заўсёды ў захапленні: «Можна дакрануцца? Гэта праўда фарбы? Вось гэта талент!»

А яна проста малюе. Лес, адзенне, абутак. І ўсё так жыва, як быццам ты і сам — гэта карціна. Не, Алеся, не ўвасабляйце, калі ласка, людзей, баюся, на палатне яны ў вас будуць больш рэальнымі, чым у жыцці.

Якая дзіўная назва карціны, праўда? А я чамусьці адразу не падумала пра піва. Агніста-чырвоны колер урэзаўся мне ў памяць і стварыў там асобны пакой чагосьці незвычайна важнага, але чаго? Гэтыя ракі, з півам ці без, вараныя ці жывыя, чырвоныя ці… Гэтыя ракі: яны паўзуць. Я бачу, як яны кудысьці імкнуцца, у іх ёсць місія, проста іх выявілі. Сфатаграфавалі поглядам і ўвасобілі.

Я гляджу на гэту карціну. Я люблю яе, і піва я таксама *люблю*…

*Сафія Шуціна*



Алеся Скарабагатая. «Не люблю піва».


Алеся Скарабагатая. «Таямніца»

## Ты ў бяссонне глядзіш і варожыш, варожыш…

Закаханая дзяўчынка, якая праводзіць перапоўненыя скрушнымі слязьмі ночы ў абдымку з бяздушнаю падушкаю, часам шкадуе, што прыродны страх не даў ёй перайсці на бок д'ябла, каб набыць тую моц, тую ўладу, якімі надзеленыя сапраўдныя чарадзеі, здольныя падначаліць сэрца мужчыны волі юнай багіні. Магутныя жанчыны, што валодаюць дарам прадказання і варажбы, ведаюць, як утрымаць каханага мёртвай хваткай на доўгія гады. Але ж дзяўчынка так хоча, каб ён сам прыйшоў і раздзяліў з ёю гэта «згубнае» пачуццё. Ведаць бы толькі маладой і цнатлівай, што чакаць давядзецца недарма. І толькі магія рамонка, пяшчотнага боскага стварэння, супакоіць буру ў венах і падорыць слабую надзею: ён яе кахае.

Закаханая дзяўчынка заўжды будзе выпрабоўваць яго паглядам, ладзіць невыпадковыя выпадковыя сустрэчы, зробіцца лёгкадаступнай і будзе забаўляць яго. Вось толькі ён баіцца пакрыўдзіць ранімую ў сваім памкненні істоту з добрымі вачыма. Грубы ілжэц насалодзіцца захапленнем свежай, яшчэ не дарослай прыгажуні і паімчыць удалечыню.

Верны саюзнік закаханай дзяўчынкі, анёл-ахоўнік, не дазволіць ёй ашукацца, калі яна зноў будзе шукаць у выпадковым паглядзе пацверджанне глыбокіх пачуццяў, а ў лёгкім посмеху — захапленне яе вобразам, гуллівым смехам, дасціпнымі жартамі. Крылаты нябесны пасланнік забароніць ёй апраўдваць халоднасць абранага сэрцаеда. Няхай знявечаныя рамонкі завянуць на ложку і забяруць пакуты з сабою.

*Таццяна Новаш*

## Шчасце ў нашай каве

Некаторыя людзі ведаюць пра шчасце ўсё: яго колер, пах і нават смак. Але гэта сакрэт, і ў кожнага ён свой.

Я веру, што ўсе людзі шчаслівыя. Не, я дакладна гэта ведаю. Проста не кожны разумее гэта, а толькі часам заўважае на нейкі перыяд часу, што няма нічога дрэннага, няма суму і няма пакут, а хіба гэта не шчасце?

Калі мы шчаслівыя і, што немалаважна, разумеем гэта, то мы пачынаем заўважаць, што рэчы, якія нас атачаюць, на самай справе не такія, якімі здаваліся раней. Напрыклад, у шчаслівы дзень аблокі на небе ніколі не будуць падобныя на монстраў з нашых дзіцячых кашмараў і ніколі не будуць здавацца нам чымсьці бессэнсоўным. У шчаслівы дзень аблокі будуць мець самую мудрагелістую форму, выклікаючы ў нас толькі добрыя асацыяцыі.


Алеся Скарабагатая. «Танец светлячкоў».

У такі дзень мы неўсвядомлена выбіраем белы колер: белая сукенка, белы букет лілей, палявых рамонкаў, а дождж ніколі не будзе здавацца веснікам суму, які прыносіць толькі дэпрэсію, бо пасля дажджу абавязкова з'явіцца вясёлка.

Шчасце надае нам сілы, а сіла заключаецца ў дабрыні да сябе і да іншых людзей.

Шчасце — гэта цёплае малако, якое разліваецца цяплом па ўсім целе.

Мы шчаслівыя, калі нас нічога не трывожыць, калі няма прычын быць няшчаснымі, калі ў нашым жыцці няма чорнага колеру: суму, смутку, пакут. Няма незадаволенасці па дробязях, няма злосці і агрэсіі, ёсць толькі каханне. Самае чыстае і светлае. Любоў, якой любіць нас мама. Любоў, якой анёлы любяць усіх людзей, знаходзячыся побач з намі кожную хвіліну.

І калі мы шчаслівыя, мы іх бачым... Нават у нашым кубку кавы.

*Аляксандра Ямяльянава*

Алеся Скарабагатая. «Анёл».

## Анёл з кавы

Выпадковая фігурка, утвораная мірыядамі пузырыкаў кававай пены, альбо, хутчэй, маленькае «прывітанне», пасланае адкуль-небудзь лёсам? Зрэшты, гэта зусім няважна. Важна, што з'явіўся сімвал, важна, што ён ёсць і набывае ў карціне сэнс. Бо кожнаму асобнаму чалавеку даецца магчымасць адшукаць свой сэнс. Так банальна, многія могуць са мною нават не пагадзіцца. Скажуць, маўляў, якая ж ад карціны карысць, калі ніхто не можа вызначыцца нават з яе ідэяй. І, ведаеце, у нечым яны нават будуць мець рацыю. Ніхто сапраўды ніколі не будзе цвёрда ўпэўнены ў яе ідэі, нават няхай і сам аўтар. Але ж калі хто скажа, што карціна не мае карысці, я б паспрачаўся.

Творчасць — тое, чым прасякнута гэта і многія іншыя работы. Яна не толькі нарадзіла гэты твор мастацтва, але і прымусіла яе, творчасць, выпраменьваць. Глядзіш — і адчуваеш, як скрозь цябе праходзіць сіла натхнення. Штосьці хвалюе, штосьці гуляе тваімі думкамі і пачуццямі. Дзівосна.

Белая тканіна дае супакаенне. Усё ў карціне, за выключэннем, магчыма, самой кавы, настройвае на спакой і ўдумлівасць. Кожны вобраз і адценне. Пэўна, і кава для аўтара не больш чым проста асацыяцыя слаўнага светлага ранку, толькі ў мяне яна выклікае думкі пра энергію і рух. Але няхай так, і гэта добра.

Гаворка да гэтага ішла ў асноўным пра эмоцыі, але, вядома, карціна ў немалой ступені выклікае і плыні разнастайных думак. Якія ж гэта думкі, можа спытаць хтосьці? Ды любыя. Як гаворыцца, кожны паглядзіць пад сваім вуглом. Кожнаму прыйдуць у галаву свае думкі. Куды ляціць анёльчык? Якой падзеі вестуном мусіць ён стаць? Пытанні і зноў пытанні. Застанецеся ж вы, бадай, з яшчэ большай колькасцю пытанняў.

*Вадзім Багуцкі*




Рэдкі на сёння выпадак. Чарга на выставу маладой мастачкі . Усе хацелі б разгадаць «Таямніцу» Алесі Скарабагатай.

## Ідэал у недасканалым

Каго з нас не заварожвала поўня? Хто з нас не захапляўся, закідваючы галаву ў неба і ўглядаючыся ўззяючы дыск або сарамлівы ражок сярод мірыядаў зорак? Месяц стаў героем мноства легенд і паданняў. Паэты антычнасці і сучаснасці натхняліся і прысвячалі нябеснай вандроўніцы свае вершы. Месячная ноч з глыбокай старажытнасці лічылася парою чараўніцтва — нездарма многія пісьменнікі любяць працаваць і ствараць менавіта ў гэты час таямнічасці і цішыні.

Але калі паглядзець на карціну «Два месяцы» Алесі Скарабагатай, робіцца зразумела — не нябеснае свяціла стала яе цэнтрам. Алеся Скарабагатая — мастачка жывых метафар і фатаграфічнай дакладнасці. Над яе карцінамі яшчэ варта падумаць. На шэра-блакітным фоне — дробны россып зорак і ён, нябесны вандроўнік… Спачатку ён здаецца краёчкам, але, калі прыгледзішся, ужо бачыш поўню. Ілюзія знікае, але вобраз застаецца, даючы магчымасць падумаць і паламаць галаву над тым, што гэта значыць.

А па краях карціны, на супрацьлеглых гранях — дзве зусім розныя жанчыны. Адна — статная, другая — поўная. Адна — з даўгімі кучаравымі валасамі, якія спадаюць на плечы, другая — з кароткаю стрыжкай. Адна ўпэўнена глядзіць на вас прамяністымі вачыма, з паўусмешкай, не саромеючыся свайго аголенага цела. А другая — адвяла вочы, глядзіць на кветку, захінаючы рукою складкі на пухлым жываце. Яе вейкі апушчаныя, вочы прыплюшчаныя.

І зараз жа ўспамінаеш вузкі ражок у цэнтры… Яе цела неідэальнае, але яна не саромеецца яго — яна прымае сябе. Поўня ж схаваная ад вачэй — да пары, да часу. Яна адводзіць вочы і хавае поўнае недасканаласцей цела, недасканаласцей, такіх звычайных для звычайнага чалавека. У яе руках — кветка белай лілеі, сімвал чысціні і дабра.




Алеся Скарабагатая. «Снукер».

Гэта карціна вельмі сімвалічная. Мастачка параўноўвае дзвюх жанчын з фазамі нябеснага вандроўніка. Жанчыны такія сапраўдныя, такія звычайныя, але ставяцца яны да сябе па-рознаму. Адна прымае сябе такою, якая яна ёсць. Яна вышэй за зямныя кпіны — яна ж нябесная вандроўніца, узвышаная, незямная. Другая — баіцца сябе, не прызнае, хавае свае недахопы, няхай нават у яе руках — дабро і нявіннасць. Мы лічым, што поўня — гэта прыгожа, дык чаму ж поўная жанчына — не?

Але пройдзе час, і аднойчы поўня ўзыйдзе і адкрыецца свету — без страху, без непрыязні да сябе. Яна расплюшчыць вочы і ўсміхнецца, расправіўшы плечы. І ніякія зямныя стэрэатыпы больш не звяжуць ёй рукі і сэрца.

*Крысціна Батурніцкая*

## P. S.

Я заўжды ўсё вызначаю навобмацак. Каб нешта ацаніць, да яго трэба дакрануцца. Проста глядзець — гэта надта мала. Фота заўжды недастаткова. Нават калі дакрануцца нельга, трэба бачыць ужывую, таму што так можна ўявіць, якое яно навобмацак. Алеся Скарабагатая — выдатны прыклад, на што трэба глядзець ужывую. Яе карціны — гэта скамечаная тканіна. Карціна, як фатаграфія. Здаецца, што дзяўчына ляжыць на скамечаных прасцінах, сярод складак якіх — пялёсткі рамонка. Складкі на спіне сарочкі, складкі сурвэткі.

Яе карціны — гэта фактура, да якой хочацца дакрануцца. Гэта цемра, у якой прыжмурваеш вочы, бо трэба бачыць так, як напісана на палатне: быццам у цябе няма акуляраў, і ліхтарыкі ператвараюцца ў калматыя шарыкі. Альбо хочацца націснуць пальцам на палатно, з якога вывязаны дзень, прапаласкаць рукі ў тым жоўтым святле. Даць нырца, вынырнуць, адчуваючы, як цябе кранаюць пялёсткі сланечнікаў.

*Святлана Курганава*



Алеся Скарабагатая. «Два месяцы».

## Галіна Скрыган

# Незабыўнае

Некалі, у 70-я гады мінулага стагоддзя, тата запісаў у сваім дзённіку: «Страшна, як скоранька ляціць час». Цяпер, калі гэты час праімчаў нібы імгненне, я разумею сапраўдны сэнс ключавога слова «страшна». Дый гады ляцяць няўмольна, а мне здаецца, быццам учора тата насіў мяне, малую, на плячах і ў такт кроку што-небудзь напяваў. Адна мелодыя мне вельмі падабалася, але я, натуральна, не ведала, што гэта за музыка. Пазней, калі я вучылася ў музычнай школе, пазнала ў ёй «Нарвежскі танец» ля-мажор Эдварда Грыга. Грыг быў любімым кампазітарам бацькі. У таямніча-суровых, незвычайных гармоніях гэтага кампазітара ён адчуваў роднаснае, блізкае сэрцу.

Яшчэ тата вельмі любіў беларускія народныя песні. У яго выразным выкананні я пачула песню «Зялёны дубочак». Мне вельмі шкада было хлопца, калі тата пеў: «Чаму ў цябе, хлопча, кашуля не бела…» У таты быў даволі тонкі слых і прыемны

Ян Скрыган. 1936 год.



тэмбр. Ён вельмі артыстычна перадаваў сюжэт песні. Па сённяшні дзень у вушах гучыць беларуская жартоўная песня, як «дзед бабу палюбіў, што баба хароша…»

Любіў тата спяваць песні дуэтам з Пятром Адамавічам Крыўцом (ссыльным беларусам), які стаў блізкім сябрам нашай сям'і ў Сібіры. Іх аб'ядноўвала і сваяцтва дум, і надламаныя лёсы, а галоўнае — тое, што яны далёка ад Радзімы маглі гутарыць на роднай беларускай мове. У іх выкананні мне і запомнілася песня пра бабу, якая «і крычыць, і бурчыць, проці дзеда не змаўчыць». І далей па сюжэце песні за тое, што баба аказалася «і крывая, і касая, ды яшчэ і злая», дзед вырашыў яе ўтапіць: «Цяпер, баба, кайся, крыху пакупайся / Толькі баба ўзнырне, дзед ёй кіем падпіхне». А мне, малой, усё гэта бачылася літаральна і было жудасна, калі я ўяўляла, як дзед палкай падштурхоўвае бабу ў ваду і яна захлёбваецца.

Праз гады, калі я ўжо была студэнткай кансерваторыі, я не раз звярталася да таты за тлумачэннем тых ці іншых пытанняў. Ён заўсёды ўважліва мяне выслухваў, падумаўшы, пачынаў грунтоўна і дакладна разбіраць маё пытанне так, што я даведвалася больш, чым мне было на той момант патрэбна. Прычым разбор з музыказнаўчага пункта гледжання быў абсалютна прафесійным.

У мае студэнцкія гады ў нашай сям'і былі традыцыяй хатнія музычныя вечары. І заўсёды кароннымі нумарамі лічылася наша з татам дуэтнае выкананне песень «Не шукай», «Толькі з табою» (муз. І. Лобана на вершы А. Русака), «Явар і каліна» (муз. Ю. Семянякі на верш Я. Купалы). Тата спяваў першую партыю, а я — партыю другога голасу.

* * *

Жорны таталітарнай сістэмы 1930-х гадоў не абмінулі і майго бацьку, і многіх яго паплечнікаў. У помным 1937-м годзе 32-гадовага Скрыгана асудзілі на 10 гадоў лагераў. Тады ён быў ужо даволі вядомым пісьменнікам у росквіце творчых сіл, калі ўсё жыццё было яшчэ наперадзе і багата высокіх бясхмарных планаў павінны былі абавязкова спраўдзіцца.

У адно імгненне абарвалася сувязь часоў, і крушэнне ўсіх надзей практычна сталася незваротнай кропкай. Здавалася б, можна было проста зламацца, як гэта, на жаль, здарылася з некаторымі іншымі асобамі. Можна было ўжо ніколі не вярнуцца з незваротнай кропкі ні на родную зямлю, ні ў літаратуру, ні ў нармальнае чалавечае існаванне. Аднак гэтага не адбылося. Напэўна, таму, што храм у душы бацькі быў змайстраваны са



У Каралішчавічах. 1962 год.

звышмоцнага матэрыялу. І ў гэтым храме ніколі не згасаў агеньчык веры, надзеі, любові. Гэты агеньчык, безумоўна, і дапамог вытрымаць усе выпрабаванні. А іх было шмат, хапіла б, па словах бацькі, на некалькі жыццяў.

Адбыўшы лагерны тэрмін па поўнай 10-гадовай праграме, бацька не меў права жыць ні ў Беларусі, ні ў буйных расійскіх гарадах. Паблукаўшы пэўны час па свеце ў пошуках прыстанішча, бацька апынуўся ва Узбекістане — у горадзе Фергане. Там ён сустрэў маю маму Ганну Міхайлаўну, якая падчас вайны была эвакуіравана з Масквы з супрацоўнікамі гідролізнага завода, на якім тады працавала. У Фергане я і нарадзілася.

Пражылі мы ў Фергане нядоўга. З тае прычыны, што, як пазней тата напіша ў «Кругах»: «Ферганскі клімат аказаўся не па мне. Горача, скрозь млявая спёка, нават арыкі, што цякуць пад ценем густых прысад, не дапамагаюць… А тут яшчэ падступіла туга, ад якой не мог пазбавіцца: я нудзіўся па нашых палях, лугах, лясах і зеляніне. Выходзіў за горад, а там бясконцыя голыя пяскі, распражаныя сонцам, і наўкруга горы. Я пачаў бачыць сны — як налівае і ходзіць хвалямі жыта, як па лузе растуць кусты, як уюцца ў полі дарогі, і думаў: няўжо ж гэта ўсё я цяпер буду бачыць толькі ў снах?»

І тут выручыла нечаканасць, дзякуючы якой мы неўзабаве апынуліся на эстонскай зямлі, якая прытуліла нашу сям'ю ў вельмі цяжкі перыяд жыцця, дала пэўнае апірышча, працу (галоўным бухгалтарам на сланцава-хімічным камбінаце ў г.Ківіымлі). Думалі — Эстонія стане для нашай сям'і другой Радзімай.

А калі жыццё стала ўжо больш-менш наладжвацца, на тату абрушылася новая трагічная неспадзяванка. Справа ў тым, што ў 1949 годзе пракацілася вынішчальным катком другая хваля рэпрэсій, якая накрыла ўсіх, хто перажыў жорны 30-х гадоў. Цяпер вырак быў такі — на вечнае пасяленне ў Сібір.

Я ўпэўнена, ад страшнага душэўнага зрыву тату і наогул усю нашу сям'ю выратавала мая маці, якая ніколі не гублялася ў самыя крытычныя моманты жыцця. Гэта пра яе напісаў класік: «Коня на скоку остановит, в горящую избу войдет».

Калі тата выходзіў з хаты, мама як мага бадзёра скрозь слёзы сказала: «Ян, памятай, дзе б ты ні быў, я да цябе прыеду».

І прыехала. Разам з намі — дзецьмі — мной і маім старэйшым братам Алікам. Падчас сустрэчы на вакзале ў Краснаярску тата шапнуў маці: «Ты вярнула мне жыццё».

Пазней ён запіша ў «Кругах»: «Цяпер я гляджу на сваю дарогу, як на далёкі сон. Мая біяграфія здаецца мне вельмі доўгай, і я дзіўлюся, як многа ў ёй месціцца. Я спазнаў і трагізм, і роспач, зведаў цану радасці і надзей: быў на грані таго горкага адчування, калі чалавек застаецца без Радзімы — не мае на яе права, я зразумеў, якое гэта вялікае і дарагое пачуццё — Бацькаўшчына».

* * *

Так мы жылі (да рэабілітацыі ў 1954 годзе) у сяле Сухабузімскае Краснаярскага краю, дзе зімой маразы даходзяць да –55°, а ўлетку спёка да +50°.

Гаворачы пра тату, ягонае жыццё, я з глыбокімі пачуццямі ўспамінаю сваю маму, якая перажыла разам з ім пакутніцкія гады выгнання. У яе ўжо да сустрэчы з бацькам быў свой досыць складаны адрэ-



1985 год.

зак жыцця. Пра гэта часткова распавядаецца ў «Наталлі». Выклікае здзіўленне, што мая мама — карэнная масквічка, якая ніколі не ўмела працаваць на зямлі, трапіўшы ў сібірскае сяло з двума малымі дзецьмі, у экстрэмальныя ўмовы выжывання, не разгубілася. Больш за тое, асвоіла навуку сялянскага побыту, навучылася вэндзіць мяса, рабіць хатнюю каўбасу, замарожваць малако, паласкаць бялізну ў палонцы. А яшчэ мама цудоўна гатавала. У яе ніколі не было фармальных абедаў. Яна надавала амаль рытуальнае значэнне кожнаму прадукту, траўцы, прыправе. Гэтак жа самазабыўна яна любіла частаваць людзей, калі яны прыходзілі да нас у госці ці па справе, ці пагаварыць, ці параіцца, мама заўсёды запрашала спачатку да стала.

Тата быў вельмі акуратным чалавекам Ён любіў, каб кожная рэч была на сваім месцы. З вялікай ахвотай рабіў нешта сваімі рукамі: рамкі для здымкаў, зэдлікі. Наогул, вельмі цаніў самаробныя рэчы. Асобна трэба сказаць пра незвычайную любоў таты да кійкоў. Ён рабіў іх сам, прычым выкарыстоўваў розныя пароды дрэў — ад гэтага залежала форма кійка, які быў неабходнай часткай вобліку таты. І не таму, што без кійка ён не мог абысціся, а для фасону.

Знешне бацька здаваўся замкнёным, крыху суровым. За лінзамі акуляраў цяжка было прачытаць у вачах яго думкі і настрой. Ён раскрываўся не заўсёды. Але калі адчуваў у субяседніку роднасную душу, мог гаварыць і разважаць гадзінамі пра ўсё на свеце. Пра што б не зайшла гутарка, яна абавязкова неўпрыкметку зводзілася да разважанняў пра родную беларускую літаратуру, прыгажосць беларускай мовы. Трывога за лёс роднай мовы літаральна трэшчынай праходзіла праз яго сэрца.

* * *

Разбіраючы хатнія архівы, я зразумела, што татавы душа і розум працавалі да апошняга дня. Я знайшла накіды, запісы, аповеды, маргіналіі, дадумкі, філасофскія сентэнцыі і высновы. Некаторыя з іх былі дбайна выпраўленыя, быццам падрыхтаваныя да публікацыі. Мабыць, для будучай псіхалагічнай драмы або трагедыі прызначаліся і варыянты загалоўкаў: «Сэрцу горкая далячынь», «Спакою душы не будзе». Так мае даследаванні прывялі мяне да дзённікавых запісаў. Па меры паступовага паглыблення ў атмасферу часу, перажываючы разам з бацькам самыя розныя жыццёвыя перыпетыі, я зразумела, што гэты бясцэнны летапіс трэба абавязкова спачатку прывесці ў чытэльны выгляд (перадрукаваць), а тады — выдаць кніжкай.

Калі сказаць, што акуратнасць бацькавага почырку не гарантавала лёгкасць яго разумення, дык гэта нічога не сказаць. Калі чытанне некаторых слоў не паддавалася ніякай логіцы, у ход ішлі розныя прыёмы: і пацверджанні назваў і абрэвіятур у інтэрнэце, і хадкі па бібліятэках, калі трэба было ўдасканаліць праўдзівасць цытат з замежнай ці рускай літаратуры, і сумесныя з унукамі разборы асобных літар і літаразлучэнняў у тэксце… Назву дзённікам падказалі татавы запісы: «Сэрцу горкая далячынь», што, на маю

думку, больш за ўсё адпавядае ўсяму кантэксту, у якасці лейттэмы якога можна згадаць такі ўрывак за 2 студзеня 1984 года: «Трывожуся і трывожуся. Мабыць, ужо ніколі не дайду да спакойнасці — такую зняверанасць выпрацавала ў мяне жыццё».

Асабліва чакаў выдання дзённікаў Сева — сын, якога тату не суджана было ўбачыць, так трагічна склаліся жыццёвыя абставіны.

Тут я зраблю адступленне, каб пяясніць гэту акалічнасць. Справа ў тым, што да першага арышту ў таты была сям'я — жонка Галіна і сын Сева, які нарадзіўся, калі тата ўжо быў у турме. У нашай сям'і ніколі ўслых не гаварылася на гэтую балючую для бацькі тэму. Мама ўсе падрабязнасці таго драматычнага адрэзка жыцця ведала, і гэтага было досыць. З маміных расказаў, якія я з самага маленства любіла слухаць, ведала, што на самым пачатку вайны ў дом, дзе жылі Галіна з маленькім Севачкам, трапіла бомба, і яны загінулі. Жудасная навіна дайшла да зняволенага таты нейкай «галубінай» поштай. З гэтым бярэдзячым душу ўсведамленнем тата і жыў. І калі ў належны час у маіх бацькоў павінна было нарадзіцца дзіця, яны вырашылі: калі народзіцца дачка — яе назавуць Галінай, а калі сын — Севай. Таму мяне і завуць так.

Але жыццё нам часам падносіць такія сюрпрызы, пра якія кажуць — гэтага не можа быць. Дык вось Галіна і Сева аказаліся жывыя. Прайшоўшы свае кругі пекла, яны апынуліся ў Германіі, пра што стала вядома ў 1963 годзе, калі тата атрымаў ліст ад Севы, літаральна «на деревню дедушке». Сева выпадкова ўбачыў вокладку татавай кнігі і вырашыў напісаць, не ведаючы адраса, не будучы ўпэўненым у тым, што гэта менавіта яго бацька (па логіцы бацьку даўно павінны былі знішчыць). Ён напісаў проста на Саюз пісьменнікаў БССР. А калі яшчэ прыняць да ўвагі ідэалагічную ўстаноўку ў іх свядомасці, то можна прадставіць, як ні на што не спадзяваўся Сева. У канверт быў укладзены фотаздымак прыгожага маладога чалавека з надпісам на адвароце: «Дорогому отцу от сына Всеволода».

З тае пары паміж нашымі сем'ямі завязалася кранальная перапіска, якая то абрывалася на нейкі час, то аднаўлялася. Паступова стрыманы тон першых лістоў саступаў месца шчырасці і даверлівасці. Мы з адноснай рэгулярнасцю ўведвалі падрабязнасці розных падзей жыцця далёкай і блізкай нам сям'і: пра жаніцьбу Севы, пра нараджэнне дачок — Таццяны, Эвы-Надзін. Некаторыя лісты прыносілі журботныя весткі — смерць мамы, праз некаторы час — бабулі. Так неўпрыкметку наша сям'я станавілася для Севы тым далёкім астраўком, куды магла адважна прыляцець яго душа і ў цяжкія, і ў светлыя хвіліны жыцця. Можна было толькі здагадвацца, якія землятрусы бушавалі ў душы бацькі, якому так і не наканавана было сустрэцца з сынам.

У 2007 годзе, праз 15 гадоў пасля смерці бацькі, настаў мой час усвядоміць, што праз мяне працягваецца некратычная нітачка ад бацькі да сына. Мне пашчасціла правесці з Севам незабыўныя дні ў 2007 і ў 2012 гадах. Нашы сустрэчы былі надзвычайна цёплыя і душэўныя.

Сева не дачакаўся выдання дзённікаў зусім трохі. Яны выйшлі ў жніўні 2013 года, а 1 ліпеня 2013-га мне давялося ўбачыць Севу на ягоным пахаванні. Такі суровы лёс.

* * *

Чым далей ад мяне апошні ўздых майго бацькі, які прайшоў у сваім жыцці ўсе кругі пекла, тым больш дзівіць, радуе, захапляе тое, што ён ніколі не губляў веры ў перавагу розуму і справядлівасці на зямлі. Не губляў здольнасці любавацца наваколлем, прыгажосцю людзей, раслін, жывёл. Ён любіў жыццё, нягледзячы ні на што. «У горы таксама ёсць месца для любові. Аднолькава яны жывуць надзеяй», — запіша ён праз гады ў сваіх «Кругах».

Бацька заўсёды імкнуўся разглядзець у людзях лепшыя бакі душы. Любіў зносіны з маладымі і, бачачы перад сабою таленавітую, цікаўную натуру, імкнуўся падтрымаць упэўненасць у сваіх сілах, падказаць, накіраваць, дапамагчы знайсці сябе. Любіў пагаварыць, паразважаць, каб зразумець вытокі тых ці іншых учынкаў. Па такіх філасофскіх прынцыпах жыў мой бацька. Такімі перакананнямі кіраваўся ў самыя невыносныя хвіліны жыцця.

У 2017 годзе спаўняецца 25 гадоў з таго часу, як смерць спыніла шматпакутнае сэрца, якое не ведала спакою і адпачынку. Прысвячаю гэты сціплы аповед светлай памяці майго бацькі — Яна Скрыгана.

**Навум Гальпяровіч**

# Дарога на строму

*Памяці Алеся Пісьмянкова*

Пасля семінара маладых пісьменнікаў у Каралішчавічах, дзе мы пазнаёміліся, мы з Алесем Пісьмянковым бачыліся рэдка, эпізодамі. Ды і як было часцей: я шчыраваў па заводах і палетках у якасці ўласнага карэспандэнта рэспубліканскага радыё у родным полацкім рэгіёне, а Алесь рабіў у Мінску імклівую кар’еру — з «ЛіМа» — у «Полымя», а потым і ўвогуле — самы малады сакратар Саюза пісьменнікаў. Калі ў тыя часы нават звычайная пасада ў літаратурна-мастацкіх выданнях лічылася вельмі прэстыжнай і значнай (дастаткова сказаць, што загадчыкі аддзелаў узгадняліся ў ЦК партыі), то пасада сакратара Саюза раней значыла, бадай, не меней, чым пасада намесніка міністра.

Па тэлевізары і ў прэсе на фотапартрэтах Алесь выглядаў, як малады Ален Дэлон, — з белакурай капной валос, пшанічнымі вусамі, адкрытай сімпатычнай усмешкай. «Вязунчык, — шапталіся за яго спінай пісьменнікі, — пра такіх кажуць, што ім і чорт дзяцей калыша». Па радыё гучалі песні на яго вершы, з экрана тэлевізара ён сваім густым басам прадстаўляў суразмоўцаў у літаратурнай праграме «Кнігазбор».

І вось нам давялося сустрэцца бліжэй ва Ушачах, на абласным фестывалі паэзіі, куды Алесь прывёз групу пісьменнікаў з Мінска.

«Здароў!» — як старому сябру, гукнуў ён і працягнуў руку. Дзіўна, але неяк адразу паміж намі знікла ўсякая сцяна, нібыта мы былі даўно сталымі прыяцелямі. Дарэчы, я не раз заўважаў, што такое пачуццё ўзнікала ў многіх, хто сустракаўся з Алесем нават упершыню.

Яшчэ адзін эпізод з той паездкі запаў мне ў памяць. Сярод удзельнікаў сталічнага пісьменніцкага дэсанту быў адзін паважны ветэран, які яўна перабраў напярэдадні і слаба ўяўляў, куды яго прывезлі.

— Алесь, — раз-пораз пытаўся ён гучна, — мы дзе?

— Ва Ушачах, вучыцель! — спакойна адказваў Алесь, не звяртаючы ўвагі на здзіўленыя і іранічныя погляды раённага начальства.

І ўвесь час ён вельмі беражліва і паважліва апякаў сівога паэта, які затым, крыху ачуняўшы, вельмі ярка і ўдала выступіў у час агульнай імпрэзы.

Потым, праз шмат гадоў, ён мне распавядаў пра таго творцу, які сапраўды некалі ўводзіў яго, маладога, у літаратуру, а ў тыя дні паездкі перажываў нядаўняе асабістае гора — смерць любімай жонкі. Пазней мяне заўсёды падобраму здзіўляла і радавала проста пяшчотнае стаўленне Пісьмянкова да старэйшых па ўзросце пісьменнікаў, яго ўменне гаварыць з імі пра жыццё і літаратуру.

Потым, калі мы пасябравалі, я прыдумаў Алесю іранічную мянушку «Маўклівы», бо ўсе, хто яго ведаў, могуць пацвердзіць, што яго прыгожы бас у сяброўскіх размовах па гучанні займаў столькі часу, што, бывала, і сваё слова ўставіць было цяжка. Ды і сам Алесь смяяўся з гэтага, прыгаворваючы: «Так, я сапраўды маўклівы. Унутрана».

А калі я пераехаў у Мінск, аказалася, што мы з Пісьмянковым суседзі: жывём па абодва бакі вуліцы Якуба Коласа. Рамантыкі ў маім новым адрасе дадавала тое, што пасяліўся я ў кватэры, у якой да гэтага жыла Аляксандра Антонаўна Кетлер — апошняе платанічнае каханне Якуба Коласа, і нават кніжкі з дарчымі надпісамі песняра засталіся мне ад былых гаспадароў.

Пакуль я працаваў у «Вожыку», уваходзіў у новае сталічнае жыццё, наша суседства не надта часта прыводзіла да сумесных сумоўяў. Але неўзабаве мяне выбралі намеснікам старшыні Саюза пісьменнікаў, а Алесь узначаліў ЛіМ, і мы сталі суседзямі ўдвая: ад Саюза да ЛіМа шлях быў таксама — толькі дарогу перайсці.

Але зусім не геаграфічная блізкасць, дакладней, не толькі яна, паспрыяла нашаму збліжэнню.

Новы 1998 год я сустрэў ужо на новай пасадзе. У гэта нават сёння цяжка паверыць: я хадзіў па калідорах, па якіх да мяне хадзілі Танк, Шамякін, Чыгрынаў, Сачанка, у маім новым кабінеце не раз бывалі Брыль, Адамчык, Грахоўскі… Дарэчы, Іван Антонавіч адным з першых павіншаваў мяне з выбраннем, праўда, перасцерагаючы ад залішняй эйфарыі, бо з праблемамі, з якімі, па яго словах, я мушу сутыкнуцца, справіцца будзе вельмі няпроста. Колькі разоў у роспачныя хвіліны я ўзгадваў яго прарочыя словы…



Вяртаючыся з Горак. Справа - Уладзімір Саламаха.

Тым не менш работа зацягвала, займала практычна ўвесь час. Трэба было сустракаць і апекавацца балгарскімі пісьменнікамі Стэфанам Паптоневым і Румянкай Еўцімавай, якія прыехалі складаць анталогію беларускай паэзіі, арганізоўваць вечары ў Доме літаратара, ды і час быў нялёгкі: абвастрыліся супярэчнасці ў пісьменніцкім асяроддзі, і мне, нявопытнаму, не заваяваўшаму яшчэ пэўную вагу і аўтарытэт, было проста цяжка.

Пісьмянкоў неяк неўпрыкмет стаў прыходзіць на дапамогу: дзяліўся сваім мінулым вопытам, даваў парады па некаторых аспектах міжасабовых зносін. Мы сталі часта вяртацца разам дадому і доўга размаўлялі, стоячы каля майго пад'езда.

Надышла вясна. Аднойчы ў Саюзе пасля чарговай вечарыны неяк стыхійна склалася кампанія і, як бывае, ідучы па дарозе, нікому не хацелася разыходзіцца. Алесь запрасіў да сябе, балазе мы стаялі насупраць яго дома.

Сярод нас быў вядомы, старэйшы за нас пісьменнік, і ён нечакана згадзіўся. За імправізаваным сталом на кухні бяседа зацягнулася далёка за поўнач. Мы слухалі расповеды жывога класіка пра яго сустрэчы з сусветнымі славутасцямі, горача дыскутавалі пра лёс айчыннай літаратуры…

Потым мы з Алесем пайшлі праводзіць шаноўнага госця дадому. Вярталіся ўжо пад раніцу. Было амаль па-летняму цёпла. Толькі што прайшоў дожджык, і трамвайныя рэйкі зіхацелі матавым бляскам. Пахла першай клейкай лістотай. На душы было неяк лагодна і спакойна.

Быццам падслухаўшы мае думкі, Алесь раптам сказаў:

— Дзіўна, Якубавіч (з некаторых часоў стаў ён мяне так называць), такое адчуванне, што ведаю цябе з дзяцінства. Ніколі не думаў, што адчую такое. Як з Маруком…

Прыйшоўшы дадому, я доўга яшчэ ў памяці пракручваў яго словы. Менавіта ў гэтыя хвіліны я зразумеў, што Мінск стаў для мяне таксама родным горадам, што ў мяне тут з'явіўся сябра.

З Маруком у Алеся былі сапраўды брацкія адносіны. Не раз потым ён расказваў мне, як яны пазнаёміліся, калі паступалі на філфак БДУ, як жылі на прыватнай кватэры, як у інтэрнаце спалі па чарзе пад ложкам Валодзі Ягоўдзіка, калі іх пазбавілі пакоя…

Валодзя Марук так і называў Алеся — братачка, і Алесь часта распавядаў, як на ягоную спробу выказаць сваю думку на прыватнае жыццё сябра Марук адказаў яму:

— Не турбуйся, братачка, сам разбяруся.

Пасля той красавіцкай раніцы мы з Алесем сталі бачыцца штодня, разам гулялі па вуліцах, а па выхадных вандравалі па памятных яму мясцінах, дзе ён знаёміў мяне з самымі рознымі куточкамі нашай сталіцы. Дарэчы, гэтыя вандроўкі натхнілі Алеся на серыю матэрыялаў у «ЛіМе», якія ён даручыў рыхтаваць Пятру Васілеўскаму.

Асаблівае месца ў нашых паходах займалі Камароўскі і Чэрвеньскі рынкі. Я спачатку супраціўляўся, бо не люблю гэтых, па-сучаснаму кажучы, шопінгаў, але Алесь так угаворваў, што адмовіцца было цяжка.

Я потым зразумеў, што не столькі купляць мы туды хадзілі, колькі паглядзець на людзей, паразмаўляць з гандлярамі. Пісьмянкоў часта ўступаў у размовы з вясковымі дзядзькамі і цёткамі, якіх я звычайна саромеўся.

— Эх, ты! — выгаворваў сябрук. — Вось Купала і Колас, ды і дзядзька Змітрок Бядуля хадзілі на рынак, каб слоў цікавых пачуць!

Слоў цікавых у наш час з вуснаў гандляроў ужо было небагата чуваць, але Пісьмянкоў свята выконваў запаветы пісьменнікаў-папярэднікаў.

Увогуле, да асобы пісьменніка, яго ролі і аўтарытэту ў грамадстве стаўленне Алеся было святое. Асабліва шанаваў ён землякоў-магілёўцаў. Памятаю, як пры мне нарадзіліся ў яго такія радкі:

Магілёўцы п'юць з капытка,
Бо крыніц там не лічана.
Запытайся ў майго земляка
Ці з-пад Крычава,
Ці з-пад Клічава…

За бяседным сталом ён часта прамаўляў гэты верш, які заканчваўся так:

Я і сёння крыніцу спаткаў
Пад старымі бярозамі…
Магілёўцы п'юць з капытка,
Мо таму
І цвярозыя.

Папраўдзе, апошні радок не заўсёды адпавядаў ісціне. Але і перабольшваць адносіны Алеся з гарачымі напоямі не трэба. Засведчу і як пастаянны саўдзельнік розных з Алесем сустрэч і гутарак у сяброўскіх застоллях.

Часта, каб супакоіць па тэлефоне маці, Алесь гаварыў:

— Мама, не турбуйся, я ж з Навумам. — І са смехам перадаваў яе адказ: — Ой, скажы дзякуй Навуму!

Пэўна ж у яго Касцюкоўшчыне па традыцыі лічылі, што мае аднакроўнікі шмат не п'юць. Ён часта расказваў пра сяброў яго дзядоў-каравачнікаў і кавалёў, якія разам з беларусамі дзялілі хлеб і соль, як яго дзед Сямён Маісеевіч меў сярод мясцовых яўрэяў «добрых таварышаў».

Я нават часам стрымліваў яго ў гэтых размовах, бо ў такіх тонкіх далікатных рэчах некаторыя шукалі самы розны сэнс, які Алесь нават і не думаў укладваць.

Але калі да нашай кампаніі далучаўся яшчэ і Анатоль Зэкаў, то розных вясёлых жартаў, паказак і сяброўскіх розыгрышаў на гэтыя і іншыя тэмы было нямала.

Напрыклад, на поўным сур'ёзе Алесь мог даказваць, што я ўнук Кузьмы Чорнага, называў мяне сэрцаедам, ледзь не Казановай… Прычым ён мог пра гэта давяральна паведамляць у маёй прысутнасці самым розным асобам. Я спачатку бянтэжыўся, нават хацеў крыўдаваць, але потым зміры ўся і даводзіў, што ўсё гэта жарты.

Так нарадзіўся верш пра рыбніцу. Проста ў час такіх сумесных паходаў мы аднойчы спыніліся ля вагончыка, дзе прадавалі рыбу. Гаспадыняй, а хутчэй за ўсё проста прадавачкай аказалася вельмі прыгожая маладая кабета. І мы сталі часцяком наведваць гэта месца, нават аднойчы прынеслі жаночыне кветкі. Гэта было проста такое бяскрыўднае лёгкае заляцанне.

І раптам Алесь прачытаў верш «Паэт і рыбніца»:

Зноў мароз — вясёлы зух —
На праспект абрынуўся.
Эх, каб меў бы я кажух,
Бегаў бы да рыбніцы…
Там і стронга, і ласось.
Россып беларыбіцы…
«Новы рускі», быццам лось,
Топчацца ля рыбніцы.
Не, зусім не селядца
Хочацца багатаму:
Шанцы ёсць у малайца —
Вечар іх сасватае.
Я ж сяджу — не рыпнуся,
Верш пішу пра рыбніцу.

Дарэчы пра кажух… Кажух не кажух, а трэба было Алесю на зіму купіць цёплую куртку. І адправіліся мы на Чэрвеньскі рынак…

Гадзіны праз паўтары пасля жартаў і гутарак, бясконцых прымерак і абмеркаванняў куртка нарэшце была выбрана.

— Не будзе насіцца, Якубавіч, — заклапочана прамовіў Алесь. — Дзе тут бліжэйшая забягайлаўка (так ён называў няхітрыя вулічныя кафэшкі).

У бліжэйшай «забягайлаўцы» пад высокімі пад мрамар сталамі Алесь павесіў пакет з курткай на крук. І як звычайна, пайшла гаворка пра тое, што вычытаў учора ў чарговы раз у Стральцова пра смешную цётку Чырку з родных Бялынкавіч, пра аднакласніцу Райку, якой прысвячаў верш.

Толькі выбраўшыся нарэшце з «забягайлаўкі» і прайшоўшы метраў пяцьсот, Алесь успомніў, што пакет з курткай так і застаўся пад сталом на крюку.

Подбегам вярнуліся назад. На шчасце, стол ніхто не паспеў заняць, і пакет вісеў на месцы.

Назаўтра Алесь патэлефанаваў і заклапочана сказаў:

— Пойдзем, Якубавіч, мяняць куртку. Дома сказалі, што вялікая.

Увесь рытуал паўтарыўся нанова.

І было б усё добра і проста, каб толькі так, у жартах і розыгрышах, у вандроўках і вясёлых кампаніях праходзіў час. Але ў гэтым Алесь шукаў збавення ад цяжкіх дум, ад нялёгкіх страт. Памёр бацька, якога ён так любіў, апусцела, асірацела родная хата:

Трэці год не кашу
Я з табою лугі.
Там мянташыць касу
Зараз нехта другі…

Радкі ў Алеся нібыта простыя, звычайныя, але менавіта ў гэтым сіла яго паэзіі — яна з сэрца:

Мог бы й я застацца дома,
Несці вернасць баразне,
Бо выбітных і вядомых
Тут хапае без мяне.
Не пра гэтае размова.
Не пра гэта, косю, сказ:
Проста ў Сашкі Пісьмянкова
Мог бы іншы быць Пегас.

Сёння, перачытваючы яго кнігі, я лаўлю сябе на думцы, што ягоныя вершы былі з намі паўсюль, што яны проста прарасталі з нашых звычайных размоў…

Позна вечарам мы засталіся ў яго лімаўскім кабінеце, і ён патэлефанаваў маці:

— Мама, вось мы тут з Навумам, заўтра я еду дадому. Што прывезці?

І паклаўшы трубку, заклапочана сказаў:

— Пайшлі шукаць сухое малако. Мама прасіла.

Па дарозе ён расказваў, што маці стала дрэнна сябе адчуваць, што ёй ужо цяжка даглядаць старэнькую бабулю. Памятаю, я яшчэ тады сказаў:

— Ты ўсё ж шчаслівы, мама жывая. У мяне маці даўно няма.

Як горка пашкадаваў я пра тыя словы, калі позна ўвечары, калі мы ўжо разышліся па дамах, патлефанаваў Алесь і глухім голасам сказаў:

— Званілі з Бялынкавіч. Мама памерла.

Пакланіўся роднай хаце:
Што яшчэ зрабіць я мог?
Няма бацькі,
Няма маці,
І суддзя мне толькі Бог.
Толькі Бог ды тыя людзі,
Да якіх душой прырос…
Толькі студзень
Рану студзіць.
Слёзы высушыў мароз.

«Улюбёнец лёсу», «прыгажун», «рубаха-хлопец»… Мала хто ведаў і ўяўляў, наколькі цяжка і напружана было яму, асабліва ў апошнія гады. Не толькі страта родных, якую ён неяк па-асабліваму глыбока перажываў, — рушыліся ранейшыя ўяўленні пра многае ў жыцці і літаратуры, мяняліся паводзіны тых, каго ён любіў і паважаў.

Часта ён не мог адмовіць у нейкім дзеянні, хаця не лічыў гэта правільным. Аднойчы мне давялося літаральна ратаваць яго ад рызыкоўнага ва ўсіх сэнсах учынку.

— Не магу адмовіць, Якубавіч, сабака я ці што?

— Але ж гэта няправільна, цябе проста хочуць выкарыстаць!

— Дык што рабіць?

— Хто-небудзь ведае, што ты сёння прыехаў з адпачынку?

— Не.

— Дык збірайся, паедзем з горада! Ёсць куды?

Так мы з'ехалі на тры дні ў Сёмкаў гарадок на лецішча брата Алены, Алесевай жонкі.

Гэтыя летнія дні, праведзеныя ў сціплым дачным вагончыку на беразе вадасховішча, былі напоўнены сонцам і размовамі. Алесь, ён любіў ваду, ныраў і плаваў, а я больш сядзеў на беразе. Калі цямнела і на небе запальваліся зоркі, мы чыталі адзін аднаму вершы любімых паэтаў. Алесь любіў Рубцова і Кузняцова, Пысіна і Барадуліна, ведаў на памяць многія вершы Пастарнака і Твардоўскага. Увогуле, я зайздросціў яго эрудыцыі. Ён мог кавалкамі цытаваць прозу Талстога і Дастаеўскага, Буніна і Купрына.

Тады, летам, усё абышлося. Алесь выйшаў пасля адпачынку на працу, ніхто ні пра што не даведаўся і не пытаўся.

Але зусім схавацца ад праблем у наш час немагчыма. Аднойчы ў сваім лімаўскім кабінеце



У Глыбокім. Па запрашэнні паэта, дырэктара СШ № 3 г. Глыбокае, Віталя Гарановіча (крайні справа).

Алесь моцна паспрачаўся з новым начальнікам (гэты часовы чалавек ужо даўно знік з бліжэйшага далягляду). Адчувалася, што гэта можа скончыцца для Пісьмянкова дрэнна.

Было зноў лета, зноў адпачынак, які Алесь звычайна праводзіў на сваёй Касцюкоўшчыне.

Прапанова ўзначаліць рэдакцыю часопіса «Вожык» стала для яго поўнай нечаканасцю. Ён патэлефанаваў мне з вёскі і сказаў, што запрашаюць на размову ў Мінск.

— Трэба згаджацца, — асцярожна, ведаючы гарачы характар сябра, параіў я. — Новая праца, новыя абсягі, ды і самастойнасці болей.

— Ды які я гумарыст? — спрабаваў пярэчыць Алесь.

— Нічога, справішся, я буду дапамагаць, бо маю вопыт працы ў «Вожыку».

Так Алесь перабраўся ў вожыкаўскі кабінет, дзе праз колькі гадоў і напаткаў свой апошні ўздых.

…Дзіўная рэч — памяць. Яна мае ўласцівасць часам блытаць храналогію, высвечваць на пэўны час больш яркія эпізоды, адкідваць тое, што здавалася дробяззю. Зайздрошчу Віктару Шніпу, які занатоўвае падзеі кожнага пражытага дня: у любы момант можна вярнуць з небыцця любую падзею, любы яркі эпізод. Я ж ніколі не думаў і не збіраўся занатоўваць нашы з Пісьмянковым стасункі і ніколі не чакаў, што яны так нечакана і трагічна абарвуцца.

На сэрца ён скардзіўся даўно. Часам ідучы, раптам спыняўся, глытаў нітрагліцэрын. Але ўрачоў панічна баяўся, і пайсці ў паліклініку яго было не прымусіць. З вялікімі цяжкасцямі адвёў яго аднойчы да стаматолага, дзе яму вырвалі зуб. З гэтай нагоды Алесь быў у эйфарыі два дні, тэлефанаваў маці, усім распавядаў пра той наш паход у паліклініку.

Хто ж мог уявіць, што гэты яшчэ малады і прыгожы чалавек у сваім рабочым кабінеце падымецца, каб адчыніць фортку, і…

Згадаўся адзін смешны эпізод. Як заўсёды, прагульваліся мы па нашай вуліцы Якуба Коласа, пра нешта гутарылі. Раптам Алеся спыніў адзін даволі несамавітага выгляду дзяцюк і папрасіў

прыкурыць. Пакуль Алесь даставаў запалкі, я крыху прайшоў уперад. Спыніўся, каб пачакаць. Але, прыкурыўшы, дзяцюк стаў нешта гаварыць Алесю. Я было памкнуўся назад, але сябрук жэстам рукі даў знак, каб я стаяў на месцы.

Нарэшце, дагнаўшы, са смехам сказаў:

— Ведаеш, ён мяне ўгаворваў, каб ты ўзяў яго на працу шафёрам.

— Як шафёрам, чаму?

— Ён казаў, што ты мой начальнік, а я пры табе, і калі нам патрэбны шафёр, то ён гатовы.

Пісьмянкоў выклікаў у людзей сімпатыю, жаданне пагаварыць, пазнаёміцца. Гэта некаторых злавала, бо ён нярэдка на вуліцы ці ў транспарце мог завесці гутарку з абсалютна незнаёмым чалавекам.

І сярод яго знаёмых было нямала людзей, як кажуць, з іншага кола. Так ён мяне аднойчы запрасіў у госці да паркетчыка Лёні, і мы некалькі гадзін прасядзелі ў кампаніі гэтага цікавага чалавека, з якім Алесь пазнаёміўся, калі той рамантаваў у яго кватэры паркет…

Падтрымліваў ён сяброўскія адносіны з аднакласніцай, медыкам, асістэнтам вядомага прафесара, з дырэктарам абласной бібліятэкі імя Пушкіна Наталляй Чуевай, археолагам Пятром Русавым, земляком, журналістам, пісьменнікам Віктарам Патапенкам.

Памятаю, калі з Патапенкам мяне пазнаёміў Уладзімір Саламаха, той адразу запытаўся пра мае стасункі з Пісьмянковым, якога да гэтага асабіста не ведаў. Так сталася, што неўзабаве мы разам паехалі на маю Полаччыну, у вёску Зыкова, куды ў свой час перавезлі з Палесся маю цешчу Зосю Паўлаўну. Запрасіў туды і Патапенку. З таго часу Алесь і Віктар сталі сустракацца, разам ездзілі на радзіму. Патапенку ён прысвяціў такія радкі:



Падчас выступлення ў Полацку разам з Пятром Васючэнкам.

Ах, якая вада ў Калодзескай,
Хоць бяры і на продаж вязі!
Калі вып’еш, душа амалодзіцца,
Калі вып’еш, яшчэ папрасі!
Гэта з маленства мне помніцца,
Гэта адтуль прыплылі галасы.
Дзе не сеецца, не малоціцца
Ля Чарнобыльскай паласы.

Цудоўны здымак зрабіў Віктар з Пісьмянковым ля калодзежа на іх Крычаўшчыне.

Увогуле, Алесь любіў прысвячаць сябрам вершы. У яго радках фігуруюць Андрэй Федарэнка, Анатоль Зэкаў, Уладзімір Ягоўдзік, Уладзімір Марук, Уладзімір Бутрамееў…

Прызнацца, увесь час у душы я хацеў, каб нейкія радкі ён прысвяціў і мне. Але ішлі гады, а такіх радкоў у яго не было. І вось, падпісваючы мне сваю дзіцячую кнігу « Мы з братам», ён напісаў так:

Позні вечар, поўны дум.
Клопат плот гародзіць.
Акадэмія, Навум,
Нам пара выходзіць.
Акадэмія навук —
Бронза ў кожным гуку!
Толькі ў нас з табой, Навум,
Іншая навука.
Вершаваць.

Як чараваць.
З холаду — у агонію.
Ачуняўшы, вывяраць
Алгебрай гармонію.

А нарадзіўся гэты верш з жарту: калі ў метро аб'яўлялі станцыю «Акадэмія навук», Пісьмянок паўтараў: «Навум, чуеш, ён кажа «Акадэмія Навум».

Сябры і родныя звалі яго Пісьмянок. Відаць, гэта і было сапраўднае прозвішча яго продкаў, якім Алесь вельмі ганарыўся.

Нядаўна перачытаў і выпісаў ледзь не з апошняй зацемкі: «Гэтым спякотным летам, вудзячы рыбу каля Вербачкі, я сустрэў двух цыбатых хлапчукоў… На пытанне, дзе так добра ловіцца, хлопчыкі дружна і зычліва параілі: «Ідзіце на Пісьмянкоў луг».

«Пісьмянкоў луг…» Эх, шкада, што гэта ніколі ўжо не пачуюць мае бацька і маці. Гэта яны, паліваючы потам зямлю, расчысцілі і зраўнялі зарослае непралазным хмызняком месца над Зубарам і ператварылі яго ў прыгожы і раздольны луг!»

Цяпер на радзіме Алеся штогод праводзіцца свята паэзіі «Пісьмянкоў луг». Ці марыў пра гэта ён сам? Не ведаю, бо вось якраз пра тое мы не гаварылі, хаця Алесь апошнім часам шмат казаў пра смерць, і нават у дзень, калі адбылася трагедыя, на мой ранішні званок, каб спраўдзіць, ці паедзе ён са мной і Алесем Савіцкім на сустрэчу ў Віцебск, сказаў літаральна, што дрэнна сябе адчувае, і нават прамовіў: « Вы тады труп мой можаце прывезці».

Ці прадбачыў ён, што ў гэты дзень здарыцца непапраўнае? Хутчэй не, бо мы яшчэ збіраліся назаўтра ў госці да глыбоцкага паэта Віталя Гарановіча, які прыехаў у Мінск на настаўніцкія курсы павышэння кваліфікацыі.

Незадоўга да таго страшнага дня, на Вялікдзень, мы пайшлі з ім у бліжэйшую да нас царкву свяціць кулічы і адстаяць усяночную службу. Гэта стала для нас звыклым яшчэ з таго часу, як Павел Вераб'ёў прывёз нас ва Узду да мясцовага святара. Алесь да гэтага не быў вялікім вернікам, я таксама, але той візіт змяніў наша стаўленне кардынальна. І па святах мы з Алесем адпраўляліся ў храм, ставілі свечкі, стаялі службу.

Па традыцыі я ўзяў з дому два кулічы, каб потым абмяняцца з Алесем. Калі, пахрыстосаўшыся пасля асвячэння, я аддаў свой куліч сябру, ён разгублена сказаў: «А ў мяне адзін». «Дык нясі дадому, заўтра, дакладней сёння пачастуемся!»

Удзень я доўга чакаў Алесева званка. Мы не першы раз ладзілі сумесны стол, пачынаючы ў мяне, потым заходзячы да Алеся, яго жонкі, дзяцей. Дома было ўсё накрыта, на стале стаялі ўсе велікодныя стравы.

Нарэшце гадзіны ў чатыры раздаўся званок, і Алесь стаў прасіць прабачэння, што дома несвяточная атмасфера, што пачаставаць не атрымліваецца, і прапанаваў сустрэцца на вуліцы.

На маё запрашэнне ён стаў аднеквацца. Сказаў, што ўжо дамовіўся з Маруком. Я хутка апрануўся і пайшоў з дому. Алесь і Валодзя ўжо чакалі. Мы пайшлі ў бліжэйшую краму, узялі чакушку гарэлкі і палку каўбасы. Спусціліся ў Алесеў падвал…

Мяне не пакідала пачуццё трывогі. Здавалася б, размаўлялі, жартавалі, але нешта ціснула сэрца, нейкая маркота навальвалася на душу…

Няма ўжо Віталя, няма Валодзі Марука, няма Наталлі Чуевай. Так вось пусцее зямля, так становіцца ўсё больш вусцішна і адзінока.

Кладуцца радкі, а думкі віруюць, а ўспаміны наплываюць, і няма ім канца. І смяецца Алесь, і гучыць яго густы бас, і ўсплываюць яго радкі з верша, які я вынес у загаловак гэтай сваёй ціхай і тужлівай споведзі:

Дарога на строму
Нялёгкая дужа.
Як раннюю стому
Адужаць мне, дружа?
Унізе крыніца
З апалай лістотай.
На строме капліца
Гарыць пазалотай.
Як з духам паніклым
Дайсці да вячэрні,
Дзе моліцца звыкла
Здарожаны вернік?

Ён узышоў на сваю строму, пакінуўшы нас падымацца да яе, каб сустрэцца разам у горніх высях.

Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання

# праект «ВАРШТАТ»

**Стагоддзе: XVI**

**Асоба:** Францыск Скарына
**Акалічнасці:** першая ў Беларусі друкарня
і Рэфармацыя як «інтэлектуальная прыгода»

**У выпуску:**

- Алесь Суша. Кім быў і хто для нас ёсць сёння Францыск Скарына
*(працяг, пачатак у №1, 2017)*
- Людміла Іванова. Рэфармацыйнае кнігадрукаванне ў Беларусі ў XVI стагоддзі
- Ксенія Тарасевіч. Тытульны аркуш — «фасад» кнігі (артыкул-ілюстрацыя)
*(працяг, пачатак у №1, 2017)*
- Цытатнік, або Тое, што надрукавана даўно, але варта чытаць сёння,
бо яно цікавае і карыснае



фц хфтфцкгххб аыцфвзд піає пафы

Алесь Суша

# Кім быў і хто для нас ёсць сёння Францыск Скарына

*(працяг, пачатак у №1, 2017)*

## Каралеўскі сакратар

У біяграфіі Францыска Скарыны ёсць яшчэ адзін недастаткова вывучаны складаны аспект — гэта яго праца ў якасці сакратара караля Дацыі. Менавіта такія біяграфічныя звесткі пра Скарыну змешчаныя ў дакументах Падуанскага ўніверсітэта («secretarii Regis Datiae»[14]).

Скарыназнаўцы па-рознаму тлумачаць сэнс гэтых слоў. Некаторыя лічаць, што пад Дацыяй трэба разумець Дакію — гістарычную вобласць часоў антычнасці, дзе сёння знаходзяцца Румынія і Малдова. Аднак гэтыя землі на Балканах у часы Скарыны звычайна называліся Валахіяй. Да таго ж свайго караля тут зусім не было. На карысць дадзенай версіі ўскосна сведчыць хіба толькі той факт, што ў Валахіі якраз у той час друкар Макарый падрыхтоўваў свае кірылічныя выданні, і Скарына мог мець да гэтага некаторае дачыненне. Але дзеля справядлівасці трэба адзначыць: выданні Макарыя і Скарыны вельмі істотна адрозніваюцца нават візуальна[15].

Таму большасць даследчыкаў схіляецца да думкі, што гутарка ідзе пра караля Даніі, пры двары якога мог служыць Францыск Скарына. Як у тагачасным справаводстве італьянскіх універсітэтаў, так і ў міжнароднай карэспандэнцыі Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы пад Дацыяй звычайна разумелася менавіта Данія[16].

Праца Скарыны ў Капенгагене, дзе сапраўды знаходзілася рэзідэнцыя караля Даніі, магла быць звязана з ажыўленнем дыпламатычных стасункаў Польшчы, Вялікага Княства Літоўскага і Дацкага каралеўства. Тэарэтычна Францыск Скарына мог быць сакратаром ці членам пасольства ад польскага караля і вялікага князя літоўскага Жыгімонта I, якое было накіравана ў Капенгаген у 1509 годзе для заключэння дагавору аб дружбе. У тыя гады Данія знаходзілася ў сітуацыі канфлікту з суседняй моцнай Швецыяй і таму была зацікаўлена ў заключэнні саюза з іншымі краінамі. Пасля вяртання пасольства на Радзіму Скарына меў магчымасць застацца ў канцылярыі дацкага караля Ханса.

Праца Скарыны ў дыпламатычных місіях і ў якасці каралеўскага сакратара сведчыць таксама пра яго схільнасці да вывучэння замежных моў, а ў прыватнасці — пра добрае валоданне лацінскай мовай як мовай міждзяржаўных стасункаў. Гэтыя веды спатрэбіліся яму ў далейшым пры перакладзе Бібліі. З іншага боку, сакратарская праца спрыяла наладжванню стасункаў з еўрапейскімі дзяржаўнымі дзеячамі, вучонымі, педагогамі і інш. Дацкі кароль, магчыма, улічваў таксама, што Скарына бліскуча валодаў беларускай і польскай мовамі — дзяржаўнымі мовамі саюзных Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага.

---

[14] Shutava, V. Again about Skaryna in Padua: circumstances / V. Shutava // Belarusian Review. — 2015. — Vol. 27. № 1. — P. 24.
[15] Немировский, Е. Л. Франциск Скорина: жизнь и деятельность белорусского просветителя / Е. Л. Немировский — Минск: Мастацкая літаратура, 1990. — 597 с. — С. 135—137.
[16] Галенчанка, Г. Я. Францыск Скарына: у паціне версій, стэрэатыпаў і міфаў / Г. Я. Галенчанка // Российские и славянские исследования: науч. сб. / Белорус. гос. ун-т.; отв. редакторы: А. П. Сальков, О. А. Яновский [и др.]. — Минск, 2008. — Вып. 3. — С. 127.

### Пра незразумелыя літаркі на вокладцы праекта “Варштат”

*З нумара ў нумар, ад студзеня да снежня 2017-га на вокладцы сур’ёзнага праекта, прысвечанага значнай даце, размяшчаецца абракадабра?!*

*Ніякая не абракадабра, а… арбадакарба. Баараkaдрба. Аьматацаьма. F,hfrflf,hf. Бвсблбебвсб. Што мы выкарысталі для зашыфроўкі такога простага слова “абракадабра” — тарабарскую грамату, мудрую літарэю, шыфр пад назвай ROT1, іншыя перастановачныя ключы?*

*На вокладцы нашага праекта размяшчаецца не абракадабра, а зашыфраваная частка выразу. Займець цэлы зашыфраваны выраз магчыма толькі пры чытанні ўсіх нумароў “Маладосці” за год. Сабраўшы часткі ў парадку, які супадае з нумарацыяй часопіса, знайшоўшы ключ і расшыфраваўшы выказванне, можна атрымаць ад “Маладосці” шыкоўны прыз!*

*Месца выдачы прызоў — рэдакцыя “Маладосці”. Тэрмін выдачы: 25—31 снежня 2017 года.*





Уладзіславаўская (тронная) зала Каралеўскага палаца ў Празе (гравюра пачатку XVII стагоддзя).

На гэтым сакратарская праца Скарыны магла не закончыцца. Некаторыя даследчыкі лічаць: ён мог знаходзіцца ў складзе дэлегацыі вялікага князя літоўскага і польскага караля Жыгімонта Старога на Венскім кангрэсе 1515 года[17]. Тут абмяркоўваліся дачыненні паміж еўрапейскімі дынастыямі, а найперш ішла гаворка пра дынастычныя стасункі чэшскіх каралёў з дынастыі Ягелонаў. Пасля завяршэння кангрэса Скарына мог застацца ў Празе, каб працягваць службу пры двары маладога чэшскага караля Людовіка — пляменніка Жыгімонта Старога, што ў далейшым магло паспрыяць пачатку выдавецкай дзейнасці Скарыны ў Празе.

## Сакратар віленскага біскупа

Вядомай і вельмі ўплывовай асобай у Вялікім Княстве Літоўскім быў віленскі каталіцкі біскуп (епіскап) Ян. Апрача таго, што ён кіраваў усёй каталіцкай царквой у дзяржаве, ён яшчэ ўваходзіў у склад самых высокіх органаў

[17] Dobrovsky, J. Littrarische Nachrichten von einer auf Veranlassung der Buchmischen Gesselschaff der Wissenschaften im Jahre 1792 unternommenen Reise nach Schweden und Russland / J. Dobrovsky. — Praga, 1796. — S. 105.
Галенчанка, Г. Я. Францыск Скарына: у паціне версій, стэрэатыпаў і міфаў / Г. Я. Галенчанка // Российские и славянские исследования: науч. сб. / Белорус. гос. ун-т.; отв. редакторы: А. П. Сальков, О. А. Яновский [и др.]. — Минск, 2008. — Вып. 3. — С. 127.



Палац вялікіх князёў літоўскіх у Вільні.

Палац віленскіх біскупаў на гравюры Напалеона Орды канца XIX стагоддзя.



Палац віленскіх біскупаў (цяпер Прэзідэнцкі палац) у 1850 годзе.





Віленскія замкі і Кафедральны храм горада - рэзідэнцыя каталіцкага епіскапа (гравюра Т. Макоўскага 1604 года).



Святы Еранім за працай - гравюра А Дзюрэра з выявай найбольш вядомага перакладчыка Бібліі, які быў узорам для Скарыны (1514).

кіравання Вялікага Княства Літоўскага. Быў і суб'ектыўны фактар, які значна ўзвялічваў ролю біскупа Яна ў краіне: ён з'яўляўся пазашлюбным сынам вялікага князя Вялікага Княства Літоўскага і караля польскага Жыгімонта Старога.

Як вядома, у 1519 годзе Ян стаў віленскім біскупам. Магчыма, менавіта па гэтай прычыне Францыск Скарына вырашыў пакінуць Прагу і працягнуць сваю працу ў Вільні. Як сведчаць дакументы 1525 года, Францыск Скарына працаваў непасрэдна пры двары віленскага біскупа[18]. Згадаем, што менавіта ў гэтым годзе выйшаў і яго «Апостал». Магчыма, Ян быў апекуном выдавецкай дзейнасці Скарыны ў Вільні.

Безумоўна, праца ў якасці сакратара каталіцкага архірэя патрабавала не толькі добрага ведання лацінскай, беларускай і польскай моў, але і добрай арыентацыі ў хрысціянскай дагматыцы, здольнасці шукаць і знаходзіць паразуменне паміж канфесіямі. Магчыма, Францыск Скарына атрымаў, апрача філасофскай і медыцынскай адукацыі, таксама і адукацыю багаслоўскую. Без гэтага цяжка сабе ўявіць як яго працу над перакладам, выданнем і тлумачэннем кніг Бібліі, так і працу сакратаром епіскапа.

## Перакладчык

Самая вялікая справа жыцця Францыска Скарыны — пераклад і выданне кніг Бібліі для суайчыннікаў. Гэта місія вымагала вырашэння некалькіх задач, першай з якіх з'яўляецца падрыхтоўка перакладу Святога Пісання.

Надзвычай актыўная выдавецкая дзейнасць нашага земляка ў Празе на працягу кароткага храналагічнага перыяду можа сведчыць пра тое, што ёй папярэднічала працяглая праца над перакладам кніг Бібліі, якая пачалася задоўга да выхаду кніг з друку. Верагодна, гэта адбылося адразу пасля заканчэння Скарынам Кракаўскага ўніверсітэта ці пасля атрымання ім ступені доктара медыцыны.

[18] Гячаускас, Э. Франциск Скорина — секретарь виленского епископа Иоанна из князей литовских / Э. Гячаускас // Федоровские чтения 1982 : материалы научной сессии, посвященной теме "История книги в Литве. Русско-литовские книжные связи", 1982 г., Вильнюс / ответственный редактор Е. Л. Немировский. — Москва, 1987. — С. 62.

Вялікай мужнасці ад асветніка патрабавала нават само толькі жаданне даць сваім землякам, прычым не толькі багатым і высокаадукаваным, але ўсім («люду паспалітаму»), магчымасць прачытаць самую галоўную кнігу тагачаснага свету — Біблію — на жывой і зразумелай народу мове. У тыя часы падобныя пачынанні з афіцыйнага пункту гледжання каталіцкай і праваслаўнай цэркваў зусім не віталіся, а часам нават успрымаліся як абсалютна немагчымыя. Вельмі часта менавіта з працай над перакладам Бібліі на нацыянальныя мовы былі звязаны царкоўныя рэформы і змены ва ўсім грамадстве. Што ж казаць, калі большасць перакладаў Бібліі на нацыянальныя мовы была зроблена менавіта царкоўнымі рэфарматарамі, стаўленне да якіх афіцыйная царква мела вельмі негатыўнае (напрыклад, пераклад Лютэрам Бібліі на нямецкую мову, гусітамі — на чэшскую і інш.).

Тым не менш эпоха Адраджэння стварыла магчымасці для таго, каб Святое Пісанне пабачыла свет на розных мовах. Скарына называў свой пераклад Бібліі «рускім», што ў тэрміналогіі таго часу азначае — беларускім. Трэба прызнаць, што арыентацыя гэтага выдання на выкарыстанне ва ўжытку праваслаўнай царквы патрабавала захавання выпрацаваных стагоддзямі традыцый. Таму правільней было б сказаць, што пераклад Бібліі быў зроблены Скарынам на царкоўнаславянскую мову ў беларускай рэдакцыі. Пры гэтым каментары, прадмовы і пасляслоўі да кожнай сваёй кнігі Скарына напісаў па-беларуску.

Ужо ў першым выданні Францыска Скарыны «Псалтыр» (1517) незразумелыя месцы ў царкоўнаславянскім тэксце былі патлумачаны больш зразумелымі роднымі словамі на палях. Скарынава рэдакцыя Бібліі выяўляе відавочныя рысы беларускай лексікі, марфалогіі і фанетыкі. Такія ж асаблівасці былі характэрны для больш ранніх рукапісных кніг Святога Пісання, якія ствараліся на беларускіх землях.

Важнейшай крыніцай для перакладу Скарынам Бібліі павінны былі служыць ранейшыя рукапісныя пераклады на царкоўнаславянскую мову, класічныя тэксты на старажытных мовах (грэчаскай, лацінскай, іўрыце), першыя пераклады Бібліі на жывыя еўрапейскія мовы. Сярод апошніх, як лічыцца, найбольшы ўплыў на пераклад Францыска Скарыны зрабіла чэшскае выданне Бібліі, зробленае ў Венецыі ў 1506 годзе[19]. Тым самым забяспечвалася спалучэнне ў яго выданнях агульнаеўрапейскіх хрысціянскіх традыцый і традыцый славянскага свету.

## Стваральнік літаратурнай мовы

Скарына як мовазнавец пакуль недастаткова ацэнены. Тым не менш, часам даводзіцца сустракаць выказванне пра яго як пра стваральніка беларускай літаратурнай мовы. І меркаванне гэта мае пад сабою некаторую глебу.

Эпоха Адраджэння стварыла неабходныя ўмовы для фарміравання і ўнармавання нацыянальных моў і стварэння на іх аснове нацыянальных літаратур. Многія мовы прайшлі шлях ад рэгіянальных гаворак, дыялектных утварэнняў да ўзроўню нацыянальных моў. І, як паказваюць многія даследаванні, вялікае значэнне ў гэтым працэсе мелі пераклады Святога Пісання[20] на гэтыя мовы.

У гэтым сэнсе можна ўпэўнена сказаць: Францыск Скарына стаяў ля вытокаў станаўлення нацыянальнай літаратурнай мовы[21]. Дзякуючы яго багатай пісьмовай спадчыне мы займелі вялікі пласт нацыянальнай літаратуры XVI стагоддзя з цэлым шэрагам яркіх паслядоўнікаў —

---

[19] Načeva-Marvanová, M. Stratifikace bohemismů ve Skarynově překladu Bible (Píseň Písní, 1518) — pohleh na Skarynu z českého břehu / M. Načeva-Marvanová // České vědomí Bělarusi. — Praha, 2013. — S. 300—314.
Vladimirovas, L. Pranciskus Skorina — Vilniaus spaudos pradininkas / L. Vladimirovas. — Vilnius: Valstybine politines ir mokslines literaturos leidykla, 1956. — P. 18.

[20] Klemensiewicz, Z. Historia języka polskiego / Zenon Klemensiewicz — Cz. 1. Doba staropolska. — Warszawa, 1961. — S. 18—19.
Свяжынскі, У. Праблема ідэнтыфікацыі афіцыйнай мовы Вялікага Княства Літоўскага / У. Свяжынскі // Metriciana: даследаванні і матэрыялы Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага / Аддзел спецыяльных гістарычных навук Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. — Мінск, 2001. — Т. 1. — С. 109—136.
Свяжынскі, У. Ідэі Рэфармацыі і моўная сітуацыя ў Вялікім Княстве Літоўскім / У. Свяжынскі // Франциск Скорина и Вильнюс: сб. материалов республиканской научной конференции, посвящённой 500-летию со дня рождения Франциска Скорины / сост. Л. Судавичене. — Вильнюс, 1991. — С. 87—91.

[21] Яскевіч, А. Францыск Скарына як духоўны пісьменнік / А. Яскевіч // 480 год беларускага кнігадрукавання: Матэрыялы Трэціх Скарынаўскіх чытанняў. — Мінск, 1998.— Кн. 9: Беларусіка/ гал.рэд. А. Мальдзіс. — С. 70.



рэфарматараў і пісьменнікаў, якія ўзнялі родную мову на вышыню дасканалай і самабытнай літаратурнай мовы. Мовы многіх нашых суседзяў дасягнулі такога ўзроўню стагоддзямі пазней[22]. Магчыма, менавіта дзякуючы адданай працы Францыска Скарыны і яго паслядоўнікаў, у XVI стагоддзі беларуская мова ў поўнай меры аформілася як дзяржаўная мова шматнацыянальнага Вялікага Княства Літоўскага.

Як засведчылі айчынныя і замежныя навукоўцы, моўнае наватарства Францыска Скарыны займала і займае пачэснае месца ў слоўнікавым складзе беларускай мовы з даўніх часоў да нашых дзён[23]. Выданні Францыска Скарыны ўяўляюць сабой вялікую каштоўнасць для тых, хто хоча прасачыць гістарычны шлях станаўлення беларускай літаратурнай мовы, фарміравання яе асноўных рыс і замацавання важнейшых моўных правіл.

Дзякуючы пашырэнню друкаванай кнігі (у адрозненне ад адзінкавых асобнікаў рукапіснай кнігі) беларускае слова ўвайшло ў кола еўрапейскага і агульнасусветнага моўнага працэсу. Тым самым перад замежнай чытацкай аўдыторыяй паўстала не толькі беларуская кніга, але і ўся беларуская культура.

## Духоўны пісьменнік

Скарынава слова вабіць да сябе не толькі даследчыкаў, але і аматараў прыгожага пісьменства. Паэтычнасць, афарыстычнасць, эмацыйная выразнасць у тэкстах Скарыны сведчаць пра яго вялікі пісьменніцкі талент. Дасканалая стылістыка сказаў і майстэрскае кампанаванне тэксту дазволілі аўтару раскрыць даволі складаныя багаслоўскія і філасофскія праблемы ў даступнай форме. Гэтаму спрыяе таксама наяўнасць паслядоўнай і лагічнай структурнай будовы прадмоў Скарыны: услед за уступам ідзе асноўны аповед, пасля аўтар займаецца распрацоўкай праблемы (тлумачэннем і доказваннем сваёй пазіцыі і абвяржэннем процілеглай), а напрыканцы знаходзіцца заключэнне.

У межах адносна невялікіх аўтарскіх твораў беларускага асветніка мы знаходзім спалучэнне розных стыляў пісьма, розных жанраў і форм, што звязана з тымі вялікімі і рознааспектнымі задачамі, якія ставіў перад сабою Францыск Скарына. У яго прадмовах спалучаюцца элементы каментарыя, аповеду, пропаведзі, гімна, экзэгезы (тлумачэння Святога Пісання)[24].

Творы Скарыны — гэта не маналог разумнага настаўніка, а дыялог з чытачом, сумоўе. Чытаючы яго кнігі, міжволі адчуваеш, што аўтар выкладае сутнасць праблемы нефармальна і прыводзіць аргументы на карысць свайго бачання. Ён вядзе зацікаўленую, эмацыйную адрасную дыскусію з чытачом і звяртаецца не да абстрактнага субяседніка, што часта можна бачыць у сярэдневечных тэкстах, а да жывога і канкрэтнага чытача.

Не менш таленавіта Францыск Скарына выявіў сябе як аўтар гімнаграфічных твораў[25]. Нездарма яго называюць часам «знакамітым рыцарам сваёй эпохі»[26], бо канцэнтраванасць стылявых прыёмаў і сродкаў у яго творах нярэдка проста ўражвае. Пры гэтым зайздросная тэхніка красамоўства заўсёды ўпарадкаваная і адухоўленая яго тонкім густам мастака і пачуццём меры. У прыватнасці, «Прадмова» Францыска Скарыны да ўсёй Бібліі, змешчаная ім у Кнізе Быцця (Прага, 1519), — гэта нішто іншае, як гімн Кнізе Кніг, Бібліі, створаны таленавіта, вельмі ўмела і па-мастацку дасканала.

Прадмовы Скарыны не толькі дапаўняюць асноўны тэкст біблейскіх кніг, але і выступаюць у ролі самадастатковых твораў прыгожага пісьменства. Нездарма ўжо ў наш час іх не раз выдавалі ў выглядзе асобных зборнікаў твораў і ўключалі ў склад анталогій і хрэстаматый па беларускай літаратуры[27].

---

[22] Яскевіч, А. Францыск Скарына як духоўны пісьменнік / А. Яскевіч // 480 год беларускага кнігадрукавання: Матэрыялы Трэціх Скарынаўскіх чытанняў. — Мінск, 1998. — Кн. 9: Беларусіка/ гал.рэд. А. Мальдзіс. — С. 70.

[23]Анічэнка, У. Моўнае вар'іраванне ў выданнях Скарыны / У. Анічэнка // 480 год беларускага кнігадрукавання: Матэрыялы Трэціх Скарынаўскіх чытанняў. — Мінск, 1998.— Кн. 9: Беларусіка/ гал.рэд. А. Мальдзіс. — С. 123.

[24] Яскевіч, А. Францыск Скарына як духоўны пісьменнік / А. Яскевіч // 480 год беларускага кнігадрукавання: Матэрыялы Трэціх Скарынаўскіх чытанняў. — Мінск, 1998. — Кн. 9: Беларусіка/ гал.рэд. А. Мальдзіс. — С. 73—76.

[25] Дарашкевіч, В. Вялікі ўсходнеславянскі першадрукар і асветнік-гуманіст / В. Дарашкевіч // Францыск Скарына: зборнік дакументаў і матэрыялаў / Акадэмія навук Беларускай ССР, Інстытут літаратуры імя Я. Купалы. — Мінск, 1988. — С. 29.

[26] Яскевіч, А. Францыск Скарына як духоўны пісьменнік / А. Яскевіч // 480 год беларускага кнігадрукавання: Матэрыялы Трэціх Скарынаўскіх чытанняў. — Мінск, 1998. — Кн. 9: Беларусіка/ гал.рэд. А. Мальдзіс. — С. 76.

[27] Беларуская літаратурная спадчына : анталогія : у 2 кн. / укладальнікі: С. Курбанава, А. Суша, Г. Галенчанка, В. Руск, І. Зайцаў, П. Лапо. — Мінск : Беларуская навука, 2011. — Кн. 1. — 1028, [1] с. — С. 169—177.

Гарэцкі, М. Хрэстаматыя беларускай літаратуры, XI век — 1905 год. / М. Гарэцкі — Вільня: Віленскае беларускае выдавецтва Б. Клецкіна, 1922. — 264 с. — С. 29—32.

Славянамоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага XVI—XVIII стст. / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Ін-т мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы; укладанне, прадмова і каментарыі А. Бразгунова. — Мінск: Беларуская навука, 2011. — 901 с. — С. 42—43.

ЦАРЬСТВЪ

Царь Двдъ играеть въ гусле неса Кивотъ гдень: царицаже михоль видя ипогорде ибе неплодна:



Вторый книги царьствъ починаеть ся. Зуполне выложены нарускии языкъ. доктором францискомъ скоринином сыномъ сполоцька:

Вобраз біблейскага цара-паэта Давіда на гравюры Скарыны.

## «Першы беларускі паэт»

Францыска Скарыну можна абгрунтавана лічыць першым беларускім паэтам, аўтарам першых вершаў на беларускай (старабеларускай) мове. Яго папярэднікі часоў Сярэднявечча, нават такія вядомыя і таленавітыя творцы, як Кірыла Тураўскі, не пісалі па-беларуску і не стваралі вершаваныя творы ў сучасным разуменні гэтага паняцця. Некаторыя сучаснікі Скарыны і прадстаўнікі эпохі Адраджэння, напрыклад, Мікола Гусоўскі, таксама звярнуліся да паэтычнай творчасці, але пры гэтым перавагу аддалі класічным мовам (лацінскай).

Скарына ж звярнуўся да вершатворчасці па-беларуску. Больш таго, дзякуючы кнігадрукаванню гэтыя творы трапілі на старонкі тыражных выданняў і захаваліся для нашчадкаў — прайшлі праз стагоддзі войнаў і разрухі і сёння сведчаць пра багацце і веліч нашай культуры.

Прыблізна ў часы Францыска Скарыны адбывалася распаўсюджанне ў Еўропе і на беларускіх землях у прыватнасці сілабічнага вершаскладання. Сутнасць сілабікі — у чаргаванні аднолькавай колькасці складоў у вершаваных радках. Асноўнымі рытмастваральнымі кампанентамі сілабічнага верша, апрача гэтага, з'яўляюцца міжрадковыя паўзы, падобныя заключныя склады радкоў, паўтаральная сугучнасць асобных слоў ці іх частак і інш.

Можна сказаць, што менавіта дзякуючы Францыску Скарыне сілабічная паэзія прыйшла ў Беларусь[28]. Калі прааналізаваць яго творы, то няцяжка ў асобных з іх выявіць рысы першых вершаў. Асобныя радкі гэтых вершаў моцна нагадваюць адзін аднаго па сваёй будове і структуры, назіраецца і выразнае імкненне да роўнаскладовасці.

Падобныя прыклады пачатковага вершаскладання мы знаходзім як у пражскіх, так і ў віленскіх выданнях Скарыны. Больш таго, беларускі асветнік рызыкуе прадставіць у вершаванай форме не толькі ўласныя словы, але і словы Святога Пісання і нават Божыя запаветы. У прыватнасці, у сваёй прадмове да кнігі Выхад (Прага, 1519) Скарына падае ў кароткай вершаванай форме знакамітыя дзесяць Божых Запаведзяў, ці Дэкалог.

Важна, што пасля вяртання на радзіму, у сталіцу беларуска-літоўскай дзяржавы Вільню, Скарына працягнуў свае паэтычныя заняткі і ўжо ў першым сваім віленскім выданні — «Малой падарожнай кніжцы» — змясціў некалькі сваіх вершаваных твораў, у тым ліку акраверш «Делал доктор Скоринич» у складзе «Акафіста найсалодкаму імені Ісусаву»[29].

Такім чынам, паэтычная спадчына Францыска Скарыны ўяўляе сабой першаўзоры беларускай паэзіі, а самога Скарыну можна лічыць першым уласна беларускім паэтам.

---

[28] Яскевіч, А. Францыск Скарына як духоўны пісьменнік / А. Яскевіч // 480 год беларускага кнігадрукавання: Матэрыялы Трэціх Скарынаўскіх чытанняў. — Мінск, 1998. — Кн. 9: Беларусіка/ гал.рэд. А. Мальдзіс. — С. 84.

[29] Sokolová, F. K 500. výročí narození F. Skoryny / F. Sokolova // Francisko Skoryna v díle českých slavistů: Sborník k 500 jubileu narození významného běloruského humanisty, 1490—1990; Vyber uspor.: Františka Sokolová. — Praha: Národní knihovna: Slovanská knihovna, 1992. — S. 13.

Дарашкевіч, В. Вялікі ўсходнеславянскі першадрукар і асветнік-гуманіст / В. Дарашкевіч // Францыск Скарына: зборнік дакументаў і матэрыялаў / Акадэмія навук Беларускай ССР, Інстытут літаратуры імя Я. Купалы. — Мінск, 1988. — С. 29.



Сярэднявечны паэт на выяве ў рукапісным ініцыяле.



Багаслоў. Карціна Сандра Бацічэлі (каля 1480 года).

## Багаслоў

Узяць на сябе адказнасць за аналіз, пераклад і каментаванне Святога Пісання мог далёка не кожны нават самы адукаваны чалавек. На Радзіме Скарыны на такі крок не асмельваліся нават прадстаўнікі царкоўнай іерархіі. Звычайна ў выглядзе рукапісаў распаўсюджваліся толькі кнігі, прызначаныя для набажэнства (літургічныя кнігі), у той час як кнігі Біблії (і асабліва Старога Запавету) вельмі рэдка перапісваліся, бо гэта праца патрабавала вельмі добрай багаслоўскай падрыхтоўкі.

Запланаванае беларускім асветнікам не магло не ўражваць сучаснікаў. Ён меў намер не толькі самастойна перакласці вельмі складаныя для разумення тэксты Кнігі Кніг на родную мову і тым самым зрабіць іх даступнымі для разумення шырокім колам насельніцтва, але таксама патлумачыць значэнне кожнай з кніг, пракаментаваць складаныя эпізоды, ідэі і паняцці.

Бясспрэчна, прапануючы ўвазе чытача сваё тлумачэнне Святога Пісання, Францыск Скарына працягвае традыцыю сярэднявечных і рэнесансных багасловаў, а таму прапануе тыя ці іншыя ідэі, абапіраючыся на аўтарытэт тэкстаў самой Біблії і выказванні найбольш вядомых і аўтарытэтных аўтараў мінулага — айцоў царквы. Праведзены даследчыкамі аналіз тэкстаў Скарыны дазваляе вылучыць шырокае кола такіх аўтараў, на якіх спасылаецца ці творы якіх цытуе Францыск Скарына. Сярод іх Васіль Вялікі, Рыгор Дваяслоў, Еранім Стрыдонскі, Феадосій, Феадарыт Кіпрскі, Ераней Ліёнскі, Ісак і Яфрэм Сірыны, Арыген, Іаан Дамаскін і іншыя[30].

Выданне тэксту Біблії з аўтарскімі каментарамі свецкага чалавека, які не мае духоўнага сану, было абсалютна нечаканым як для праваслаўнай, так і для каталіцкай цэркваў. Падобныя погляды (якраз у часы Скарыны) пачалі выказваць рэфарматары альбо пратэстанты, у сувязі з чым некато-

---

[30] Немировский, Е. Л. Франциск Скорина: жизнь и деятельность белорусского просветителя / Е. Л. Немировский — Минск: Мастацкая літаратура, 1990. — 597 с. — С. 354.

рыя айчынныя і замежныя даследчыкі выказвалі меркаванне пра магчымую сувязь Францыска Скарыны з пратэстанцкім рухам Еўропы[31]. У той жа час у творах Скарыны няма крытыкі ў адрас той ці іншай царквы, як няма і выхвалення заслуг іх кіраўнікоў — рымскіх пап ці ўсходніх патрыярхаў. Ён застаецца па-за полем спрэчак з пратэстантамі, якія займалі розум многіх багасловаў таго часу.

У сувязі з чым існуе думка, што Францыск Скарына мог падтрымліваць ідэі царкоўнай уніі — уз'яднання розных цэркваў у адну, як было ў часы Хрыста[32]. Гэта думка таксама не пазбаўленая падстаў. Яшчэ ў XV стагоддзі дадзеная ідэя была вельмі папулярнай у беларускім грамадстве, і, напрыклад, большасць праваслаўных мітрапалітаў таго часу яе актыўна падтрымлівала, а ў XVI стагоддзі такая ўнія нават была заключана і стала самай удалай спробай саюза заходняй і ўсходняй цэркваў з усіх вядомых.

Сінтэз розных рэлігійных традыцый назіраецца і ў тым, якія крыніцы скарыстаў Францыск Скарына для перакладу кніг Бібліі. Нам сёння дакладна вядома, што ён карыстаўся і каталіцкімі рэдакцыямі Святога Пісання (Вульгата), і каментарамі каталіцкіх багасловаў, і праваслаўнымі рукапіснымі спісамі, і гусіцкай (пратэстанцкай) Чэшскай Бібліяй, і старажытнымі яўрэйскімі арыгінальнымі тэкстамі, і творамі антычных мысліцеляў.

## Асветнік

Самае каштоўнае з усяго, што пакінуў нашчадкам Францыск Скарына, — гэта мудрасць яго пасланняў і казанняў, якая засталася на старонках кожнай выдадзенай ім кнігі ў выглядзе аўтарскіх прадмоў. Дзейнасць Скарыны ў Празе і Вільні мела па сутнасці хрысціянскі асветніцкі характар. Яго кнігі Святога Пісання знаёмілі адукаваных жыхароў Беларусі і іншы «паспаліты люд» з гісторыяй хрысціянскай веры, яе сутнасцю і канонамі.




Премѹдрости божиєй книга по чиняетсѧ · зѹполне выложена на рѹскый ꙗзыкъ · докторомъ францискомъ скорининымъ сыномъ · изъславнаго града полоцька

Гравюра Скарыны. «Божая Прамудрасць».

Аднак друкаванае слова Скарыны было прызначана не толькі для інфармавання насельніцтва ці ўжытковага выкарыстання ў хрысціянскіх храмах, але найперш для фарміравання сапраўднага грамадзяніна сваёй дзяржавы, адукаванага і добра выхаванага. У творах асветніка можна ўбачыць, як услаўленне боскіх і царкоўных запаветаў спалучалася з разуменнем важнасці свецкіх навук і адукацыі, веданнем айчыннай і сусветнай гісторыі. У спадчыне Скарыны спалучаюцца рэлігійны і свецкі кірункі выхавання чалавека. Яго кнігі знаёмілі беларусаў з духоўнымі дасягненнямі хрысціянскага свету, іншымі народамі і дзяржавамі, іх сужыццём і лёсамі.

Ужо першыя словы самай першай кнігі Скарыны, якой быў Псалтыр, тлумачаць яго асветніцкія мэты: «Усё Пісанне боганатхнёнае, карыснае для

---

[31] Sielawa, A. A. Antelenchus, czyli odpis na script uszczypliwy zakonników cerkwie odstępney s. Ducha, Elenchus nazwany / A. A. Sielawa. — Wilno, 1622. — S. 53.
Галенчанка, Г. Я. Францыск Скарына: у паціне версій, стэрэатыпаў і міфаў / Г. Я. Галенчанка // Российские и славянские исследования: науч. сб. /Белорус. гос. ун-т; отв. ред. А.П. Сальков, О.А. Яновскій — Минск: БГУ, 2008. —Вып. 3. — С. 123—136.
Пад штандарам Эвангельля. Прадмова // Arche. — 2012. — № 1—2. — С. 8—17.

[32] Мальдзіс, А. І. Францыск Скарына як прыхільнік збліжэння і ўзаемаразумення людзей і народаў / А. І. Мальдзіс. — Мінск: Навука і тэхніка, 1988. — 34 с.

навучання і для выкрыцця, для выпраўлення і для настаўлення ў праведнасці, каб быў дасканалы Божы чалавек і да ўсякае добрае справы падрыхтаваны». Гэтыя словы апостала Паўла як найлепш ілюструюць Скарынава імкненне — «каб быў дасканалы Божы чалавек і да ўсякае добрае справы падрыхтаваны».

Францыск Скарына бачыў у друкаванай кнізе[33] невычарпальныя магчымасці духоўнай асветы людзей. Праз кнігу ён спадзяваўся данесці да ўсіх сваіх суайчыннікаў багацце чалавечай думкі і найвышэйшыя маральныя прынцыпы, выпрацаваныя чалавечай цывілізацыяй. І Скарына не памыліўся: на некалькі стагоддзяў наперад друкаваная кніга стала (у тым ліку дзякуючы яму) важнейшым сродкам выхавання і асветы беларускага грамадства. Менавіта праз кнігу ў далейшым распаўсюджваліся ўсе важнейшыя ідэі і погляды, у кнізе знайшлі сваё адлюстраванне ўсе навуковыя адкрыцці, менавіта на выкладзеных у кнізе звестках выхоўваліся і працягваюць выхоўвацца новыя пакаленні беларусаў.

Як вялікі асветнік свайго часу ён заклікаў да гуманізму, павышанай цікавасці да чалавечай асобы, скіроўваў сваіх суайчыннікаў да асветы. Менавіта так выявілася яго місія як прапаведніка Рэнесансу на беларускай зямлі. Але ў гэтым і прыцягальнасць Скарыны для нас, людзей XXI стагоддзя: яго спадчына, яго духоўныя пасланні актуальныя заўсёды.

## Філосаф

Францыск Скарына не пісаў адмысловых філасофскіх трактатаў, не чытаў студэнтам добра структураваныя лекцыі па філасофіі і не называў сябе філосафам. Але многія сучасныя даследчыкі ўпэўнена называюць Скарыну вялікім мысліцелем і філосафам.

Філасофія Скарыны не мела выяўлення як асобная тэарэтычная дактрына, але спалучалася з яго асветніцкай і багаслоўскай працай. Менавіта таму ўсё багацце філасофскіх ідэй чалавецтва, уся мудрасць ранейшых пакаленняў, на думку Скарыны, сканцэнтравалася ў Кнізе Кніг — Бібліі. У сваёй «Прадмове да ўсёй Бібліі» Скарына піша:



Авероэс (Ібн Рушд) - знакаміты арабскі філосаф XII стагоддзя, чые погляды паўплывалі на ідэі Скарыны. Гравюра XVI стагоддзя.

«У гэтай кнізе пачатак і канец усёй прыроднай мудрасці; Бог Усемагутны пазнаецца. У гэтай кнізе запісаныя ўсе законы і правы, якімі людзі павінны кіравацца на зямлі. У гэтай кнізе знойдзеце любыя лекі для душы і цела. Тут пабожнае навучанне філасофіі, што трэба любіць Бога дзеля саміх сябе і бліжняга дзеля Бога. Тут парадак усялякага людскога і любога гарадскога сходу, калі праз веру, спалучэнне любові і згоды памнажаецца грамадскае дабро. Тут дастатковы выклад сямі вызваленых навук».

Шматлікія прадмовы і пасляслоўі беларускага мысліцеля маюць відавочны асветніцкі, пазнавальны, навучальны, філасофскі і маральна-выхаваўчы кантэкст. Апрача непасрэдных звестак пра тых ці іншых біблейскіх персанажаў, пра асноўныя падзеі з хрысціянскага мінулага, ў іх можна знайсці настаўленні асветніка, парады і падказкі адносна таго, да якога ідэалу сапраўднага чалавека неабходна рухацца.

[33] Дарашкевіч, В. Вялікі ўсходнеславянскі першадрукар і асветнік-гуманіст / В. Дарашкевіч // Францыск Скарына: зборнік дакументаў і матэрыялаў / Акадэмія навук Беларускай ССР, Інстытут літаратуры імя Я. Купалы. — Мінск, 1988. — С. 23.

У творчай спадчыне Францыска Скарыны мы знаходзім глыбока жыццёвыя погляды на чалавечае існаванне, на жыццё і смерць, каханне і нянавісць… Ён здолеў прапанаваць свайму чытачу аўтарскае бачанне многіх з найбольш складаных «вечных пытанняў» чалавечага існавання.

У філасофска-эстэтычнай думцы Скарыны разуменне дабра і прыгажосці было цэласным і арыентавала чалавека на захаванне грамадскай справядлівасці і высокую маральнасць. Менавіта таму ў яго творчасці мы бачым, з аднаго боку, спалучэнне услаўлення хрысціянскіх ісцін і каштоўнасцей (дабра), а з другога — арыентацыю на гуманістычныя ідэалы рэнесанснай культуры і імкненне да гармоніі (прыгажосці).

Тым звяном, якое злучала дабро і прыгажосць, для Скарыны быў ідэал справядлівага і дасканалага чалавека[34]. Што важна, вялікі мысліцель імкнуўся не толькі збалансаваць хрысціянскія погляды з адраджэнскім разуменнем чалавека, але і перанесці гэта на рэальнае, зямное яго быццё.



Выява натарыуса на карціне XVI стагоддзя фламандскага жывапісца Квенціна Масэйса.

## Правазнавец

Францыска Скарыну можна лічыць адным з першых у Беларусі тэарэтыкаў прававога грамадства.

Уласнае бачанне прававой сістэмы ён найбольш грунтоўна выклаў у прадмове («Сказанні…») да Кнігі Другі Закон (Прага, 1519). У дадзеным тэксце Францыск Скарына прадстаўляе канцэпцыю двух законаў — натуральнага (напісанага Богам у сэрцах людзей) і пісанага (зафіксаванага ў Святым Пісанні ці законах людзей).

Першаснае значэнне Скарына, як і многія яго папярэднікі, аддаваў натуральнаму праву («прироженому закону»)[35]. Многія сярэднявечныя вучоныя і багасловы (як Фама Аквінскі) выводзілі асновы натуральнага права з вечнага закону божай мудрасці — універсальнага закону сусвету[36]. Сам жа Скарына пісаў пра яго: «Натуральны закон трымаецца вось на чым: рабіць іншым тое, чаго сам ад іх хочаш, і не рабіць іншым таго, чаго сам ад іх мець не хочаш… Гэты натуральны закон запісаны ў сэрцы кожнага асобнага чалавека».

«Пісанае права», паводле Скарыны, грунтуецца на натуральным праве, выходзіць з яго. У Бібліі пісанае права найперш зафіксавана ў выглядзе так званага Дэкалога — дзесяці Божых Запаветаў, якія былі запісаны на скрыжалях Майсея. Наступным быў закон Святога Евангелля, дадзены Ісусам Хрыстом і заснаваны на прынцыпах любові. У наступным гэтыя законы былі развіты святымі айцамі як законы духоўныя. І, урэшце, апошнімі паўсталі законы свецкія, якія павінны зыходзіць з законаў духоўных і ім падпарадкоўвацца.

[34] Дарашкевіч, В. Вялікі ўсходнеславянскі першадрукар і асветнік-гуманіст / В. Дарашкевіч // Францыск Скарына: зборнік дакументаў і матэрыялаў / Акадэмія навук Беларускай ССР, Інстытут літаратуры імя Я. Купалы. — Мінск, 1988. — С. 24—25.
[35] Сказание доктора Франциска Скорины с Полоцька въ Книги Втораго Закону Моисеова // Книги пятыи Моисеовы зовемыи от еврей Гельгадворимъ, по греческии Девтерономосъ, по латине Секунда Лекс, а по руску Вторый Закон. — Прага: выд. Ф.Скарыны, 1519. — Л.1 адв. — 4 адв. — Л.1 адв.— 2.
[36] Подокшин, С. А. Франциск Скорина / С. А. Подокшин. — Москва: Мысль, 1981. — 215 с. — С. 100—101.
Сокал, С. Ф. «Закон прироженый» / С.Ф. Сокал // Францыск Скарына і яго час: энцыкл. давед. / рэдкалегія: І. П. Шамякін (галоўны рэдактар) і інш. — Мінск: БСЭ, 1988. — С. 337.
Яскевіч, А. Францыск Скарына як духоўны пісьменнік / А. Яскевіч // 480 год беларускага кнігадрукавання: Матэрыялы Трэціх Скарынаўскіх чытанняў — Мінск: Беларуская навука, 1998. — Кн. 9: Беларусіка/ гал. рэд. А. Мальдзіс. — С. 68—69.




Адвакат, пракурор і натарыус. Гравюра XVII стагоддзя.


Мойсей навчае людей Ізраилевых втораго закону :~

Книги пятый Мойсеовы зовемый
от евреи гельгадворимъ, погрече
скии девтерономосъ, полатине
секунда лексъ, апорускии вто
рый законъ. Зуполне выложены докто
ромъ Францискомъ Скориною с Полоцька :~

Майсей навучае людзей Ізраілевых Другому Закону. Гравюра Скарыны з Кнігі Другі Закон.

Скарына адзначае неабходнасць арыентаваць прававую сістэму кожнай краіны на ўласныя рэаліі, на асаблівасці свайго народа: «земскія правы, ухваленыя кожным народам разам з іх старэйшымі такімі, якімі падаюцца ім прымальнымі. І з гэтай прычыны людзі не імкнуцца да аднастайнасці, бо тут — гэтай, там — той, дзесьці іншай мовай карыстаюцца. Толькі ў тым імкнуцца да згоды, каб правы іх або закон былі паважаныя, справядлівыя, моцныя, неабходныя, карысныя, адпаведныя натуры, звычаям зямлі, часу і месцу, зразумелыя, без выключэнняў, не для карысці аднаго чалавека, а для ўсеагульнага дабра напісаныя».

Звяртае на сябе ўвагу тое, што беларускі асветнік вылучае розныя віды законаў ці праў: усеагульныя, язычніцкія, царскія, рыцарскія (ваенныя), гарадскія, марскія, купецкія, асобна Закон Божы. Падобныя выказванні падкрэсліваюць імкненне Францыска Скарыны да сістэматызацыі і класіфікацыі матэрыялу, сведчаць пра яго аналітычныя і дыдактычныя здольнасці. А з іншага боку, яны сведчаць пра аўтара як пра зацікаўленага і дасведчанага правазнаўцу, чые погляды адлюстроўвалі передавыя дасягненні прававой навукі.

Стройная ідэя прававой сістэмы была арыентавана на ідэал справядлівага чалавека і дасканалага грамадства. Гэты ідэал можа быць дасягальным толькі шляхам захавання маральных прынцыпаў хрысціянскага свету пры ўмацаванні натуральнага права. Хрысціянскіх законаў дабра і справядлівасці было б дастаткова, калі б усе людзі кіраваліся імі ва ўсіх сваіх учынках. Аднак, і Скарына гэта разумеў, такое спадзяванне з'яўляецца ідэалістычным, і рэальнае жыццё ведае шмат прыкладаў, калі людзі кіруюцца зусім немаральнымі прынцыпамі. Таму для рэгулявання нашага штодзённага жыцця неабходныя законы, якія забяспечваюць парадак і бяспеку.

Захаванню вяршэнства права ў грамадстве, на думку Скарыны, спрыяе наяўнасць моцнай судовай улады, суддзяў, якія, «як роўныя і таварышы, даючы ім параду і чынячы між імі справядлівасць». Для падмацавання сваіх слоў Скарына-правазнавец спасылаецца на словы Майсея — першага з вялікіх прарокаў: «Пастаўце сабе суддзяў і наглядчыкаў, …каб судзілі народ

судом справядлівым; і хай не схіляюцца ні на чый бок, і не зважаюць на асобы, і не прымаюць дарункаў, паколькі дарункі слепяць вочы мудрых і змяняюць словы справядлівых. Чыніце па праўдзе…»

Францыск Скарына выказваў дастаткова наватарскія ідэі пра роўнасць усіх перад законам, а таксама пра галоснасць законаў і даступнасць ведаў пра закон для кожнага. Ужо толькі гэта было вельмі наватарскім для сыходзячага Сярэднявечча. На думку некаторых даследчыкаў, прапанаваная Францыскам Скарынам стройная сістэма права зрабіла ўплыў на распрацоўку Статута Вялікага Княства Літоўскага 1529 года[37], а таксама наступных яго рэдакцый 1566 і 1588 гадоў.

## Кнігавыдавец

Асветнік з Полацка не пайшоў шляхам перапісвання кніг Бібліі ў адзінкавых асобніках для царкоўнага ўжытку, як гэта бывала раней. Ён абраў іншы шлях: дзякуючы перакладу Святога Пісання на родную мову і тыражаванню кніг друкарскім спосабам здолеў данесці Слова Божае і мудрасць многіх пакаленняў чалавецтва да самых шырокіх колаў насельніцтва — шляхты і мяшчан, духавенства і свецкіх асоб, людзей розных паводле свайго этнічнага і сацыяльнага паходжання, дастатку, месца жыхарства, прафесіі.

Для здзяйснення сваіх планаў беларускі вучоны абраў Прагу, якая на той час славілася высокім узроўнем развіцця культуры, і дзе ўжо існавалі свае традыцыі кнігадрукавання.

Відавочна, што Францыск Скарына меў намер выдаць усе кнігі Бібліі[38]. За адносна непрацяглы час — з 1517 да 1519 года — ён паспеў падрыхтаваць і выдаць друкам больш за палову кніг Старога Запавету — першай, больш старажытнай часткі Бібліі, створанай яшчэ да ўзнікнення хрысціянства.

На некаторых кнігах ёсць дакладная дата выдання (ці, хутчэй за ўсё, дата падпісання кнігі ў друк). Першай такой датаванай кнігай з'яўляецца Псалтыр, які выйшаў 6 жніўня 1517 года. Менавіта гэта выданне і стала першай беларускай кнігай.

У далейшым — ажно да канца 1519 ці пачатку 1520 года — у невядомай сёння пражскай друкарні Францыск Скарына выдаў яшчэ не менш чым 22 кнігі[39]. Магчыма, выданняў было больш, але не ўсе з іх захаваліся да нашага часу. Ёсць меркаванне, што беларускі асветнік нават мог выдаць у Празе ўсе кнігі Старога Запавету[40]. Справа ў тым, што некаторыя яго кнігі захаваліся ў адзінкавых экзэмплярах, таму можна думаць, што іншым магло пашчасціць яшчэ менш. Ёсць таксама рукапісныя копіі кніг, нібыта выдадзеныя Скарынам, але не вядомыя нам ні ў адным друкаваным экзэмпляры[41].

Як бы тое ні было, Скарына выдаў у Празе дакладна 23 кнігі. Гэта значна больш, чым было выпушчана ўсімі іншымі выдаўцамі кірылічных кніг таго часу.

Усе пражскія выданні Скарыны вылучаліся выразным рэнесансным стылем і прыгожым мастацкім афармленнем. У гэтых кнігах было змешчана больш за 40 сюжэтных гравюр, шматлікія ініцыялы, застаўкі і канцоўкі.

У той жа час Скарына арыентаваўся на выпуск не вельмі дарагога выдання, якое маглі б сабе дазволіць многія грамадзяне на яго Радзіме, а не толькі невялікае кола заможных магнатаў і манастыроў. Магчыма, менавіта таму ён не публікаваў Біблію цалкам — у адным аб'ёмным

---

[37] Юхо, І. «Языком власным права спісаные маем...» Да 400-годдзя Статута Вялікага княства Літоўскага / І. Юхо // Беларусь. — 1988. — № 12. — С. 18—19.

[38] Галенчанка, Г. Я. Францыск Скарына: у паціне версій, стэрэатыпаў і міфаў / Г. Я. Галенчанка // Российские и славянские исследования: науч. сб. / Белорус. гос. ун-т.; отв. редакторы: А. П. Сальков, О. А. Яновский [и др.]. — Минск, 2008. — Вып. 3. — С. 129.
Дарашкевіч, В. Вялікі ўсходнеславянскі першадрукар і асветнік-гуманіст // Францыск Скарына: зборнік дакументаў і матэрыялаў / Акадэмія навук Беларускай ССР, Інстытут літаратуры імя Я. Купалы. — Мінск, 1988. — С. 12.

[39] Sokolová, F. K 500. výročí narození F. Skoryny / F. Sokolova // Francisko Skoryna v díle českých slavistů: Sborník k 500 jubileu narození významného běloruského humanisty, 1490—1990; Vyber uspor.: Františka Sokolová. — Praha: Národní knihovna: Slovanská knihovna, 1992. — S. 7, 9.

[40] Неміроўскі, Я. Л. «Біблія» / Я. Л. Неміроўскі // Францыск Скарына і яго час: энцыклапедычны даведнік / рэдкалегія: І. П. Шамякін (галоўны рэдактар) і інш. — Мінск: БСЭ, 1988. — С. 264.

[41] Галенчанка, Г.Я. Францыск Скарына: Спадчына і пераемнікі: анатаваны бібліяграфічны паказальнік / Нацыянальная бібліятэка Беларусі; рэдактар Т. І. Рошчына. — Мінск, 2002. — С. 15—20.
Неміроўскі, Я. Л. «Біблія» / Я. Л. Неміроўскі // Францыск Скарына і яго час: энцыклапедычны даведнік / рэдкалегія: І. П. Шамякін (галоўны рэдактар) і інш. — Мінск: БСЭ, 1988. — С. 264.

томе. Ён выдаваў кожную біблейскую кнігу асобным выпускам — невялікім, але даступным. Гэтымі ж прычынамі можа быць патлумачаны больш зручны для хатняга выкарыстання невялікі фармат кніг Скарыны.

Пасля пераезду на Радзіму — у Вялікае Княства Літоўскае — Францыск Скарына вырашыў працягнуць сваю выдавецкую дзейнасць. Тут каля 1522 года ён выдаў «Малую падарожную кніжку», а ў 1525 годзе — «Апостал».

Ёсць усе падставы меркаваць, што і пасля Францыск Скарына меў намер прадоўжыць сваю выдавецкую дзейнасць, аднак розныя неспрыяльныя умовы не дазволілі гэтаму намеру ажыццявіцца.

Нагадаю, вяртаючыся ў 1530 годзе з Кёнігсберга ў Вільню, Францыск Скарына вывез двух майстроў, адзін з якіх быў друкаром. Верагодна, ён спадзяваўся на далейшую выдавецкую дзейнасць у Вільні. Да таго ж ёсць сведчанні, што ў Кёнігсберг Скарына прыехаў па запрашэнні мясцовага герцага Альбрэхта менавіта для таго, каб яе там распачаць.

## Першадрукар

Першадрукар — гэта тое слова, якое сёння найбольш часта можна сустрэць побач з іменем Францыска Скарыны.

Аднак найбольш верагодна, што ўласна друкарскай дзейнасцю беларускі асветнік пачаў займацца толькі на Радзіме — у Вялікім Княстве Літоўскім. Каб называць Скарыну друкаром у дачыненні да яго дзейнасці ў Празе, нам пакуль недастаткова доказаў.

Напэўна, у Празе Францыск Скарына скарыстаўся паслугамі адной з наяўных там друкарняў. Кнігадрукаванне ў сталіцы Чэхіі на той час ужо дасягнула даволі высокага ўзроўню і налічвала некалькі дзесяцігоддзяў гісторыі[42]. Шматлікія чэшскія друкары з ахвотаю бралі заказы ад разнастайных выдаўцоў і дасягнулі высокага майстэрства.

Не маючы адмысловага вопыту (Скарына ўсё ж вучыўся зусім іншаму), а таксама вялікага капіталу і не будучы нават грамадзянінам Чэхіі, яму было б цяжка заснаваць тут сваю друкарню. Ды і сам

[42] Галенчанка, Г. Я. Францыск Скарына: у паціне версій, стэрэатыпаў і міфаў / Г. Я. Галенчанка // Российские и славянские исследования: науч. сб. / Белорус. гос. ун-т.; отв. редакторы: А. П. Сальков, О. А. Яновский [и др.]. — Минск, 2008. — Вып. 3. — С. 128.



Такім Францыска Скарыну ўяўляў Язэп Драздовіч.

Скарына быў, відаць, моцна заняты перакладчыцкай, літаратурна-рэдакцыйнай і выдавецкай падрыхтоўкай кніг Бібліі. Нарэшце, немалаважна і тое, што ён першым з усходніх славян займеў намер выпускаць друкаваную кнігу і не мог быць упэўненым, што гэты бізнес будзе ўдалым. Таму трэба думаць, што свае кнігі ён пачаў друкаваць у адной з мясцовых друкарняў Прагі.

Апошнюю думку пацвярджаюць наступныя назіранні чэшскіх даследчыкаў: у час выдавецкай працы Францыска Скарыны ў Празе знізілася кнігавыдавецкая актыўнасць найбольш вядомых пражскіх друкароў — Яна Севярына, Мікалая Конача, Яна Шмяргоўскага. Магчыма, гэта было звязана з тым, што адна з гэтых друкарняў выконвала вялікі заказ прыезджага выдаўца.

У любым выпадку Скарына быў вымушаны ў Празе даволі глыбока пагрузіцца ў працэс друкавання кнігі, а, верагодна, і прыняць непасрэдны ўдзел у друкарскай працы. У прыватнасці, ніколі дагэтуль у Празе кнігі не друкаваліся кірылічным шрыфтам, што патрабавала ад яго пэўных захадаў па распрацоўцы макета новага шрыфту, які ў далейшым адліваўся ў майстэрні па вырабу шрыфтоў. Магчыма, Скарына прымаў удзел у вырабе матрыц для друкавання ініцыялаў і розных дэкаратыўных заставак. Такую працу чэшскія майстры не здолелі б выканаць самі: ініцыялы ствараліся адмыслова для малавядомага ў Празе кірылічнага алфавіта, а заставкі былі выкананы з захаваннем стылістыкі праваслаўных рукапісаў.

Гэтыя веды, верагодна, істотна дапамаглі палачаніну, калі ён пераехаў у Вільню і распачаў тут сваю выдавецкую дзейнасць. Але на гэты раз, хутчэй за ўсё, Скарына быў вымушаны стварыць уласную друкарню, а яшчэ і кіраваць друкарскім працэсам. Вядома, што гэтая друкарня знаходзілася ў доме «найстаршага бурмістра» (старшыні гарадскога магістрата) Якуба Бабіча[43]. У надрукаваных тут каля 1522 года «Малой падарожнай кніжцы» і ў 1525 годзе «Апостале» бачныя многія рысы папярэдніх пражскіх выданняў. Верагодна, Скарына перавёз у Вільню разам з асабістымі рэчамі і некаторыя друкарскія матэрыялы.

[43] Vladimirovas, L. Pranciskus Skorina — Vilniaus spaudos pradininkas / L. Vladimirovas. — Vilnius: Valstybine politines ir mokslines literaturos leidykla, 1956. — P. 23.
Гячаускас, Э. Франциск Скорина — секретарь виленского епископа Иоанна из князей литовских / Э. Гячаускас // Федоровские чтения 1982: материалы научной сессии, посвященной теме “История книги в Литве. Русско-литовские книжные связи”, 1982 г., Вильнюс / отв. ред. Е. Л. Немировский. — Москва, 1987. — С. 63.



Экспазіцыя Музея беларускага кнігадрукавання ў Полацку.



Ганс Гальбейн. Партрэт купца (1532).

З гэтай прычыны Францыск Скарына абгрунтавана лічыцца першым беларускім і ўсходнеславянскім друкаром, першым друкаром у Вялікім Княстве Літоўскім і заснавальнікам першай друкарні на тэрыторыі Усходняй Еўропы. Дзякуючы дзейнасці Скарыны беларуская друкаваная кніга ад самага першага выдання вызначалася высокім мастацкім і паліграфічным узроўнем выканання.

Францыск Скарына цудоўна разумеў, што без матэрыяльнага забеспячэння яго высакародная асветніцкая праца застанецца абсалютна немагчымай і невыканальнай. Ды і ці мог сын і брат купца не быць прагматычным чалавекам? Хіба мог ён толькі спадзявацца на лёс, калі хацеў бачыць сапраўдныя вынікі сваёй працы? Не маючы ні высакароднага шляхецкага паходжання, ні багатай бацькоўскай спадчыны, Францыск Скарына мусіў спадзявацца на свае розум і здольнасці

## Прадпрымальнік

Францыск Скарына паўстае як энергічны прадпрымальнік, які пастаянна займаўся самаўдасканаленнем, шукаў новыя шляхі і новыя сферы дзейнасці. Ён імкнуўся не толькі даць людзям святло ведаў, але і шукаў магчымасці для заробку.

Францыск Скарына цудоўна разумеў, што без матэрыяльнага забеспячэння яго высакародная асветніцкая праца застанецца абсалютна немагчымай і невыканальнай. Ды і ці мог сын і брат купца не быць прагматычным чалавекам? Хіба мог ён толькі спадзявацца на лёс, калі хацеў пабачыць сапраўдныя вынікі сваёй працы? Не маючы ні высакароднага шляхецкага паходжання, ні багатай бацькоўскай спадчыны (паводле дакументальных крыніц вядома, што ён быў бедным чалавекам), Францыск Скарына мусіў спадзявацца на свае розум і здольнасці.

Таму нават яго выдавецкую працу трэба разглядаць не толькі ў святле асветніцкай місіі і высакародных помыслаў, але і з боку яго прадпрымальніцкай дзейнасці. Нам вядомы шэраг дакументаў, у якіх ідзе гаворка пра адстойванне ім сваіх правоў на маёмасць, а таксама пра заходы па продажы ўласных кніг.

Скарына як сапраўдны прадпрымальнік быў гатовы рызыкаваць, пачынаць новыя справы, на якія ніхто з яго сучаснікаў раней не адважваўся. І кнігадрукаванне стала адной з іх. Францыск Скарына не сумняваўся ў патрэбе ўкладваць сродкі ў сваю адукацыю, бо ведаў, што яна прынясе яму не толькі добрыя веды, але і магчымасць іх выкарыстаць з выгадай для сябе і грамадства. Ён не баяўся мяняць месца працы і пражывання, спецыфіку дзейнасці і кожны раз самааддана пагружаўся ў новае, дасягаючы мала каму даступных вышыняў.

Некаторыя ініцыятывы Скарыны выглядалі не проста рызыкоўнымі, а нават авантурнымі. Менавіта такім трэба лічыць вываз з Кёнігсберга двух майстроў — медыка і друкара — супраць

волі мясцовага герцага. Авантурнай была і спроба, пра якую з вялікай доляй верагоднасці кажуць даследчыкі, прывезці свае кнігі на продаж у Маскву. Безумоўна, там нечуваная навіна (друкаваныя кнігі) была ўспрынята адмоўна як неадпаведная старадаўнім традыцыям, і кнігі былі спалены[44].

Сёння мы ведаем тое, што прадпрымальніцкі талент праявіўся ў Скарыны яшчэ ў маленстве і захаваўся да апошніх дзён. Вядома, што ён падтрымліваў дзелавыя і фінансавыя зносіны з жыхарамі Вялікага Княства Літоўскага амаль да сваёй смерці, жывучы шмат гадоў на чужыне.

## Патрыёт

Прынцыпова важна, што для Скарыны вобраз паўнацэннага грамадзяніна непарыўна звязаны з наяўнасцю патрыятычнага пачуцця. Найбольш ярка і пераканаўча гэта думка ўвасобілася ў прадмове беларускага творцы да «Кнігі Юдзіф». У ёй пісьменнік параўноўвае чалавека з іншымі жывымі істотамі і на аснове гэтага параўнання



Вячка Целеш. Першыя крокі ў свет. Францішак Скарына, купецкі сын, у Рызе (1990).

Некаторыя ініцыятывы Скарыны выглядалі не проста рызыкоўнымі, а нават авантурнымі. Менавіта такім трэба лічыць выезд з Кёнігсберга двух майстроў — медыка і друкара — супраць волі мясцовага герцага

сведчыць пра агульную для іх любоў да роднага куточка зямлі, дзе яны нарадзіліся і былі ўзгадаваны.

Тым самым Францыск Скарына даказвае яшчэ адну важную для свайго часу ісціну: ён сцвярджае права грамадзян розных краін ганарыцца і любіць сваю Айчыну, выступае за роўнасць усіх народаў між сабою і за каштоўнасць кожнага з іх паасобку. Выконваючы ўласны запавет, слаўны палачанін у кожнай са сваіх кніг абавязкова падкрэсліваў сваё паходжанне і з нязменнай павагай да роднага месца пазначаў, што кніга «выкладзена доктарам Францыскам Скарынам са слаўнага горада Полацка».

Трэба быць удзячнымі Францыску Скарыне, бо менавіта ад яго пачынаецца беларускае нацыянальнае пісьменства, якое мае сваёй мэтай адданае служэнне роднаму слову. Скарына першым гэтак даступна распавёў пра значнасць роднага слова для паўнацэннага фарміравання сапраўднага грамадзяніна і шматбакова развітай асобы.

Інтэлектуальны пасыл нашага першадрукара быў скіраваны на ўсе саслоўі беларускага грамадства XVI стагоддзя. Але выказаныя асветнікам погляды і думкі застаюцца надзвычай актуальнымі і важнымі нават сёння — праз 500 гадоў пасля іх стварэння.

Такім чынам, сёння мы можам даволі ўпэўнена гаварыць пра агульнасусветны характар творчасці Францыска Скарыны і пра яго значную ролю ва ўваходжанні айчыннай культуры ў агульначалавечы культурны працэс. Яго шматграннасць, шматбаковая развітасць і здольнасць праявіць сябе ў самых розных кірунках з'яўляюцца сведчаннем асобы эпохі Рэнесансу — універсальнай асобы.

[44] Брага, С. Доктар Скарына ў Маскве / С. Брага. — Мюнхен, 1963. — 32 с.
Дарашкевіч, В. Вялікі ўсходнеславянскі першадрукар і асветнік-гуманіст / В. Дарашкевіч // Францыск Скарына: зборнік дакументаў і матэрыялаў / Акадэмія навук Беларускай ССР, Інстытут літаратуры імя Я. Купалы. — Мінск, 1988. — С. 16.

Людміла Іванова

# Рэфармацыйнае кнігадрукаванне ў Беларусі ў XVI стагоддзі

Развіццё рэфармацыйнага руху ў Вялікім Княстве Літоўскім у сярэдзіне XVI стагоддзя паўплывала на станаўленне новых форм духоўнай культуры. На думку польскага даследчыка Януша Тазбіра, Рэфармацыя ў ВКЛ была «інтэлектуальнай прыгодай» і аказала бóльшы ўплыў на развіццё грамадска-палітычнай думкі, чым на тэалогію, мела бóльшае дачыненне да культурных змен, чым да росквіту рэлігійнага жыцця. Рэфармацыйнае кнігадрукаванне Беларусі ўзнікла практычна адначасова з фарміраваннем рэфармацыйнай царквы. Пачатковы этап Рэфармацыі, яе распаўсюджванне звязаныя з імем віленскага ваяводы, канцлера ВКЛ Мікалая Радзівіла Чорнага. У 1553 годзе ў замку ў Берасці ён заснаваў першы ў Беларусі збор. Радзівіл разумеў ролю кнігадрукавання ў распаўсюджванні рэфармацыйных ідэй, таму пры яго падтрымцы ў 1553 годзе тут пачала дзейнічаць першая на тэрыторыі Беларусі друкарня.

У Берасці працавалі запрошаныя Радзівілам з Польшчы друкары і выдаўцы: гуманіст, звязаны з эразміянскім колам у Кракаве, Бернард Ваявудка (1553—1554), Станіслаў Мурмеліус (1558—1561?) і талентавіты перакладчык, паэт, кампазітар Цыпрыян Базылік (1562? —1570).

Дзейнасць берасцейскага друкарскага двара супала з часам канфесійнага і арганізацыйнага станаўлення Рэфармацыі ў ВКЛ. Вядома каля 40 тытулаў (назваў) кніг, надрукаваных у Берасці, прычым выключна на польскай мове. Рэфармацыю ў ВКЛ падтрымала пераважна тая частка грамадства (магнатэрыя, частка шляхты), якая інтэгравалася ў польскую культуру, карысталася ў прыватным жыцці і карэспандэнцыі польскай мовай. Выдавецкі «рэпертуар» рэфармацыйнага кнігадрукавання адпавядаў у асноўным культурным патрабаванням гэтага сацыяльнага асяроддзя. Да таго ж прадукцыя друкарні прызначалася не толькі чытачам ВКЛ, але, па словах складальніка «Берасцейскага канцыянала» Яна Зарэмбы, і «ўсім іншым краінам пад панаваннем польскага караля».

З дакументаў 1566 года вядома, што друкарня размяшчалася на Рыначнай плошчы, а на Яўрэйскай вуліцы жыў «Якуб-друкар», які, мабыць, выконваў рамесніцкія функцыі

З дакументаў 1566 года вядома, што друкарня размяшчалася на Рыначнай плошчы, а на Яўрэйскай вуліцы жыў «Якуб-друкар», які, мабыць, выконваў рамесніцкія функцыі.

Захаваліся звесткі пра тры выданні друкарні Ваявудкі, апісаныя у пачатку XX стагоддзя польскім даследчыкам Ф. Пуласкім, — «Катэхізіс» і пераклады тэалагічных твораў еўрапейскіх рэфарматараў Урбана Рэгіуса і Крыштафа Імлера. Можна меркаваць, што іх было больш. Усе тры выданні захоўваліся ў бібліятэцы Красінскіх у Варшаве і загінулі у час Другой сусветнай вайны. Цікава, што адзіны экзэмпляр «Катэхізіса» быў куплены бібліятэкай ў 1907 годзе ў Івана Луцкевіча, а раней належаў унікальнаму кнігазбору вядомага мінскага калекцыянера Генрыха Татура.

На жаль, летам 1554 года Ваявудка затануў у адной з берасцейскіх рэк. Пасля гэтага трагічнага здарэння Радзівіл меў намер запрасіць на яго месца вядомага кракаўскага і прускага друкара Яна Сандэцкага-Малецкага, але звестак пра яго дзейнасць ў Берасці няма. Друкарня аднавіла сваю працу у 1558 годзе пры Станіславе Мурмеліусе. У Берасці выходзілі не толькі рэлігійныя, але і свецкія творы: юрыдычна-прававыя выданні, у тым ліку «Артыкулы Магдэбургскага права» польскага прававеда Барталамея Граіцкага (1560), вершаваны панегірык Цыпрыяна Базыліка на смерць жонкі Радзівіла Чорнага Эльжбеты з Шыдлавецкіх (1562), ананімная антыкаталіцкая сатыра «Пратэй, або Пярэварацень», палітычны твор «Размова Паляка з Літвінам аб волі і няволі» віленскага войта, аднаго са складальнікаў II Статута ВКЛ Аўгусціна Ратундуса Мялецкага (абодва выданні — каля 1564 г.).

Тут убачылі свет палемічныя творы польскіх арыянаў Паўла з Бжэзін і Яна Казаноўскага. Да-

рэчы, твор апошняга «Водпаведзь на павучанне Яна Кальвіна польскім братам» (1564) змяшчаў даволі рэзкія выпады супраць Кальвіна. Творы суперінтэнданта віленскага збору Сымона Зацыуса змяшчаюць каштоўныя звесткі пра першапачатковы этап арганізацыі віленскай кальвінісцкай абшчыны і школы пры ёй, пра асноўныя дагматы веравызнання кальвіністаў ВКЛ, іх канчатковае адмежаванне ад арыянаў і лютэран.

З друкарні выйшаў першы друкаваны нотны зборнік на Беларусі — «Берасцейскі канцыянал» (або «Песні хвал боскіх», 1558) Яна Зарэмбы. Музыку да яго напісалі Цыпрыян Базылік і Вацлаў з Шаматул. У прадмове да выдання адзначалася, што песні прызначаюцца для тэнара і аматараў «фігурных» спеваў. На думку польскага даследчыка Станіслава Кота, «Берасцейскі канцыянал» быў першым сапраўдным кальвінісцкім канцыяналам належнага ўзроўню, годным рэфармацыйнага руху.

У 1559 годзе ў Берасці быў надрукаваны публіцыстычны твор «Два лісты» — пасланне папскаму нунцыю ў Польшчы ад імя Радзівіла Чорнага. У пэўнай ступені гэта выданне можна назваць праграмным — у выглядзе адказаў Радзівіла на абвінавачванні нунцыя ў кнізе асвятляюцца адносіны пратэстантаў да важных пытанняў царкоўна-рэлігійнай дагматыкі, царкоўнай і багаслоўскай традыцыі, да дзяржаўнай і духоўнай улады.

Алаізій Ліпаман, веронскі біскуп, быў накіраваны ў Польшчу і ВКЛ для актывізацыі дзейнасці вярхоўнай улады па выкараненню рэфармацыйнай «ерасі». Пасля сустрэчы ў Вільні з Радзівілам Чорным нунцый накіраваў Радзівілу ліст з папрокамі ў адступніцтве ад каталіцтва і пастарскімі павучэннямі. І змест, і тон гэтага ліста былі некарэктныя пры звароце да такой асобы, як віленскі ваявода.

Ад імя Радзівіла Ліпаману паслалі водпаведзь, якая, між іншым, змяшчала вострую крытыку інстытута папства і каталіцтва ўвогуле. Наўрад ці Радзівіл быў фактычным аўтарам гэтага ліста, насычанага філасофска-тэалагічнымі сентэнцыямі. Некаторыя даследчыкі лічылі аўтарам віднага дзеяча еўрапейскай Рэфармацыі лютэраніна Пятра Паўла Вяргерыя, які з місіянерскімі мэтамі наведваў Рэч Паспалітую. У іншых даследаваннях выказваецца думка, што аўтарам быў асабісты сакратар Радзівіла Чорнага, лінгвіст і лексікограф, складальнік першага лацінска-польскага слоўніка Ян Манчыньскі, ці ліст наогул мог мець некалькі аўтараў. Несумненна адно — рэзкая водпаведзь папскаму нунцыю была адпраўлена з санкцыі Радзівіла.

Нунцый у сваім пасланні асуджаў Радзівіла Чорнага за агульныя для еўрапейскай Рэфармацыі погляды: непрызнанне вяршэнства касцёла над усімі іншымі, папы рымскага — за намесніка Хрыстова, чысцілішча для душ нябожчыкаў, цэлібату духавенства, ухвалення прычасця пад дзвюма постацямі, выкарыстанне ўласных моў замест латыні у царкоўных службах. У большасці сваіх грунтоўных адказаў на артыкулы нунцыя Радзівіл спасылаецца на Святое Пісанне, творы айцоў царквы, антычных аўтараў. Па яго словах, у пачатку хрысціянства і сам Хрыстос, і яго апосталы падвяргаліся паклёпам і абразам. Тых людзей, якіх Ліпаман называе ерэтыкамі, ён заўсюды з радасцю будзе прымаць, бо яны сапраўдныя хрысціяне, прыхільнікі Святога Евангелля. «А ваша прафесія рымская такую славу набыла, што не трэба іншых прыкмет, каб ерэтыка пазнаць — ён альбо папіст, альбо раманіст».

Пасля трагічнага здарэння з Ваявудкай Радзівіл меў намер запрасіць на яго месца вядомага кракаўскага і прускага друкара Яна Сандэцкага-Малецкага, але звестак пра яго дзейнасць ў Берасці няма. Друкарня аднавіла сваю працу у 1558 годзе пры Станіславе Мурмеліусе

У прадмове да выдання адзначалася, што песні прызначаюцца для тэнара і аматараў «фігурных» спеваў. На думку польскага даследчыка Станіслава Кота, «Берасцейскі канцыянал» быў першым сапраўдным кальвінісцкім канцыяналам належнага ўзроўню

Алаізій Ліпаман, веронскі біскуп, быў накіраваны ў Польшчу і ВКЛ для актывізацыі дзейнасці вярхоўнай улады па выкараненню рэфармацыйнай «ерасі». Пасля сустрэчы ў Вільні з Радзівілам Чорным нунцый накіраваў Радзівілу ліст з папрокамі ў адступніцтве ад каталіцтва і пастарскімі павучэннямі. І змест, і тон гэтага ліста былі некарэктныя пры звароце да такой асобы, як віленскі ваявода

Радзівіл адказваў, што кніжкі, якія Ліпаман называе ерэтыцкімі, ён чытае і іншым дае чытаць, што на друкаванне кніг (напісаных па-польску, а таксама перакладзеных з лацінскай і нямецкай моў) ён даваў сродкі і далей не будзе шкадаваць, каб людзі пазналі праўду Евангелля і мацней яе трымаліся. У справах царкоўных павінна ўжывацца родная мова, зразумелая для вернікаў. Аўтар спасылаецца на Святых Апосталаў, якія распаўсюджвалі сваю веру, выкарыстоўваючы мовы мясцовага насельніцтва: «Гэты звычай доўга трымаўся, а ў грэчаскай і некаторых іншых цэрквах і зараз захоўваецца».

Закранаючы пытанне аб цэлібаце, Радзівіл сцвярджаў, што калі духоўныя асобы маюць законных жонак і вядуць прыстойнае жыццё, гэта не супярэчыць Боскім законам. Горш, калі яны ўпадаюць у грэх пралюбадзейства. Што датычыцца адмаўлення чысцілішча, то Евангелле ўказвае нам толькі дзве дарогі пасля смерці — вечнага збаўлення і вечнага асуджэння. На папрок адносна таго, што Радзівіл запрашаў да сябе «ерэтыкоў» Кальвіна, Ласкага і Лісманіна, аўтар адказвае, што быў бы рады бачыць не толькі гэтых вучоных і годных людзей, але і Меланхтона, і Брэнціуша. Радзівіл адмаўляе і намёкі на яго схільнасць да «арыянскай ерасі», асуджаючы Арыя за яго выступленне супраць Хрыста.

Пастулат аб вяршэнстве рымскага касцёла выклікае найбольш рэзкую водпаведзь: «Веруем у адзіны святы касцёл хрысціянскі... а не ў рымскі, канстанцінопальскі, іерусалімскі, антыахійскі, александрыйскі, а ў той, што распаўсюджаны па ўсяму свету. Таму ён і завецца паспалітым, бо не звязаны ні з якім дакладным месцам, сталіцай, людзьмі і законамі...». Менавіта такую царкву Святы Павел назваў касцёлам справядлівых.

Непрымальным і супраціўным запаветам Хрыста лічыць аўтар метады барацьбы з іншадумствам — «вольныя думкі людзей, якія і ў іншых сваіх справах вольныя, адлучаць ад сапраўднай веры крывёй і жорсткасцю». Хрыстос наказваў словам караць тых, хто памыляўся, а «вы, якія ўвесь свет запаланілі памылкамі сваімі, ... не толькі словамі, але гвалтам, ... агнём, жалезам, вяроўкай караеце, а калі моцы вашай не хапае на яўнае забойства, тады патаемна звяртаецеся да ядаў і атрут».

Аўтар занепакоены рэлігійным разладам і, каб пазбегнуць унутраных войнаў, лічыць неабходным скліканне «народнага і вольнага сейма», які б прыняў пастанову аб рэлігійным міры ў краіне. Як патрыёт сваёй Айчыны і хрысціянін, ён сцвярджае, што гэтага патрабуе «наш грамадскі абавязак і наша набожнасць, любоў да Рэчы Паспалітай, а яшчэ больш — наша служба і абавязак перад Богам». У канцы паслання Радзівіл выказвае думку: свецкая ўлада разам з духоўнай павінна абмяркоўваць пытанні веры, каб ва ўсёй Рэчы Паспалітай панавалі пакой і бяспека.

Гэта перапіска мела вялікі грамадскі рэзананс, дзейнасць нунцыя расцанілі як бесцырымоннае ўмяшанне ва ўнутраныя справы краіны, і ён быў вымушаны пакінуць гэта, па яго словах, «пекла» і вярнуцца ў 1557 годзе ў Рым. Пасля паслання Радзівіла нунцый, па яго словах, страціў надзею зрабіць нешта добрае у гэтым каралеўстве, бо віленскі ваявода для караля з'яўляецца ўсім — «і дарадчыкам, і канцлерам, і маршалкам, і давераным прыяцелем, з якім кароль есць, танцуе і забаўляецца», і наогул, на думку Ліпамана, водпаведзь была напісана з дазволу караля.

Публіцыстычны запал перапіскі, яе грамадская актуальнасць прывялі пратэстантаў да думкі пра яе выданне. Спачатку яна была выдадзена ў кастрычніку 1556 года ў крулявецкай друкарні Даубмана на лацінскай мове. У 1559 годзе ў Берасці за кошт Радзівіла Чорнага выйшаў скарочаны варыянт выдання «Двух лістоў» у перакладзе

выдатнага рэнесанснага паэта Мікалая Рэя на польскую мову. Польскі пераклад «Двух лістоў» убачыў свет ужо пасля ад'езду Ліпамана з Польшчы. Зразумела, што такое «ерэтыцкае» выданне было хутка ўключана ў індэкс забароненых рымскай курыяй кніг. Берасцейскае выданне «Двух лістоў» вельмі рэдкае. Адзіны поўны экземпляр, які належаў бібліятэцы Віленскага евангеліцка-рэфармацыйнага сінода, выкарыстаў для публікацыі польскі даследчык Ігнацій Хжаноўскі.

Некаторыя берасцейскія выданні пачатку 60-х гадоў выйшлі і без імені друкара, і без назвы друкарні і ідэнтыфікаваныя даследчыкамі пры дапамозе аналізу папярэдняй прадукцыі той ці іншай друкарні.

Найбольш выдатным і знакамітым выданнем ў гісторыі кнігадрукавання ВКЛ з'яўляецца Берасцейская (ці Радзівілаўская) Біблія 1563 года, якая выйшла «уласным коштам і накладам» Радзівіла Чорнага. У другой палове 50-х гадоў XVI стагоддзя, у перыяд арганізацыйнага і дактрынальнага афармлення кальвінісцкай царквы наспела неабходнасць ажыццяўлення ўласнай рэдакцыі Бібліі. У 1557 годзе была прынята пастанова аб новым перакладзе Бібліі і зборы сродкаў для яе выдання. Асноўным цэнтрам падрыхтоўкі стаў збор у Піньчаве (Малая Польшча). Пераклад, рэдакцыя і складанне каментарыяў да Бібліі — вынік амаль шасцігадовай працы вялікай групы польскіх, італьянскіх, французскіх тэолагаў, царкоўных дзеячаў, педагогаў, літаратараў. Асноўную частку працы выканалі рэктары піньчаўскай школы Гжэгаж Аршак і Пётр Статорыус, польскі паэт Якуб Любельчык і Ян Тэнаудус з Арлеана. На тытульным лісце Бібліі адзначана, што пераклад быў зроблены па старажытных яўрэйскіх, грэчаскіх і лацінскіх кнігах. Былі выкарыстаны таксама і іншыя крыніцы, у тым ліку папулярны ў Еўропе французскі пераклад Бібліі Лефеўра д'Этапля (Антверпен, 1930). Выкладчык парыжскага каледжа Кардынал-Лемуен, Лефеўр быў вядомы сваімі працамі па матэматыцы і касмаграфіі, пазней звярнуўся да вывучэння рэлігійна-філасофскіх праблем.

Раскол, які вызначыўся ў рэфармацыйным руху (ад кальвінісцкай дактрыны адышлі многія перакладчыкі і рэдактары Бібліі), адбіўся

У большасці сваіх грунтоўных адказаў на артыкулы нунцыя Радзівіл спасылаецца на Святое Пісанне, творы айцоў царквы, антычных аўтараў. Па яго словах, у пачатку хрысціянства і сам Хрыстос, і яго апосталы падвяргаліся паклёпам і абразам. Тых людзей, якіх Ліпаман называе ерэтыкамі, ён заўсюды з радасцю будзе прымаць, бо яны сапраўдныя хрысціяне

на тэрмінах падрыхтоўкі кнігі. У 1560 годзе Радзівіл Чорны ўзяў пад сваю апеку выданне Бібліі. У 1563 годзе кніга выйшла ў Берасці без імені друкара (магчыма, Мурмеліус ці Базылік). Выданне адзначалася манументальнасцю (фармат in folio, 738 старонак) багаццем мастацкага афармлення (гравюры, застаўкі, ініцыялы, гатычны друк), яскравым рэнесансным абліччам. Магчыма, тытульны ліст з'яўляецца копіяй гравюры Альтдорфера. Пераклад Бібліі вылучаецца сваімі літаратурнымі вартасцямі, яснасцю і вобразнасцю стылю.

У прысвячэнні Жыгімонту Аўгусту Радзівіл адзначае, што выданнем гэтай кнігі спадзяецца заслужыць падзяку «народа языка славянскага». Выданне ўключала не толькі поўны тэкст Старога і Новага Запаветаў (з пастаронкавымі каментарыямі, якія не толькі аблягчалі разуменне тэкстаў, але і тлумачылі яго ў духу кальвінісцкай дактрыны), але і прадметна-тэматычны паказальнік.

Закранаючы пытанне аб цэлібаце, Радзівіл сцвярджаў, што калі духоўныя асобы маюць законных жонак і вядуць прыстойнае жыццё, гэта не супярэчыць Боскім законам. Горш, калі яны ўпадаюць у грэх пралюбадзейства



У прадмове Будны растлумачыў, што стварыць новую рэдакцыю яго прымусіла тое, што ён не ведае больш фальшывай і скажонай кнігі за многія выданні Біблії, а асабліва — Новыя Запаветы. Памылкі і скажэнні выкліканыя трыма прычынамі: глупствам перапісчыкаў; хітрасцю ці наўмысным скажэннем тэкстаў ерэтыкамі; памылкамі тлумачальнікаў Біблії

Радзівіл быў зацікаўлены ў прапагандзе гэтага раскошна аздобленага, фундаментальнага выдання не толькі ў Рэчы Паспалітай, але і за яе межамі. Таму экзэмпляры Біблії былі падараваны не толькі Жыгімонту Аўгусту, але і прускаму князю Альбрэхту, імператару Максіміліяну, князю Вюртэмбергскаму. Вядомы нямецкі выдавец Эліяс Гуттэр уключыў польскі тэкст Новага Запавету з Берасцейскай Біблії ў сваё выданне Паліглоты на 12 мовах (Нюрнберг, 1599) .

У тэстаменце ад 27 мая 1565 года Радзівіл Чорны завяшчаў усе экзэмпляры Біблії таму збору, дзе ён будзе пахаваны, і школе пры ім (спачатку ён быў пахаваны пры Віленскім зборы). Рымская курыя ўключыла Берасцейскую Біблію ў індэкс забароненых кніг. Нягледзячы на гэта, Віленскі сінод 1617 года пастанавіў, каб гэту кнігу меў кожны збор ВКЛ. Яна была распаўсюджана сярод кальвіністаў ВКЛ, пра што сведчаць акты евангелічных сінодаў, інвентары збораў. Па падліках даследчыкаў захавалася больш за 100 экзэмпляраў Берасцейскай Біблії. Адзін з іх захоўваецца ў Цэнтральнай бібліятэцы НАН Беларусі.

Найбольшага росквіту берасцейская друкарня дасягнула пры Цыпрыяне Базыліку, які неўзабаве пасля смерці Радзівіла Чорнага ў 1565 годзе стаў кіраўніком, а, магчыма, і ўладальнікам друкарні. Прыкладна ў 1564 годзе Базылік пачаў працаваць над кнігай пра ганенні іншаверцаў у розных краінах. У Заходняй Еўропе, дзе для барацьбы з «ерассю» выкарыстоўваліся жорсткія метады, пашырэнне рэфармацыйных ідэй часам выклікала масавыя рэпрэсіі супраць прыхільнікаў новай веры. Там атрымалі распаўсюджванне мартыралогі — кнігі пра пакараных за веру рэальных людзей.

У 1567 годзе Базылік завяршыў пераклад і надрукаваў кампілятыўны твор «Гісторыя аб жорсткім ганенні царквы Божай...». Тытульны ліст кнігі абрамляюць гравюры з выявамі пакутнікаў, сярод якіх Ян Гус. Выданне аздоблена арнаментальнымі застаўкамі, ініцыяламі, віньеткамі. У канцы кнігі змешчаны паказальнік з каментарыямі Базыліка. Гэты аб'ёмны (звыш за 400 лістоў) твор напісаны на аснове галоўным чынам кніг трох аўтараў: француза Яна Крэспіна, італьянца Генрыха Панталіёні і англічаніна Джона Фокса, якія былі шырока вядомы і распаўсюджаны ў Еўропе і мелі некалькі выданняў. Пачынаецца кніга з падрабязных гісторый Джона Уіклефа і Яна Гуса, іх паслядоўнікаў, адны з якіх былі пакараны смерцю, а іншых, увязненых, спакутаваных, прымусілі да адракання. Сярод пакутнікаў згадваюцца людзі розных сацыяльных слаёў: курфюрсты, людзі рыцарскага стану, архібіскупы і біскупы, міністры і пастары, гараджане. Асаблівае захапленне аўтара выклікаюць жанчыны сваёй адданасцю веры. Спосабы пакарання смерцю былі жудаснымі, часам перад пакараннем здзекваліся, зневажалі чалавечую годнасць. Амаль усе апісаныя ў кнізе падзеі вылучаюцца фактычнай дакладнасцю — з рэальнымі датамі і імёнамі пакараных. Гэта ўнікальнае берасцейскае выданне ў пэўнай ступені перасцярагала грамадства ВКЛ і Польшчы ад праяў рэлігійнай нецярпімасці, якая магла б стаць прычынай грамадзянскай вайны.

У 1569 годзе ў Берасці у перакладзе Базыліка (часткова і Андрэя Валяна) выйшаў твор Марына Барлетыуса «Гісторыя пра жыццё і слаўныя справы Георгія Кастрыёта, звычайна званага Скандэбергам». М. Барлетыус, славянін па паходжанню, ураджэнец албанскага горада Шкодра, у пачатку XVI стагоддзя напісаў манументальную працу пра героя вызваленчай барацьбы балканскіх народаў супраць турак, сына албанскага князя Георгія Кастрыёта (1404—1467). У прадмове Базылік змясціў звесткі аб Кастрыёце, запазычаныя ім з твораў розных гісторыкаў XV—XVI стагоддзяў, чым значна папоўніў яго біяграфію.

«Гісторыя Кастрыёта» была першым выданнем, якое Базылік адзначыў сваім фірменным знакам (сігнетам) і імем — «у друкарні Цыпрыяна Базыліка». У прысвячэнні свайму новаму патрону, серадскаму ваяводзе Альбрэхту Ласкаму, «коштам» якога выйшла кніга, Базылік называе свабоду «ад Бога дадзенай каштоўнасцю» і адзначае, што пераклаў гэты твор для шляхты «рыцарскага стану», каб яна брала прыклад са Скандэберга. Там жа ён апявае шляхецкія вольнасці ў Рэчы Паспалітай і выказвае шчырае спачуванне славянскім народам Балкан (сербам, харватам, далматам), якія страцілі сваю свабоду пад турэцкай тыраніяй.

Менавіта з перакладу Базыліка ў XVII стагоддзі быў зроблены пераклад гэтага твора на рускую мову. Даследчыкі выказваюць меркаванне, што наяўнасць шматлікіх беларусізмаў і асобных паланізмаў сведчыць аб тым, што пераклад ажыццявілі на суседніх з Польшчай землях, магчыма, у Беларусі.

Нам невядомыя берасцейскія выданні пасля 1570 года. Адным з апошніх была панегірычная паэма Яна Каханоўскага, прысвечаная Яну Тэнчынскаму. На думку некаторых даследчыкаў, сын Радзівіла Чорнага Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка пасля пераходу ў каталіцтва перавёз друкарскае начынне з Берасця ў Вільню, дзе яно стала асновай для ўзнікнення езуіцкай друкарні.

Пад апекай Радзівіла Чорнага дзейнічала таксама рэфармацыйная друкарня ў Нясвіжы (пач. 60-х—1570, з 1563 года друкар Даніэль Ленчыцкі), у арганізацыі якой прымалі ўдзел вядомыя дзеячы Рэфармацыі Сымон Будны, Мацей Кавячынскі, Лаўрэнцій Крышкоўскі. Для распаўсюджвання рэфармацыйных ідэй сярод беларускага насельніцтва ў Нясвіжы былі выдадзены першыя ў Беларусі кірылічныя кнігі на старабеларускай мове. З кірылічных выданняў захаваўся толькі славуты Катэхізіс 1562 года Сымона Буднага. Дарэчы, Уладзімір Пічэта адзначаў, што мова Катэхізіса больш блізкая да народнай, чым пераклады Францыска Скарыны. Твор Сымона Буднага «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам» не захаваўся, але ў пачатку XIX стагоддзя яго апісаў вядомы бібліёграф В. Сопікаў. Звесткі пра гэта выданне ёсць таксама ў «Пасланнях» аднаго з маскоўскіх «уцекачоў» старца Арцемія, які знайшоў прытулак у Слуцку пад апекай князя Юрыя Алелькавіча. Дакладных звестак пра іншыя кірылічныя выданні Нясвіжскай друкарні мы не маем, але можна меркаваць, што яны існавалі. Уніяцкі дзеяч А. Сялява ў 20-я гады XVII стагоддзя пісаў, што Сымон Будны і Лаўрэнцій Крышкоўскі друкавалі «на рускай мове сваю арыянскую атруту».

Рэфармацыю ў ВКЛ прынялі ў асноўным верхнія слаі грамадства, большая частка «паспалітага» насельніцтва ў XVI стагоддзі захоўвала свае даўнія рэлігійныя традыцыі і абыякава ставілася да новай веры. Магчыма, па гэтай прычыне з 1563 года Нясвіжская друкарня цалкам перайшла на выпуск польска-лацінскіх выданняў, у асноўным арыянскага характару. Тут выйшлі палемічныя творы Гжэгажа Паўла, сумесны пераклад на польскую мову Лаўрэнція Крышкоўскага і Сымона Буднага твора «айца царквы» Св. Юсціна «Гутаркі Св. Юсціна, філосафа і пакутніка, з Трыфанам іудзеем» (1564), які быў прасякнуты антытрынітарскімі ідэямі, «Нясвіжскі канцыянал» 1563—1564 гадоў (сярод аўтараў Мікалай Рэй, Андрэй Тшыцескі, Марцін Чаховіц).

У гэты час Сымон Будны пачаў працаваць над новай рэдакцыяй Бібліі. Кальвіністкая Берасцейская Біблія 1563 года не магла задаволіць антытрынітарыяў. Асноўны цяжар па перакладзе са старажытнаяўрэйскага (Стары Запавет) і грэчаскага (Новы Запавет) арыгіналаў лёг на плечы Буднага. Мацей Кавячынскі для выдання Бібліі пашырыў друкарню і заснаваў у Нясвіжы папяровую фабрыку («паперню»).

Будны зрабіў дакладны гісторыка-філалагічны аналіз біблейскіх тэкстаў. У працэсе перакладу ён імкнуўся нават захаваць парадак слоў арыгінала, замяняў словы і ствараў новыя, блізкія па сэнсу, вызначыў арфаграфію ўласных імён яўрэйскага паходжання. Прычым, у адрозненне ад некаторых папярэднікаў, якія ўжывалі мову свайго роднага рэгіёна, Будны падкрэсліваў, што ён перакладаў для чытачоў не «якой-небудзь адной мясцовасці, а для ўсіх... Знойдзеш тут словы вялікапольскія, знойдзеш кракаўскія, мазавецкія, падляшскія, а нямала — і рускія». Скрупулёзны лінгвістычны аналіз першакрыніц дазволіў яму выявіць шэраг недарэчнасцей у многіх перакладах і рэдакцыях Святога Пісання.

Нам невядомыя берасцейскія выданні пасля 1570 года. Адным з апошніх была панегірычная паэма Яна Каханоўскага, прысвечаная Яну Тэнчынскаму. На думку некаторых даследчыкаў, сын Радзівіла Чорнага Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка пасля пераходу ў каталіцтва перавёз друкарскае начынне з Берасця ў Вільню, дзе яно стала асновай для ўзнікнення езуіцкай друкарні

Біблія пачала друкавацца ў Нясвіжскай друкарні Мацея Кавячынскага, а пасля яго смерці была закончана «стараннем і накладам» яго братоў Гектара і Альбрыхта. Яна выйшла ў свет у 1572 годзе без указання месца выдання. Прадмова Буднага падпісаная ў Заслаўі, прадмова выдаўцоў — ва Уздзе. Пасля забароны Радзівілам Сіроткай ў 1571 годзе дзейнасці друкарні ў Нясвіжы, магчыма, яе перавезлі ў маёнтак Кавячынскіх ва Узду. Будны знайшоў прытулак у Заслаўі, у мінскага кашталяна Яна Глябовіча. Напружаная праца над перакладам прывяла Сымона да часовай страты зроку, аб чым ён паведаміў у лісце з Заслаўя ў красавіку 1572 года. Асцярожныя выдаўцы выключылі крытыку біблейскіх тэкстаў, зробленую Будным, і не дазволілі аўтару паведаміць аб гэтым чытачам. Пазней Будны адзначаў, што «... той пераклад за чый хочаце, толькі не за мой лічыце».

Усяго вядома 12 тытулаў друкарні ў Нясвіжы. Прыкладна ў 1573 годзе яе абсталяванне выкупіў у Кавячынскіх блізкі да арыянства магнат Ян Кішка і размясціў у сваім замку ў Лоску.

Фактычна ідэйным кіраўнікам друкарні ў Лоску да пачатку 80-х гадоў стаў Сымон Будны, які адначасова быў хатнім прапаведнікам Кішкі. Тут працавалі такія друкары, як Даніэль Ленчыцкі (1573—1574), Ян Карцан (1576—1580), Фелікс Балямоўскі (1586—1589?). Лоск быў цэнтрам арыянскага кнігадрукавання ў ВКЛ. У ліку найбольш значных выданняў друкарні — творы і пераклады Сымона Буднага. Ужо ў 1574 годзе з Лоскай друкарні выйшаў «Новы Запавет» — адзін з найбольш значных і смелых яго твораў. У прадмове Будны растлумачыў, што стварыць новую рэдакцыю яго прымусіла тое, што ён не ведае больш фальшывай і скажонай кнігі за многія выданні Бібліі, а асабліва — Новыя Запаветы. На яго думку, памылкі і скажэнні выкліканыя трыма прычынамі: глупствам перапісчыкаў; хітрасцю, ці наўмысным скажэннем тэкстаў ерэтыкамі; памылкамі тлумачальнікаў Бібліі.

Для працы над перакладам Будны выкарыстаў шырокае кола крыніц і даследаванняў: акрамя старажытных тэкстаў Бібліі — творы каментатараў і тлумачальнікаў (Ларэнца Валы, Эразма Ратэрдамскага, Марціна Лютэра, Себасцьяна Кастэльёна, Тэадора Бэзы, нават католіка М.Зэгерса), царкоўных аўтараў (Тэртуліяна, Епіфанія, Ераніма). Ён прааналізаваў асноўныя рэдакцыі Новага Запавету — грэчаскую, лацінскую і славянскую. Найбольш старажытная, грэчаская, на яго думку, мае шмат ерэтычных адхіленняў, як і больш дакладныя лацінскія пераклады. Будны станоўча ацэньваў славянскія пераклады, але адзначаў, што і ў іх нямала памылак і дадаткаў. Свае разважанні аб дагмаце Св. Тройцы ён падмацоўваў канкрэтнымі прыкладамі з першакрыніц, даказваў, што тэзіс аб спрадвечнай боскасці Хрыста з'явіўся ў выніку скажонага тлумачэння слоў, адмаўляў Хрысту у боскай сутнасці і сцвярджаў яго чалавечую натуру, не прызнаваў яго існаванне да нараджэння. Будны ўспрымаў Хрыста як рэальна існаваўшую гістарычную асобу, народжаную зямной жанчынай. У каментарыях ён закранаў пытанні рэлігійнага фанатызму і верацярпімасці, сурова асуджаў Кальвіна, па загадзе якога ў Жэневе быў пакараны смерцю Мігель Сервет.

У сваім творы «Пра галоўныя артыкулы хрысціянскай веры»(1576) Будны абагульніў вынікі сваёй працы па рацыяналістычнай крытыцы Святога Пісання. Яго апошняе лоскае выданне «Пра свецкую уладу» (1583) прысвечана разнастайным праблемам грамадска-палітычнага ладу. У Лоску выйшлі палемічныя творы Марціна Чаховіца і Андрэя Валяна, вучэбныя кнігі рэктара арыянскай школы ў Іўі Яна Ліцынія Намыслоўскага, кніга французскага юрыста Франсуа Хотмана (выступаў пад псеўданімам Эрнст Варамунд Фрыз) пра падзеі Варфаламееўскай ночы ў Парыжы («Пра

фурыі, або вар'яцтвы французскія», 1576, пераклад С. Буднага), трактат Цыцэрона «Пра абавязкі» (1576, пераклад С. Кашуцкага).

Асобнае месца ў дзейнасці Лоскай друкарні займае першае ў Рэчы Паспалітай выданне на польскай мове твора Андрэя Фрыча Маджэўскага «Аб удасканаленні Рэчы Паспалітай» (1577). Андрэя Фрыча Маджэўскага можна назваць першым палітычным пісьменнікам эпохі гуманізму і адраджэння Рэчы Паспалітай. Ён належаў да тых гуманістаў, чыі грамадска-палітычныя і рэлігійныя погляды паўплывалі на развіццё рэфармацыйнай ідэалогіі. Аднак Маджэўскі афіцыйна не парваў з каталіцтвам і не далучыўся ні да адной з пратэстанцкіх цэркваў. Тым не менш ён цярпеў ганенні з боку каталіцкай іерархіі як «ерэтык». Яго творы былі ўнесены ў індэкс забароненых кніг. Маджэўскага ўзяў пад апеку Жыгімонт Аўгуст, выдаўшы спецыяльны мандат, які выключаў пісьменніка з-пад духоўнай юрысдыкцыі.

Свае погляды на справу ўдасканалення дзяржавы і грамадства Маджэўскі выклаў у творы «Аб удасканаленні Рэчы Паспалітай», які складаўся з пяці кніг: «Аб звычаях», «Аб праве», «Аб школе», «Аб касцёле» і «Аб вайне». Ён быў прыхільнікам цэнтралізаванай улады, але, на яго думку, прымаць удзел у органах улады павінны прадстаўнікі ўсіх станаў, а не толькі шляхецкага. Трэба даць права займаць пасады людзям высакародным не па паходжанню, а па адукаванасці і адданасці Айчыне. Маджэўскі прапаноўваў увесці адзінае для ўсіх станаў юрыдычнае права, надаць свецкі характар школьнай адукацыі, правесці рэфармаванне касцёла.

Зразумела, што пры першым выданні (Кракаў, 1551) духоўная цэнзура не дапусціла да друку кнігі «Аб школе» і «Аб касцёле». Цалкам яна была апублікавана ў Базэлі (1554 і 1559), былі таксама зроблены пераклады на нямецкую і іспанскую мовы. Упершыню на польскай мове твор Маджэўскага выйшаў у Лоску (1577, пераклад Ц. Базыліка), але без кнігі «Аб касцёле». Выданне і пераклад фінансаваў полацкі ваявода Мікалай Манвід Дарагастайскі. Прадмовы да лоскага выдання былі напісаны католікам Мацеем Стрыйкоўскім, кальвіністам Андрэем Валянам і арыянінам Сымонам Будным. Сымон Будны ў сваёй прадмове са смуткам адзначаў, што іншаземцы высока ацэньваюць Маджэўскага, а суайчыннікі ледзь ведаюць і імя яго, і працы. Друкарня ў Лоску перастала існаваць пасля смерці Яна Кішкі ў 1592 годзе.

У 70-я гады XVI стагоддзя кароткачасова дзейнічала прыватная друкарня беларускага шляхціча-пратэстанта, паплечніка Буднага Васіля Цяпінскага, магчыма — у яго радавым маёнтку Цяпіна (Полацкі павет). Цяпінскі ў сваёй рукапіснай прадмове да «Евангелля», надрукаванага ім паралельна на царкоўна-славянскай і старажытнабеларускай мовах, падкрэсліваў неабходнасць адраджэння роднай мовы, процідзеяння паланізацыйным тэндэнцыям. Ён з горыччу адзначаў «...езыка своего славного занедбане…» у сучасным яму грамадстве, асабліва ў найбольш уплывовых свецкіх і духоўных колах.

Амаль усе вядомыя нам рэфармацыйныя старадрукі (за выключэннем двух нясвіжскіх выданняў і Евангелля Васіля Цяпінскага) выйшлі на польскай, у меншай меры — на лацінскай мовах. Асобнае месца належыць кнігам Старога і Новага Запаветаў. Гэтыя выданні найбольш поўна і грунтоўна асвятляюць канфесійна-дактрынальныя аспекты Рэфармацыі. Рознабаковыя праблемы царкоўна-рэлігійнай дагматыкі, пытанні аб сутнасці Св. Тройцы, чалавечай і боскай сутнасці Хрыста, адносіны рэфармацыйнага руху да дзяржаўнай і духоўнай улады, царквы, прыгоннага права, войнаў асвятляліся ў шматлікіх рэлігійна-палемічных творах.

Як вядома, рэфармацыйнае кнігадрукаванне вызначалася высокай удзельнай вагой і значнай разнастайнасцю свецкіх арыгінальных і перакладных выданняў. Нешматлікую, але вельмі цікавую групу твораў складае вучэбная і педагагічная літаратура.

Несумненнай заслугай рэфармацыйнага кнігадрукавання з'яўляецца тое, што яно садзейнічала ўзнікненню новых культурна-асветніцкіх цэнтраў, станаўленню сталага кнігадрукавання ў Беларусі, пашырэнню жанравага рэпертуару кніг, рэцэпцыі антычнай спадчыны. Па свайму тэхнічнаму абсталяванню, мастацкаму афармленню і разнастайнасці выданняў кнігадрукаванне Беларусі таго часу адпавядала еўрапейскаму ўзроўню.

## Тытульны аркуш — «фасад» кнігі

*(працяг, пачатак у №1, 2017)*

• • • Тытул, якім яго ведаюць сучасныя чытачы, узнік на пачатку XVI стагоддзя. У гэты ж час ён з’явіўся і ва ўсходнеславянскіх выданнях. Першым тытульным аркушам у кірылічным друку лічыцца пачатковая старонка Бібліі Францішка Скарыны 1517 года. Прысутнічаюць тытулы і ў іншых выданнях першадрукара. Толькі ў другой палове XVI стагоддзя склалася лагічнае раздзяленне тытульнага аркуша на радкі, а памер кегля стаў адпавядаць значнасці звестак. Пачало практыкавацца выключэнне радкоў па цэнтры; імя аўтара і назва ў якасці асноўнай інфармацыі даваліся ў верхняй частцы аркуша, а звесткі пра месца і год выдання набіраліся дробным шрыфтам і размяшчаліся ў ніжняй частцы старонкі. Пасярэдзіне выдавец мог размясціць сваю марку, віньетку, разгорнуты загаловак. Часта падчас афармлення тытулаў выкарыстоўвалі выгравіраваную на дрэве рамку • • •

*Ксенія Тарасевіч*


Царьствъ :~ рді ~
Царь Саломон ставит храм г(о)с(по)д(е)ву богу в Эрусалиме:

Третии книги Царьствъ починают
ся . Зуполне выложены нарусь
кии языкъ, доктором Франци
ском Скорининым сыном с Полоцька:~

«Третьи книги Царств». 10.08.1518.

## Цытатнік, або Тое, што надрукавана даўно, але варта чытаць сёння, бо яно цікавае і карыснае

*Наважышся асвоіць Логіку, што вучыць пры дапамозе аргументаў адрозніваць праўду ад хлусні, — чытай «Кнігу святога Іова» або «Пасланні святога апостала Паўла».*

*Задумаеш авалодаць Рыторыкай, якая ёсць само Красамоўства, — чытай кнігі Саламонавы…*

*Спатрэбіцца табе Арыфметыка, якая вучыць хутка і без памылак лічыць, — чацвёртую кнігу Майсееву часта чытай.*

*Хочаш засвоіць навуку Геаметрыю, якая па-нашаму завецца Землямеранне, — чытай кнігу Ісуса Навіна.*

*А калі патрэбна Астраномія, альбо інакш Зоркалічэнне, — знойдзеш на пачатку гэтай кнігі аб стварэнні сонца, месяца і зорак. У «Ісусе Навіне» прачытаеш аб тым, як сонца стаяла на адным месцы. У кнігах «Царстваў» — як сонца вярнулася назад на некалькі ступеняў. У Святым «Евангеллі» Мацвея паведамляецца аб стварэнні новай зоркі у час нараджэння Спаса нашага Ісуса Хрыста.*

***Францыск Скарына (канец 80-х гг. XV ст. — каля 1551).***
***Прадмова да ўсёй Біблії***

*І тое вельмі страшная шкода — галагудых курэй разводзіць, іх ужываць. Няварта і іншых птушак смажыць, а таксама торты ўсякія цынамонам, міндалямі цукраваць! За маёй памяццю прысмакаў такіх не бывала. Добрая была гуска з грыбкамі, качка з перчыкам, пячонка з цыбулькаю ці часначком. А калі на раскошны дастатак — каша грэчневая з шафранам.*

***Невядомы аўтар***
***«Прамова Мялешкі»***

*Марская вада — салёная і горкая. Сцвярджаюць некаторыя філосафы: яна такая таму, што доўга стаіць на адным месцы без змен і нерухома. Да таго ж Сонца няспынна ходзіць над морам акіянскім, выцягвае прамянямі сваімі, лёгкай парай або імглою салодкасць водную. Гэтаксама і дуга вясёлкі часта бярэ лёгкую ваду з мора і ўздымае на вышыню і ўчыняе дажджавыя аблокі.*

***Кірыла Транквіліён-Стаўравецкі (апошняя чвэрць XVI ст. — 1646).***
***Люстра багаслоўя***

*Добра і надзвычай карысна спасцігаць навуку Божага Пісання. Яна ўзгадоўвае цнатлівую душу і вядзе да стрыманасці. Божая навука робіць чалавека ўдзячным, узносіць душу на нябёсы, паабяцаныя Уладаром. Духоўнай працай умацоўваецца цела. Навука — шлях да славы. Яна стварае багацці, дапамагае пераадольваць жыццёвыя перашкоды.*

***Кірыла Тураўскі (каля 1130—1182).***
***Прыпавесць пра чалавечую душу і цела, або Пра сляпога і бязногага***

*Мудрасць вялікая, кажуць людзі, як тая свіння: калі хто шмат яе ўжывае, той нічога не прыдбае. І калі чалавек надта ўкусіць, то й пастагнаць мусіць. І хвасту бывае няма спакою.*

***Ананімны аўтар***
***«Ліст да Абуховіча»***

**Айцец Аляксандр Богдан**

# Радасны час посту



Пра тое, што існуюць пасты, усталяваныя Царквой, ведае кожны. Але далёка не кожны ведае, навошта іх прытрымлівацца, і каму яны патрэбныя. Калі ж разабрацца, што такое пост, стане зразумела, як да яго правільна ставіцца.

У першую чаргу трэба зразумець, што пост патрэбен не Богу. Наш Гасподзь не патрабуе таго, каб мы пасціліся. Гэта неабходна чалавеку. Галоўная мэта посту — набліжэнне да Бога. Адмаўленне ад пэўных прадуктаў і ўвогуле абмежаванне сябе ў ежы можа спрыяць узнікненню больш тонкага адчування духоўных рэчаў, што павінна паслужыць узнаўленню гармоніі духа і плоці. Ёсць выраз: «Сытае бруха да малітвы глуха».

Пасціцца — гэта не значыць быць увесь час галодным і злосным. Ужыванне ежы падчас посту не павінна суправаджацца «крайнасцямі». Увогуле, існуюць два віды посту: абсалютны і аскетычны. Абсалютны — гэта калі мы цалкам адмаўляемся ад ежы і піцця. Такога посту праваслаўныя хрысціяне прытрымліваюцца, напрыклад, перад прычасцем. Прычым пасціцца трэба пачынаць з вечара, пасля поўначы ніхто нічога не есць і не п’е, і ў храм на Літургію прыходзіць нашча. Аскетычны пост — гэта калі мы адмаўляемся ад ужывання пэўных прадуктаў (мяса, малака, яек і іншага) і называем іх «скаромнымі».

Часта ў царкоўных календарах ёсць указанні, якія прадукты дазваляюцца ў пэўны дзень. Ніхто не патрабуе, каб мы пасціліся строга па календары. Гэтыя прадпісанні былі складзены ў трэцяй чвэрці XVI стагоддзя для манахаў на Усходзе. Таму калі мы чытаем, што дазваляецца посны алей, то маецца на ўвазе не сланечнікавы алей, а аліўкавы.

Пра тое, як міране павінны прытрымлівацца посту, нідзе не напісана, таму мы проста карыстаемся манаскім уставам, але трэба рабіць гэта разумна, без фанатызму. Лепш, калі адмаўленне ад прадуктаў адбываецца паступова. Для некага можа быць вялікім подзвігам адмаўленне напачатку толькі ад аднаго мяса.

Часам можна пачуць: «Пост — гэта дарагое задавальненне». Маецца на ўвазе, што посныя прадукты нятанныя. Тут трэба нагадаць параду свяціцеля Іаана Златавуста, які жыў у IV стагоддзі ў Канстантынопалі. Святы айцец настаўляў есці рыбу, таннейшую за мяса, а сэканомленыя грошы раздаваць тым, хто мае ў іх больш патрэбы. У нашых крамах морапрадукты значна даражэйшыя за мяса, тут ёсць пра што падумаць. На гэтую тэму нават прыдумалі анекдот:

*— Ой, бацюшка, грэшніца я, ой, грэшніца! Не пасцілася, — прызнаецца старэнькая на споведзі.*

*— А што ж вы елі?*

*— Ліверку за дзевяць з паловай.*

*— Ды вы не грэшніца, вы — пакутніца.*

Канечне, могуць быць паслабленні ў посце з прычыны старасці, хваробы або працяглай вандроўкі. Аднак калі мы і ядзім скаромнае, мы не павінны гэта дэманстраваць, каб у іншага не было спакусы. Трэба памятаць, што парушыць пост можна і поснымі прадуктамі — калі не адмовіцца ад абжорства.

Нельга сварыцца з-за скаромнай ежы. Калі муж хоча зрабіць жонцы, якая прытрымліваецца посту, прыемнае і прыгатаваць, напрыклад, суп на костачцы, гэта не павінна стаць для яе падставай для выгаворвання мужу. У патрыярха Алексія II спыталі, што можна есці падчас посту, а што нельга, і Святейшы адказаў так: «Не ешце адзін аднаго».

Пост нельга звесці да таго, каб адмовіцца ў гэты час ад як мага большай колькасці ежы. У жыцці Антонія Вялікага апісваецца, як да яго з'явіўся д'ябал і сказаў: «Ты мала ясі, а я зусім не ем, ты мала спіш, а я зусім не сплю. Не гэтым ты перамог мяне! А пакорай». У пост трэба менш думаць пра матэрыяльнае, больш пра духоўнае. Напрыклад, калі інтэрнэт у вас працуе на малой хуткасці, а вам хочацца паглядзець кіно ў HD-якасці, вы, каб нічога не падвісала, закрываеце ўсе ўкладкі, адключаеце скайп і іншае. Каб не толькі трафік не забівала, але і ад прыемнага прагляду не адцягвала. Або стаіць у лесе караул на пасту. Баец павінен быць асабліва пільным і не расслабляцца, каб не здолеў падкрасціся вораг. Так і мы падчас посту павінны быць асабліва пільнымі і чуйнымі да душы сваёй, слоў сваіх і думак. Для гэтага карысна больш маліцца, чытаць Біблію, іншую духоўную літаратуру, часцей наведваць храм.

Нехта можа спытаць: ці толькі ж падчас посту трэба быць пільнымі да сябе? Канечне, мы ўвесь час павінны быць уважлівымі да сваёй душы. Тут можна параўнаць нас са спартсменамі, якія пастаянна трэніруюцца, але перад важнымі спаборніцтвамі колькасць іх трэніровак павялічваецца. Так і ў духоўным жыцці. Пасты ўсталёўваюцца для самападрыхтоўкі перад святамі або перад прычасцем.

У духоўным жыцці важна не перастарацца. Калі цеціву на луку пастаянна трымаць напятай, яна аслабне. Але па завяршэнні посту павінна мець месца не духоўнае расслабленне, а радасць, бо пост рыхтаваў нас да нечага светлага — да свята ці да прычасця. Таму і ў посныя дні мы не павінны мець жалобныя твары: пост — гэта час радасці.

Толькі ж не падумайце, што адмаўленне ад мясных страў і іншых няпосных прадуктаў зусім не патрэбна. Устрыманне ў ежы — гэта толькі сродак. Мэтай посту з'яўляецца ачышчэнне душы, а не ачышчэнне арганізма ад цяжкай ежы. Інакш пост не будзе нічым адрозніваца ад адной з многіх дыет.

На ўсялякі выпадак запішыце ў сваю кулінарную кнігу такі посны рэцэпт:



- нарыйце каранёў паслушэнства,
- збярыце кветак душэўнай чысціні,
- нарвіце лісточкаў цярпення,
- выдаліце плады крывадушнасці,
- не дапусціце ні кроплі віна прэлюбадзейства

Усё сабранае высушыце ўстрыманнем, пакладзіце ў рондаль добрых спраў, дадайце вады слёз пакаяння, пасаліце соллю любові да бліжняга, усыпце шчадрот міласэрнасці, да ўсяго пакладзіце прыправу пакоры і кленчання. Дадайце тры лыжкі Божага страху. Усё ўпрыгожце праведнасцю і не ўжывайце падчас пустаслоўя.



**«Нашы Руіны»**
**Аўтарскі праект Уладзіміра Цвіркі**

Брэсцкая вобласць, Баранавіцкі раён, вёска Задвея.
Лядоўня Чачотаў. 1828 год.

У кожным нумары часопісаў «Маладосць» і «Бярозка». Поўны камплект выяў будзе мець той, хто чытае абодва выданні.

# Досціны будні #5: Форма мастацтва













ISSN 0131-2308




